

В. Сероў. Хадакі ў Леніна.

Міхась ДРУШЧЫЦ

## ХАДАКІ Ў ЛЕНІНА

З далёкіх вёсак нашае зямлі
За ленінскаю праўдай і парадай
У Крэмль да Ільіча яны прыйшлі
На шчырую, сардэчную нараду.

Сядзяць яны, бы даўнія сябры,
Глядзіць Ільіч і радасна і ветла.
Хаця і цьмяна лямпачка гарыць,
А ў хадакоў на сэрцах — светла-светла.

Іх будучыню Ленін азарыў,
Надзею ў сэрцы здолеў ім укласці,
Агледзелі яны ў бязмежжы ніў
Нікім яшчэ не знойдзенае шчасце.

Здалёку хадакі ад беднаты
Прыйшлі ў Маскву за ленінскай парадай.
Сям'я сабралася, сядзяць браты.
Ідзе ў Крамлі сардэчная нарада.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:




**4 (86)**

Красавік.

1960.

Год выдання VIII.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
Мінск.

Вокладка па малюнку П. Васільева.

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

«Молодость»
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108 1/16. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 8.265 экз. Цана 4 руб.
АТ 07808. Здадзена ў набор 1.III.60. Падпісана да друку 6.IV.60 г. Зак. 176.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.



# КАБ УБАЧЫЎ ГЭТА ІЛЫЧ

...Товарищ Ленин,
по фабрикам дымным,
по землям,
покрытым
и снегом
и жнивьём,
вашим,
товарищ,
сердцем
и именем
думаем,
дышим,
боремся
и живём.

**У. Маякоўскі.**

«Расія ў імгле». Так назваў сваю кнігу вядомы пісьменнік-фантаст Герберт Уэлс. У гэтай кнізе ён расказаў аб сваёй паездцы ў савецкую краіну і гутарцы з Уладзімірам Ільічом Леніным. Светапогляд пісьменніка аказаўся абмежаваным. Уэлс не змог правільна разабрацца ў тагачасных кіпучых падзеях. Тое, што бачыў ён — разруху, неналаджанасць жыцця спакутаваных у войнах людзей, грандыёзную ломку той сацыяльнай сістэмы, якая была такой абжытай, такой звычнай для Уэлса, — усё гэта ўяўлялася яму імглой, з якой, на яго думку, краіне не выбрацца. Ён аддаў належнае Леніну, як дзяржаўнаму дзеячу, як кіраўніку партыі, як сумленнаму чалавеку. Ён назваў Леніна чалавекам вялікай мары, але мара гэтая, на думку Уэлса, была нязбытнай.

Імглы, вядома, хапала ў той час. Яна яшчэ прытойвалася па ўсіх кутках у выглядзе самых звычайных ворагаў рэвалюцыі, недабітых рэштак нядаўна панаваўшых класаў. Яна была яшчэ ў шматлікіх нястачах, у галадзе, холадзе, у супраціўленні яўных і тайных сабатажнікаў, у шалёным разгуле розных эпідэмій. Імгла напамінала аб сабе перажыткамі старога ў свядомасці мільёнаў і мільёнаў людзей. Запалонены гэтай імглой, пазбаўлены дару сацыяльнага прадбачання, абмежаваны ў сваім буржуазным мысленні, Уэлс так і не ўбачыў, не заўважыў тыя новыя агні, якія гарэлі, разгараліся на неасяжных прасторах краіны, усё больш саграваючы жыццё,

асвятляючы людзям шляхі да лепшага заўтра. Гэтыя агні разгарэліся з іскраў, пасеяных рэвалюцыяй, пасеяных Леніным і яго нястомнымі сейбітамі — адданымі сынамі Ленінскай партыі. Пройдуць гады, дзесяткі год, і ў гэтых агнях, у гэтым магутным гарніле пераплавіцца, адновіцца ўся краіна. Будуць і свае адыходы: сёе-тое пойдзе ў шлак, сёе-тое трапіць на задворкі гісторыі, сёе-тое будзе выкінута на сметнікі. Але ўсё, што застанецца ад гэтай рэвалюцыйнай пераплаўкі — людзі, іх справы, іх дзеянні, здабыткі іх працы і розуму — усё гэта будзе прыкладам для ўсяго свету, як трэба жыць і перамагаць у нястомнай барацьбе за сапраўднае чалавечае шчасце.

І тая краіна, якая стагоддзямі жыла ў імгле няволі, жабрацтва і чалавечых пакут, стане сапраўдным светачам для людзей, тым светлым і надзейным маяком, па якому будуць раўняцца ўсе народы зямлі, усё сумленнае чалавецтва.

Такой і ёсць на сённяшні дзень слаўная Радзіма наша, якая паспяхова будуе камунізм.

Уладзімір Ільіч Ленін.
Уладзімір Ільіч...
Ленін...
І проста — Ільіч...

Няма на свеце слова, якое карысталася б такой бязмежнай папулярнасцю, як гэтыя словы. Няма на свеце імені, якое было б сагрэта большай любоўю, як імя Ленін. Няма на свеце праўды, даражэйшай за ленінскую праўду. Сэрца кожнага савецкага чалавека — гэта надзейны носьбіт ленінскіх запаветаў. Цяжка падабраць тыя словы, якімі можна было б выказаць усю глыбіню народнай любві да Леніна, як геніяльнага правадыра, настаўніка і чалавека. У яго імені народ бачыць жывое ўвасабленне ўсяго самага лепшага, самага жаданага, аб чым толькі можна марыць чалавеку.

Яго іменем народ назваў партыю бальшавікоў, адзіную партыю, якая здолела павесці людзей працы на рашучую барацьбу з цвярдынямі старога свету і забяспечыла перамогу ў гэтай барацьбе. Яго іменем народ назваў палітыку партыі, якая забяспечыла сапраўдную роўнасць усіх народаў, раней прыгнечаных у былой царскай імперыі, аднолькавыя магчымасці для поўнага росквіту іх дзяржаўнасці, іх гаспадаркі, іх нацыянальнай культуры. Яго іменем партыя назвала свой Цэнтральны Камітэт. Яго іменем называюць нормы партыйнага жыцця, партыйнага кіраўніцтва. І калі парушаліся гэтыя нормы, тады парушаліся асновы асноў савецкага грамадства, асновы рэвалюцыйнай законнасці. Так было ў часы культу асобы. Але партыя захавала ленінскія запаветы, яна рашуча асудзіла любыя адхіленні ад ленінскіх норм, і савецкае грамадства, савецкая дзяржава з'яўляюцца цяпер носьбітамі самай передавой у свеце дэмакратыі, паказваюць усяму свету, да якіх цудоўных, недасягальных раней вяршынь можа дайсці чалавек, калі ён кіруецца, як надзейным компасам, ленінскім словам, ленінскім вучэннем.

Даўно мінулі тыя гады, калі, не зламаўшы нас адкрытымі інтэрвенцыямі і рознымі блакадамі, ворагі спадзяваліся, аднак, што мы загінем у тым жудасным хаосе, які, на іх думку, нарадзіла сацыялістычная рэвалюцыя. І яны, чакаючы нашай гібелі, рабілі ўсё, што ад іх залежала, каб гэтую гібель паскорыць. Тут былі і шпіянаж, і дыверсіі, і падтрымка сабатажнікаў, шкоднікаў і ўсякай іншай брыдоты. Але спадзяванні ворагаў не спраўдзіліся. Мы раслі. Не толькі ажывалі амярцвелыя фабрыкі, заводы, паравозы, а і з'яўляліся, будаваліся новыя. З пратораў нашых палёў паступова знікалі быльніковыя межы, старая, убогая цераспалосіца, верная спадарожніца былой сірочай долі селяніна. З кожным годам жыццё наша ўбірала ў сябе ўсё новыя, больш яркія фарбы. Ад пяцігодкі да пяцігодкі мы ўзнімаліся, нібы па ступеньках, да новых вышыняў. І гэтыя вышыні браліся ўпартай працай, гераічнымі подзвігамі народа, які адчуваў часам і нястачы ў самым неабходным у жыцці, але бачыў, што гэтых нястач становіцца ўсё меней і меней.

А ў гэты час нашы ворагі спрабавалі балбатаць, што наша дзяржава з'яўляецца па сутнасці ні больш ні менш, як толькі «геаграфічным паняццем». А калі на прасторы савецкай зямлі кінуліся ашалелыя зграі гітлераўскіх людаедаў, тады ворагі, і ў тым ліку гебельсаўскія брахуны, намагаліся прадставіць нашу дзяржаву як нейкі калос на гліняных нагах, які вось-вось рухне з грукатам долу і разваліцца на кавалкі. Як жа жорстка пралічыліся яны са сваімі спадзяваннямі, як падвялі іх гэтыя гліняныя ногі.

Перамоганосны сцяг нашай арміі ўзвіўся над Берлінам. Фашысцкі звер быў дабіты ў яго логаве. Цэлыя народы былі вызвалены з фашысцкай няволі. Была ліквідавана пагроза чорнай чумы фашызма, які занёс быў свой акрываўлены меч над усім чалавецтвам і яго культурай. Гэтай рашучай перамогі дабілася наша мужная армія, бо на яе сцягах быў вобраз Леніна.

Гэтая гістарычная перамога, якая прынесла сусветную славу мужнаму савецкаму народу, на некаторы час заткнула раты нашым ворагам. Трэба было канчаткова страціць розум, каб паўтараць у той час старыя бязглуздзіцы. Гэта было б і нетактоўна, гэта было б і рызыкоўна ў той час, калі ўсе народы святкавалі гістарычную перамогу над цёмнымі сіламі фашызма і аддавалі належнае легендарнаму подзвігу савецкага народа, які вынес на сваіх плячах увесь цяжар вайны, сваёй крывёй, сваімі незлічонымі ахвярамі забяспечыў усяму свету мір, спакой, магчымасць заняцца мірнай, стваральнай працай, карыстацца ўсімі радасцямі і ўцехамі жыцця.

Прайшло некалькі год, і зноў заварушыліся нашы ворагі. Да іх далучыліся і правячыя вярхушкі тых дзяржаў, якія ў часе вайны былі альбо лічыліся нашымі саюзнікамі. Іх непакоілі нашы поспехі, рост магутнасці сацыялістычнага лагера, пашырэнне барацьбы залежных ад іх народаў за вызваленне ад каланіяльнага прыгнёту, за свабоду і незалежнасць. Імперыялісты распачалі ліхаманкавую гонку ўзбраенняў, арганізацыю ўсемагчымых пактаў і блокаў, прасоўванне сваіх ваенных баз бліжэй да нашых межаў, ваенныя авантуры на карэйскай і в'етнамскай зямлі і г. д. Яны насіліся з бязглуздымі лозунгамі «вызвалення» Усходняй Еўропы. Замест забеспячэння міру, наладжвання добрасуседскіх узаемаадносін паміж дзяржавамі, яны вылузваліся са скуры, раздзьмухваючы ваенны псіхоз, падтрымліваючы атмасферу халоднай вайны, праводзячы так званую палітыку «з пазіцыі сілы». Валодаючы ў свой час манаполіяй на атамную бомбу, яны займаліся шантажом, правакацыямі, рознымі пагрозамі ў наш адрас. Яны імкнуліся падтрымліваць заўсёды такое становішча, калі свет стаяў сапраўды на мяжы вайны, і жангліраванне на гэтай мяжы было ўзведзена сумнай памяці Далесам у закон, у неабходны атрыбут тагачаснай міжнароднай палітыкі Злучаных Штатаў Амерыкі.

Але Савецкі Саюз нельга было запалохаць ні пагрозамі, ні правакацыямі, ні вар'яцкім размахваннем атамнай бомбай. Савецкі ўрад, наша Камуністычная партыя праводзілі паслядоўную палітыку міру, палітыку, накіраваную на мірнае суіснаванне дзяржаў з рознымі палітычнымі сістэмамі, палітыку ўзаемапавагі, выгаднага ўзаемасупрацоўніцтва, палітыку абмежавання, скарачэння ўзброеных сіл, палітыку, якая ставіць мэтай поўнае раззбраенне ўсіх дзяржаў, навечную забарону вайны, як сродку вырашэння тых ці іншых спрэчных пытанняў. Гэта палітыка, якую праводзіў Уладзімір Ільіч Ленін з першых дзён заснавання Савецкай дзяржавы. Гэта палітыка, якая ляжыць у аснове нашых узаемаадносін з усімі дзяржавамі і народамі. Гэта палітыка, якую падтрымліваюць усе сумленныя людзі на зямлі. Вось чаму так шырыцца рух прыхільнікаў міру. Барацьба за мір аб'ядноўвае людзей незалежна ад іх расавага паходжання, ад іх палітычных поглядаў і рэлігійных перакананняў.

Нашы праціўнікі спрабавалі расцаніць мірныя заклікі і мірныя намаганні нашага ўрада як праяўленне слабасці савецкай дзяржавы: палітычнай, эканамічнай і ваеннай. Як толькі не малявалі яны нас! У першую палову пяцідзесятых гадоў мне давялося чатыры гады падрад прымаць удзел у чарговых сесіях Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. На свае ўласныя вочы я назіраў закулісную мітусню былых амерыканскіх дзеячоў, такіх, як Ачэсан, а пазней Далес, я слухаў выступленні амерыканскіх

сенатараў, кангрэсменаў і іншых дзеячоў. Гэта былі варожыя нам выступленні. У іх былі і свае супярэчлівыя моманты, пазбаўленыя ўсякай элементарнай логікі. Часам, расхвальваючы свой уклад жыцця, размалёўваючы райскія, на іх думку, перавагі так званага свабоднага свету і ўсёй «хрысціянскай культуры і цывілізацыі», яны тут жа ганьбілі нашу сацыяльную сістэму, нашу культуру, увесь распарадак нашага жыцця. Нас, сыноў савецкай зямлі, яны намагаліся прадставіць як адсталых людзей, у якіх няма ні сапраўднай навукі, ні вартай увагі тэхнікі, ні ўстойлівай маралі. Калі і маглі мы што-небудзь, на іх думку, рабіць, дык хіба толькі паравозы, нескладаныя станкі і іншыя падобныя рэчы. І куды ўжо нам было да складаных прыбораў і інструментаў, да вышэйшых дасягненняў навукі і тэхнікі!

І тут жа, спахапіўшыся, што такімі «адсталымі» людзьмі, як мы, не запалохаеш іншыя, залежныя ад іх дзяржавы, яны ператваралі савецкіх людзей, савецкую дзяржаву ў нешта падобнае на жахлівае страшыдла, якое толькі і жыве тым, што збіраецца праглынуць жыўцом увесь цывілізаваны свет, зрабіць яго ні больш ні менш як няшчаснай ахвярай чырвонага імперыялізма.

І зноў — у каторы раз! — разляталіся, як мыльныя бурбалкі, усе гэтыя бязглуздыя байкі, неразумныя выдумкі і аб нашай нібыта адсталасці і аб нашым нібыта імперыялізме. Першыя нашы спадарожнікі Зямлі, першыя нашы ракеты, удала запушчаныя ў прасторы космасу, прычым запушчаныя ў самых лепшых мэтах для яго мірнага асваення, для разгадкі спрадвечных таямніц, для дзейнай дапамогі сусветнай навуцы, — усё гэта выклікала і шчырае захапленне ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва, і ахаладзіла некаторыя не ў меру разгарачаныя галовы нашых праціўнікаў, паставіла на месца мазгі многім і многім з іх. Усе ўбачылі цудоўную перамогу нашай навукі, навукі сацыялістычнай дзяржавы, заснаванай вялікім Леніным, узрошчанай па яго запаветах. Многім з нашых праціўнікаў давялося — хацелі яны гэтага ці не хацелі — рабіць вымушаную пераацэнку некаторых рэчаў, некаторых сваіх прызвычаеных уяўленняў. І хоць гэты працэс адбываўся з натужным скрыпам — каму ахвота прызнавацца ў сваім паражэнні — усё ж яны хутка пераканаліся ў тым, што ў ролі адсталых апынуліся не мы, а яны, і што адсталі яны не толькі ў навуцы, але і ў шмат чым іншым: у пастаноўцы ўсёй справы народнай асветы, у падрыхтоўцы навуковых кадраў, у адносінах да вучоных з боку дзяржавы і г. д. Так збіта была пыхлівасць, пустая пахвальба, пагардлівае стаўленне да нашых здабыткаў.

А міралюбівая палітыка савецкага ўрада і нашай партыі заваёўвала ўсё новыя і новыя перамогі. Гістарычная паездка Мікіты Сяргеевіча Хрушчова ў Злучаныя Штаты Амерыкі, яго гутаркі з Эйзенхауэрам, яго сустрэчы з тысячамі і тысячамі простых людзей Амерыкі, яго афіцыйныя гутаркі з прадстаўнікамі так званага дзелавога свету краіны, — усё гэта раскрывала вочы мільёнам і мільёнам людзей на сапраўдны стан рэчаў, адкрывала ім праўду аб нашых савецкіх людзях, аб іх гераічнай стваральнай працы, аб іх незлічоных здабытках і поспехах, аб іх арганічнай нянавісці да вайны, аб іх мірных імкненнях, аб іх шчырым жаданні жыць у міры і згодзе з усімі народамі свету, каб узаемнымі намаганнямі дабівацца сапраўднага росквіту жыцця чалавека, сапраўднага шчасця яго дзяцей і ўнукаў. І разам з гэтым мы далі зразумець усім сусветным захрыбетнікам, што ўсялякія спробы пасягнуць на нашы здабыткі, на нашу дзяржаву асуджаны на поўны правал. Больш таго, мы далі зразумець, што той, хто асмеліўся б падняць на нас меч, гэтым самым асудзіў бы сябе на верную гібель.

Так, у выніку паслядоўнай мірнай палітыкі нашага ўрада і ленінскай партыі мы назіраем цяпер прыкметнае пацяпленне палітычнага клімату на зямлі. Растайваюць паступпова ільды халоднай вайны. Недавер'е, узаемная падазронасць, нянавісць саступаюць сваё месца мірным перагаворам, сустрэчам дзяржаўных дзеячоў за круглым сталом, узаемным візітам кіраўнікоў дзяржаў, ажыўленню гандлю, узаемнаму азнаямленню з жыццём суседзяў, культурнаму і тэхнічнаму абмену, пашырэнню турысцкіх паездак, дапамозе слабаразвітым народам у іх гаспадарчым і культурным жыцці, — ды ці мала ёсць сродкаў і спосабаў жыць у міры, гэтым найвышэйшым шчасці для чалавечага грамадства.



Больш сарака гадоў прайшло з часу, калі пад кіраўніцтвам генія Леніна сацыялістычная рэвалюцыя справіла сваю ўрачыстасць, калі ў выніку перамоганоснага Кастрычніка была заснавана наша Савецкая дзяржава. Развеяўшы імглу былых стагоддзяў, выйшлі мы, былыя нявольнікі, на сонечныя прасторы жыцця. Пад кіраўніцтвам Леніна, пад кіраўніцтвам заснаванай ім партыі мы, савецкія людзі, сталі творцамі новай, сацыялістычнай эпохі, творцамі новай гісторыі ўсяго чалавецтва.

Мы выбіліся за гэтыя гады з адвечнай цемры, адсталасці, жахлівага жабрацтва. Мы развіталіся з растаптаным стагоддзямі лапцем, гэтым змрочным сімвалам былога ўбоства былой рэчаіснасці. Мы пабудавалі такую дзяржаву, такое жыццё, аб якіх маглі толькі некалі сніць дзесяткі людскіх пакаленняў, аб якіх марылі найлепшыя розумы чалавецтва.

І вось яна жыве і красуе, наша дзяржава, самая магутная на зямлі, самая справядлівая, самая светлая, самая клапатлівая аб людзях сваіх, самая спагадлівая чалавеку працы, дзе б ні жыў ён, дзе б ні гараваў ён свае гора ці радаваўся б сваёй радасці — ці за крутымі гарамі, ці за далёкімі марамі. І нашы дружбакі па ўсіх краінах свету па-сяброўску зайздросцяць нашым поспехам, радуюцца нашым радасцям, вітаюць нашы перамогі. У дружбе, у згодзе жывуць народы вялікай савецкай сям'і, дапамагаюць адзін аднаму, па-брацку дзеляцца сваімі здабыткамі, агульнымі намаганнямі рухаюць наперад сваю гаспадарку, сваю культуру.

Азіраючыся на пройдзеныя шляхі, любуючыся плёнам працы сваёй, хто з савецкіх людзей не падумае: «Як бы радаваўся Уладзімір Ільіч, каб пабачыў зямлю нашу ў поўным росквіце яе сілы, яе багацця, яе прыгажосці...»

Яе ўпрыгожылі савецкія людзі, якія ішлі ленінскім шляхам, якія працавалі, змагаліся пад ленінскім сцягам, будавалі новае жыццё, здабывалі новую долю, новае, якое ніколі не здраджвала ім, шчасце па ленінскіх запаветах. Савецкія людзі расквецілі некалі зарослую быльнікамі і палітую потам і слязою зямлю багатымі калгаснымі нівамі і садамі. На колішніх дзікіх пустэчах, у кавыльных стэпах, у таёжных нетрах яны ўзвялі новыя гарады, новыя фабрыкі і заводы.

Яны падначалілі сваёй волі сляпыя стыхіі прыроды, яны ствараюць новыя моры, яны мяняюць кірунак рэк, яны высушваюць гіблыя балоты, праводзяць ваду туды, дзе бязлітаснае сонца і сухавейныя вятры спапялялі, амярцвялялі ўсё жывое.

Некалі Уладзімір Ільіч марыў пра багацце электрычных агнёў, электрычнай энергіі. Як бы цешылася сэрца яго, каб ён убачыў гіганцкія электрастанцыі на Дняпры і Волзе, на Каме і Ангары, на Іртышы і Енісеі, на вялікіх і малых рэках Радзімы. А цеплавыя электрастанцыі! А новыя атамныя электрастанцыі, дзе расшчэплены розумам вучонага і рабочага атам стаў на службу чалавеку! Блізіцца час, калі поўнасцю ажыццёвіцца запаветная мара правадыра аб суцэльнай электрыфікацыі краіны. Блізіцца час, калі ў кожнай сялянскай хаце загарыцца электрычная лямпачка, якую народ любоўна называе лямпачкай Ільіча.

Некалі Уладзімір Ільіч марыў пра сотню тысяч трактараў. Якою радасцю засвяціўся б позірк правадыра, калі б ён убачыў тысячы і мільёны трактараў і іншых машын, якія працавіта гудуць на неасяжных палях Радзімы, палягчаюць працу земляроба, мяняюць аблічча вёскі, паступпова і няўхільна сціраюць тую спрадвечную мяжу, якая аддзяляла горад ад вёскі.

Як бы рад быў вялікі правадыр, каб убачыў сённяшні дзень нашых рэспублік, народы якіх жывуць у шчасці і ў згодзе і так далёка адышлі ад мінулых пахмурных дзён, калі многія з іх, як і мы, беларусы, марылі, як аб найвышэйшым шчасці, аб тых светлых днях, калі зможам «людзьмі звацца». Так, мы сталі людзьмі, якія забяспечылі і сабе і братам паўнакроўнае чалавечае жыццё, сталі паўнапраўнымі гаспадарамі свайго жыцця, сваіх набыткаў і агульнаю працаю, агульнымі намаганнямі набліжаем светлы дзень камунізма.

Па нашых праверaных шляхах пайшлі і іншыя народы, якія скінулі са сваіх плеч ярмо былога нявольніцтва. З намі побач, плячом да пляча, ідуць пад ленінскім сцягам мільёны гераічных будаўнікоў новага Кітая, Польшчы, Балгарыі, дэмакратычнай Германіі, Чэхаславакіі і шмат якіх іншых краін. Больш за мільярд людзей на зямлі будуюць сваё жыццё па ленінскіх запаветах. Некалі Ільіч гаварыў аб той выключнай ролі, якая будзе належаць у будучыні чалавецтва разняволеным народам Расіі, Кітая, Індыі. Хіба мы не сведкі амаль што поўнага ператварэння ў жыццё гэтага вялікага прадбачання правадыра!

Савецкія людзі першыя пралажылі рэвалюцыйныя шляхі да светлых дзён камунізма, першыя развеялі спрадвечную імглу над сваёй зямлёй. Яны жывуць і радуюцца з працы сваёй, жывуць і цешацца сваімі здабыткамі, і не задавольваючыся дасягнутым, не заспакойваючыся на здабытым, ідуць і ідуць уперад, нястомна і няспынна пракладаючы шляхі да шчасця і радасці ўсяго чалавецтва. Яны пракладваюць і першыя сцяжынкі ў нязведаныя прасторы космасу, пашыраючы веды чалавека, пашыраючы сферу дзейнасці яго пераможнай працы, яго дапытлівага розуму.

Колькі ж бліскучых перамог, колькі дзівосных здабыткаў займеў чалавек наш за гады рэвалюцыйных пераўтварэнняў сваёй зямлі, свайго жыцця, сваёй працы!

Каб жа бачыў усё гэта наш блізкі, наш любімы, наш родны Ільіч!

**Міхась ЛЫНЬКОЎ.**



Пятро **ПРЫХОДЗЬКА**

# ПАРТЫІ ЛЕНІНА



Мы адчулі душой цеплыню тваіх слоў,
Мы заўсёды ў жыцці тваёй ласкай сагрэты.
Ты прайшла праз агні барыкадных баёў,
Ажыццёвіла лепшыя думы і мэты.

Мы жалеза куём, росцім хлеб на палях,
Мы да мэты сваёй крочым смела, упэўнена,
Бо жыццё азарыў нам навекі той сцяг,
Што ўзняла над краінаю партыя Леніна.

Ты — магутная плынь паўнаводнай ракі,
Мы — твае ручайкі, што сцякаюць з узгоркаў.
Ты ў жыццё паказала нам шлях на вякі,
І нам свеціць твая пяцікутная зорка.

Ты ў вялікіх паходах раскрыла нам свет,
І мы сэрцам з табою — адданым і чыстым.
Хоць не кожны хай мае партыйны білет,
Але ў працы сумленнай мы ўсе — камуністы.

Мы гатовы заўсёды за справы твае
Стаць магутнай сцяною і ў горы і ў шчасці.
Ты нам сілы, натхненне і мужнасць даеш,
Як пяшчотная, шчырая, строгая маці.

Мы — байцы твае, ленінцы, дзеці твае.
Для цябе нашы думы, пачуцці, імкненні.
Імя Леніна ў кожнага ў сэрцы жыве.
Наша слава,
наш сцяг
і жыццё наша
— Ленін!

# *ЯНЫ СЛУХАЛІ ЛЕНІНА*

## ТРЫ СУСТРЭЧЫ



Сярод прадстаўнікоў старой бальшавіцкай гвардыі, якія ў гэтыя дні выступаюць перад моладдзю Масквы з успамінамі пра вялікага правадыра рэвалюцыі, заснавальніка камуністычнай партыі і савецкай дзяржавы — У. І. Леніна, можна сустрэць і нашага земляка Стратоніка Ільіча **Жбанкова.**

Сын селяніна-бедняка з вёскі Канічы былога Клімавіцкага павету Магілёўскай губерні, потым матрос Балтыйскага флоту, Жбанкоў усім сваім сэрцам, усім розумам успрыняў вялікія ленінскія ідэі, якія клікалі народ на штурм самадзяржаўя, на стварэнне новага грамадскага ладу. У жніўні 1917 года, напярэдадні вялікага рэвалюцыйнага штурму, матрос Жбанкоў стаў членам ленінскай партыі.

У снежні 1917 года бальшавік-балтыец Жбанкоў вяртаецца ў родную Беларусь. Пра многае мог ён расказаць сваім аднавяскоўцам: на яго вачах узвіліся чырвоныя флагі на караблях Балтфлота; ён бачыў грозны поступ пралетарыяў Петраграда — калыскі рускай рэвалюцыі; быў сведкам разгрому контррэвалюцыйных сіл царызма і Часовага ўрада. Але вось чуць і бачыць правадыра рэвалюцыі, чалавека, які ўзрушыў яго, як і мільёны іншых працаўнікоў неабсяжнай Расіі, сваімі ідэямі, яму яшчэ не даводзілася.

— Вельмі горача марыў я ў тыя дні, — расказвае Стратонік Ільіч, — убачыць хоць на адно імгненне Леніна. І ўявіце сабе, што мары гэтай суджана было збыцца іменна тады, калі я знаходзіўся за многія сотні кіламетраў ад Петраграда.

У складзе дэлегацыі Магілёўскага губернскага з'езда Саветаў Жбанкоў у студзені 1918 года паехаў у Петраград для ўдзелу ў рабоце III Усерасійскага з'езда Саветаў.

К таму часу немцы і белапалякі вастрылі зуб на беларускую зямлю; у многіх месцах гаспадарнічалі беларускія нацыяналісты.

Каб у гэтых складаных абставінах вызначыць правільныя шляхі аб'яднання беларускага народа для барацьбы з ворагам, дэлегаты-магіляўчане і парашылі звярнуцца да Уладзіміра Ільіча.

— Мне і яшчэ аднаму таварышу, — успамінае Жбанкоў, — было даручана папрасіць Ільіча прыняць нас. Ленін згадзіўся.

Было гэта 15 студзеня. Раніцай нам сказалі, што хутка прыдзе Ленін.



Мы ўсе сабраліся ў адным пакоі Смольнага. Сюды прыйшлі і запрошаныя намі мінскія і віцебскія дэлегаты. А дзесятай гадзіне раніцы шпаркай хадою ў пакой увайшоў Ільіч. І хоць з таго часу мінула больш чатырох дзесяцігоддзяў, мая памяць на ўсё жыццё захавала вобраз правадыра такім, як я яго ўбачыў першы раз. Прысадзісты, з светларусай бародкай, Уладзімір Ільіч быў апрануты проста, але акуратна. Павітаўшыся, ён адразу ж пачаў высвятляць пытанні, якія цікавілі нас. Гэта была шчырая, задушэўная гутарка. Кожная ленінская думка глыбока западала ў сэрца, з кожным яго словам нам усё больш зразумелымі станавіліся абставіны, усё больш яснымі — нашы задачы. Ленін нібы адгадваў нашы думкі, тлумачыў іх і рабіў лагічныя вывады...

Многія пытанні закрануў тады Уладзімір Ільіч. Ён гаварыў аб адносінах бальшавікоў да кайзераўскай Германіі, аб міры, аб тым, як трэба надзяляць сялян зямлёй, як мацаваць іх дружбу з рабочымі. Толькі савецкая ўлада, сказаў у заключэнне Ленін, вызваліць працоўных ад кабалы памешчыкаў і капіталістаў, толькі ў цесным саюзе з рускім народам працоўныя Беларусі здолеюць пабудаваць сваю свабодную дзяржаву.

Цёпла развітаўшыся, Уладзімір Ільіч пайшоў. А мы яшчэ доўга сядзелі моўчкі, баючыся парушыць уражанне, выкліканае сустрэчай з правадыром.

У той жа дзень беларускія дэлегаты вырашылі публічна заявіць пратэст супраць спробы членаў контррэвалюцыйнай беларускай рады, якія незаконна прыбылі на з'езд, выдаць сябе за адзіных паўнамоцных прадстаўнікоў працоўных Беларусі. Свой пратэст мы перадалі ў прэзідыум Леніну, бо лічылі, што пасля гутаркі з намі ён лепш за ўсіх зразумее наша абурэнне.

Ленін хутка прачытаў нашу запіску, дабрадушна ўсміхнуўся і перадаў яе Я. М. Свярдлову, які старшынстваваў. Мы былі вельмі задаволены, калі ў канцы пасяджэння Якаў Міхайлавіч зачытаў наш пратэст. Пасля гэтага самазваным «прадстаўнікам» беларускага народа быў закрыты доступ на трыбуну з'езда. Праз дзень наш пратэст быў апублікаваны ў газеце «Известия».

Прайшло паўгода, і Стратоніку Ільічу зноў пашчаслівіла сустрэцца з Леніным. Гэта было ўжо ў Маскве, на V Усерасійскім з'ездзе Саветаў у ліпені 1918 года.

— *Яшчэ* да адкрыцця з'езда, — гаворыць таварыш Жбанкоў, — мы даведаліся, што Ленін будзе выступаць на мітынгу салдат у Ляфортаве. І хоць адчувалася стомленасць пасля дарогі, мы, не задумваючыся, накіраваліся туды. Манеж былога Аляксееўскага вучылішча быў перапоўнены. Спачатку мы пачулі прамову левага эсэра Чарапанава, які выступаў супраць заключэння Брэсцкага міру. Але вось на трыбуну падняўся Ленін. І ўсім, хто знаходзіўся ў манежы, адразу стала яснай і зразумелай палітыка маладой савецкай дзяржавы. Усе аднадушна падтрымалі свайго правадыра.

Як дэлегат з'езда, Стратонік Ільіч Жбанкоў некалькі разоў слухаў выступленні Леніна — яго даклады аб міжнародным становішчы, аб дзейнасці Саўнаркома.

— Трэці раз, — заканчвае свае ўспаміны стары бальшавік, — мне давялося слухаць Уладзіміра Ільіча 20 лістапада 1922 года на пленуме маскоўскага Савета. У той час я быў сакратаром партарганізацыі ВЧК і прысутнічаў на гэтым пасяджэнні ў ліку гасцей. Мы ведалі, што Уладзімір Ільіч яшчэ не выздаравеў пасля хваробы, але ўсё ж чакалі яго прыезду. І ён прыехаў. Цяжка перадаць словамі той уздым і энтузіязм, з якімі быў сустрэты Ільіч. Яму доўга не давалі гаварыць, гул воплескаў заглушаў званкі старшыні. І толькі калі Ленін знаёмым жэстам паказаў на гадзіннік, маўляў, час дарагі, — зала заціхла.

Мільёны людзей ведаюць змест гэтай гістарычнай ленінскай прамовы. У ёй вялікі правадыр намаляваў грандыёзную праграму пераўтварэння Расіі нэпаўскай у Расію сацыялістычную.

Як і заўсёды, прамова Ільіча вызначалася глыбокай страснасцю, жалезнай логікай, геніяльным прадбачаннем, бязмежнай верай у перамогу сацыялістычнага ладу.

Прайшлі дзесяцігоддзі. І савецкі народ пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі дабіўся ажыццяўлення вялікіх ленінскіх планаў.

# НЯСТОМНЫ ЗМАГАР, МУДРЫ НАСТАЎНІК



Упершыню пра Уладзіміра Ільіча Леніна я пачуў пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 года. У той час наш Паўлаўскі полк, у якім я служыў, знаходзіўся на фронце, у 35-ці кіламетрах ад Луцка. Салдаты падтрымлівалі актыўную сувязь з Петраградам. Мы атрымлівалі адтуль розныя газеты, у тым ліку бальшавіцкую «Праўду». Так мы даведаліся, што ў Расію прыехаў Ленін. У «Праўдзе» мы прачыталі яго прамову, сказаную на Фінляндскім вакзале, якая заканчвалася словамі: «Няхай жыве сацыялістычная рэвалюцыя!» І хоць буржуазныя газеты і рэакцыйнае афіцэрства рэзка выступалі супраць Леніна, салдацкія масы пераходзілі на бок партыі бальшавікоў.

У кастрычніку 1917 года сацыялістычная рэвалюцыя здзейснілася. Салдаты рваліся дамоў, каб ладзіць сваю ўладу Саветаў.

У лістападзе паехаў на Тамбоўшчыну і я. Працаваў у Кірсанаўскім павятовым камітэце РСДРП(б). У ліпені 1918 года мяне накіравалі ў Маскву, на трохмесячныя Вышэйшыя партыйна-савецкія курсы.

Слухачы курсаў, побач з вучобай, па заданню Маскоўскага гаркома партыі праводзілі палітыка-масавую работу на фабрыках і заводах сталіцы. Семінарам кіравала ў нас Надзежда Канстанцінаўна Крупская. Яна вучыла нас, як лепш арганізаваць сход, правесці гутарку сярод насельніцтва.

Аднойчы загадчыца курсаў паведаміла, што Уладзімір Ільіч Ленін будзе выступаць з прамовай у тэатры на Вялікай Дзмітраўцы. Гэта было, здаецца, 29 ліпеня 1918 года. У той дзень праходзіла аб'яднанае пасяджэнне УЦВК, Маскоўскага Савета, фабрычна-заводскіх камітэтаў і прафесійных саюзаў Масквы. Прыйшлі мы перад пачаткам пасяджэння. Селі ў другім ярусе. З хваляваннем чакалі выступлення Леніна.

Мы сядзелі побач з Андарсанам, які ўжо меў шчасце бачыць Ільіча. Андарсан крануў мяне локцем, прагаварыў ціха:

— Бачыш Уладзіміра Ільіча? Зараз ён будзе гаварыць.

І ў гэты час старшыня пасяджэння аб'явіў:

— Слова прадастаўляецца таварышу Леніну.

Пад бурныя воплескі Ільіч выйшаў з-за стала, хуценька наблізіўся да трыбуны, але гаварыць яму некалькі хвілін не давалі. Мора воплескаў калыхалася вакол, а ён стаяў ля трыбуны, некалькі разоў узнімаў руку



ўгару, заклікаў супакоіцца. Авацыя не сціхала. А мы, курсанты, пляскалі, здавалася, гучней за ўсіх і крычалі: «Няхай жыве Ленін!» Ды і як нам было не крычаць, калі мы пра яго так шмат чулі, чыталі яго палымяныя прамовы, а самога не бачылі.

Дагэтуль я ўяўляў сабе Леніна нейкім незвычайным чалавекам, прынамсі такім, які нечым павінен вылучацца ад іншых людзей. Аказваецца, я памыліўся, як памыляліся многія. На трыбуне стаяў чалавек сярэдняга росту, у карычневым гарнітуры звычайнага крою. Вось ён паказаў гадзіннік, апусціў руку, і зала сціхла. Вялікі палец левай рукі Ільіч закладвае за камізэльку, робіць крок назад, потым адступае крыху ўбок ад трыбуны, нахіляецца ўперад, і ў залу ляцяць слова: «Таварышы!»

Уладзімір Ільіч гаварыў тады аб міжнародным і ўнутраным становішчы рэспублікі, аб тым, што на парадак дня зноў ставіцца пытанне ваеннае, як галоўнае, карэннае пытанне рэвалюцыі. Ільіч, нічога не тоячы, расказаў нам, што ўся савецкая Расія акружана вогненным колам іншаземнай контррэвалюцыі, ды і ўнутры краіны шкодзіць недабітая буржуазія. Ён кінуў тады кліч: «Усё для фронта!» Слухаючы выступленне Ільіча, мы захапляліся даступнасцю яго слоў, міжвольна запальваліся той энергіяй, якая адчувалася ў кожным ягоным руху. Сваёй праўдзівасцю, прастатой аргументацыі Ільіч узнімаў дух усіх навакол сябе, няўмольнай сілай пераканання ўсяляў у працоўным народзе веру ў канчатковую перамогу пралетарыята. Мы ведалі, што Ленін асабіста сам арганізоўваў абарону краіны, і мы верылі, што перамога будзе за намі.

У другі раз мне давялося Леніна бачыць у 1920 годзе на VIII Усерасійскім з'ездзе Саветаў, дэлегатам якога я быў. Напярэдадні Ленін выступаў на пасяджэнні фракцыі РКП(б) з дакладам аб замежных канцэсіях.

22 снежня адкрыўся з'езд Саветаў. Паявіўся Ленін. Гром воплескаў. З усіх канцоў перапоўненай залы Вялікага тэатра нясуцца воклічы: «Няхай жыве таварыш Ленін!»

Не магу дакладна сцвярджаць, ці змяніўся Уладзімір Ільіч пасля таго, як я яго бачыў у 1918 годзе. Памятаю, быў ён, як заўсёды, бадзёры, проста і сціпла апрануты. У руцэ, калі пачаў рабіць даклад, трымаў невялікі, напэўна з блакнота, лісток. Ленін у сваім выступленні абагуліў галоўныя ўрокі прайшоўшага года, вызначыў самыя неадкладныя палітычныя і гаспадарчыя задачы ў сувязі з пасляваенным аднаўленнем і далейшым развіццём народнай гаспадаркі краіны. З'езд закончыўся спяваннем «Інтэрнацыянала». Разам з усімі спяваў і Ленін.

У сакавіку 1921 года адбыўся X з'езд партыі, дэлегатам якога мне таксама давялося быць. Работа з'езда ўсе восем дзён праходзіла пад непасрэдным кіраўніцтвам У. І. Леніна. Гэта быў цяжкі, складаны момант у жыцці краіны. У Кранштаце ўзнік контррэвалюцыйны мяцеж, і 300 дэлегатаў на чале з К. Я. Варашылавым былі мабілізаваны на падаўленне яго.

Уладзімір Ільіч рабіў даклады па асноўных пытаннях парадку дня, выступаў па некалькі разоў у спрэчках, у час перапынку гутарыў з дэлегатамі. Ён сядзеў у прэзідыуме часцей за ўсё з краю, бліжэй да трыбуны. Уважліва слухаў кожнага дэлегата, павярнуўшы галаву крыху ў бок прамоўцы. Калі ж гаварыў хто-небудзь з апазіцыі, Ільіч глядзеў на яго, прыжмурыўшы левае вока, не тоячы тым самым сваёй іроніі.

Асабліва запомнілася мне прамова Уладзіміра Ільіча аб прафесіянальных саюзах. Ён даў тады высокую ацэнку рашэнням з'езда, які адзінадушна згуртаваўся вакол ленінскай платформы ў пытанні аб прафсаюзах.

Указанні свайго правадыра партыя поўнасцю здзейсніла. Прыемна зараз успамінаць, што бальшавікі Беларусі ў час дыскусіі аб прафсаюзах былі згуртаваны вакол Леніна, што ў нашай рэспубліцы не было ні адной арганізацыі, якая б пайшла супраць «платформы 10-ці» — ленінскай. Радасна ўсведамляць, што Камуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі

ў той напружаны час была згуртаванай вакол свайго правадыра У. І. Леніна так, як яна цяпер згуртавана вакол Ленінскага Цэнтральнага Камітэта.

Нястомным змагаром за вялікую справу рэвалюцыі, мудрым настаўнікам застаўся родны Ільіч у маёй свядомасці. Такі ён жыве ў думках мільёнаў працоўных усяго свету!

**Н. КАЛІНІН,**
**член КПСС з 1918 года.**

# НАС НАТХНЯЕ ЛЕНІНСКАЕ СЛОВА



Мне выпала вялікае шчасце бачыць У. І. Леніна і слухаць яго выступленні. Нельга забыць яго бязмежна родныя рысы твару, вочы, якія выпраменьвалі незвычайны аптымізм, яго жывыя рухі і магутную сілу слоў гэтага вялікага чалавека.

Ленінскае слова мела магутную сілу, якая прымушала ліхаманкава трэсціся буржуазію і, нібы яркі прамень сонца, асвятляла свядомасць простых людзей працы, указваючы шлях да новага, радаснага жыцця без эксплуататараў, без памешчыкаў і капіталістаў.

У ліпені 1918 года ў Маскве, у памяшканні Вялікага тэатра праходзіў V Усерасійскі з'езд Саветаў, дэлегатам якога я быў ад Парэцкага павету Смаленскай губерні. На з'ездзе, акрамя бальшавікоў, якія складалі абсалютную большасць, былі эсэры, меншавікі, анархісты.

Яшчэ напярэдадні з'езда ў інтэрнатах, дзе жылі дэлегаты, ішлі ажыўленыя і гарачыя спрэчкі паміж бальшавікамі і эсэрамі вакол дэкрэтаў савецкай улады аб міры і зямлі, аб камітэтах сялянскай беднаты, створаных у той час на вёсцы.

Нашы пачуцці і сэрцы былі перапоўнены ўрачыстасцю, калі ў прэзідыуме паявіўся Ленін. З'езд адкрыў Якаў Міхайлавіч Свярдлоў. З самага пачатку разгарнулася жорсткая барацьба з кіраўнікамі леваэсэраўскай фракцыі, якія адкрыта сталі на шлях контррэвалюцыі.

Працуючы старшынёй павятовага Камітэта РСДРП бальшавікоў, я адчуў, што ў вёсцы галоўнай нашай апорай з'яўляецца селянін-бядняк. Камітэты беднаты ў той час памагалі органам Савецкай улады забяспечваць хлебам рабочых і Чырвоную Армію. Гэта разумелі ўсе бальшавікі, і таму істэрычныя крыкі прадстаўніка левых эсэраў М. Спірыдонавай выклікалі абурэнне ўсіх сумленных рэвалюцыянераў, якія прысутнічалі на з'ездзе.

Уладзімір Ільіч Ленін, які выступіў пазней на з'ездзе, зрабіў належную ацэнку контррэвалюцыйнай тактыкі леваэсэраўскай партыі. Правадыр рэвалюцыі даў сакрушальны адпор здрадніцкім спробам пахіснуць моц савецкай улады на першых яе кроках па краіне. Ленінскае слова запаліла ў нас жаданне бязлітаснай барацьбы за справы бальшавіцкай партыі.

Прызнаючы харчовае пытанне самым галоўным і самым надзённым, з'езд адобрыў мерапрыемствы Савецкай улады па арганізацыі камітэтаў сялянскай беднаты.



Гэта прыйшлося не па нутру левым эсэрам. Яны не абмежаваліся прамовамі на з'ездзе і 6-га ліпеня ўзнялі контррэвалюцыйны мяцеж супраць дыктатуры пралетарыята, арыштавалі таварыша Дзяржынскага, які прыбыў да іх у штаб з прапановай бясспрэчнай капітуляцыі, захапілі цэнтральны тэлеграф і разаслалі ва ўсе канцы савецкай краіны паведамленне аб звяржэнні савецкай улады. Тады ж яны забілі нямецкага паўпрэда Мірбаха, каб ускладніць адносіны з Германіяй.

Успамінаецца трывожная раніца. Няма ў прэзідыуме прадстаўнікоў нашай партыі. Трывога ў радах дэлегатаў з'езда. Хвіліны здаюцца гадзінамі. Але вось дэлегатам з'езда — бальшавікам прапануюць пакінуць залу пасяджэння праз сцэну. Пры выхадзе мы атрымлівалі пароль і месца збору. На Вялікай Дзмітраўцы, куды мы неўзабаве сабраліся, нас залічылі ў баявыя атрады.

Варожая авантура праз суткі была ліквідавана, а лідэры леваэсэраўскай партыі арыштаваны. Дэлегаты з'езда хутка даведаліся аб некаторых падрабязнасцях прабывання таварыша Дзяржынскага «ў палоне» ў левых эсэраў. Для аховы Дзяржынскага эсэрамі была створана ўзмоцненая варта, якую «бясстрашны рыцар рэвалюцыі» за кароткі час так распрапагандаваў, што салдаты пакляліся не даць Дзяржынскага ў крыўду.

Пасля ліквідацыі мяцяжу з'езд працягваў работу. У сваёй пастанове з'езд цалкам адобрыў энергічную тактыку Саўнаркома па ліквідацыі здрадніцкай авантуры левых эсэраў і патрабаваў суровага пакарання тых, хто са зброяй у руках зрабіў замах на савецкую ўладу і паставіў краіну перад непасрэднай небяспекай узнікнення новай вайны. У адносінах да левых эсэраў з'езд прызнаў несумяшчальным іх прабыванне ў Саветах рабочых і сялянскіх дэпутатаў, таму што яны вялі барацьбу супраць савецкай улады.

Вялікай падзеяй у жыцці краіны Саветаў было абмеркаванне і прыняццё з'ездам Канстытуцыі (асноўнага закону) Расійскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі.

«Упершыню ў гісторыі чалавецтва рабочыя і працоўныя сялянскія масы, — гаварыў У. І. Ленін, — пачалі самі будаваць новую, пралетарскую дзяржаву, сталі ў шалёнай барацьбе, у агні грамадзянскай вайны вызначаць асноўныя палажэнні аб дзяржаве без эксплуататараў».

Для нас, маладых у той час бальшавікоў, V Усерасійскі з'езд Саветаў быў сапраўдным універсітэтам. Мы вярталіся з Масквы палітычна падрыхтаванымі, ясна ўяўляючы, што трэба рабіць, супраць каго змагацца. Словы У. І. Леніна для ўсіх бальшавікоў былі законам, планам работы па станаўленню і ўмацаванню савецкай улады на месцах, яны натхнялі нас на барацьбу, на працу.

Другі раз я бачыў і чуў Леніна ў 1919 годзе. Навальнічныя хмары навіслі над нашай краінай. Заваёвам рэвалюцыі зноў пагражала небяспека. Чатырнаццаць капіталістычных краін узняліся ўзброеным паходам супраць нас.

Партыя вуснамі Леніна кінула тады заклік да народа — абараніць заваёвы Кастрычніка.

На гэты покліч роднай партыі адгукнуліся камуністы, камсамольцы, усе сумленныя савецкія людзі. Дзверы камітэтаў партыі і камсамола забіваліся дошкамі, на іх вывешваліся аб'явы: «Усе пайшлі на фронт». Сярод тых, хто ехаў на Усходні фронт і чакаў на адным з маскоўскіх вакзалаў наказу Леніна, быў і я. Гром воплескаў абвясціў аб прыбыцці Леніна.

Ільіч хутка ўзышоў на імправізаваную трыбуну, трымаючы ў руцэ шапку. У сваім наказе ён звярнуўся да салдат з просьбай напружыць усе сілы, каб адстаяць заваёвы Кастрычніка. «Мы не адны, з намі пралетарыят усіх краін і мы пераможам», — гаварыў тады Ільіч. Адказам на гэтыя словы было магутнае «ўра», якое выражала нашу клятву аддаць усе свае сілы, а калі трэба і жыццё за справу рэвалюцыі, за шчасце савецкага народа.

Сорак гадоў прайшло з таго часу. Гэтыя гады былі поўны гераічных намаганняў савецкіх людзей па збудаванню першай у свеце краіны сацыялізма. І кожнае намаганне завяршалася нашай перамогай. Інакш і не

магло быць. Ленін усяліў у кожнага бальшавіка сваю палымяную нянавісць да буржуазнага ладу, сваю жалезную волю, накіраваную на разбурэнне капіталістычнага ладу, на будаўніцтва камунізма. Ленін навучыў нашу партыю не палохацца цяжкасцей.

Савецкі народ, прайшоўшы праз самыя цяжкія выпрабаванні, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ўпэўнена крочыць па ленінскаму шляху да светлага, радаснага жыцця, імя якому — Камунізм.

**І. КАЖАНКОЎ,**
**член КПСС з 1917 года.**

# ПА ПУЦЁЎЦЫ РОДНАГА ІЛЬІЧА



Я помню день и помню час
Страны, охваченной ненастьем,
Когда товарищ Ленин нас
Благословлял в поход за счастьем.

Гэта было ў далёкім і цяжкім 1920 годзе, у адзін з хмарных вечароў той грознай восені.

У Маскве, у сталіцы маладой рэспублікі Саветаў, змардаванай вайною і голадам, разрухай і холадам, сабраліся камсамольцы, што прыехалі з гарадоў, з вёсак, з франтоў вайны на трэці з'езд свой. Велізарная зала Камуністычнага ўніверсітэта на Малой Дзмітраўцы ў доме № 6 была перапоўнена.

Хвіліны чакання запоўніліся песнямі, вершамі. Балтыйскі матрос, падпяразаны кулямётнымі стужкамі, звонка і летуценна прачытаў радкі «Левага марша» У. Маякоўскага — аб тым, што за гарамі гора чакае нас «сонечны край непачаты».

Чытанне гэтых вершаў усіх усхвалявала. А адзін хлапчук, які, напэўна, прыехаў з больш-менш спакойных мясцін, так расчуліўся, што падышоў да матроса, абняў яго, падарыў яму ва ўсіх на вачах лусту свежага духмянага хлеба і сказаў:

— Вось табе, браток, за добрыя словы — край, хоць і не сонечны, затое непачаты!..

Матрос пацалаваў вясковага сабрата, голасна заявіўшы:

— Такога хлеба Балтыка даўно не каштавала. Дзякуй, браток! Гэта будзе ласунак для ўсёй нашай дэлегацыі!..

З'езд пачаўся спяваннем «Інтэрнацыянала». Потым выбралі прэзідыум. І там, на ўзвышэнні за сталом, пакрытым кавалкам звычайнага чырвонага міткалю, сярод бязвусых таварышаў неўзабаве паявіўся адзін паважаны чалавек. Гэта быў Ленін.

Ён увайшоў у лёгкім расхінутым паліто з вузкім аксамітным каўняром, у кепцы. Зняў кепку. Павесіў паліто на спінку крэсла. Заняў месца ля самага краю стала.

У маіх запісах, зробленых у той момант, гаворыцца:

«Уладзімір Ільіч нахіліўся над сталом, дзе ляжалі нейкія паперы. Ён усхвалявана і заклапочана пачаў нешта занатоўваць. Выраз твару яго быў такі, нібы ён не чуе буры прывітанняў у свой адрас, якая ўзнікла ў зале».



Асветлена зала была не багата. Таму многія ўдзельнікі і госці з'езда з дальніх радоў рынуліся да сцэны, каб зблізку пабачыць Леніна. А некаторыя нават адважыліся прабрацца на сцэну, каб пры зручным выпадку хоць на хвілінку пабыць побач з Уладзімірам Ільічом. Сярод гэтых «некаторых» няпрошаных гасцей прэзідыума быў і я, 16-гадовы вясковы дэлегат.

Мы наблізіліся да Леніна. І ўбачылі, што ён зусім нічога не занатоўваў у тыя хвіліны, хоць і вадзіў алоўкам па паперы. Ён маляваў. Сціплы домік з шыльдай «Школа» ўзнік з-пад яго алоўка. Канешне, нікому з нас, сведак гэтага ягонага занятку, не прыходзіла ў галаву, што тэма ленінскага малюнка можа мець адносіны да тэмы яго выступлення.

Ленін падышоў да самага краю на сярэдзіне сцэны. Даволі доўга не давалі яму пачаць прамову шумныя ўсплёскі захаплення, крыкі «ўра», апладысменты.

Ленін спакойна хадзіў па краю сцэны. Потым спыніўся. Памахаў рукой у бок бурлівай залы. Потым пальцам пагразіў. Спачатку была ўсталявалася цішыня. Але раптам... зала задрыжала ад выбуху смеху. Уладзімір Ільіч пальцам гразіў спачатку строга, а потым з усмешкай. Значыць, гразіў жартам. Усмешка ленінская была асаблівая, цёплая. Нібы іскрынка, яна перакінулася ў залу і пайшла ззяць па радах. Радасным полымем ахапіла ўсіх нас. Вось і грымнуў у зале дружны нястрымны выбух юнацкага, бесклапотнага, прамяністага смеху, што было яшчэ адным сведчаннем нашага непаўторна-шчаслівага настрою, які быў выкліканы сустрэчай з Леніным, вялікім і простым, родным і любімым.

А вось Уладзімір Ільіч дастаў з кішэні гадзіннік, падняў яго і многазначна паказаў пальцам на цыферблат: час, між тым, бяжыць, хлопчыкі. А час дарагі... Гэта было ясна без слоў.

Настала поўная цішыня.

Мы пачулі голас Леніна, які загучаў мякка, спакойна, нават некалькі па-хатняму, нібы на сямейнай бяседзе. Па сутнасці, сваім характарам выдатная прамова Леніна на III з'ездзе РКСМ была іменна гутаркай, размовай вельмі сур'ёзнай і задушэўнай, аб самым галоўным у жыцці маладога пакалення, закліканага будаваць і абараняць новае грамадства.

«Таварышы, мне хацелася б сёння пагутарыць на тэму аб тым, якія асноўныя задачы Саюза камуністычнай моладзі...»

Такімі словамі пачалася ленінская прамова.

А калі было сказана, што галоўную задачу моладзі можна, у асноўным, выказаць адным словам — мы ўсе здзівіліся. І здзіўленне наша ўзрасло яшчэ больш, калі выявілася, што гэтае адно слова: вучыцца.

Вучыцца? Ды хіба ёсць час для гэтага? А як жа быць з ворагамі, якія топчуць нашу зямлю, пагражаюць нашаму жыццю і ўсяму таму, што заваяваў народ, здзейсніўшы Вялікую сацыялістычную рэвалюцыю. Мы былі ўпэўнены, што наш трэці з'езд у поўным складзе накіруецца ў «апошні і рашаючы бой».

На бой пайшлі іншыя. Тыя, што былі крыху старэй за нас. Нам жа па прамой пуцёўцы Леніна давялося ісці ў паход за ведамі, каб стаць будаўнікамі камунізма.

**Аляксандр ЖАРАЎ.**

Пятрусь МАКАЛЬ

# ПРАМОВА Ў ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ ЛЕНІНА



З усіх чалавечых армій
Я сёння ўславіць хачу
Тую,
якая раўняецца,
Тую,
якая змагаецца —
Па Ільічу.
Не сняцца паходы новыя
І войны не трызняцца ёй —
Сэрцы яна заваёўвае
Вялікаю праўдай сваёй.
Не позвамі ваенкамата
Сабраны яе салдаты.
Пакліканыя сумленнем,
Яны ідуць па зямлі.
Імя неўміручага Леніна
Яны,
як сцяг,
узнялі.
Імя над зямлёй праменіцца,
Каб бачылі людзі ўсе,
Як мужная армія — ленінцы —
Абпалены сцяг свой нясе.
Колькі разоў абвяшчалі
Нашаму сцягу вайну!
Ва ўпор у яго стралялі,
І нам з абрэза ў спіну.
Употай
краліся выбеліць,
Каб потым
кінуць на брук...
Але не схілілі,
не выбілі
З шурпатых, учэпістых рук.
Усіх масцей інтэрвенты
Прарочылі нам канец
І слалі свае аргументы —
У кулі адліты свінец.
Аспрэчваць, вядома, нялёгка
Такія важкія довады,
І мы заўзятым пракорам
Наладзілі гучныя провады.



Гэтак іх страсянулі мы,
Мы з імі так развіталіся,
Каб болей да спрэчак кулямі
Ніколі яны не вярталіся.
Імем савецкай Радзімы
(Не словамі на паседжанні),—
Марсу — богу вайны мы
Зрабілі сваё папярэджанне.
Угледзеўшы вымпел на Месяцы,
Спалохаўся бог вайны:
— Ды гэтак хутка лесвіцу
Ускінуць на неба яны!
Дрыжыць не дарма ён: заўзята
Да бога бяда ўжо сунецца —
Па скарачэнню штатаў
Пасада яго скасуецца.
Я ведаю —
свет наш зменіцца:
Вайна з жыцця выключаецца!
І толькі армія ленінцаў
Не скарачаецца.
На ўсіх кантынентах мацнець ёй,
Шырыцца і расці.
Яна —
адзіная ў свеце —
Жыццё сцвярджае ў жыцці!

# ВУСНАМІ ЧАЛАВЕЦТВА

## *Пісьменнікі і грамадскія дзеячы свету пра У. І. Леніна*

*«...словы Леніна — гэта першы заклік да зброі, звернуты да сусветнай рэвалюцыі, якая наспявала ў чалавецтве, знясіленым ліхаманкай вайны. Час надышоў. Рэвалюцыя пачалася...»*

Рамэн РАЛАН.

*«На працягу амаль чвэрці стагоддзя Ленін крок за крокам, спакваля рыхтаваў найвялікшы пераварот у гісторыі чалавецтва. Усёй сваёй істотай ён аддаўся задачы, якая стаяла перад ім. На працягу ўсіх гэтых год ён не пераставаў быць сапраўдным правадыром і натхняльнікам руху; ён быў тым, хто нанёс разлічаны, рашаючы ўдар, які пераўтварыў у кастрычніку 1917 года аблічча ўсяго свету і змяніў плынь сусветнай гісторыі».*

Анры БАРБЮС.

*«Амаль адначасова з Кастрычніцкай рэвалюцыяй, якой кіраваў вялікі Ленін, мы ў Індыі пачалі новую фазу нашай барацьбы за свабоду. Наш народ на працягу многіх гадоў быў захоплен гэтай барацьбой і пераносіў цяжкі прыгнёт з храбрасцю і цярплівасцю. Хоць у гэтай барацьбе пад кіраўніцтвам Махатмы Гандзі мы ішлі іншым шляхам, мы захапляліся Леніным і на нас рабіў уплыў яго прыклад».*

Джавахарлал НЕРУ.

*«...Як і ўсе змагары майго пакалення, я абавязаны Леніну бясконца многім. Яго думкі, пры ўсёй іх глыбіні, заўсёды даступны народу».*

Марыс ТАРЭЗ.

*«Калі мы зараз азірнемся на шлях, пройдзены Леніным, дык зразумеем, што ён ніколі не прымаў выпадковых рашэнняў пра кірунак, не рабіў выпадковага выбару на скрыжаваннях дарог. З першай хвіліны яго заняткаў палітычнымі пытаннямі, з таго моманту, калі ён пачаў удзельнічаць у рабочым руху, і да апошняй хвіліны яго жыцця ідзе адна непахісная, неадхільная лінія, якая заўсёды можа быць прыкладам, — лінія, што ўстанаўлівае выразныя, ясныя, наглядныя вехі для пралетарыяў, якія ідуць па шляху да свабоды».*

Юліус ФУЧЫК.



*«У сучасны момант ёсць адзін толькі цікавы дзяржаўны дзеяч Еўропы: імя яго Ленін... людзі, якія жадаюць на самай справе што-небудзь зрабіць, — як Ленін, — не чакаюць... Ён заявіў, што кожны чалавек павінен працаваць або галадаць».*

Бернард ШОУ.

*«Я бачыў імя Леніна, напісанае на скляпеннях рымскіх катакомбаў, высечанае на жорсткіх камянях альпійскіх скал у такіх месцах, куды, здавалася, толькі арол мог бы ўзняцца».*

Джавані ДЖЭРМАНЕТА.

*«...хоць Леніна ўжо няма сярод жывых, але сацыяльны лад, які ён стварыў і які яго паплечнікі і пераемнікі з таго часу прывялі да сённяшняй магутнасці і велічнасці, ніколі не прападзе для будучых пакаленняў».*

Тэадор ДРАЙЗЕР.

*«Ад яго слоў веяла спакоем і сілай, якія глыбока пранікалі ў людскія душы. Было зусім ясна, чаму народ заўсёды верыў у тое, што гаворыць Ленін».*

Джон РЫД.

*«...Сіла Леніна як вялікага палітыка і празорцы грунтуецца не на якой-небудзь містычнай інтуіцыі, а на яго здольнасці збіраць масу фактаў для кожнага асобнага выпадку, а потым найбольш рацыянальна карыстацца гэтымі фактамі».*

Альберт Рыс ВІЛЬЯМС.

*«Вядома, што Ленін быў не толькі чалавекам дзеяння, якому не было роўных па энергіі, але ён валодаў таксама шырокімі, універсальнымі ведамі».*

Марсель КАШЭН.

*«Ленін-інтэлігент умеў думаць, як рабочы. Ленін-прамоўца гаварыў без фраз і траскатні... Ленін — гэта закончаны тып новага чалавека; ён з'явіўся для нас праабразам будучыні».*

Поль ВАЙЯН-КУЦЮР'Е.

*«Таварыш Ленін — найвялікшы прамоўца, якога я калі-небудзь чуў у маім жыцці».*

Сен КАТАЯМА.

*«Няма ніводнай колькі-небудзь значнай для чалавецтва падзеі, якая не была б звязана з Леніным і рэвалюцыяй».*

Марцін Андэрсен НЕКСЕ.

*«За многія стагоддзі сусветнай гісторыі з'явіліся тысячы правадыроў і вучоных з прыгожымі словамі на вуснах, якія ніколі не здзяйсняліся. Ты, Ленін, выключэнне. Ты не толькі гаварыў і вучыў, але рабіў свае словы рэчаіснасцю. Ты стварыў новую краіну. Ты паказаў нам шлях для сумеснай барацьбы. Ты сустракаў на сваім шляху тысячы перашкод, якія сустракаюцца і на маім шляху. Я хачу ісці тваёй дарогай, і хоць мае ворагі супроць гэтага, але мой народ будзе мяне вітаць за гэта. Ты памёр, неба не прадоўжыла тваё жыццё, але ў памяці прыгнечаных народаў ты будзеш жыць праз стагоддзі, вялікі чалавек».*

Сун ЯТ-СЕН.

*«Ленін быў геніяльны ў палітыцы, але просты, мілы, шчыры і задушэўны ў жыцці...»*

Пётр РАЙЧАЎ.

*«Ленін, магутны і смелы, ён стаў пераможцам таму, што быў увесь прасякнут адным: любоўю да будаўнікоў, стваральнай масы, даверам да іх, верай у веліч і хараство той справы, якой ён аддаў сваё жыццё, верай у яе перамогу. Вось чаму ён і мог здзейсніць гістарычны «цуд» — Ленін рухаў гарамі».*

Клара ЦЭТКІН.



**Станіслаў ЗЕМБІЦКІ**

# У ГОРКАХ



Над лясамі вятры, як па плошчы, імчацца,
Тут жа лёгка шапочуць між кусцікаў. Дрэвы
Нерухома стаяць, як калоны палаца,
Толькі птушкі чуваць бестурботныя спевы.

Мы усе так прыціхлі, што ўзяў бы, здаецца,
Сціснуў рукі суседа, каб поціскам шчырым
Расказаць аб усім. Чую нават стук сэрца
У старэнькай бабулькі, таджычкі з Паміра.

Ён у вёску у Горкі пайшоў з мужыкамі,
Размаўляе пра беднасць, кулацтва, Саветы.
А пакуль без яго гаварыць будзе з намі
Пасівелая Крупская, бібліятэкар.

«Ленін вернецца зараз, ён будзе вам рады,
Пачакайце»... А ціша у доме такая!..
Тут яе перарваць можа толькі з урада
Тэлефонны званок, што не часта бывае.

Прад дзвярыма палаца ля сцен ярка-белых
Цвет сухі бэз цярушыць з бязлістых галінаў,
Ён да іх дакранаўся плячом набалелым,
Як, на з'езд ад'язджаючы, йшоў да машыны.

Увайшлі у рабочы пакой нешырокі.
На стале 'шчэ відаць цень рукі дарагое.
Зараз Крупская скажа нам, стоячы збоку:
«Мы у ссылцы прывыклі да цесных пакояў».

Тут складаў ГОЭЛРО, тут пісаў ён праекты,
І пры лямпачцы гэтай для роднага краю
Вызначаў шлях у заўтра. І вось, аж дагэтуль
Ільічовай яе мы усе называем.

Калідорам праходзячы, кожны падумаў:
За балясы трымаецца — з цяжкасцю ходзіць.
Ён хварэе. Напэўна, прыйшлі не ў пару мы:
Сэрца кожнага ўдар можа нават зашкодзіць.

А пакуль ёсць дыханне, алоўкам адточаным
«Ліст да з'езда» — наказ свой для партыі піша,

Пад усхліпы бабулькі старой паварочваем
І у спальню ўваходзім, у сумную цішу.

Этажэрка. На ёй лекі даўнія стынуць.
Ложак белы, пусты. Шторы спушчаны нізка.
Вось і палка, якую даўно ён пакінуў,
І любімага Горкага новая кніжка.

А калі зноў па парку ідзём па алеі,
Дзе няма ўжо яго, дзе заўжды будзе пуста,
Праз вішнёвы сад вецер гвалтоўна павее,
Але толькі ўсхвалюе дрыжачыя вусны.

Сціснуць вусны патрэбна. Ён хутка тут будзе
І падзеліцца гнеўнаю мудрасцю з намі,
І кірунак пакажа. Не дзіва, што людзі
Кажуць: «Ленін жыве, Ленін сёння — мы самі».

Пераклаў з польскай мовы
**К. ПАЎТАРЖЫЦКІ.**



Канстанцін **ФЕДЗІН**

# МАЛЮНАК З ЛЕНІНА

**Апавяданне**

Мал. Л. Дубара.

## 1

У летні поўдзень маладому мастаку Сяргею Шуміліну пазванілі па тэлефоне з газеты і сказалі, каб ён зайшоў у рэдакцыю дамовіцца аб адной справе. Мастак кінуў маляваць, памыў рукі, паклаў у кішэню гімнасцёркі алоўкі, блакнот і выйшаў на вуліцу.

У вокнах магазінаў былі выстаўлены партрэты Леніна ў чырвоных рамках з кумача, і ўсюды кідаліся ў вочы надпісы: «Няхай жыве Трэці Камуністычны Інтэрнацыянал!». Сяргей, зазіраючы ў вокны, думаў, што, відаць, фатаграфіі вельмі дакладна перадаюць рысы Леніна, без усялякіх адхіленняў, але мастак мог бы танчэй улавіць асаблівасці твару, жывасць рухаў, і добра было б намаляваць калі-небудзь Леніна з натуры.

У рэдакцыі Сяргею сказалі:

— Хочам даць вам вось такое даручэнне. На кангрэс Камінтэрна з'язджаюцца замежныя дэлегаты. Адпраўляйцеся ў Палац працы, яны там сёння збяруцца. Замалюйце каго-небудзь з дэлегатаў. Згодны?

— Добра.

— А заўтра мы дамо вам пропуск на адкрыццё кангрэсу, можаце намаляваць любога дэлегата і, калі ўбачыце, Леніна...

— Леніна? — хутка перапыніў Сяргей і ўсміхнуўся сваёй імгненнай думцы, што вось лёс так дзіўна здзяйсняе яго жаданне.

— Так, калі будзе магчымасць, намалюйце нам Леніна.

— Добра,— зноў сказаў Сяргей.

Узрадаваны, ён паехаў на трамваі ў Палац працы і, як толькі праз адчыненыя вокны вагона заўважаў дзе-небудзь партрэт Леніна, зноў здзіўляўся ад незвычайнага супадзення і ўжо ясна ўяўляў сабе, які лёгкі, натуральны і жывы будзе яго малюнак з Леніна.

Ён вырашыў, які альбом возьме з сабою, якія патрэбны будуць алоўкі і як ён пасля, па малюнку, напіша вялікі партрэт.

## 2

У Палацы, куды прыехаў мастак, было шумна. На лесвіцах, у калідорах траплялiся замежныя госці, акружаныя рускімі, якія расказвалі ім аб жыцці савецкай рэспублікі.

Ішла вайна з Польшчай, палякі былі разбіты, і Чырвоная Армія гнала на захад польскія войскі. Белагвардзейцам барона Врангеля ў Крыме таксама падыходзіў канец. Але да міру было далёка, варожая блакада знясіліла маладую савецкую зямлю, і цяжка было прабрацца з-за мяжы ў Петраград. Замежныя госці ехалі на кангрэс морам, вакол Скандынавіі, ім даводзілася перажываць у дарозе рызыкоўныя прыгоды. Але жаданне бачыць краіну Саветаў прымушала адольваць самыя цяжкія перашкоды, і людзі з'ехаліся з усіх канцоў свету.

Сяргея пазнаёмілі з адным немцам. Гэта быў маленькі гарбун з важным выразам твару і павольнай паходкай. Ён паходзіў з Брауншвейга, па прафесіі быў кравец. У час нямецкай рэвалюцыі ён тры дні ўзначальваў «незалежную» рэспубліку ў Брауншвейгу, якую па-здрадніцку разграмілі нямецкія сацыял-дэмакраты.

Хоць немец адразу згадзіўся пазіраваць мастаку, ён адразу пачаў падрабязна распытваць пра савецкую ўладу і ўсё не мог зразумець, нашто ёй спатрэбілася адмяняць усялякі гандаль і ўводзіць размеркаванне тавараў.

Яны стаялі на балконе, пазіраючы на суровую плошчу перад Палацам, якая яшчэ не страціла слядоў гераічнай абароны Петраграда ад Юдзеніча: на вуліцы відаць былі на скорую руку засыпаныя акопы, на бульвары выступалі рэшткі бруствера — бярвенні, мяшкі з пяском. Сяргей сказаў:

— Цэлае зборышча ворагаў узнялося супраць нас. Мы думаем аб адным — перамагчы іх.

— Разумею, разумею,— з перавагай у голасе гаварыў брауншвейгец і плаўна рухаў галавой, што сядзела глыбока ў плячах. — Але які сэнс у тым, што зачынены дробныя крамы?

— Крамнікі заадно з нашымі ворагамі.



— Разумею, разумею. Але калі ў мяне адарвецца гузік, то дзе я яго куплю?

Такім разважанням, здавалася, не будзе канца, і Сяргей, раптоўна засумаваўшы, адчуў, што зусім нічога не атрымаецца, калі ён пачне маляваць брауншвейгца.

— Ведаеце што, я паспрабую зрабіць ваш партрэт заўтра на кангрэсе,— сказаў ён.

Немец паблажліва дазволіў, і мастак хутка развітаўся.

## 3

Назаўтра раніцай з білетам у кішэні Сяргей спяшаўся на адкрыццё кангрэсу, але калі ён прыйшоў, зала Палаца Урыцкага была ўжо запоўнена, на хорах пакалыхвалася жывая паласа галоў, усё глуха гуло ад галасоў, усюды трапяталі, як белыя крылы, разгорнутыя газеты. Стаяла духмень, усё часцей і часцей у амфітэатры здымалі пінжакі, людзі абмахваліся газетамі, хусцінкамі, стракацела ў вачах ад мігцення незлічоных плям, усё было ў напружаным чаканні.

Сяргей знайшоў месца ў ложы для журналістаў, насупраць трыбуны. Адсюль добра былі відны лаўкі прэзідыума. Ён разгарнуў альбом і пачаў рыхтавацца маляваць.

Раптоўна хоры зашумелі, і, усё паглынаючы, уніз пачаў спаўзаць вадаспад воплескаў. Сяргей узняўся ўслед за ўсёй залай і стаў глядзець на месцы ў прэзідыуме. Але там ніхто не паказваўся. Ён паглядзеў у залу, і раптам у яго з рук выпаў альбом: ён сам пачаў апладзіраваць.

Проста на яго, цераз усю залу, наперадзе рознаплямённага натоўпу дэлегатаў, ішоў Ленін. Ён спяшаўся, нахіліўшы галаву, нібы рассякаючы ёю сустрэчную плынь паветра і нібы імкнучыся хутчэй знікнуць з вачэй, каб прыпыніць воплескі. Ён узняўся на месца прэзідыума, і, пакуль цягнулася авацыя, яго не было відаць.

У той момант, калі ён паказаўся, расчыніліся ўсе дзверы залы, і на хоры і ў амфітэатр унеслі вялізныя карзіны чырвоных гваздзік. Кветкі разляцеліся па руках, уцягваючыся ў доўгія рады лавак, у маляўнічую пераклічку з барвовымі палотнішчамі сцягоў і дэкарацый. Аглядаючы залу, Сяргей убачыў непадалёку двух пажылых мастакоў, якія яшчэ нядаўна былі яго настаўнікамі. Яны ўжо ўселіся на месцы, а ён усё яшчэ стаяў. Спахапіўшыся, ён падняў альбом і ўзяўся за алоўкі.

Ды нечакана, калі ўсё сцішылася, ён зноў убачыў Леніна, які вельмі шпарка ўзнімаўся ўверх між лавак амфітэатра. Яго не адразу заўважылі, а ледзь заўважыўшы, зноў пачалі апладзіраваць і забіваць праход, па якім ён амаль што ўзбягаў. Ён параўняўся з адным чалавекам і, весела ўсміхаючыся, працягнуў да яго рукі. Той узняўся насустрач Леніну, вітаючыся павольна, з нейкай паважнай манерай селяніна і з пяшчотнай стрыманай усмешкай. Яны размаўлялі, усё больш нахіляючыся адзін да аднаго, бо авацыя расла і людзі абступілі іх колам.

— Гэта — Міха Цхакая,— пачуў Сяргей,— грузінскі камуніст. Ён жыў з Леніным у Швейцарыі.

Кола людзей вакол іх звужалася, і Ленін, пацiснуўшы руку таварышу, амаль што прарваў непахісны натоўп, хутка спускаючыся ўніз, відавочна нездаволены громам і тлумам.




Сяргей сачыў за кожным яго крокам. Яму здавалася, што ён паспеў заўважыць вельмі істотныя асаблівасці рухаў гэтага невысокага, лёгкага чалавека і ўжо бачыў іх, злоўленых алоўкам, у сваім альбоме.

Ленін, увайшоўшы ў месцы прэзідыума, на хвіліну прапаў, пасля зноў паказаўся, і Сяргей убачыў, як ён выняў з кішэні паперы і прысеў на прыступкі ў праходзе. Гэта адбылося хутка, нечакана, проста, і лепшай позы нельга было ні чакаць, ні ўявіць. Сяргей адчуў, што яго суседзі-мастакі ўжо малююць. Ён сціснуў у пальцах аловак, але не мог адарваць позірку ад Леніна.

Вельмі добра была відаць яго галава — вялікая, незвычайная, што запамінаецца ў адзін момант. Ленін паклаў паперы на калені і, чытаючы, нізка нахіліўся над імі. Узмах яго ілба, цемя, патыліца з завіткамі светлых жаўтаватых валасоў, што дакраналіся каўняра, рэзка вылучаліся з усяго яго вобліку. Сяргей хацеў параўнаць Леніна з якім-небудзь вобразам, знаёмым з гісторыі ці сучаснасці, але Ленін нікога не паўтараў. Кожная рыска яго належала толькі яму.

Сяргей нарэшце дакрануўся алоўкам да паперы. Адным мяккім рухам, нібы намацваючы, ён намеціў контур ленінскай галавы і ўзняў вочы. Леніна ўжо не было.

4

Сяргей убачыў яго зноў, калі ён ступіў на трыбуну для даклада.

Узрушаная, бясконцая авацыя сустрэла Леніна. Яму прыйшлося чакаць да яе канца. Ён доўга перабіраў паперкі на кафедры. Пасля, высока ўзняўшы руку, трос ёю, каб суняць разбушаваную залу. Дакорліва і строга пaглядаў ён па баках — адзін сярод гаманлівага шуму. Раптам ён выняў гадзіннік і паказаў яго аўдыторыі, сярдзіта пастукваючы пальцам па цыферблаце, — нічога не памагло. Тады ён зноў пачаў нервова пераглядаць, перабіраць паперкі, пакуль авацыя, нібы вычарпаўшы сябе да дна, не перайшла ва ўважлівую цішыню.

Ленін пачаў гаварыць.

Сяргей убачыў яго ў руху, які памагаў перадаваць думку. Вось якраз гэта і марыў мастак паказаць у сваім малюнку. Рысы Леніна, некалькі хвілін назад улоўленыя так дакладна, нібы знікалі ў Леніне-прамоўцу і замяняліся новымі, у бесперапынным жывым чаргаванні. Адну за другой адзначаў іх у памяці Сяргей, але яны ўзнікалі і не паўтараліся, і ён баяўся страціць іх, і ўсё не адважваўся пачаць маляваць, і ўжо не мог бы сказаць — што робіць: ці вывучае жэстыкуляцыю Леніна, ці слухае яго прамову.

Поўная зніставанасць жэста са словам уразіла яго. Змест прамовы перадаваўся пластычна, нібы ўсім целам. Сяргею здавалася, быццам растоплены метал уліваўся ў падатлівую форму: так дакладна



знешні рух спадарожнічаў слову — так бурна цякла перадача вогненнага сэнсу прамовы.

Ленін развенчваў Англію, якая ні з таго ні з сяго напусціла на сябе дух міралюбства і, каб выратаваць разбітую Польшчу і белага генерала Врангеля, прапанавала сваё пасрэдніцтва паміж імі і савецкай рэспублікай. Калі Ленін спытаўся ў залы, чаму ўзніклі ў свеце «турботы», як выражаецца далікатны буржуазны англійскі ўрад,— усё яго цела іранічна паказала гэтую нязручнасць, непрыемныя для Англіі «турботы», і яе палітыка на вачах ва ўсіх ператварылася ў смяртэльна трапны саркастычны вобраз.

Ленін часта зазіраў у свае запіскі і называў многа лічбаў, але ні на адну хвіліну ён не рабіўся ад гэтага нудным прафесарам, застаючыся ўвесь час паўнаўладным трыбунам. Яго высокі голас быў нястомны, яго мова — наглядна простай, яго вымаўленне — мяккім, ён іншы раз грасіраваў на гуку «р», і гэта надавала яго слову чалавечнасць, жыццёва набліжаючы прамову да слухача.

З такім пачуццём, нібы ён не прапускае ні гуку з гэтай прамовы, Сяргей узяўся малягаць. Ён зрабіў накід прыўзнятай галавы Леніна, яго выцягнутых рук, прамую, моцную, разагнутую лінію спіны, круглыя, выпуклыя грудзі. Ён кідаў адзін малюнак, пачынаў другі: то ў яго не атрымоўваўся твар, то рукі ці торс. Ён паўтараў удачнае, біўся над тым, што не ўдавалася, перагортваў у альбоме аркуш за аркушам і нарэшце, спахапіўшыся, заўважыў, што мэта, якую ён сабе паставіў, пакуль не набліжалася.

Ён паглядзеў на сваіх настаўнікаў. Адзін з іх, сагнуўшыся, старанна сціраў гумкай намаляванае. Лысіна ў яго была ружовая. Сяргей успомніў — той заўсёды чырванеў, калі што-небудзь не выходзіла. Другі мастак пайшоў з ложы, апынуўся ў радах насупраць трыбуны і, кінуўшы маляваць, слухаў Леніна.

Сяргею раптам зрабілася страшна, што ён назаўсёды страціць момант, што Ленін скончыць прамову, а ў яго альбоме так і не будзе ні аднаго закончанага накіду. Ён выйшаў з ложы, ледзь праціснуўшыся ў дзвярах, дзе людзі стаялі плячом да пляча. Ён стаў унізе, у праходзе, адкуль Ленін выглядаў большы і вышэйшы. Ён вырашыў, што гэта самае зручнае месца. Але тут перашкаджала святло юпітэраў: аб'ектывы фотакамер і кіно разам з мастакамі лавілі няўлоўнага, жывога Леніна, і агні, асляпіўшы на момант, акуналі зрок у цемру. Сяргей перайшоў на другі бок трыбуны. Адсюль Ленін быў відзён амаль што сілуэтна, таму што святло ззаду ад яго было ярчэйшае. Не, першая пазіцыя была лепшая за ўсе, трэба было найхутчэй вяртацца ў ложу.

Месца Сяргея было занята, яму давялося стаяць. І, стоячы, ён раптоўна ўбачыў усяго Леніна, на ўвесь рост і з той паўнатою, якая не давалася воку, што размывала на часткі поўную закончаную натуру. Сяргей адразу ўзяўся за новы малюнак. І тады адразу пачала адчувацца ўся падрыхтоўка, усё няўпэўненае штудзіраванне, эцюды, зробленыя нібы вобмацкам, з заплюшчанымі вачыма, і жэсты, рухі галавы, рысы твару, дапаўняючы адно другое, злучаліся, пачыналі паволі перарастаць у закончаны малюнак, у блізкі к праўдзе вобраз — у жывога Леніна. Ужо не адрываючыся ад альбома, Сяргей маляваў хутка, без намагання.

Гулкі шум пракаціўся па зале. Сяргей узняў вочы. Узмахам рукі сабраўшы паперы, Ленін лёгкім подбегам пакідаў трыбуну.

Сяргей закрыў свой альбом.



## 5

Калі скончылася пасяджэнне, у густым, разагрэтым натоўпе дэлегатаў Ленін выйшаў з Палаца разам з Горкім. Бліскучы сіні дзень сляпіў пасля цёпла-жоўтага беднага святла залы. Цесната спыніла рух ля самага выхаду. Фатографы, наступаючы на дэлегатаў з усіх бакоў, трашчалі затворамі, узрадаваныя непамерным асвятленнем. Горкі і Ленін спыніліся ля калоны на ганку Палаца. Іх здымалі бесперапынку. Гладка паголеная з блакітным адлівам галава Горкага, паблісквакочы на сонцы, была далёка відна. Навокал паўтаралі яго імя. Ленін стаяў ніжэй, спераду ў яго, таксама з голай галавой.

Сяргей быў побач, і яму трэба было б маляваць. Але натоўп сціснуў яго. Ды ён і не думаў варушыцца: так зблізку ён яшчэ не бачыў Леніна ўвесь гэты дзень. Ён адчуваў, што ўсміхаецца і што ўсмешка яго, можа, не дарэчы, але яна не пакідала твар, нібы акамянеўшы. Праўда, ён не мог радавацца, што фатографы напстрыкаюць некалькі дзесяткаў кепскіх здымкаў, але ён пазайздросціў увішнасці іх спакойнай прафесіі.

Шэсце кранулася з месца. Сярод сцягоў, над галовамі, неслі трохмятровы вянок з дубовых галінак і чырвоных руж: накіроўваліся да брацкай магілы на Плошчы ахвяр рэвалюцыі.

Ленін ішоў на чале дэлегатаў кангрэсу. Побач з ім увесь час мяняліся людзі — замежныя, рускія, старыя і маладыя. Ён канчаў гаварыць з адным, пачынаў з другім, трэцім.

Ён ішоў без паліто, расшпіліўшы пінжак, закладваючы рукі то за спіну, то ў кішэні штаноў. Было падобна на тое, што ён — не на вуліцы, сярод цяжкіх вялізных пабудоў, а ў абжытым пакоі, дома: зусім нічога надзвычайнага не знаходзіў ён у масе, што акружала яго, і проста, свабодна адчуваў сябе ва ўсеагульным нястрымным імкненні людзей да яго.

Сяргей, які ішоў непадалёку, раптам заўважыў знаёмага чалавека, які, праціскаючыся між шчыльных радоў людзей, вынырнуў наперад і, улавіўшы момант, параўняўся з Леніным. Гэта быў браўншвейгец. Падрабязна спыніўшыся на тым, хто ён, і паціснуўшы Леніну руку, ён пачаў, відаць, добра падрыхтаваную тыраду.

Ленін схіліў галаву набок, каб лепей чуць нізенькага субяседніка. Той гаварыў, важна паводзячы доўгай рукою, нібы ацэньваючы свае пераканаўчыя словы, баючыся сказаць што-небудзь нявартае. Спачатку Ленін быў сур'ёзны. Пасля засмяяўся, прыжмурыўся, часта ківаючы галавою. Затым адхіліўся, адрывіста махнуўшы рукой з тым выразам, якім гавораць: глупства, глупства! Браўншвейгец, жэстыкулюючы, працягваў нешта даказваць. Ленін узяў яго за локаць і сказаў дзве-тры фразы — кароткія і нейкія канчатковыя, беспаваротныя. Але браўншвейгец горача пярэчыў. Тады раптам Ленін лёгка ляпнуў яго па плячы, засунуў пальцы за камізэльку і стаў смяяцца, пагойдваючыся на хаду, прыбаўляючы крок і ўжо больш не азіраючыся на чалавека, які яго так рассмяшыў.

Ці не аб гузіку загаварыў няўрымслівы браўншвейгец? Можа і так,— усміхнуўся Сяргей, калі немец адстаў ад Леніна і згубіўся ў натоўпе. Дзіўныя пачуцці ў Сяргея ўзняла гэтая сцэна. Яна была нямой для яго, але поўная руху, так востра выявіла ў Леніне даступнасць і няўмольнае пачуццё смешнага. Сяргей бачыў Леніна вясёлым, калі ён смяяўся ад душы, назіраў яго манеру спрачацца — з хуткімі пераменамі выразу твару, з хітравата прыжмураным вокам, з жэстам, поўным




імпэту і волі. Сцэна з браўншвейгцам павінна была дапоўніць малюнак Сяргея такімі важнымі штрыхамі, якіх раней ён не мог ведаць.

«Два старшыні, — думаў ён, усміхаючыся і нібы яшчэ бачачы перад сабою дзве фігуры, — старшыня трохдзённага браўншвейгскага ўрада, што кануў у Лету, і старшыня ўрада, які існуе тры гады і будзе існаваць заўсёды».

Незнаёмае фізічнае адчуванне гордасці хваляй заліло Сяргея, і амаль у той жа момант у яго забілася сэрца ад прыкрасці і хвалюючага дзёрзкага жадання: чаму, чаму так многа людзей падыходзіць да Леніна, і ён знаходзіць для іх час, а ён, мастак, які павінен, які абавязан і хоча назаўсёды пакінуць Леніна для соцень, для тысяч людзей, чаму ён павінен выбіраць секунды, каб зазірнуць яму ў твар, разгледзець яго ўсмешку, злавіць на ляту яго позірк?

Сяргей раскрыў альбом. У малюнку былі сапраўды рысы падабенства. Злоўленыя бегла, мімаходам, яны не вызначаліся бясспрэчнасцю. Але што сказаў бы аб іх сам Ленін?

Сяргея падштурхнулі наперад. А можа гэта яму толькі здалося,— ён сам прабраўся ў пярэдні рад і ўжо маршыраваў поплеч з Леніным. Ён амаль што задыхаўся. Нейкі крок аддзяляў яго ад мэты, і, не ведаючы, ці хопіць сілы, ён зрабіў гэты крок.

Ён падышоў да Леніна.

— Я хачу, — сказаў ён, і нядаўна прыдуманая фраза адразу разламалася ў яго галаве. — Уладзімір Ільіч, як вы лічыце гэты малюнак?

Ленін хуценька зірнуў на Сяргея, узяў альбом за рог і, сагнуўшыся, прыжмурыўся над паперай. Пасля ён адвёў альбом, весела глянуўшы на Сяргея.

— Вам падабаецца?.. — спытаў ён.

— Не, — адказаў Сяргей,— але падабенства, здаецца, ёсць.

— Не бяруся судзіць, я — не мастак, — хуценька адгукнуўся Ленін. У вачах у яго прамільгнула жартаўлівая хітраватасць, ён адкінуў



галаву назад, з абнадзейваннем кіўнуў Сяргею і адвярнуўся ў другі бок: з ім нехта загаварыў.

Сяргея адціснулі з першага, пасля з другога раду, ён здзівіўся — чаму ўвесь час ён займаў зручнае месца ў шэсці і адразу яго страціў? Прыкрасць? Няёмкасць? У Сяргея зноў з'явілася тое пачуццё, якое толькі што перажыў. Не, ні ў голасе, ні ў позірку Леніна не прамільгнула нічога, што магло б устрывожыць Сяргея. Але як яму прыйшло ў галаву паказаць Леніну няўдалы малюнак? Гэта было маладушнасцю. Сяргей раскрыў і адразу ж рэзка закрыў альбом: малюнак быў нікуды неварты.

Тут нехта ўзяў яго за локаць і пацягнуў уніз. Сяргей павярнуўся.

Яго моцна трымаў браўншвейгец.

— Вы, мой дарагі, мелі намер мяне маляваць, — сказаў ён гучна. — Сёння вам гэта не ўдалося, але я магу прыняць вас заўтра.— Прыўзняўшы над галавою доўгую, сухую руку, ён паляпаў Сяргея па плячы.— Да д'ябла гарачы дзень. Зусім не падобна на вашу матухну-Расію.

— Ведаеце што, — сказаў Сяргей, — я перадумаў, я маляваць вас не буду.

— О, вельмі міла, — пачуў ён за сабою, прабіраючыся праз натоўп.

Ён адразу ж забыўся на немца. І ў той жа момант ён адчуў новы, цёплы поціск рукі. Яго настаўнік, што маляваў разам з ім у ложы, са знаёмай спагадлівай удумлівасцю сказаў ціха:

— Чуеце, у мяне не атрымліваецца малюнак з Леніна. А ў вас?

— У мяне таксама, — адказаў Сяргей і, нечакана прыцiскаючы да сябе пяшчотную руку, з запалам дадаў:

— Але даю слова, даю вам слова гонару — у мяне абавязкова атрымаецца!..

Пераклад з рускай мовы **У. Дамашэвіча.**

**Чэрвень, 1939.**

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

# АГАНЁК УНАЧЫ



Ідуць дажджы і днём і ноччу,
Апалі мокрыя лісты,
Вада асенняя булькоча,
Старыя зносячы масты.

Размокла на дарозе гліна,
Канавы поўныя вады,
І у разбітых каляінах
Па трубкі грузнуць абады.

Світае днём, і днём змяркае,
Куды ні глянеш — змрок і змрок,
Нібы над Енісейскім краем
Замкнулі сонца на замок.

І ночы чорныя, як сажа,
Здаецца, — бездань за сцяной.
Ніхто дарогу не пакажа,
Ніхто не пусціць на пастой.

А ты ідзеш, прамок дазвання,
Закляклі ногі, ледзь жывы.
Цябе, нібы на пакаранне,
У воласць кліча станавы.

Збіраўся дабрысці да ночы,
Ды не прайшоў і тры вярсты,
Як зніклі сцежкі ля абочын,
Як раптам выраслі кусты.

Куды ісці?
У чорным полі
Адзін блукаеш, як сляпы,
Табе шыпшыннік шчокі коле,
Малоціць дождж у тры цапы.

На паўаршына грузнуць ногі,
Чыркі размоклі у вадзе.
Ды па загаду станавога
У воласць Пронікаў ідзе.





Кляне і цемрадзь, і парадкі,
Ураднікаў і станавых,
Што за патравы і падаткі
У воласць гоняць ледзь жывых.

Ды болей не ступіць ні кроку,
Прысеў, намацаўшы пянёк,
Зірнуў навокал:
дзесь далёка
Мільгнуў маленькі аганёк.

Жывы, трапечацца, палае,
Яго й дажджы не залілі,
Нібыта зорачка малая
Адна гарыць на ўсёй зямлі.

Рукамі расхінуўшы вецце,
Устаў стары, прыбавіў крок,
Ідзе туды, дзе ярка свеціць
Жывы маленькі аганёк.

Канавы, зараснікі глогу
Ужо мінуў стары даўно.
Яму паказвае дарогу
Чыёсьці светлае акно.

У раму стукнуў асцярожна
І кажа:
— Госпадам прашу,
Пусціце ў хату, калі можна,
Ратуйце грэшную душу.

— Хутчэй заходзьце, калі ласка...
Усё, усё здымайце прэч,
Чыркі сушыце,
апаяску
І світку вешайце на печ.

Сядайце, вось і чай, дарэчы,
Кладзіце цукар... Ну, нішто? —
І гаспадар яму на плечы
Сваё накінуў паліто.

І чай гарачы унакладку
Спакойна сёрбае стары,
Вядзе размову пра падаткі
І беззямельныя двары:

— Прапала матухна-Расея,
Жабрачыць з восені сяло.
Яшчэ у нас на Енісеі
Такога зроду не было.

А гаспадар прыжмурыў вока,
Па светлай гладзіць барадзе,
Устаў, прайшоў шырокім крокам
І кажа:
— Не, не прападзе!

Мы не дазволім ёй прапасці,
І вы, і вашы землякі,
У нас такое будзе шчасце,
Настане лад у нас такі,

Што свет Расіі пазайздросціць
Унукам нашым і сынам.
Патрэбна толькі болей злосці
І болей сілы трэба нам!

...На дзень займалася патроху
Ў глухой сібірскай старане.
Усім паказвала дарогу
Святло у ленінскім акне.

Аляксей **ЗАРЫЦКІ**

## ПЕРАД КАСТРЫЧНІКАМ



Чацвёрты год Еўропу топча ботам
Жалезная пачварына вайны.
Аплецены палі калючым дротам,
Засеяны наўсцяж свінцом яны,
Паліты скрозь салдацкаю крывёю.
Вялікі, грозны ураджай паспеў —
Калышацца над рускаю зямлёю,
Чакаючы жніва, высокі гнеў.

Якія буры грымнуць неўзабаве!
Які простор адкрыецца ў баях!
Адна мінута, брат, і к новай яве
Зямля-планета знойдзе верны шлях.

Але пакуль яшчэ прыбыткі лічаць
Гаспадары, вялікія паны.
Па іх загаду трубы ў бітвы клічуць,
Газеты лгуць,
Б'юць званары ў званы.

Гаспадарам пакуль няблага спіцца
Ў пасцелях мяккіх,
Ім і ў сне
Наступнае ніколі не прысніцца,
Маланка перад імі не мільгне.

Хіба дзялкі капеечнай натуры,
Палітыканы дробныя маглі
Уявіць магутнасць блізкай-блізкай буры,
Што несла светлы лёс для ўсёй Зямлі?..

За Петраградам,
Ля затокі Фінскай,
На поплаве глухім, дзе ні душы,
Над будучым, як маці над калыскай,
Ільіч схіліўся ў ціхім шалашы.

Ляжаў ён стомлены на свежым сене,
Мінала ноч, а ўсё заснуць не мог.
Адзіны верны шлях да вызвалення
Ён бачыў паміж тысячы дарог.



Зарніцы ў цемры ўспыхвалі касыя.
Замоўк дзяргач.
Такая цішыня,
Нібы на міг прыціхла ўся Расія
Ў чаканні заўтрашняга дня.

Артур **ВОЛЬСКІ**

## ХЛОПЧЫК БАЦЬКУ ЗНАХОДЗІЦЬ



Вакзал — узварушаны вулей, гудзе.
Слязінкамі выпат са столі сцякае.
І хлопчык, аглушаны тлумам, брыдзе,
Нібыта кагосьці ў натоўпе шукае.
Замурзаны твар,
Лахманы на плячах,
І сум недзіцячы ў дзіцячых вачах.

Знясілена хлопчык на лаўку прысеў, —
Ён цэлыя суткі не спаў і не еў,

Схіліўся...
Забыўся, агорнены сном,
І твар усміхаецца кожнаю рыскай.
Ён бачыць:
хаціна з зашытым акном,
І смачная пара,
як хмара,
над міскай.
Даўно ён не сёрбаў заціркі такой,
Забеленай густа,
Засквaранай тлуста.
А бацька яму загрубелай рукой
Працягвае хлеба духмяную лусту.

Ласкава пагладзіў яго па плячы...

Ды хто гэта?
Што гэта?
Як уцячы!..
Хлапчук прахапіўся,
глядзіць —
перад ім
Стаіць чалавек, незнаёмы зусім.
Але, як у бацькі, ў вачах у яго
Заззяла хітрынка іскрынкай дрыготкай.
Схіляецца,
быццам да сына свайго,
Вось-вось казытне рыжаватай бародкай.

І дзівіцца хлопчык:
які чалавек!..
Ён ведае ўсё да драбніцы нібыта, —
Што бацьку
казак на падворку засек,

Што маці
да смерці нагайкамі збіта...
— Галодны?..
І хлопчык ківае ў адказ,
Ізноўку адчуўшы, як хочацца есці.
— Відаць, нам, хлапчо, па дарозе якраз.
Садзіся ў машыну. Мы можам падвезці...

Ці ява ўсё гэта, ці ўсё яшчэ сон?
Машына гушкае, як тая калыска.
А дзядзька, прыкрыўшы малога крысом,
Гаворыць лагодна:
—Ну вось, ужо блізка...

За строем каштанаў — брукованы пляц.
Дубовыя дзверы.
Каменныя сходкі.
— Сюды, навічок!..
І ў вялізны палац
Яго ўжо вядуць хлапчукі-аднагодкі.
Блішчыць, быццам люстра, нацёрты паркет.
Ступае хлапчук асцярожнай паходкай.
І раптам спыніўся:
ён бачыць партрэт,
На ім — чалавек са знаёмай бародкай.

Уладзімір **КАРАТКЕВІЧ**

# ЛЕНІН КАЛЫША ДЗІЦЯ



Ён ідзе па маёй краіне
Пушчай, полем, абшарам лугоў,
І звісаюць над сцежкай хвaіны,
Каб закрыць ад дажджу яго.
Ён ідзе адзін, без эскорту,
Не збівае расу на траве.
Палітончык на ім пацёрты,
Кепка лёгкая на галаве.
Лічыць ён каласы, і магілы,
І усмешкі на вуснах братоў.
«Што яны без мяне зрабілі?
Што тут добра і дрэнна што?»
Плач пачуў на вясковай ускраіне.
Сон.
Бязлюддзе.
Пусты гараж.
Спіць на прызбе бабуля глухая,
А дзіця заходзіцца аж.
— «Ну, не плач ты, гаротны нябога,
Мабыць, ясляў няма? Дарма».
Ён шукае ў кішэнях — нічога,
Ні цукерак, ні цацкі, няма.
І дзіця падымае ён, дужы,
Як мужчыны бяруць заўжды,
І зрывае хлопчыку ружу
У вясёлкавых кроплях вады.
— «Не сярдуй, сынок сінявокі,
Ў гэтай кветцы зямное цяпло.
Я ж прыйшоў з часіны далёкай,
Калі нам не да цацак было.
Бач, святло гуляе па лісцях,
Адусюль праганяе змрок.
Добрым будзь, як бацькі калісьці,
Цёплым будзь, як сонца, сынок.
Будзь бясконца да ўсіх чалавечным,
Будзь ласкавым, як светлы май,
Падазрэннямі недарэчнымі
Чалавека не абражай.
І за гэта — радзіму свабодную
Я аддам табе ў вечны дар:
Землі, пушчы, светлыя воды
І сусвету бясконцы абшар.
Па дузе у бязмежнасць сінюю
Карабель з зямлі паляціць.
Будзе маці чакаць няспынна,
Ганарыцца і слёзы ліць.
Мы заўчасна ў жыцці сівелі,
Кулі неслі глыбока ў грудзях,
Каб да зорак распалена-белых
Ты праклаў незабыўны шлях.
Штосьці бабка, брат, шэпча сярдзіта.
Ляж у ночвы, сынок, засні».
Пастаяў ён і збочыў у жыта
І растаў у далечыні.
За лясным даляглядам замроеным
Хутка сціхнуў далёкі крок,
А дзіця ляжыць неспакойна,
І смяецца ружовы раток...
Толькі бабка здзівілася дужа,
Што гарыць барвяным святлом
У яго ручанятах ружа, —
Без калючак, з гладкім сцяблом.



Алег Фомчанка нарадзіўся ў 1932 годзе ў Мінску ў сям'і служачага. Закончыўшы восем класаў, вучыўся ў энергатэхнікуме, пасля паступіў на аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Леніна, якое закончыў у 1958 годзе.

Цяпер Алег Фомчанка працуе ў газеце «Калгасная праўда».

Алег Фомчанка выступаў з апавяданнямі ў «Чырвонай змене», часопісах «Юность», «Советская Отчизна». «Мой сябра Ігар» і «Бульба на дарозе» — новыя апавяданні маладога празаіка, які піша на рускай мове.

**Алег ФОМЧАНКА**

# МОЙ СЯБРА ІГАР

### Апавяданне

*Мал. А. Бараноўскага.*

Наша знаёмства было не зусім звычайнае. Нечаканы лівень змусіў мяне схавацца ў будку міліцыянера-рэгуліроўшчыка. Будка была ўжо занятая. Высокі плячысты хлопец, нахіліўшыся, накрываў кагось пінжаком. Я ўгледзеў маленькую дзяўчынку, усю мокрую. На яе галоўцы зліпаліся зблытаныя валасы. Кароценькая сукенка зусім не грэла яе. Дзяўчынка збеднілася і была ад гэтага нейкая смешная. Я хацеў адразу ж пайсці з будкі, але хлопец затрымаў мяне.

— Пачакай. Міліцыянера няма. Змесцімся...

Мы пазнаёміліся. Ён назваў сябе Ігарам Стрэшневым.

Дзяўчынка ўсё ніяк не магла сагрэцца. Пры кожным удары грому ўздрыгвала і сціскалася ў камячок. Чужы, вялікі пінжак спаўзаў з яе плечак. Мой знаёмы папраўляў яго і ўсё гаварыў:

— Не бойся, кнопка.

У будцы было суха. А зусім побач сцёбалі па асфальце цяжкія струмені дажджу і ажно рваў галінкі маладых ліпак шалёны вецер.

— Сястрычка твая? — спытаў я.

— Ды не. Пазнаёміліся толькі. Гэтак, Варка?

— Угу...

— Разумееш... Іду, а яна плача...

— І не плачу, — сказала дзяўчынка. — Я згубілася.

— Ну, не плачаш... «Што з табой?» — пытаюся. — «Мамка захварэла. Аптэку шукаю», — адказвае. А аптэка, разумееш, у другім баку зусім. А тут -- дождж. Вось і схаваліся. Гэтак?



— Угу. А я не баюся грому...

— Малайчына, — хлопец асцярожна пагладзіў яе па галоўцы.

Дождж мінуў хутка, як і настаў. Рознакаляровая вясёлка звісла над бліскучымі дахамі. Па абмытым лісці прысад скакалі сонечныя зайчыкі. На вуліцу зноў хлынуў гоман. Горад ажыў.

Ігар Стрэшнеў узяў дзяўчыну за руку і хутка знік у мітуслівым натоўпе.

Пасля доўга я ўспамінаў хлопца, яго мяккую і ласкавую руку, якая гладзіла дзявочую галоўку, яго раскошны цёплы пінжак...

Зноў я сустрэўся з Ігарам Стрэшневым месяцы праз паўтара. Звёў нас выпадак. У камітэце камсамола мне і майму аднакурсніку Толю Сарокіну даручылі «завязаць дружбу» з моладдзю аднаго цэха на трактарным заводзе.

У механічны цэх мы трапілі, як кажуць, з карабля на баль. Да дзвярэй чырвонага кутка была прымацавана размаляваная афіша:

«8.8.59 г.<br>Сход...<br>Прысутнічаюць усе, усе!<br>Тэма...<br>Чалавек XX стагоддзя.<br>Сход — без дакладчыка!»

Пакой быў бітком набіты. Мы праціснуліся да акна і ўладзіліся там даволі добра. Хлопец, відаць старшыня сходу, энергічна паклёўваў алоўкам па рылцы графіна. Нарэшце яму ўдалося дамагчыся цішыні.

Высокі і худаваты, чыста апрануты малады чалавек загаварыў:

— ...Тлумачу свае ранейшыя словы. Мы жывём у час атама і заваёвы космасу. Навука робіць магчымым немагчымае. Вядома, што і чалавек нашай эпохі зусім іншы. Ён — равеснік фантастычных адкрыццяў, разумных машын і ракет. Яму некалі... ды і не патрэбна гэта... аддаваць увесь свой час мастацтву — жывапісу, раманам, музыцы і ўсялякім там охам-ахам... Гэта несур'ёзна...

Пакой ажывіўся... Засоўгаліся крэслы. Хтосьці побач сказаў:

— Вось табе і на-а!..

Прамоўца перачакаў, пакуль зноў настала цішыня, і абыякавым тонам закончыў:

— Вядома, вы можаце аб'явіць, што я нігіліст, аднабокі, блізарукі і гэтак далей. Але, скажыце, хіба мастацтва не мінулы этап? Хто ў наш час стварыў «Вайну і мір»? Хто можа зраўняцца з Глінкам і Чайкоўскім? Хто напісаў палотны, што вечна будуць жыць?.. Цяпер самае галоўнае мастацтва — гэта стварэнне касмічных ракет і вылічальных машын...

— Хто выступае? — спытаў я.

— Інжынер Логінаў. Разумны чалавек, а тут нясе чортведама што... — адказалі мне.

Здаецца, знаёмы голас? Дзе я чуў яго? Я агледзеўся і пазнаў Ігара Стрэшнева. Ён мяне таксама пазнаў, і мы ўсміхнуліся адзін аднаму здалёку.

У гэты час на сцэну выскачыў хлопец. У замасленым камбінезоне, напэўна, нядаўна ад станка. Ад хвалявання жмакаў у руках кепку, не ведаў 'мо, з чаго пачаць.

— Годзе стаяць, вады ў рот набраўшы... Не можаш сказаць, саступі другому!..

Ці не рэпліка прыдала яму рашучасці? Дрыжачым голасам ён аж закрычаў:



— Не згодзен!.. Выходзіць, па-ягонаму, і ў тэатр не хадзі, і сімфанічную музыку не слухай, і чытай толькі тэхнічную літаратуру... — Хлопец нарэшце паспакайнеў: — Алёшку Грыгор'ева ведаеце?

— Знаем! — данеслася з парога.

— За ім толькі ў гэтым годзе восем рацпрапаноў... Пяць з іх у жыццё запушчаны. Праз год Грыгор'еў інстытут завочны скончыць... — Хлопец горда ўскінуў галаву. — Дык вось... Былі мы нядаўна на канцэрце. Чайкоўскага другую сімфонію слухалі. Дык у Алёшкі слёзы на вачах... Перажывае як... Дык што? Скажыце, ён не чалавек дваццатага стагоддзя? Або... Быў жа яшчэ раней такі славуты кампазітар Барадзін. «Князя Ігара» оперу напісаў. А ведаеце, што ён яшчэ і вялікі хімік? Гэта Барадзін напісаў больш сарака навуковых прац па хіміі!..

І хоць хлопец гаварыў не зусім складна, яму доўга апладзіравалі. Я паглядзеў на Ігара. Твар яго раптам выцягнуўся, набялеў. Ігар папрасіў слова. Не даходзячы да чырвонай трыбункі, ён спыніўся:

— Добра гаварыў Косця Мечык. Слухаў я і ўспомніў словы рымскага драматурга Тэрэнцыя, што жыў яшчэ да нашай эры: «Я чалавек і нічога чалавечага не адмаўляю...» І невядома, чаму супраць «чалавечага» інжынер Логінаў? — Ігар адкінуў з ілба валасы і прадаўжаў: — І чым лепшае наша жыццё, чым большыя нашы здабыткі ў навуцы і тэхніцы, тым больш нам нельга быць без песні, рамантычнай кнігі, кахання... Па-мойму, культура людзей вызначаецца не адным ростам навукі і тэхнікі. Ёсць і другі бок — духоўны.

Ігар змоўк, задумаўся. Было ціха.

— І яшчэ... Сапраўднае мастацтва ніколі не паўтарае само сябе. Не топчацца на месцы. Кожная эпоха мае свае шэдэўры. Нельга скардзіцца і нам. Мы маем «Ціхі Дон», скульптуру Канёнкава, музыку Гліэра, Пракоф'ева. А параўноўваць, што перацягне — «Ціхі Дон» ці «Вайна і мір» — па-мойму, проста смешна.

У пакоі зноў падняўся шум. На сцэну ўскочылі адразу двое.

Ігар Стрэшнеў махнуў нам рукою ў бок дзвярэй. Праз колькі хвілін мы сустрэліся ў калідоры. Выйшлі на двор.

У заводскім скверы было свежа. Стаяў цень. Пасыпаныя жоўтым пяском дарожкі вялі да лавачак.

Мы прыселі.



Было прыемна разваліцца і так сядзець. Над галавой шамацела лісце. Там, недзе за ім, жоўтай плямай расплывалася сонца.

Разгаварыліся. Даведаўся я, што Ігар шэсць год працаваў на заводзе токарам, закончыў вячэрні тэхнікум. Цяпер — майстар участка. Любіць тэатр, займаецца ў драматычнай студыі. Калі ж Ігар дазнаўся, што мы студэнты з філалагічнага факультэта, — зноў загаварыў пра сход. Не заўважылі, як прайшоў час. Нарэшце, Ігар спахапіўся.

— Дык вы па якой справе да нас на завод?

— Ішлі, куды вочы глядзяць, і прыйшлі да вас... — пажартаваў Толя Сарокін.

— Людзей без работы не люблю, — адказаў Ігар.

Сказаўшы, нарэшце, дзеля чаго прыйшлі сюды, — мы, ужо трое, кінуліся шукаць сакратара камітэта камсамола. Але знайсці яго ў той дзень не выпала.

Неўзаметку мы пасябравалі. Ігар заходзіў да нас у інтэрнат. Бываў і я ў яго. Хацелася бачыць гэтага хлопца, гаварыць з ім, слухаць яго. Можа такое было ад таго, што ў Ігара — разумныя, уважлівыя шэрыя вочы, а сам ён — добры, шчыры.

Жыў Ігар у агульнай кватэры са старымі, пенсіянерамі. Займаў асобны пакой. У ім заўсёды не было парадку: на крэслах і ў шафе, на ложку і ў тумбачцы для прадуктаў ляжалі кнігі. Гальштукі і чарцяжы льга было напаткаць дзе хочаш, нават пад ложкам побач з абуткам. Але Ігар заўсёды ўмомант знаходзіў усё, што яму было трэба.

Суседзі ў Ігара добрыя і клапатлівыя. Стары Баршчэўскі, Вікенці Іванавіч, заўсёды быў у курсе спраў на заводзе, зрэдку падказваў сёе-тое. Як бацька, сачыў ён за Ігарам. Вера Іванаўна, жонка Баршчэўскага, падмятала яго пакой, мыла рубашкі, гатавала чай.

Неяк Вікенці Іванавіч запрасіў нас парыбачыць. Мы далі згоду. Раніцай, як і было дамоўлена, сабраліся і рушылі першым жа аўтобусам.

У вёску Паднівічы дабраліся пазней, чым хацелі. Аўтобусы туды чамусьці не пайшлі, і прыйшлося дыбаць пешшу кіламетраў з пятнаццаць.

Перакусіўшы з большага ў калгаснай чайной, мы падаліся на раку Іслач. На беразе Вікенці Іванавіч указаў кожнаму сваё месца, а сам стаў перабірацца на зялёны астравок. Хутка саламяны капялюш старога знік з вачэй недзе ў лазняку. Пабыўшы крыху ля вудаў, мы сышліся.

— Давай лепш паходзім... — прапанаваў Ігар. — Глядзі, як тут неабжыта, дзіка.

З двух бакоў ад нас бурліла халодная Ісдач. Левы бераг яе, — нізкі, забалочаны, — скрозь зарос аерам, высокай асакой, хмызам. Ён быў па-свойму прыгожы. Правы — увесь зрыты, адхоністы, бы на яго насеў у свой час лес і ён, уцякаючы, ступіў і павіс над цёмным халодным бяздоннем. Некаторыя дрэвы ўпалі верхавінамі ў ваду, і яна булькоча, абмываючы іх голле.

По адным такім дрэве-кладцы мы перайшлі на правы бераг і падаліся ў лес. Пад нагамі ў шорсткай сухой траве крышыліся ружовыя сыраежкі, шамацелі кусцікі чарніц. На невяліч-



кай лугавіне Ігар скінуў з плячэй пінжак, і мы расцягнуліся на імжаных падушках.

— Я ўспомніў, як ты, Ігар, накрываў гэтым пінжаком дзяўчынку, калі мы пазнаёміліся. Ты любіш дзяцей. Гэта, брат, добра. Я іх таксама люблю. Але чамусьці баюся крыху. Гэта мо' ад таго, што я рыхтуюся ў настаўнікі?..

— Калі я быў маленькі, мяне мала, вельмі мала любілі. Таму я і люблю іх, — з невядомым сумам сказаў Ігар.

Угары немаведама куды марудна плылі воблакі. Раскінуўшы крылы, у блакітнай прыёміне плаваў каршун. Тая далёкая прастора клікала нас кудысьці, як і ўсё жывое...

— Да вайны я жыў у вёсцы. Бацька, мама, брат і я... Добра жылі, — загаварыў Ігар. — І вось — вайна. Бацька ў партызаны пайшоў. Пасля, гэта ўжо ў сорак другім было, прыпёрліся да нас эсэсаўцы. Прывёў іх паліцэйскі. Быў рыжы такі Фрол. «Дзе бацька?!» — першы закрычаў ён. Угледзеў брата — з кулакамі да яго. Маці заступіла была... дык Фрол яе ўдарыў. Брат быў схапіў паліцэйскага за руку... І тады эсэсавец стрэліў у яго... Я да гэтага 'шчэ пад ложкам апынуўся, малы быў. Баяўся. Упаў Валодзя, маці на яго з плачам... Каля самага таго ложка, дзе я сядзеў. Ці мне здавалася, ці яна тады крычала мне: «Не вылазь!»—не помню...

Ігар неяк аж усхліпнуў. Твар яго выцягнуўся, скамянеў.

— Сволачы! І маму расстралялі, і хату спяклі... Калі мне нечым стала дыхаць пад ложкам, выскачыў я ў гарод праз акно і пабег. Бег аж да самага пераезда. Гэта далёка ад нас. Там стрэлачнік быў даў мне прытулак. Пасля дазнаўся пра мяне бацька. У лес абяцаў забраць, да сябе. Ды не ўзяў... Падарваўся на міне ў час дыверсіі...

— Ну, а потым? Потым?

— Пайшоў ад стрэлачніка ў горад. Бадзяўся. Пасля напаткаў мяне адзін рабочы. Прытуліў. Жыў я ў яго. Ён мяне і падахвоціў пайсці да станка... Толькі мне давялося 'шчэ ў дзетдоме жыць, у рамесным вучыцца... Маленства майго, мусіць, і не было. Не ведаю, што за яно. Убачу цяпер, бывае, як дзеці гуляюць у што-небудзь, здаецца, адразу б далучыўся. Аднойчы ўсё ж з Варкай гуляў так. Смешна?

Ігар адшчыкнуў сцяблінку. Задумаўся. Палагаднеў. Толькі вочы ўсё былі тыя ж — шэрыя, халодныя, вострыя.

— З Варкай мы сябры. Тады мы ўсё ж такі здабылі тое лякарства. Па дарозе дазнаўся я, што ў Варкі сястра ёсць. Такая, як ты, студэнтка. Думаю, пасаромлю: нашто малую адну ў горад пускаюць. Прыйшлі. А сястра плача. Сама, як тая Варка. Аказваецца, яна мінут з дзесяць, як прыехала. Дома не была. Да сваякоў на канікулы ездзіла. З'явілася, угледзела, што маці хворая, сястрычка недзе, — і разгубілася.

Ігар насупіўся і стаў думаць пра нешта сваё. Пасля раптам ускочыў на ногі і сказаў:

— Бадай, пара...

— Давай набярэм сыраежак, — прапанаваў я.

Праз гадзіну нашы кепкі былі паўнюткія грыбоў. Вікенці Іванавіч сустрэў нас недаверліва, але не накрычаў. Ён быў у добрым настроі. Яму пашанцавала: злавіў чатырнаццаць плотак. Спытаў, ці хочам мы мо' астацца тут начаваць. Але нам трэба было вяртацца ў горад.

— Калі так — нічога не зробіш, — адказаў Вікенці Іванавіч. — Калгасная машына павінна зараз туды ісці, пачакайце.

Ужо ў горадзе на развітанне Ігар сказаў:



— Мяне вось на імяніны запрасілі. Можа з табой пойдзем?

— Няёмка. Людзей жа не ведаю.

— Як хочаш... Ведаеш, не магу ніяк падарунка выбраць.

Я ўзяўся памагчы яму. Дамовіліся сустрэцца ў аўторак. Але Ігар не прыйшоў. Гэта мяне здзівіла: хлопец ён быў акуратны. Што магло здарыцца? Пачакаўшы з гадзіну, я накіраваўся да яго на кватэру. Устрывожаная Вера Сямёнаўна сказала, што хлопца ад учарашняга не было дома. Я пайшоў на завод: трэба ж нарэшце выясніць, што сталася.

У камітэце камсамола мне расказалі.

Усё здарылася нечакана.

Пасля дажджу абсела ў траншэі зямля і агаліла кабель электралініі. Непадалёк ад завода, дзе працавалі каменшчыкі.

Калі Ігар выйшаў з цэха, ён пачуў крык. Каля траншэі мітусіліся перапалоханыя людзі. Незнаёмы рабочы трымаўся за провад. Чалавеку трэсла рукі, кідала яго вобземлю, біла аб слуп, што быў побач, здавалася, вось-вось зусім раскалашмаціць. Не думаючы, Ігар скокнуў у траншэю. Рабочага ўдалося ўратаваць. А Ігар...

— Урачы кажуць, лёгкае сатрасенне. Токам яго было адкінула тады. Цяпер ён у бальніцы, — сказалі мне.

Спытаўшы, дзе бальніца, я накіраваўся туды.

Пажылая жанчына дала мне кароценькі халат, што не даставаў і да калень, і правяла ў палату. Пачуўшы крокі, Ігар нехаця паравёў нас вачыма і, калі пазнаў мяне, прыўзняўся на локці. Мне напачатку чамусьці было цяжка сказаць слова...

— Нічога, пакуль жаніцца, загаіцца..—ціха прамовіў Ігар.— Як там справы? — паравёў ён вочы на акно.

— Нармальна. Пагода добрая...

— А сюды сонца толькі раніцай і вечарам заглядае... У мяне просьба ёсць. Не цяжка табе будзе?

— Што ты... Яшчэ пытае...

— Возьмеш у Веры Сямёнаўны грошы... Мае, я іх пакідаю ў яе. Купіш... Аднясеш... Тут усё запісана... — Ігар працягнуў мне паперку і, зморданы, адваліўся на падушку.

Гэта было ўчора, а сягоння ўжо, купіўшы духі, я ішоў невядома куды. Прачытаўшы адрас, здзівіўся: Святлана Ляхава. Уявілася нафарбаваная, модная дзяўчына. Вучылася яна са мной на адным факультэце, толькі ў розных групах былі. Каля яе заўсёды круціліся «хлопчыкі» з моднымі прычоскамі, зусім жа недалёкія... Я не мог зразумець, што магло радніць Ігара з гэтай дзяўчынай?

Падарунак раптам стаў мне замінаць. Я прысеў на лавачку. «Ды ну яго... Не пайду...» — мільганула думка. Але ўспомніў Ігара і парашыў пайсці толькі дзеля яго.

З-за абабітых дзвярэй чулася музыка. Я колькі разоў ціснуў на гузік званка. Ніхто не выходзіў. Нарэшце, дзверы адчыніліся. На парозе стаяла тонкая, стройная дзяўчына ў блакітнай сукенцы. Цёмныя локаны падалі ёй на плечы. Вочы глядзелі здзіўлена.

— Мне Святлану Ляхаву, калі ласка...

У кватэры шаркалі ногі. Там танцавалі.. Незнаёмы мужчынскі голас раптам крыкнуў: «Света, дзе ты?»

— Гэта я... Праходзьце, — сказала яна мне.

Я прывітаўся, павіншаваў яе.

— А я думаў... Я думаў, вы другая!.. Гэта вам ад Ігара.

Дзяўчына разгублена глядзела на мяне.

— А што, Ігар не прыдзе?

Я расказаў ёй, што здарылася. Тут жа. Кораценька. Святлана замітусілася, ухапіла, нарэшце, касынку, папрасіла:

— Пабудзьце з гасцямі... Я зараз... Да яго пабягу...

Грукнулі дзверы. З лесвіцы данёсся дробненькі стук каблучкоў.



Я мог застацца тут. Да Ігара ішоў добры чалавек.

# БУЛЬБА НА ДАРОЗЕ

Цёплы паўднёва-заходні вецер прыгнаў чорныя, гарбатыя хмары. Да начы яны загрувасцілі ўсё неба; а раніца настала імглістая і змрочная, бы позні вечар.

Гадзін да дзевяці туман парадзеў, рассеяўся, але надвор'е не палепшала. Неўзабаве пайшоў дождж. Снег, што выпаў напярэдадні, стаў хлюпкі, як калатуша.

У такую пагоду мне выпала дабірацца да Кіраўска — невялікага раённага гарадка.

На вакзал я парупіўся: да адыходу аўтобуса было яшчэ мінут з дваццаць. Хаваючыся ад ветру, што дзьмуў аднекуль зверху, каля аблезлай цаглянай сцяны будынка сабралася некалькі чалавек. Поўны, чыста паголены маёр, заціснуўшы пад пахай партфель, стараўся запаліць сярнічку. І кожны раз, калі яна тухла, шчокі ў маёра надзімаліся ад крыўды, заціснутая ў зубах папяроса пераскоквала тады з аднаго кутка губ у другі. Побач стаяла перавязаная крыж-накрыж вялікай клятчатай хусткай жанчына. На адтапыраным пальцы яна трымала шнурок румяных абаранак. Невысокі, у адубелым ад дажджу кажуху, мужчына, пазіраючы то на жанчыну, то на абаранкі, расказваў:

— Выйшаў, значыць, я на двор... У нас там сціпта немалочаная, як вартавы, стаіць.

Маёр перастаў шморгаць сярнічкай і таксама прыслухаўся.

— Выйшаў і чую, — працягваў мужчына, — пад сціртай як бы штось скрабецца. Ды так настойліва, неспакойна. Ажно гэта мышы, заразы...

— Гэта, мой ты чалавек, відаць, на цяпло. Павер, на цяпло, кажу, мілы чалавек. Так яно, бач, і ёсць, — адхінуўшы з твару хустку, перабіла жанчына.

За якія дзве хвіліны яна ўспомніла цэлы дзесятак сваіх прыкмет і выпадкаў. Маёр крыху яшчэ паслухаў і адвярнуўся да сцяны, рашыўшы, нарэшце, усё ж такі прыкурыць. Але ў гэты момант побач з тратуарам спыніўся блакітны аўтобус, апырскаўшы ўсіх мокрым снегам.

— У-у-у... Акуратнасці ніякай... — забурчэла жанчына.

— Не крэмавыя... Нічога не стане... — выглянуў з кабіны даўгашыі бязвусы шафёр. — Хто на Кіраўск — прашу! — гукнуў ён баском.

Пасажыры заспяшаліся, пацікнуліся ў аўтобус.

У вочы мне адразу кінуліся акуркі, лузга ад семак, шматочкі паперы — валяліся на падлозе, на сядзеннях. Месца ля шафёра было зусім завалена: тут льга было ўгледзець замасленыя анучкі, вядро, банку ад мазуты, дамкрат, ключы і нават заржавелую старую рыдлёўку.

Сам жа шафёр быў у куртцы-масквічцы, у наглянцаваных ботах, паголены, — выглядаў ён па-святочнаму, як малады.

Акінуўшы вокам пасажыраў, ён, нарэшце, пстрыкнуў сухім доўгім ногцем па крышцы партсігара. Але папярос там не было. Зірнуўшы скоса на маёра, які курыў, шафёр пастаяў, мо' хацеў сказаць таму, што ў аўтобусе не кураць, а мо' думаў папрасіць папяросу.

У гэты момант на падножку ступіла чырванашчокая, прыгожая дзяўчына са студэнцкім чамаданчыкам у руцэ.

— Ого, якая мадумазель!.. — усміхнуўся шафёр.

— І ніякая я не «мадумазель», — націскаючы на апошняе слова, сказала дзяўчына.

— Ого!.. — зноў хмыкнуў шафёр і зірнуў на гадзіннік. — Пара. Рушым.

Ён ужо націснуў на старцёр, але ў апошнюю хвіліну, бы пра штосьці ўспомніўшы, заглушыў матор.

— Трэба праверыць білецікі, грамадзяне.

— Чаго там. Зайцаў няма. Няма зайцаў, — прамовіла жанчына ў хустцы.

— А гэта мы ўбачым самі, — сціснуў зубы шафёр і, звяртаючыся да маёра, растлумачыў: — Учора са мной здарылася такое. Ехала ў мяне прыгожая дамачка, вось, падобная на яе, — кіўнуў шафёр у бок дзяўчыны, што той аж пачырванець прыйшлося. — Ехала, заляцалася да маладога чалавека аднаго. Што ж, на здароўе, на пацеху мужу, хто супраць... Праўда, га? Толькі на паваротцы — бац! — кантроль. Усе дасталі білеты, а яна не. Замітусілася, шукае, шукае ў сумачцы, а білета няма. Вось. Гаворыць, разгубілася, запхнула некуды і забылася. Не знайшла. А хто вінаваты застаўся? Вядома, — стрэлачнік... Прама скажу, напляваць мне на яе разгубленасць, калі з-за яе вымову ўляпілі. Праўду кажу, га?

Пасля таго, як былі правераны білеты і аўтобус рушыў у дарогу, жанчына ў хустцы, жвучы абаранку, доўга яшчэ ўспаміналі выпадкі, калі ў пасажыраў, бывала, не аказвалася білетаў.

— А ўсё ад таго, што ў некаторых сумлення не стае...— закончыла яна і змоўкла: яе ніхто не падтрымаў.

Некаторы час усе маўчалі.



Па вокнах сцябаў косы дождж, барабаніў. Зверху, са столі, пачало капаць. Кроплі збіраліся там, віселі, пасля падалі людзям на галовы, на плечы. Пасажыры пачалі шукаць паратунку, лаячы і стары, дабіты да ручкі аўтобус, і шафёра. Як на злосць, да ўсяго гэтага дабавілася яшчэ адна бяда: вядро, банка, ключы, лапатка пачалі падскокваць, узняўшы звон і грукат. Яны нават заглушалі лязгат і скрып аўтобуса.

— Ну і дрындушка, — прабасіў мужчына ў кажушку. — Колькі ездзіў гэтай дарогай, а такога не бачыў.

— Шафёр у арміі не служыў. Там бы яго прывучылі да парадку, — закратаў плячыма маёр.

Дзяўчына хацела нешта сказаць, але толькі кіўнула галавой і стала папраўляць валасы. Затое жанчына ў хустцы, памаўчаўшы, раптам заступілася за шафёра:

— А хіба яго віна, што яму падсунулі такі разбіты, як яго... драндылет?

— Ды не пра гэта кажу. Можна ж так зрабіць, каб не бразгалі ключы, падмесці хоць... — адвярнуўся да яе маёр.

— Вядома, можна, — уздыхнула і дзяўчына і пераставіла на сухое месца чамаданчык.

Шафёр пераключыў хуткасць і падналёг на газ. Аўтобус скокнуў з месца: забарабаніў яшчэ мацней і шалёна панёсся, бы яго пацягнуў хто моцна-моцна.

Усё, што гаварылі пасажыры, шафёр слухаў моўчкі і нават вухам не павёў.

Наперадзе метраў за пяцьдзесят з палявой дарогі раптам выскачыў на шашу грузавік. Праз колькі часу наш шафёр падруліў на левы бок — ішоў на абгон. Калі ж кабіны машын параўняліся, шафёр грузавіка, апусціўшы бакавое шкло, нешта крыкнуў, бліснуўшы зубамі, і знік: грузавік вырваўся наперад. Перад вачыма заскакаў кузаў з белымі лічбамі-нумарам.

— Вось шпарыць дык шпарыць, — заўважыў мужчына ў кажуху. — Дагані яго...

— Ну-у... Мне б такі матор... — нехаця адказаў шафёр. — Паглядзелі б, дзе ракі зімуюць...

— Мне, мне... Прычыну знаходзіш... — кіўнуў у яго бок мужчына і, узіраючыся на дарогу, раптам падсеў бліжэй да шафёра. — Глянь, сукін ён кот... Бульбу ж рассыпае...

— У кузаве грузавіка ад'ехаў борт, і праз шчыліну падала бульба. Падала, як мячыкі, падскоквала і каціласе ўслед за грузавіком.

— Кіламетры праз два ў кузаве будзе пуста... — падаў голас маёр.

— А ну, братка, націсні. Трэба дагнаць. Спыніць... Дабро ж прападае. Працы ж колькі палажана. Сеялі, выбіралі... А цяпер мо', сукін кот, бульбу ў дзіцячы дом вязе...

Шафёр урэпіўся за абаранку руля, падаўся ўвесь наперад. Нялёгка было дагнаць грузавік, яшчэ горш параўняцца з ім, бо насустрач мчалі грузавыя машыны.

— Паспрабуйце пасігналіць... — прапанавала дзяўчына.

— Чаго там, — аблізваючы кончыкам языка вусны, сказаў шафёр. —



Гоніць, ёлкі-палкі... Пяцьдзесят пяць у гадзіну. Я гэтулькі не выцягну. Як ты, дзядзька, называў? Дрындушка?.. І ў арміі не служыў... Выдумаюць жа...

— Ну-ну... Пакрыўдзіўся ўжо... — мужчына расшпіліў кажух.

— Я ж пасажыраў вязу. А калі здарыцца што?

— Не здарыцца. Націсні, брат, на ўсю жалезку!

— Давай!... — падбадзёрылі яго аж чатыры галасы адразу.

Завыў матор, аж захлёбваўся. Пасажыры ўсе да аднаго падаліся ўперад, перажывалі за шафёра. Нешта новае, незаўважнае дагэтуль, засвяцілася на яго твары. Ён увесь загарэўся, ажыў: жадаў жа дамагчыся свайго. Ведаў, што на яго спадзяюцца, ад яго чакаюць, вераць яму.

Машыны зноў зблізіліся. Але дагнаць грузавік ніяк не ўдавалася. Тады шафёр пачаў сігналіць. Працяглыя гудкі задрыжэлі ў паветры. І калі ўжо здавалася, што зрабіць нічога нельга, з кабіны грузавіка зноў высунулася галава. Шафёр, відаць, зразумеў, што здарылася нядобрае, — затармазіў. Не спыняючыся, наш шафёр крыкнуў:

— Борт зачыні, разява!..



...Праз паўгадзіны мы прыбылі ў гарадок. Развіталіся. І чамусьці ніхто не спяшаўся пакідаць аўтобус. Жанчына ў хустцы хацела пачаставаць шафёра абаранкай, маёр — «Казбекам», а мужчына ў кажушку запрашаў шафёра прыехаць парыбачыць. Крыху даўжэй за другіх затрымалася ля яго дзяўчына.

Па-ранейшаму ішоў дождж. Пад'яснелася. Пацішэў вецер. На захадзе ўсё яшчэ віселі чорныя хмары.

Маёр быў ужо далёка, хаваўся з воч; у супрацьлеглы бок падалася жанчына ў хустцы. Звярнуў у завулак мужчына ў кажуху, разышліся і шафёр з дзяўчынай, а я ўсё думаў пра гэтых людзей — простых, шчырых. Думаў, як добра напаткаць іх у незнаёмай дарозе.

Пераклад з рускай мовы
**І. Пташнікава.**



Іван НАВУМЕНКА

# ЧУЕЦЕ, ХЛОПЦЫ?..

## Апавяданне

Мал. В. Ягорава.

У хвіліны тугі і самоты, калі цяжар жыццёвых нягод да болю сціскае сэрца, а зрок нібы ахутваецца хісткай павалокай туману, праз якую не ўбачыш нічога нават зблізку, я спрабую аднавіць у памяці малюнкі мінулага. Магчыма, гэта слабасць. Добра не ведаю. Толькі ў кожнага павінны быць, здаецца, моманты душэўнага ўзлёту, якія не сорамна прыгадаць. Бо калі чалавек узляцеў аднойчы, ён здолее гэта зрабіць яшчэ і яшчэ раз...

Мае хлопцы, мае бедалагі! Сысціся б нам разам, парагатаць, пасмяяцца. Бачу цябе, вясёлы Цішка Дрозд, твой заўсёды смяшлівы твар і разумныя шэрыя вочы. Іншы раз мне здаецца, што зборы ў тваёй хаце, кнігі, якія мы праўдай і няпраўдай цягалі з усіх пасялковых бібліятэк, нашы гарачыя спрэчкі і дыспуты — самы шчаслівы час майго жыцця. Часта я так думаю. Было ж у жыцці нешта большае, было тое, пачынаючы з чаго, усе мы пачалі глядзець на сябе трошачкі з большай павагай, але ўсе сцяжынкі з той вяршыні, на якой мы разам апынуліся, вядуць у тваю пахілую хату, якой ужо, мабыць, нават няма на свеце.

Кім ты збіраўся стаць, Цішка? Здаецца, канструктарам. Не журыся, браце, што, можа, і не зусім выйшла. Садзіш ты дубкі і сасонкі, і хто ведае, можа гэтая работа нават лепшая за тую, пра якую ты трызніў у семнаццаць. Самалёты, якія ты збіраўся канструяваць, хутка старэюць, пішуць нават, што яны наогул учарашняе слова тэхнікі. А дубы будуць расці заўсёды. Заўтра іх, можа, будуць садзіць больш, чым сёння. Бо нават ці адмовіцца наш нашчадак ад звычайнай чалавечай спакусы паляжаць у цяньку пад дрэвам. Самалёт ён заменіць ракетай, а дуб і сасну, здаецца, не заменіць нічым...

А ты, Мікола? Хоць ты і таіўся і ніколі не выказваў сваіх намераў, але мы бачылі цябе на трыбуне. Хто лепей за цябе ведаў гістарычныя даты, цытаты з Маркса, хто глыбей разбіраўся ва ўсім тым, што ў пару захаплення вершамі, мы называлі сумным словам — эканоміка. Зрэшты, ты робіш тое, што найбольш імпанавала твайму сэрцу: вучыш. Ахопленыя бескарыслівым юнацкім прароцтвам, мы, вядома, не думалі, што ты будзеш тлумачыць стрыжаным першакласнікам сэнс вялікіх і малых літар. На такое б мы ніколі не згадзіліся, мы ўяўлялі цябе настаўнікам усяго чалавецтва. Не крыўдуй, Міколе, грэшныя гэтым усе мы, твае сябры, бо замахваліся ў жыцці на нешта большае.

Ты вучыш людзей, сябра. З літар складаецца слова, жывое, чалавечае, несмяротнае. Колькі такіх слоў панясуць у жыццё твае першакласнікі? Якім словам будуць успамінаць цябе, свайго першага настаўніка?

Чацвёрты з нас, наш Грыша, спачывае даўно... Ніколі мы з ім болей не спаткаемся. Не паціснем яго дужай, сумленнай рукі. Мы нават не ведаем, кім ён хацеў быць: не паспеў расказаць, а можа, не паспеў выбраць і ў думках сваёй жыццёвай зоркі. Ён трошкі саромеўся нас, сваіх хлопцаў, саромеўся таму, што адстаў у школе на клас. Чытаў тыя самыя, што і мы, кнігі, спрачаўся, а пра сваю зорку не расказаў. Толькі, можа, я хлушу, хлопцы?..

Памятаеце лістападаўскі вечар, дождж разам са снегам, пахілую Цішкаву хату, дзе мы найчасцей сыходзіліся? Мы любілі самастойнасць і не хацелі чужых вачэй і вушэй. Проста гэтага не дазваляла справа, за якую мы пачыналі брацца. У Цішкі было найлепш: ніхто нічога не чуў і не бачыў. Помніш, Міколка, як ты прынёс у той вечар пад крысом свайго шэрага, перашытага з шыняля пінжака нашу першую зброю — вінтовачны ўрэзак. Я і цяпер не ведаю — можа ты не расказваў, а можа я забыў: столькі ж прайшло часу з тых дзён,— дзе ты яго ўзяў. Урэзак з выгляду быў нягеглы: доўгі, неабрэзаны прыклад і кароткі, надломлены ствол. Нехта, хто ў вайсковай справе разбіраўся не надта, трохі нам напсаваў: надрэзаўшы напільнікам ствол, ён спрабаваў яго пераламаць, як палку, таму знізу на дуле і асталася загнутая сталёвая паска. Але мы не бедавалі, бо затвор хадзіў гладка, быў спраўны, астатняе залежала ад нас саміх.

Мы радаваліся ў той вечар, хлопцы, хоць нам было нярадасна, бо немцы пісалі, што забралі Маскву. Радаваліся першай зброі, з якой можна страляць. Пра што другое мы маглі ў той цяжкі час думаць?

Гэта ён, Грыша, у той вечар прапанаваў нам, памятаеце, хлопцы?.. Ён зноў трохі саромеўся, бо думаў, што мы прымем яго словы за жарт. Ён тады сказаў, што трэба ўсім нам вывучыць «Інтэрнацыянал» па-нямецку. Мы яго зразумелі адразу, хоць самі пра гэта яшчэ не падумалі.

Памятаеце, Цішка і Мікола, як на другі вечар мы сабраліся вывучаць гімн і прынеслі кожны па падручніку, у якім ён быў надрукаваны. У адной кнізе , я забыў у чыёй, словы «Інтэрнацыянала» былі не такімі, як у трох астатніх. Гэта быў проста ранейшы пераклад на нямецкую мову. Але мы рашылі вывучаць па тых падручніках, на якіх стаяла навейшая дата выпуску.

За вечар мы вывучылі першыя восем радкоў. Болей неяк не прыйшлося. Але болей, бадай, і не трэба было, бо наўрад ці далей б нам даспяваць пры тых умовах, на якія мы разлічвалі. У Грышы было горшае,

чым у нас, вымаўленне нямецкіх слоў, бо ён вучыўся ў вячэрняй школе, а там патрабавалі менш. Але разам у нас атрымлівалася суладна і хораша. Памятаеце, хлопцы:

Völker, hört die Signale!
Auf zum letzen Gefecht!
Die Internationale
Erkämpft das Menschenrecht!

Мы, вядома, не былі ніякімі героямі. У вайну, што прайшла, мы, можа, не зрабілі і сотай часткі таго, што другія, кім мы па-сапраўднаму ганарыліся і захапляліся. Але і за тое, што мы рабілі, нас маглі павесіць. Колькі разоў нас маглі павесіць, хлопцы?..

Памятаеце, мы не хацелі, каб нас вешалі. Расстрэл здаваўся нам куды прыгажэйшым.

Калі Грышу арыштавалі, мы не баяліся, што ён нас выдасць. Яго схапілі параненага, са зброяй, і мы ведалі, што яго чакае. Мы не хацелі толькі, каб яго вешалі. Ля вісельні не спяваюць. Яго расстралялі. У эсэсаўцаў хапіла сумлення прызнаць, што ён салдат. Мы не чулі, хлопцы, але я веру, што ён праспяваў тады, калі ў яго стралялі, тыя восем радкоў, якія мы вывучылі напамяць.

Але так было толькі тады, у цёмную ноч акупацыі. Пазней усё перамянілася. У мяне быў яшчэ выпадак.

Перад самым канцом вайны мы занялі нямецкі горад, чысты і не раз бураны. На яго ўскраіне размяшчаўся вялікі, абнесены дротам лагер. Гэта быў не канцэнтрацыйны, а звычайны рабочы лагер, хоць ён меў калючую агарожу, баракі і вышкі для вартавых. Калі нашы танкі праязджалі паўз лагер, з яго варотірванууся вялікі, пярэсты натоўп. Там былі розныя людзі, і ўсе яны радаваліся, убачыўшы нас. Былі ў натоўпе і нашы дзяўчаты — мы іх пазналі па гаворцы.

Вечарам трое нас, запыленых і замурзаных танкістаў, трохі выпілі. І тады прыйшла думка схадзіць да дзяўчат з лагера. Мы пагаліліся, памыліся, наглянцавалі боты і, калі спусцілася вясновая ноч, цішком шмаргнулі з ляска за горадам, дзе стаялі нашы танкі.

У вароты лагера мы прайшлі не затрыманымі — вартавых не было. Лагер не спаў, у бараках чуліся галасы. Мы спыняліся ля кожнага і прыслухоўваліся, каб улавіць знаёмую гаворку. Раптам да нашага слыху данеслася знаёмая велічная мелодыя. Спявалі «Інтэрнацыянал» напаўголаса, на невядомай нам мове... Людзі ў лагеры — многа тысяч людзей — жылі нечым прыгожым, вялікім, што не часта бывае ў жыцці. Я тады ўспомніў Грышу і вас, хлопцы. Мы, не згаварваючыся, павярнулі назад, да варот. Проста мы прыйшлі ў лагер трохі запозна. Машыны, апроч гэтага, маглі зняцца з месца і ноччу. Такія выпадкі здараліся. Вайна яшчэ не скончылася...





Раман ТАРМОЛА

# ЛЕНІНУ




Моладзь наша! Дзе яшчэ лепшая?
Палавіна, пэўна, не меншая,
А магчыма і ўся якраз
Сёння піша заявы першыя
(Эх, пісаць бы іх толькі вершамі!),
Што гатова ляцець на Марс,

Што на Месяц ляцець гатова,
Да планет і да зорак новых,
А не толькі лічыць здаля...
Каб гучэла там наша мова,
Каб сказала першае слова
Не Венера, не Марс — Зямля.

І ўзляцець! Не для справы чорнае,
А пакіне Зямлю прасторную,
Каб уславіць яе навечна.
І, напэўна, як непаўторнае,
Нават самаю ноччу зорнаю
Шлях той будзе ярчэй за Млечны.

Будзе ўпартай—як стрэне цяжкасці,
Будзе падаць, а сцяг вышэй нясці,
Там, дзе моры зусім не ўспенены...
І за ўсе незямныя якасці
Недзе там, каля мора Яснасці,
Першы помнік паставіць Леніну.

# МІР



Не вабяць так ні горы і ні рэчка,
Не вабіць так мяне марская шыр,
Як гэта невялікае мястэчка
З шматзначнай і прыгожай назвай — Мір.

Яно было мне першай калыханкай,
З птушынай песняй, з гоманам бароў —
Мястэчка Мір, імклівая Міранка,
Міранамі завуць тут жыхароў.

Як быццам сапраўды калісьці продкі
І ведаць не хацелі іншых слоў,
Бы выбух, нечаканых і кароткіх,
Нацэленых на радасць і любоў...

Нядарма часта мне з сябрамі разам
Даводзіцца у кузаве калець,
Прыедзеш жа ў мястэчка з цёплай назвай —
І сам ужо адразу у цяпле.

Цяплом маленства вее з родных вуліц,
Закружаць успаміны, нібы вір,
Як ласка маці, зноў да слёз расчуліць
Мястэчка маё з назвай светлай — Мір.

## ЧЫРВОНЫ КЛЁН



Адкуль ні глянеш — ён відзён,
Прыгожы, стройны з пышнай кронай.
Магутны клён, чырвоны клён
Сярод братоў сваіх зялёных.

Нібыта шэпча кожны ліст,
Як тут калісьці ў росны ранак
Вясковы першы актывіст
Быў кулакамі расстраляны.

І як аднойчы на зары
Прабіўся парастак зялёны...
...Цяпер стаіць, цяпер гарыць
Чырвоны клён, як сцяг чырвоны!





Мікалай Ваданосаў нарадзіўся ў 1923 годзе ў г. Мінску, закончыў мінскі тэхнікум сувязі. У час Вялікай Айчыннай вайны быў радыстам у партызанскім злучэнні Маладзечанскай вобласці. Пасля вызвалення Беларусі служыў ў Савецкай Арміі.

Пісаць і друкавацца М. Ваданосаў пачаў у 1951 годзе. Чытачу ўжо вядомы зборнікі яго апавяданняў для дзяцей «Першае знаёмства» і «Аднагодкі», аповесці «У Баркоўскай пушчы» і «Пабярэжцы».

У 1959 г. М. Ваданосаў скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве.

«Пераломнае лета» — новая аповесць маладога празаіка.

Мікола ВАДАНОСАЎ

# ПЕРАЛОМНАЕ ЛЕТА

### Аповесць

Мал. Ф. Бараноўскага.

## 1

Лета пачалося гарачае, сухое. Ужо больш двух тыдняў не было дажджу. Ліпы ля тратуараў пажоўклі, пачалі скідаць лісце. А яшчэ ж толькі чэрвень...

Вечарам Дзімка стаяў ля ўваходу ў гарадскі парк і праглядаў афішы, наклееныя на шчытах. Яго бялявыя валасы спадалі на вушы, на лоб. Ён рукамі адкідваў іх назад.

Хлопец толькі ўчора атрымаў атэстат сталасці. Не, не ўчора... Сталасць прыйшла раней, калі памёрла маці і ён застаўся ў сям'і за старэйшага...

Што рабіць, як жыць далей? Спачатку ён хацеў кінуць школу і пайсці шукаць працу, бо дзеці — Алік і Аня — яшчэ зусім малыя, на іх ідзе шмат грошай. Але памаглі настаўнікі, сябры, суседзі. Выклапаталі пенсію...

І вось ужо ў яго руках атэстат, з аднымі пяцёркамі!

«Будзеш галоўным інжынерам»,— прыгадаў ён словы аднакласніцы Іны і схамянуўся. Што, калі схадзіць да яе? Яна вельмі па-даросламу разважае. Дзімку чамусьці, заўсёды здавалася, што ёй куды больш гадоў, чым яе сяброўкам. Толькі твар яе чысты-чысты... І вочы...

— Дзіма!— ён адчуў, як чыясьці рука лягла яму на плячо.— Ну, чаго тут стаіш? Мы з ног збіліся, шукаючы...

— Навошта я вам сёння спатрэбіўся?
— Як — навошта? На вечар!
Дзімка азірнуўся і ўбачыў Пецю, рабога Пецю, з якім тры гады прасядзеў на адной парце.
— На вечар?— здзівіўся ён.— Не, туды я не пайду...
— Ну, чаму? Там я, там усе... Іна...
— Вось, бачыш?— ён працягнуў перад сабою рукі.— Вырас, брат. Рукавы па локці...
— Ну і праўда — выцягнуўся ты!.. Нічога, ісці ўсё роўна трэба... Апошні вечар...
— Пачакай!..— схапіў яго за руку Дзімка.— Здаецца, прыдумаў!
Яны зайшлі да Дзімкі на кватэру. Проста з парога Дзімка падышоў да шафы. Перавёў позірк на бацькаў партрэт, што вісеў на сцяне.
— Не,— нарэшце вымавіў ён,— не падыдзе...
— А ты паспрабуй,— зразумеўшы яго намер, падказаў Пецця...
З бакавых дзвярэй выбегла Аня. На свае трынаццаць год яна была залішне высокая, хударлявая, вельмі падобная на Дзімку. Толькі вочы ў яе карыя, матчыны.
— А, гэта ты, Дзіма?.. — прамовіла Аня і, адчыніўшы шафу, дастала бацькаў касцюм.— Я крыху папрасавала... Ты пойдзеш на выпускны вечар?
Дзімка абняў яе бялявую галаву з тугімі касічкамі і пацалаваў у лоб.
— Я пайду. Абавязкова пайду на вечар! Ты ў мяне сапраўдная тут гаспадыня...
І ён, трымаючы ў руках бацькаў цёмна-сіні касцюм, выйшаў у другі пакой. Пеця зайшоў следам, ступіў да акна, ля якога на невысокай тумбачцы стаяў прыёмнік, і ўключыў яго. Пачуліся меладычныя гукі скрыпкі. Аня адчыніла дзверы, прыпала плячыма да вушака і задумалася.
— Як хораша!.. Каб я так змагла калі....
— Зможаш, Аня! Толькі пастарайся,— адказаў ёй Дзімка.
Неўзабаве Пеця падвёў Дзімку да люстэрка.
— Толькі зірніце на яго, гэтага незнаёмага хлопца!
— Так,— ціха адказаў Дзімка.— Парог сталасці я, здаецца, пераступіў.
...У зале грымела музыка, кружыліся пары, і прыход Дзімкі амаль не заўважылі. Але затое заўважылі другога юнака, гадоў дваццаці. Ён быў апрануты ў дарагі светла-шэры касцюм. Белыя манжэты кашулі крыху віднеліся з-пад рукавоў пінжака. Праз плячо вісеў фотаапарат. Вось ён заўважыў Іну і накіраваўся да яе.
Дзімка ледзь пазнаў Іну. Белая сукенка прыгожа аблягла яе стан, надаючы яму небывалую лёгкасць. Сэрца ў Дзімкі сціснулася ад крыўды і злосці, калі ён убачыў побач з ёю гэтага незнаёмага. Дзеля яе, толькі дзеля яе ён прыйшоў на гэты вечар!
— Прабачце...— Іна павярнулася. Але яе ружовы твар адразу спахмурнеў, васільковыя вочы звялі.
— Я не танцую,— сказала яна і адвярнулася.
Хлапец, усміхнуўшыся, запытаў:
— Вы не скажаце, дзе я магу знайсці Анну Аляксандраўну?
— Ідзіце вунь туды...— Іна паказала ў правы куток залы.
— Дзякую,— адказаў хлопец і адышоўся ад яе зусім нехаця.
Іна паглядзела яму ўслед якраз у той момант, калі той азірнуўся. Нічога асаблівага, яны толькі ўсміхнуліся адзін аднаму. Дзімка ўжо быў гатовы пакінуць залу, але Іна ўбачыла яго.





— Нарэшце... Ну, хутчэй, хутчэй у круг, — пацягнула яна Дзімку за руку. Заўважыўшы на ім новы касцюм, спынілася.
— Што? — спытаў Дзімка. — Не па мне?
— Цудоўны!.. Толькі ў плячах, здаецца, шыракаваты...
Не, не мог ён сёння пакрыўдзіць дзяўчыну!
— Цяпер гэткая мода, — пажартаваў Дзімка, і яны пусціліся ў круг. Потым ля буфета, седзячы за столікам, елі марожанае...
— Ты — медаліст, табе ўсё ж ёсць нейкая магчымасць стаць студэнтам... А я? Хоць марожанае станавіся прадаваць, — гаварыла Іна.
Дзімка маўчаў. Яму зусім не хацелася гаварыць пра вучобу.
Падышоў знаёмы хлопец з фотаапаратам цераз плячо. Цяпер Дзімка разгледзеў на яго правай шчацэ чырвоную пляму велічынёй з пятак.
— Адну хвіліначку!— пачулася каманда. І не справіўся Дзімка штонебудзь уцяміць, як хлопец ужо сфатаграфаваў іх.
— Што за нахабны тып?.. Я бачыў, як ён прыставаў да цябе,— нездаволена прамовіў Дзімка.
— Раўнуеш?.. Мне падабаецца! А гэта ж пляменнік нашай Анны Аляксандраўны... Яна казала, што ён прыйдзе фатаграфаваць.
— Табе так да твару гэтая сукенка...— адчуўшы сябе ніякавата, сказаў Дзімка.— Ты ў ёй, як дзяўчынка.
— Дзяўчынка?.. Не, Дзіма, я ўжо... вырасла з таго ўзросту. Даўно...
— Для мяне ты на ўсё жыццё толькі такая.
Яна пяшчотна паглядзела на яго і тут жа стала сур'ёзнай.

— Ты гэта цяпер гаворыш. А скончыш інстытут, акунешся з галавою ў працу,— у цябе нават часу не будзе ўспомніць пра мяне...
— Думаеш?
— Безумоўна... Будзеш, скажам, галоўным інжынерам якога-небудзь вялікага завода. Пашана, гонар, уласная машына, сям'я...
— Сям'я?— лагодна запытаўся Дзімка.
— Сям'я,— адказала Іна, апусціўшы галаву.— Усе, калі становяцца дарослымі...
Хвіліну абое памаўчалі.
— У мяне ўжо ёсць сям'я...— парушыў маўчанне Дзімка.— Сястра, брат... Аб іх я павінен клапаціцца ў першую чаргу... Каб яны не адчувалі ні ў чым патрэбы... Ні ў адзенні, ні ў ядзе...
Іна ўстала. Вочы яе гарэлі.
— Ці не думаеш ты ісці працаваць?
— Я сёння ні аб чым не думаю,— адказаў Дзімка.

## 2

Ідучы дадому, Дзімка з зайздрасцю думаў пра Пецю, які недзе дастаў даведку, што два гады працаваў карэктарам на тэлеграфе, і цяпер паступае на факультэт журналістыкі. Як хочацца стаць студэнтам! І навошта толькі прыдумалі гэты рабочы стаж? «Я — выдатнік, медаліст... Мне, праўда, лягчэй, але і цяжэй: я старэйшы ў сям'і. Гэта трэба ўлічваць».
З сённяшняй размовы Дзімка зразумеў, што Іна вельмі хоча, каб ён вучыўся. Нават злуецца, калі ён пачынаў гаварыць аб рабоце. Праўда і тое, што ў яго ёсць здольнасці. Завод ці будоўля яго згубяць... Ва ўсякім выпадку, так гаворыць Іна.
Ля самага пад'езда Дзімка сустрэўся з суседам, старым майстрам з завода, пасівелым, невысокага росту дзядзькам Антонам. Яны спыніліся.
— Ну, сусед, як справы? Працуеш ужо? — падкручваючы вус, спытаў Антон.
— Не яшчэ...
— А куды думаеш?
— Не ведаю.
— Давай да нас. Ого, які разгон!..
— Я падумаю.
— Ну, ну, думай... Калі што — проста да мяне!
Дзядзька Антон пайшоў у пад'езд, а Дзімка звярнуў у садзік насупраць дому. Ён здзівіўся, што Пеця быў там і цяпер ішоў яму насустрач.
— Увесь вечар я за табой сачу, — пачаў Пеця. — Шкада мне цябе.
Дзімка спыніўся, насцярожыўся.
— Шкада? Чаму гэта?
— Ты можаш паступіць вучыцца...
Дзімка непрыязна адказаў:
— Змагу ці не, а фальшывых даведак, як некаторыя, даставаць не буду. Разумееш? Дворнікам пайду, швейцарам, але сумленна! І наогул, што гэта цябе так цікавіць, журналіст?
Пеця кінуў аб зямлю папяросу.
— Фальшывую, кажаш? А я ж два гады на вячэрняй і на начной дзяжурыў... Не думай, што за таткавай спіной сядзеў. І не хваліўся, і не плакаў, як ты!
Рэзка павярнуўшыся, Пеця ступіў на тратуар.



— Пеця...
Дзімка памкнуўся ўслед, але, ведаючы характар таварыша, спыніўся і паволі пайшоў у пад'езд.
А раніцою ён усё ж выйшаў на цэнтральную плошчу, дзе былі вітрыны з аб'явамі: «Хоць куды-небудзь ды паступлю!» — цвёрда вырашыў Дзімка.
Стары чалавек наблізіўся да Дзімкі, зняў акуляры, выцер іх хусцінкаю і прамовіў:
— Што, цяжка выбраць?
— Цяжка...
— Можаш, хлопча, выбіраць! — развёў ён рукамі. — А наш дурань два гады назад скончыў дзесяцігодку і падаўся на завод.
— На завод? Два гады назад? — спытаў Дзімка, нарэшце заўважыўшы старога.
— Ведаеш, дружа... Адзіны прадстаўнік і прадаўжальнік нашага старадаўняга роду, мой шаноўнейшы ўнук!.. — задаволены ўвагай Дзімкі, ажывіўся стары. — Мы ўсе хацелі, каб ён стаў настаўнікам. «Завод!» — крычыць і ўсё. Пытаюся — ці ж гэта не глупства?
— Глупства.
— Вось бачыш, і твая думка такая... Гэта думка ўсіх разумных людзей, акрамя пары гарачых галоў, якія ідуць за модай.
Стары змоўк, дастаў з кішэні хусцінку, выцер пот на твары і сабраўся ісці.
— У кожнага чалавека ёсць свая турбота, — сказаў ён на развітанне. — Прабач, малады чалавек, перашкодзіў. Выбірай, выбірай, дарагі мой, шлях у жыццё.
Шлях у жыццё... А дзе ён ляжыць, той шлях? Раней Дзімка ясна ведаў: гэты шлях — праз вышэйшую адукацыю. А цяпер...
Каля дому Дзімка прыцішыў крок.
— А нам пошта грошы прынесла... А нам пошта грошы прынесла, — пачуў ён голас Аліка.
— Добра, добра, Алік... Ідзі, гуляй з дзецьмі. Ты ж у садзе. Дысцыпліна, брат, павінна быць усюды!
— Я ж не вінаваты, што дзіцячы сад у нашым доме? Праўда?
— Праўда...
— А ведаеш, колькі нам грошай прынеслі?
Дзімка паклаў руку на кучаравую галоўку брата. Алік увесь удаўся ў маці: вочы карыя, валасы цёмныя і кучаравыя.
— Ну, колькі ж?
— Пяцьсот рублёў — во!
— Чарцянё!.. Ідзі гуляй...
Дзімка ўзышоў на другі паверх, адчыніў дзверы. Пяцьсот рублёў пенсіі, якія ён атрымліваў штомесячна, ляжалі на стале пад кнігай.
«Пайду на завод... І ўсё!» — падумаў Дзімка. І ўжо ніяк не мог дачакацца, калі прыйдзе з работы сусед, Антон Пятровіч. А калі той, нарэшце, з'явіўся, Дзімка адразу пайшоў да яго.
Антон Пятровіч сядзеў на канапе, што стаяла ля сцяны, піў чай.
— А-а, заходзь, заходзь, сусед... Сядай, паласуемся, пагутарым, — сустрэў Дзімку стары майстар, уважліва сочачы за ім сваімі добрымі блакітнымі вачыма.
— Я ненадоўга, — Дзімка спыніўся сярод пакоя, не ведаючы, што рабіць. Але адступаць ужо было позна. Ён узяў крэсла і сеў да стала.
— Дзе ходзіш, што бачыш? — нібы між іншым, спытаў Антон Пятровіч.
— Ды так... Сёння адзін стары расказваў мне пра свайго ўнука, якога

хацелі зрабіць настаўнікам, а ён пайшоў на завод... Дзіўны такі стары. Не зразумееш, задаволены ён ці пакрыўджаны на свайго ўнука...

— Ён быў у акулярах? — спытаў Антон Пятровіч, некалькі разоў глынуўшы са шклянкі. — Ды ты вазьмі шклянку вунь на буфеце!..

— Адкуль вы ведаеце, дзядзька Антон?

— Ведаю... Яго ўнук працуе ў нас на заводзе. Дык, кажаш, не зразумець? Ён, брат, ганарыцца ім. Ого!.. Бяры пячэнне.

— Дзякуй, не хачу.

— Дык што вырашыў?

— Вымушаны пакінуць вучобу... Хоць ведаю, што раблю глупства. Дурань... Стаць рабочым ніколі не позна.

Антон Пятровіч устаў з канапы.

— Хадзем!..

Яны выйшлі на балкон. Адсюль віднеліся стройныя карпусы завода.

— Глядзі туды...

— Ну... завод.

— Колькі чалавек цяпер там працуе? Як ты думаеш?

— Напэўна, тысяч дваццаць, — адказаў Дзімка, не разумеючы.

— Памнож цяпер на тры змены. Колькі будзе?

— Шэсцьдзесят тысяч...

— У нашай краіне сотні гарадоў, як наш... Колькі будзе, калі мы шэсцьдзесят тысяч памножым на сотні?

— Шмат, — усміхнуўся Дзімка.

— Значыць, атрымліваецца, што ў нашай краіне столькі дурняў? — разззлаваўся стары.

— Я не хацеў гэтага сказаць, — разгубіўся Дзімка.

— Не хацеў, а так атрымалася, — адказаў Антон Пятровіч. — Цяпер пайшлі дапіваць чай...

— Скажыце, — ціха пачаў Дзімка, калі яны зноў вярнуліся ў пакой і ўзяліся за шклянкі. — Ці хутка можна стаць добрым майстрам?

— Гледзячы што за чалавек.

— Ну, калі ён скончыў дзесяцігодку.

— Гледзячы які чалавек скончыў дзесяцігодку... — быў адказ.

— Я зразумеў: не ўсякі чалавек, нават і з сярэдняй адукацыяй, можа стаць добрым майстрам.

— Уяві, дарагі мой, не ўсякі...

— Толькі гэта не будзе датычыць мяне.

Сусед устаў, паставіў шклянку на стол і моцна паціснуў Дзімку руку.

— Значыць, вырашыў?

— Вырашыў. Пайду на завод!

### 3

Аддаўшы старому майстру Антону Пятровічу неабходныя дакументы, Дзімка паглядзеў на гадзіннік. Было сем. Ён цвёрда вырашыў сёння ж пагутарыць з Інай пра ўсё...

Яму пашанцавала. Ледзь толькі апынуўся за знаёмай брамкай, як з беленькага аднапавярховага доміка з фігурным франтонам выйшла Іна. Яна была ў шаўковым квяцістым халаце. Доўгія русыя валасы хвалямі клаліся на плечы.

— О! — усклікнула яна, збегшы па драўляных сходках на дарожку, абапал якой густа раслі рамонкі і яшчэ нейкія ружовыя кветкі.

Сэрца ў Дзімкі нібы абарвалася. Ён абапёрся плячыма на зачыненую брамку.

— Ну, чаго стаіш?



— Ды я... Ішоў тут блізка. Дай, думаю, зайду, — нібы апраўдваўся ён.

— І добра зрабіў! Дзе ты прападаеш, наогул? Мы зусім згубілі адзін аднаго. Я так сумавала... Ну, што ты, куды падаў?.. Сядай вось тут, расказвай. Я паміраю ад нецярпення хутчэй усё ведаць... — як звычайна, скарагаворкай сыпанула Іна.

Яны селі, усміхнуліся адно аднаму.

— А я асаблівым нічым і не пахвалюся,—пачаў Дзімка, па звычцы страсянуўшы галавою. — Я... працаваць пайду. На завод!

Іна прыклала ружовую, пухлую руку да яго ілба.

— Тэмпература, здаецца, нармальная, а гаворыць глупства... Ты ж быў самы здольны сярод нас!

— Ну і што з таго?

— Пеця стане журналістам. Ігар — доктарам, Раман — хімікам, а ты — рабочы... Гэта недаравальна!

Калі Іна скончыла, Дзімка шчыра глянуў ёй у вочы.

— Я стану рабочым, адным з мільёнаў! — у роздуме сказаў ён. Халодны агеньчык успыхнуў і згас у яго прыжмураных вачах.

— Справа твая... — паціснула плячыма Іна і паглядзела кудысьці на вуліцу. — І наогул... Як ты змяніўся! Памятаеш, мы марылі...

— А ты не змянілася, — перапыніў яе Дзімка і зусім неспадзявана сказаў: — Я прыйшоў запрасіць цябе ў кіно. На дзевяць увечары...

Яна сумелася адразу, але хутка авалодала сабою і грэбліва паглядзела на яго вопратку: клятчатую кашулю і цёмна-сінія выцертыя штаны.

— Нічога, — зразумеў хлопец. — Атрымаю зарплату, куплю штонебудзь лепшае.

— Калісьці ты да нечага імкнуўся, — ухіляючыся ад размовы, адказала яна.

— Што ты хочаш гэтым сказаць?

— Ты і без сярэдняй адукацыі мог стаць звычайным рабочым.

— А я не звычайны рабочы, — непрыязна адказаў Дзімка.

— Інжынер?

— Так, інжынер! Галоўны інжынер буйнага завода, — ледзь стрымліваючыся, каб не абразіць яе, адказаў Дзімка. — Пашана, уласная машына, сям'я...

Гэта былі яе словы. Іна крыва ўсміхнулася.

— У кіно сёння не пайду, — сказала яна і ўстала. — Мы з мамай едзем да знаёмых...

— Што ж... найлепшай сустрэчы...

— Усяго добрага... Ты яшчэ падумай. Хоць работу выберы не абыякую, — правяла Іна Дзімку на вуліцу...

Дома яго чакаў Анатоль, чубаты прыгожы хлопец гадоў дваццаці пяці. Пасля дэмабілізацыі з арміі ён пачаў працаваць інструментальшчыкам і цяпер ужо быў вядомы не толькі на сваім заводзе. Аб ім Дзімка чуў ад Антона Пятровіча.

— Ну, брат, лічы сябе шчаслівым! — Анатоль устаў з крэсла і абедзвюх... 

— Ну, брат, лічы сябе шчаслівым! — Анатоль устаў з крэсла і аберуч паціснуў руку Дзімку. — Будзеш працаваць у нашым цэху. Гэта, брат, вялікі гонар.

Дзімка паглядзеў на яго замасленую спяцоўку і абыякава адказаў:

— Была б шыя — хамут знойдзецца...

Адкуль мог ведаць Анатоль, што ў хлопца на душы!

— Ды ты што? У наш цэх не кожнага так адразу... Скажы дзякуй Антону Пятровічу.

— А мне ўсё роўна куды... Пайшлі, ці што?
Анатоль паківаў галавою:
— Ну і работнічак будзе Івану... Не нарадуецца.
Калі падышлі да прахадной, заўважылі Антона Пятровіча. Ён прыемна ўсміхаўся аднымі вачыма праз акуляры і махаў пропускам перад вахцёрам.
— Зноў куранё вядзеш? — спытаў медзведзяваты вахцёр, вусаты, як і Антон Пятровіч.
— Рыхтуем, так сказаць, новыя кадры! — адказаў Антон Пятровіч.
Пры сустрэчы з ім Дзімка павесялеў. Яму хацелася што-небудзь дадаць, але слоў не было.
На тэрыторыі завода — дрэвы, клумбы з кветкамі, дарожкі.
Антон Пятровіч спыніўся і паказаў на вялізны цэх злева:
— Там будзеш працаваць...
Дзімка паглядзеў на Анатоля.
— Пойдзем?
— Рад бы, ды не магу, — адказаў той, развёўшы рукамі. — Я — к дырэктару. З мяне тут такога героя зрабілі...
Калі Анатоль пайшоў, стары растлумачыў:
— Ён у нас першы рацыяналізатар... А дырэктар, трэба сказаць, па-свойму «падтрымлівае» іх... Эх, не сапсаваў бы ён Толю! Хлопец, пакуль сціплы, але, хто ведае...
Спярша яны прайшлі цэх рэзальных машын. Потым пабывалі ў кавальскім цэху, у зборачным. Усюды—механізмы. Людзі імі толькі кіравалі. Упершыню Дзімка падумаў, што ён тут, як малое дзіця, якое толькі здзіўляецца і нічога не разумее.
— Дзядзька Антон...
— Што?
Дзімка паказаў яму на адчыненыя дзверы. Яны выйшлі на двор.
— Не падабаецца наш завод? — хітра жмурачы вочы, спытаў стары.
— Я другое скажу, дзядзька Антон! — Дзімка азірнуўся на карпусы. — Які я маленькі тут... Ніколі я не быў такім маленькім...
— Ну вось... Патроху пачынаеш разумець. Значыць, сваю справу знойдзеш... — Антон Пятровіч павярнуўся і дадаў: — А цяпер пойдзем, пазнаёмлю цябе з рабочым месцам.
Яны вярнуліся ў інструментальны цэх. Гэта — вялізная светлая зала, дзе гулі станкі, ад якіх ва ўсе бакі ляцелі снапамі іскры.
Ля шліфавальнага станка, куды прывёў яго стары, завіхаўся цёмнарусы хлопец. Засяроджаны, рухі яго разлічаныя і трапныя. Дзімка зірнуў хлопцу ў твар, і яму здалося, што недзе яны ўжо сустракаліся. У яго ля вока, як пятак, радзімая пляма...
— Дзень добры, Ваня! — прывітаўся з ім за руку стары. — Гасцей прымеш?
Іван дапытліва зірнуў на Дзімку, спытаў:
— Ён?
— Ён! Дзімка, знаёмся — твой майстар...
Хлопцы моцна пацiснулі адзін аднаму рукі.
— Ну, глядзі, Ваня! Зрабі з яго такога чалавека, каб нам з табою...
— Гэта будзе залежаць не толькі ад мяне, — развёў той рукамі.
— Вядома, — адказаў, смеючыся, Антон Пятровіч і звярнуўся да Дзімкі: — Пасля работы чакай ля варот. Разам дадому!..
І ён пайшоў.
Іван замацаваў чарговую дэталь у патрон і ўключыў матор. Хвілін пяць Дзімка глядзеў на разец. Потым спахапіўся:
— Што я павінен рабіць?



— Збяры гэта і пакладзі сюды.
— Яшчэ што?
— Пакуль даволі, — спакойна адказаў Іван, схіляючыся над станком.
«Вось ён — завод!.. Я тут, сапраўды, магу толькі стружку выносіць...» — падумаў Дзімка.

## 4

Надышоў першы выхадны дзень. Дзімка з самай раніцы накіраваўся на лодачную станцыю. Сонца пякло, як і ўчора, лёгкі вецер ледзьве варушыў лісце старых ліп гарадскога парку. На душы ў Дзімкі радасна. Справы яго паступова наладжваліся.
Алік цяпер круглыя суткі знаходзіўся ў дзіцячым садзе, Аня не пакідала заняткаў па музыцы.
Ля білетнай касы ён заўважыў Арцёма, сакратара камсамольскай арганізацыі завода, і Анатоля.
Чорныя, як смоль, валасы і буры ад загару твар, высокі рост і шырокія плечы Арцёма вылучалі яго сярод шматлікага людскога патоку. Арцёму штосьці гаварыў Анатоль. Ён быў у светлым касцюме, чыста паголены, свежы. Нельга было сказаць, што ён працуе токарам.
— Кажу, бяры мой білет — і ўсё! — пачуў Дзімка голас Арцёма. Падышоў, прывітаўся.
— Бачыш, Дзімка, героя наш камсамольскі сакратар знайшоў! — звярнуўся Анатоль да Дзімкі. — Свой білет на лодку аддае...
— Аддаю! Гонар нашага завода без лодкі? Не дазволю! Вось, бяры — і каб тваёй нагі на беразе не было! Усіх дзяўчат заварожыш, хай цябе... — ажно пачырванеў Арцём. А потым ціха дадаў: — Бяры.. Мне ж усё роўна! Я ж веславаць не ўмею.
Зводдаль ад білетнай касы, цярэбячы ў руках букецік васількоў, яго чакала дзяўчына.
— Білетаў жа няма — бяры! — параіў Анатолю Дзімка. — Паедзем разам...
— Чэрці, угаварылі, — пацiснуў плячыма Анатоль. — Што ж, паедзем! З дзяўчатамі было б весялей, але дзе ты іх возьмеш. Не нашым носам маліны кляваць!
Шчырасць і прастата Анатоля спадабаліся Дзімку. Ён засмяяўся і ўжо хацеў ісці за ім, але ўбачыў ля касы Іну. Яна была ў той белай сукенцы, якую надзявала на выпускны вечар...
Дзімка зморшчыўся, схапіў Анатоля за руку.
— Адну хвіліначку, — ледзь выдыхнуў ён. — Здаецца, у нас будзе дзяўчына!
Іна ўжо ўбачыла Дзімку. І міжволі, на якое імгненне, завагалася. Ён быў у сваёй клятчатай кашулі! Цень незадаволенасці лёг на яе круглы тварык. Але вось яна глянула на Анатоля і рашуча падышла да іх.
— Прывітанне рабочаму класу! — весела, па-сяброўску, прамовіла Іна і адразу напала на Дзімку: — Ты ўсё ж нягоднік! Зноў не прыходзіш...
— Не было часу, Іна, — апраўдваўся Дзімка. — Пазнаёмся вось з маім таварышам... З завода.
Увесь час Анатоль не зводзіў з дзяўчыны зацікаўленага позірку.
— О-о! Адразу і не скажаш, што з завода, — Іна акінула вачыма Анатоля і падала руку: — Інэса...
— Толя, — адказаў хлопец і чамусьці пачырванеў. Руку Іны ён затрымаў у сваёй крыху даўжэй, чым гэтага вымагала простае знаёмства.

Іна ледзь улоўна ўсміхнулася. Белы твар яе паружавеў.

— Ну, паехалі з намі... — прапанаваў ёй Дзімка.

— Вам пашанцавала дастаць білеты на лодку? — проста пацікавілася яна.

— Гэта яму, Толю, як першаму рацыяналізатару і...

— Дзімка, не трэба, — перабіў яго Анатоль. — Цэлыя дні на заводзе толькі гэта і чуеш... А яшчэ тут...

— Добра, не буду...

Іна згадзілася паехаць разам з хлопцамі з умовай, што праз гадзіну яны вернуцца. А калі адплыліся ад берага, яна, між іншым, пацікавілася:

— Скажыце, Анатоль, што вы такое новае прыдумалі там?. Калі не сакрэт, канешне...

Ён адказаў не адразу. Скінуў пінжак і, застаўшыся ў блакітнай тэнісцы, узяўся за вёслы. Дзімка перайшоў на нос лодкі, прылёг на спіну. Іна сядзела на лавачцы.

— Гледзячы, што вас цікавіць, — глыбакадумна пачаў Анатоль. — Скажам, разец «зорачка» маёй канструкцыі дае эканомію рабочага часу да дваццаці мінут у гадзіну. Гэта значыць...

— Дзве гадзіны сорак мінут за змену...

— Яшчэ не ўсё... Улічыўшы, што разец разлічаны на сілавую рэзку, маем зноў эканомію...

Дзімка глядзеў на раку і думаў: «А чым я магу пахваліцца? Чым? Колькі за дзень стружкі вынес? Ці тым, што добра станок вычысціў?.. Досыць! Я ўжо ўволю нагледзеўся на чужую працу, час і за сваю...»

Узняўшы галаву, ён заўважыў, што Іна і Анатоль глядзелі адно на аднаго і ўсміхаліся. Яму была добра знаёма гэтая ўсмешка Іны.

Анатоль тут ні пры чым. Ён хлопец, і няма нічога дзіўнага, што заглядзеўся на прыгожы твар. Вінавата яна, толькі яна!

Ён зрабіў выгляд, што зусім не цікавіцца Інай.

— О-оў!.. А вы ўжо і армію адслужылі... — чуў ён.

Дзімку здзіўляла новая прывычка Іны гаварыць гэтае «О-оў».

На возеры было прыгожа. Дзесяткі лодак снаўдалі паўз берагі, і ўсюды — моладзь. З парку даляталі гукі вальса, а над вадой плыла чароўная песня.

— Студэнты. Шчаслівыя... — з зайздрасцю сказала Іна. — А я от нікуды не трапіла.

Анатоль прапанаваў:

— Прыходзьце да нас. У нас яшчэ весялей!

— За станок?

— Касірам. Я чуў, — патрэбен касір.

— О-оў!..

Дзімка не вытрымаў.

— «О-оў», — перадражніў ён. — Іна, не рабі з сябе англічанку, непрыемна слухаць...

Яна гнеўна зірнула на яго і супакоілася.

— Калі непрыемна, можаш дэсантам высадзіцца на бераг, — сказала яна пасля. — Тым больш, што не вяслуеш, а бясплатны пасажыр...

— Ах так? — прыжмурыўся Дзімка. — У такім выпадку, дайце маю кашулю...

— Калі ласка!..

Яна кінула яму скамечаную кашулю, але прамахнулася, і кашуля ўпала ў ваду.

— Як вы неасцярожна, — сказаў Анатоль, вымаючы кашулю вяслом.

— Нічога, калі трохі і пабялее... — засмяялася Іна.



Дзімка злосна зірнуў на Іну і, стаўшы на нос лодкі, скочыў на бераг.

Анатоль маўчаў. Ён, бадай, не ведаў нічога пра іх ранейшыя адносіны. А можа і рад быў застацца з Інай адзін на адзін...

«Ну, вось і ўсё... усё!» — думаў Дзімка, крочачы паркам.

5

У самым канцы двара, за маладымі ліпамі, быў невялічкі басейн. Калі Дзімка ўвайшоў на двор, заўважыў, як у баку, далей ад другіх хлапчукоў двара, стаяў Алік з мокрай галавою, пакрыўджаны. Вопратка прыліпла да яго цела. «І гэты выкупаўся...» — з усмешкай падумаў Дзімка. Ён заўважыў Аню, якая стаяла каля дрэва і сварылася на Аліка:

— Вось няхай прыйдзе Дзімка, паглядзіш...

Заўважыўшы Дзімку, Алік хуценька пабег дадому. Дзімка падышоў да сястры.

— Цяжка табе з ім ваявацъ...

— Зусім не... Ён мяне слухаецца.

— Слухаецца?.. Гэта добра.

Яны зайшлі ў кватэру і доўга шукалі малога, пакуль той сам не вылез з шафы. Дзімка паглядзеў на яго вопратку і паківаў галавою:



— Ай-яй-яй, Алік! 1 табе не сорамна?
— Сорамна... Толькі трошачкі, — падумаўшы, адказаў ён.
— Калі мяне няма дома, ты павінен Аню слухаць.
— Ідзіце есці, — паклікала Аня.
Алік пакаштаваў супу і зморшчыўся:
— Не смачна. Мама гатавала лепш... Чаму яе так доўга не вязуць з бальніцы?
Уздыхнуўшы, Алік паглядзеў на сцяну, дзе побач з партрэтам бацькі з нядаўняга часу вісеў і матчын партрэт.
Аня паклала лыжку ў талерку, апусціла галаву, хаваючы вільготныя вочы. Потым шпарка выйшла на кухню, сказаўшы:
— Зусім забылася выключыць плітку...
І там, за дзвярыма, прыпаўшы галавой да акна, дала волю слязам. Прыгадала апошнія дні бацькі. Ён так хварэў, так пакутаваў ад старых ран. Потым — запаленне лёгкіх, смерць. Маці памёрла раптоўна, неспадзявана... Ад сэрца... Яшчэ раніцою згатавала снеданне, падала на стол... Але ўжо не снедала сама. Лягла на ложак, і не стала яе...
— Не трэба, Аня... Ты ж не маленькая, — пачула яна словы Дзімкі і схамянулася.
— Цяжка... Не магу без мамы...
— А мне — лёгка?
Раптам дзверы адчыніліся. З-за іх высунулася кучаравая галава Аліка.
— Аня... суп смачны, — імкнучыся ўсміхнуцца, сказаў ён. — Ідзіце есці!.. Пра маму я больш ніколі не буду...
Дзімка схапіў яго на рукі і моцна прытуліў да грудзей.

* * *

Анна Аляксандраўна сядзела ў сваім кабінеце, калі да яе забег Іван. Некалькі мінут ён моўчкі назіраў за ёй, потым ціхенька кашлянуў.
— Ведаю, што ты прыйшоў, Ваня. Хвіліначку... Сядзь на канапу.
Нарэшце, Анна Аляксандраўна звярнулася да Івана:
— З чым прыйшоў? Ведаю, што нешта не ладзіцца...
— Угадалі! — абрадаваўся Іван. — Я наконт свайго вучня...
— Чаго баяўся, тое і атрымаў, — усміхнулася яна.
— Не, не! — запярэчыў Іван.— Быць майстрам — гэта не азначае быць і настаўнікам. Што мне далей рабіць з ім?
— Што рабіць? — Анна Аляксандраўна прыжмурылася, сабрала раскіданыя па стале сшыткі, зняла акуляры: — Чалавечая думка захавана вельмі глыбока.
— Значыць? — спытаў Іван.
— Значыць, трэба глядзець на чалавека з усіх бакоў. І вось што, Іван... Пастарайся пасябраваць з Дзімкам. Ён вельмі разумны і шчыры хлопец...
— Пасябраваць?
— Як роўны з роўным. Вы ж амаль аднагодкі. Толькі будзь заўсёды просты і шчыры...
Іван, ледзь паружавеўшы, сказаў:
— Калі ён... хавае галаву, як чарапаха.
— Значыць, не давярае. Трэба зрабіць так, каб давяраў.
— А як? Як? — развёў ён рукамі.
— Ты гаварыў, што Дзімка хоча хутчэй стаць за станок. Я то ведаю яго! Напорысты хлопец... Дык вось. Наперакор старым парадкам на заводзе і, калі гэта магчыма, дай яму самастойнасць. Вось ён і не будзе хаваць галавы...
— Што ж, паспрабую.
Пажадаўшы Анне Аляксандраўне ўсяго добрага, Іван устаў і паволі выйшаў з кабінета.
На вуліцы ён успомніў, што дамаўляўся з Анатолем пайсці ўвечары ў кіно.
Аднак яму не пашанцавала. Толева маці, даволі тоўстая, хоць і маладая з твару жанчына ў стракатым халаце, адчыніўшы дзверы, запытала:
— Вам Толю?
— Ага...
— У яго, як бы гэта... госця! — нарэшце, знайшла яна патрэбнае слова.
— Мы дамаўляліся... — пачаў разгублена Іван, але жанчына замахала рукамі.
— Ведаю, ведаю — у кіно! Ён, як бы гэта... ведаць, не пойдзе. Не турбуйце, калі ласка...
Праз расчыненыя дзверы Іван заўважыў, як з-за ружовай занавескі, што разгараджвала пакоі, паказалася на момант галава Анатоля. І адразу знікла. «Убачыў... Хаваецца», — здагадаўся Іван і, рэзка павярнуўшыся, збег па сходках уніз.
«Вось дык сябар!.. На парог не пусціў. А з-за каго? З-за нейкай бабы... Як «зорачку» рабілі разам, дык я ў любы час мог прыходзіць, хоць ноччу», — з крыўдай падумаў Іван.

## 6

І шанцуе Анатолю Карасю!
Ледзь толькі разец «зорачка» быў прызнаны на тэхсавеце завода, як адразу Карась атрымаў ад дырэктара Валянціна Паўлавіча Ціханюка грашовую прэмію. Апрача таго дырэктар ва ўсе інстанцыі напісаў безліч паперак. І праз тыя паперкі Анатоль стаў сапраўдным героем.
Аднойчы Анатоля паклікаў Валянцін Паўлавіч Ціханюк. Важны, з невялікімі залысінамі і разумным, разважлівым тварам, у шэрым гарнітуры, ён сядзеў за сталом, калі, нясмела пастукаўшы ў дзверы, на парозе з'явіўся Анатоль. Заўважыўшы яго сарамлівасць, дырэктар пакінуў сваё лёгкае плеценае крэсла і, паскрыпваючы ботамі, наблізіўся да Анатоля. Хвіліну ён разглядаў Карася, а потым, зусім нечакана, ляпнуў па плячы і сказаў:
— Дык вось які ты...
— Ды я... ды вы не зважайце...
— Ды я, ды вы, ды мы з табой цяпер загрымім! Выплывем на прастор! Сябе пакажам, другіх павучым.
Анатоль усміхнуўся.
— Ды што вы, Валянцін Паўлавіч...
— Сядай! — звёў густыя бровы дырэктар. — Ты ведаеш, што твая ўзнагарода — гонар для ўсіх нас!
— Дзякую... За прэмію дзякую... Я сабе баян куплю... Музыкант жа ўсё-такі...
Дырэктар разваліўся ў крэсле і рассмяяўся.
Анатоль не ведаў, што казаць. «Навошта гэты шум? Яшчэ, чаго доб-

рага, усе дасягненні прыпішуць мне аднаму... А што пасля?» — з трывогай думаў ён. Але трывога хутка прайшла, бо дырэктар быў у добрым настроі і паведаміў, што яны сёння едуць на суседні завод дзяліцца вопытам, а потым — у міністэрства...

— А цяпер — дадому! — падаў каманду Ціханюк. — І каб у дзве гадзіны быў тут!..

— Валянцін Паўлавіч... Я сёння не магу. Вы разумееце, сёння...

Дырэктар, не зважаючы на словы Анатоля, перабіў яго:

— Сёння ў цябе дзень другога нараджэння....

Анатоль устаў.

— Я сёння павінен дамовіцца... аб дні нашага вяселля. — Сказаў і пачырванеў.

— Ах, вяселле... — глыбакадумна паківаў галавою Ціханюк. — Гэта добра! Але нікуды не сплыве твая рыбка-карасіха... Пачакае.

Яны рассмяяліся.

Па праўдзе кажучы, Анатоль чамусьці баяўся гэтага нечаканага вяселля, але на тым настойвала маці.

— Што так рана? — сустрэла Анатоля маці. Бадзёрая і задаволеная жыццём, яна ўсю энергію аддавала сям'і, хаце. Кватэра іх заўсёды ззяла чысцінёй.

— Я атрымаю прэмію... — скідаючы рабочую вопратку, кінуў на хаду Анатоль.

— Я так і знала! — пляснула далонямі маці і, пакуль Анатоль мыўся, выбегла ў калідор і паведаміла навіну суседзям.

— Не, не! Гэты гальштук не падыдзе!.. — ужо чуўся ў кватэры яе голас. — Лепш паласаты...

І калі Анатоль, апрануты ва ўсё новае, выйшаў у калідор, ён быў прыемна ўражаны: амаль усе суседзі выйшлі павіншаваць яго.

...Непадалёку ад прахадной ён заўважыў Іну. Яна была з хлапечай прычоскай, ярка нафарбаванымі вуснамі, у чорнай вузкай сукенцы. Зрабіўшы некалькі дробных крокаў яму насустрач, спынілася, пазіраючы кудысьці ўсцяж вуліцы.

«Злуецца», — вырашыў Анатоль і прывітаўся.

— Іна, віншуй з перамогай.

Дзяўчына раптам павярнулася і шчаслівa глянула яму ў вочы.

— Табе трэба выбівацца ў людзі, разумнік мой... Я прыйшла павіншаваць цябе.

— Павіншаваць? — здзівіўся Анатоль. — Адкуль даведалася?

— Ты забыўся, што ў цябе ёсць добрая, разумная маці, а ў мяне дома — тэлефон...

— Ах, вось што! А чаму ты тут?

Я чакаю сябровак. Экскурсія тут адна павінна падысці, дык я хачу з імі прабрацца на завод, паглядзець...

— Сустрэнемся ўвечары, — сказаў на развітанне Анатоль.

Забегшы на хвіліну ў цэх, Анатоль адвёў у бок Івана і, каб не чуў Дзімка, сказаў:

— Я назначыў з Інай спатканне ўвечары, але не пайду. Ты растлумач ёй, калі ласка, што я не мог...

Іван нехаця згадзіўся. А калі Анатоль пайшоў, расказаў пра гэтае даручэнне Дзімку.

— З Інай?.. — перапытаў той.

— А што?.. Ты ведаеш яе?

Дзімка пацiснуў плячыма:

— Мала ў горадзе такіх імён?.. Тысячы.



Ён зразумеў усё. Значыць, яна тады наўмысля паспрачалася з ім, каб застацца з Анатолем. Ён быў проста лішні...

— Няўжо вы не маеце прывычкі вітацца? — пачуў Дзімка знаёмы голас Галі і сумеўся. Ён ведаў яе, гэтую чарнявую задзіру, і таму адказаў, не тоячы іроніі:

—Думаю, што ў дзень толькі адзін раз вітаюцца, ці не так?

Яна, магчыма, прайшла б далей, калі б не такі яго адказ. А тут спынілася:

— А можна задаваць пытанні больш аднаго разу?

— Безумоўна...

— Калі ў школе давалі залаты медаль, улічвалі ваша красамоўства ці не?

Дзімка здзіўлена паглядзеў на Галю... Не. Яе задумлівыя карыя вочы і прыгожы, смуглаваты твар не былі злоснымі. Што ж тады ёй ад яго трэба, гэтай чарняўцы? На пытанне ён адказаў пытаннем:

— А калі вас выбіралі сакратаром цэхавай камсамольскай арганізацыі, улічвалі вашу назойлівасць?

Яна ледзь-ледзь пачырванела.

— Вам непрыемна са мной размаўляць?

— Радасць не вялікая... Маё вам!..

Галя пакрыўджана павярнулася і пайшла. Ужо ў сталоўцы яна паскардзілася Івану:

— Размаўляла з тваім вучнем....

— Хлопец ён добры... Толькі ўсё спяшаецца, — уздыхнуў Іван.

— Гэта натуральна, — умяшаўся рабочы з другога стала. — Усім навічкам здаецца, што любую дэталь зробіць сам станок, варта толькі яго ўключыць...

— А па-мойму, хлопец проста ганарлівы, — заўважыла Галя.

— Ганарлівы? А чым ганарыцца? — спытаў той жа рабочы.

— Сваёй дзесяцігодкай, медалем, — растлумачыла Галя.

Іван доўга над нечым думаў, пасля звярнуўся да Галі:

— Сёння на вачах у Дзімкі былі слёзы... Гэта што? Таксама вынік ганарлівасці?..

Яна не ведала, што адказаць.

Толькі пасля абедзеннага перапынку сёе-тое стала зразумела Івану.

У інструментальны цэх увайшла група экскурсантаў. Сярод іх была Іна. Іван адразу пазнаў яе. Ён толькі раз бачыў Іну з Анатолем, але не памыліўся, калі тады падумаў, што з ёю ўжо дзесьці сустракаўся раней...

Інжынер, што вёў групу, тлумачыў:

— Гэта адзін з буйнейшых цэхаў. Тут вырабляюцца дэталі для машын, для...

— А станкі айчынныя ці імпартныя? — спытаў хтосьці.

— Мы ўжо даўно маем свае станкі, — адказаў інжынер. — А вунь тыя — вытворчасці нашага завода.

— Можна бачыць вашага лепшага майстра цэха? — гучна спытала Іна.

Дзімка насцярожыўся, змяніўся ў твары. Ён пачуў Інін голас зусім неспадзявана. Што рабіць — хавацца ці стаяць ля станка? Вырашыў не хавацца... Што ён цяпер ёй значыць? А яна яму?..

— У нас майстры ўсе добрыя, — смеючыся, адказаў інжынер. — Прашу хаця б вось сюды... Гэты майстар прыйшоў на завод з атэстатам сталасці...

— Дзімка... Ён!.. — загаварыла Іна, выходзячы наперад. Яе вочы прыемна і так знаёма ўсміхаліся, што Дзімка нечакана абапёрся на станок.

— Цішэй!.. — раптам крыкнуў Іван, але было позна. Сваім неасцярожным рухам Дзімка нечакана ўключыў станок. Разец высек сноп іскраў і рассыпаўся...

— Іван, пазнаёмся... З інстытута экскурсанты, — пачуўся голас інжынера.

— Ды я... Вось тут мой вучань недарэчы зламаў разец... Такі разец! Маю ўніверсальную «зорачку»... — развёў ён рукі. — Прабачце, таварыш інжынер, не ў час...

— Нічога! Наладзіш, — адказаў інжынер.

Іна здзіўлена паглядзела на Дзімку. Ён закрыў бруднымі рукамі твар і шпарка накіраваўся да выхаду.

«Вучань... У рабочыя... — расчаравана падумала Іна, пазіраючы ўслед Дзімку. — Усё-такі я зрабіла правільны выбар...»

Іван заўважыў, што Дзімка выбег толькі з-за яе, Іны... «Гэта яна тады была з ім», — успомніў Іван выпускны вечар.

— Так, так... — прамовіў ён задумёна. — Дык што вас больш за ўсё цікавіць? — звярнуўся ён да экскурсантаў.

— Як вы дабіліся высокіх паказчыкаў?

— Паказчыкаў?.. Вось як: займаюся боксам, харчуюся рэгулярна...

Экскурсанты засмяяліся. Аднак Іван не жартаваў. Ён давёў ім, што, выхоўваючы волю і настойлівасць, чалавек можа дайсці да любой мэты. Гутарачы, ён не зводзіў з Іны дапытлівага позірку. Яна ж зразумела яго па-свойму. «Дарэмна я тады, на вечары, не пайшла з ім танцаваць...» — думала дзяўчына. І калі група пайшла, Іна, нібыта цікавячыся работай станка, затрымалася. Івану гэта і трэба было. Ён падышоў да яе блізка.

— Вас, здаецца, завуць Іна?

— Значыць, вы мяне помніце...

— Помню.

— І я вас пазнала. Адразу.

— Ну, гэта не дасягненне! — пажартаваў Іван. — Я з адмецінай, — і ён паказаў на чырвоную пляму на шчацэ. — Але гэта пакінем. Я хачу з вамі пагутарыць... Вы прыйдзеце ў восем да бібліятэкі?

Іна разгублена адказала:

— Я... не ведаю. Я павінна...

— Сустракаць Анатоля? — перабіў яе Іван. — Ён перадаў, што не зможа. Будзе заняты...

— Тады я прыйду.

Яна кіўнула галавою і накіравалася даганяць групу.

Дзімка так і не вярнуўся.

Іван, ледзь скончыўся рабочы дзень, хуценька вычысціў станок і памчаўся дадому. Не распранаючыся, замкнуўся ў фоталабараторыі і праз некалькі хвілін трымаў у руках зробленыя раніцай здымкі. Так, памылкі не было: Іна сядзела з Дзімкам побач і шчасліва ўсміхалася... Цудоўны здымак! Ён цяпер так патрэбен...

А палове восьмай Іван ужо тупаў ля гарадской бібліятэкі, час ад часу паглядаючы на гадзіннік.

— Восем... — нарэшце прамовіў ён ціха.

— А я ўжо тут!..

Іна падышла ззаду, непрыкметна. Ён нават разгубіўся.

— Дакладнасць... Можна правяраць гадзіннік! Вечар добры...



— Вечар добры, — яна агледзела яго з ног да галавы. — О-оў, вы так добра ўмееце апранацца!..

— Справа не хітрая...

Яны паволі ішлі па цяністай алеі, самі не ведаючы, куды.

— Памятаеце той вечар, — пачаў Іван. — Я вельмі часта думаў пра вас...

— Думалі? — пацікавілася Іна. — Я думала, што вы, як усе...

— Магчыма, я горшы за іншых.

Яны селі на лаўку. Іна сказала:

— Вы гаварылі, што хочаце са мной пагутарыць...

— Давайце тады прытрымлівацца фармальнасці. Мяне завуць Іван, — усміхнуўшыся, Іван працягнуў руку.

— Я вельмі рада. Іна... — у сваю чаргу сказала яна. — Давайце лепш хадзіць.

Яны зноў паволі пайшлі побач.

Дзімка сачыў за імі з самага пачатку, але толькі цяпер, схаваўшыся за тоўстую ліпу, ён, нарэшце, пачуў, пра што яны гавораць.

Іна смяялася:

— Вы цікавы хлопец.

— Чаму?

— Вы ні на каго з маіх знаёмых не падобны.

— Магчыма. Толькі тыя, што выходзяць з інкубатара, бываюць падобнымі адзін да аднаго...

— Вы пачынаеце мне падабацца, — амаль сур'ёзна зазначыла яна.

— Тады давайце звернем на гэту алею. Яна цішэйшая.

— Сюды? Гэта алея закаханых...

— Тым лепш...

## 7

Цяжка было Дзімку. Вось, здавалася, забыўся пра яе, а ўбачыў — зноў бура ўзнялася ў грудзях. І не згасіць яе ні працай, ні часам. Што ў дзяўчыны за натура? Можа ён зусім не разумее Іну? Можа дарэмна хаваецца і крыўдзіць яе сваімі прыдзіркамі?

Дзімка зайшоў у пакой, зачыніў акно і сеў ля стала. Асцярожна ўзяў пачку пісем і прачытаў першае, што трапіла пад руку. У ім Іна скардзілася на замкнутае жыццё, на вячэрнюю сумоту...

— Хлусня!.. Усё гэта хлусня...

Потым зазірнуў у спальню і, упэўніўшыся, што Аня спіць, асцярожна выйшаў на двор.

На вуліцы ўжо гарэлі ліхтары. Прыемны халадок асвяжыў твар. Дзімка ішоў паволі, але хутка апынуўся ля знаёмага асабняка. «Аддам пісьмы... Можа яна што-небудзь скажа». Ён злавіў сябе на той думцы, што ўсё ж хоча, чакае, каб яна яму што-небудзь сказала. Значыць, не згасла яшчэ каханне! А чаму яно павінна згаснуць? Цяпер, як ніколі, у жыцці патрэбен сябар, таварыш... Ён нават не змагаўся за яе, не даў адпору сваім праціўнікам! Ён толькі крыўдзіўся і ўцякаў, пакідаў яе. А шчасце трэба заваёўваць...

Дзімка спыніўся ў нерашучасці: ні ў адным акне не было святла. Ён пазваніў. На званок ніхто не выйшаў.

«Тым лепш... Пакладу ёй гэты пакет на ганку. Калі ў яе ёсць хоць кропля пачуцця...»

Тут Дзімка пачуў яе голас. Пасля Іванаў:
— Язычок у вас, трэба сказаць, на падшыпніках...
— Уся сіла жанчын — на кончыку языка! — смеючыся, адказала Іна.
І раптам Дзімку апанавала такая злосць, што ён гатоў быў кінуцца біцца. Але стрымаўся, скочыў з ганка і перабег за вугал. Стала зябка.
Іна з Іванам падышлі да дзвярэй.
— Дзе гэта я паклала ключы?.. — пачуўся голас Іны.
— Значыць, вы тут жывяцё? А дзе ж вашы? — спытаў Іван.
— Маці ніколі па вечарах не сядзіць дома, — адказала Іна. — Маці... Як смешна гэта гучыць! Яна старэйшая за мяне ўсяго на восем год...
— Значыць, ёй цяпер дваццаць шэсць?
— О, не-е!.. — засмяялася Іна.
— А колькі ж?
— Дваццаць дзевяць.
— А вам?
— Дваццаць адзін... Вы здзіўлены? Я растлумачу, калі не будзеце з мяне смяяцца і нічога не скажаце Дзімку...
— Абяцаю.
— У першым, трэцім і шостым класе...
— Па два гады? — перабіў яе Іван.
— Што зробіш — тупіца... Вось яны, знайшліся...
У дзвярах павярнуўся ключ.
— Я спярша запалю святло.
— Не турбуйцеся, я пайду дадому... Толькі помніце, што я сказаў.
— Я хачу, каб вы мяне зразумелі, — адказала Іна.
— Я вас разумею, — шматзначна заўважыў Іван. — Дзімка не апраўдаў вашых надзей — раз! Ён для вас занадта малады — два... І трэцяе...
— Я яго будучыню ўяўляла інакш, — уздыхнула Іна. — Усе думалі што ён стане вялікім чалавекам. Сяброўкі зайздросцілі мне. І раптам...
— Звычайны рабочы... — прадоўжыў яе думку Іван.
Яны ўвайшлі ў сенцы. Іна запаліла святло. Дзімка не чуў, пра што яны гавораць.
— Чаму вы так гледзіцё? — спытала ў гэты час Іна ў Івана.
— Думаю, — адказаў Іван. — Думаю, якая вы нікчэмнасць...
— Прашу не абражаць... Інакш, я вас выганю, — павысіла яна голас, зразумеўшы, дзеля чаго прыйшоў на спатканне Іван.
— І добра зробіце! — зусім не пакрыўдзіўся Іван. — Вы — абывацелька, якая вызначае вартасць карціны па бляску рамы... Застаецца толькі радавацца, што вы адмаўляецеся ад Дзімкі, але Анатолю я не зайздрошчу...
— Нахабнік! — не знаходзячы іншых слоў, сказала яна і, прыхінуўшыся да вушака, заплакала са злосці.
— Спакойнай ночы... Мне было вельмі прыемна пазнаёміцца з вамі, — Іван выйшаў на ганак.
Дзімка ўчуў гэтыя словы. «Эх, сябры!.. — з горыччу думаў ён. — Людзі... Кожны толькі аб сабе дбае, сябе бачыць, сябе любіць... Што ім іншыя? Анатоль вырваў Іну ў мяне, Іван — у Анатоля! А я вам усім зубы вырву!..»
Паклаўшы пісьмы ў кішэню, Дзімка пакрочыў следам за Іванам. Ён сам не ведаў, што будзе рабіць.
Ля гарадскога парку Дзімка дагнаў Івана.





— Чакай!
Іван спыніўся.
— Дзімка? Ты што тут...
— Я ўсё ведаю, — перабіў яго Дзімка, сціскаючы кулакі.
— Што ты ведаеш?
— Што? Чаму трымаеш мяне далей ад станка? Чаму не хочаш, каб я стаў майстрам? — пытаў ён, задыхаючыся. — Чаму?
— Ніхто ў два тыдні майстрам не становіцца, — спакойна адказаў Іван.
— Зайздросціш, што я з медалем скончыў школу?
— Дурань!
Дзімка сціснуў зубы.
— Зойдзем у парк. Я павінен сказаць табе пару слоў...
— Толькі пару? Што ж, калі так — зойдзем!
Яны моўчкі ўвайшлі ў асветлены парк. Там было ўжо зусім мала народу. Насустрач прайшоў дзяжурны міліцыянер. Яны звярнулі на цёмную алею. У канцы яе спыніліся, сталі адзін супраць аднаго.
— Ну, я цябе слухаю, — сказаў Іван і мірна паглядзеў у вочы Дзімку. Той, нічога не адказаўшы, раптам ударыў Івана ў твар, і не апамятаўся, як апынуўся на зямлі.
— Вось мае словы!..
Іван пацёр шчаку рукою і гэтак жа спакойна прамовіў:
— Адно слова пачуў... Цяпер кажы другое...
— Другое? — з запалам спытаў Дзімка і зноў замахнуўся.
І тут, быццам вырасшы з пад зямлі, знаёмы міліцыянер схапіў яго за руку.
— Грамадзянін, ідзём у аддзяленне... Усё ясна.
Іван стаў насупраць міліцыянера.
— Нічога не ясна, таварыш міліцыянер! — сказаў ён так спакойна, што той выпусціў руку Дзімкі. — Ён — лепшы баксёр завода, а я — яго трэнер. Заўтра ў нас адказная сустрэча. Я даю апошнія парады.
Іван дастаў з кішэні маленькую кніжачку і працягнуў яе міліцыянеру.

— Вось маё трэнерскае пасведчанне... — сказаў ён.

Міліцыянер узяў у руку кніжачку і засвяціў кішэнным ліхтарыкам. Між тым, Іван падышоў да Дзімкі і пачаў тлумачыць:

— Ты разумееш... Твой удар не цяжкі. Злуешся недарэчы і забываеш самае галоўнае. Трэба ўвесь цяжар цела ўкласці ў адзіны ўдар...

Міліцыянер прачытаў пасведчанне, падазрона пагледзеў на іх і, вяртаючы Івану кніжачку, сказаў:

— Заканчвайце, таварышы, заканчвайце... А то падумаюць, што вы на самай справе пачалі бойку... — і, прыклаўшы руку да казырка, адышоў.

— Цяпер, мо', пагутарым чалавечай мовай? — спытаў Іван.

Але Дзімка нічога не адказаў і пайшоў моўчкі. Яму было балюча і крыўдна, бо адчуваў, што зрабіў не тое, не так...

Ён зайшоў у пад'езд свайго дома і павалі пачаў паднімацца па прыступках.

Раптам ён спыніўся. Перад ім, на шэрых прыступках, накінуўшы на плечы пушысты шалік, сядзела... маці! Вось яна ўзняла галаву, строга глянула на яго.

Дзімка ступіў крок назад.

— Хто тут?! — закрычаў ён.

— Я...

Гэта Аня. Яна ўстала і кінулася да яго.

— Прыйшоў... Дзіма!

— Ты? — здзівіўся Дзімка. — Тут спала?

— Я не ведала, дзе ты...

— А гэта? — ён сарваў з яе плеч матчын шалік. — Чаму ўзяла?

— Было холадна.

Ён, зморany, пайшоў да дзвярэй.

## 8

Восем дзён Анатоль ездзіў з дырэктарам па заводах рэспублікі, звыкся са славай, прымерыўся да розных трыбун, відаць было, адчуваў сябе патрэбным чалавекам для грамадства. «А што ў тым благога — перадаць другім свой метад, падзяліцца вопытам, раскрыць сакрэты новага разца? Няхай ведаюць нашых!» — не раз думаў Анатоль.

Так узнікла новае ў характары Анатоля — зазнайства.

Няхай сабе і даваў разец «зорачка» эканомію часу, але ж хіба ён забыўся ўжо, што на гэтую «зорачку» многа папрацавалі Іван і другія майстры? Яго была толькі ідэя. А хто памог зрабіць разлікі? Хто папрацаваў над удакладненнем формы разца? Іван...

Першыя дні не давалі спакою Анатолю. Пасля ён прывык і смела гаварыў з трыбуны аб новай канструкцыі «сваёй зорачкі».

І вось ён дома...

Іна пры маці пацалавала яго ў шчаку, шапнула знаёмую фразу на вуха. Ён кіўнуў у знак згоды галавою, усміхнуўся.

— Будзеш у нас... Толькі ў нас!

І калі маці выйшла, ён стаў насупраць Іны, доўга-доўга глядзеў ёй у твар, потым сказаў:

— Я тады, на возеры, калі толькі ўбачыў цябе, сказаў у душы: «Будзе гэта дзяўчына маёю!» І цяпер гавару ўжо адкрыта: ты мая!.. Мая, якую я ўсё жыццё шукаў...



— Прашу да стала, — пачуўся з другога пакоя голас маці.

Пасля абеду яны паехалі да Іны. Калі падыходзілі да дому, яна незадаволена прамовіла:

— Дома сёння... Чуеш, спявае...

Анатоль прыслухаўся: праз адчыненае акно даносіўся прыемны жаночы голас.

— Тым лепш!

Віно, што выпілі за абедам, надало Анатолю смеласці. Ён першы адчыніў дзверы і спыніўся ў нерашучасці: крокаў за пяць ад яго стаяла стройная чарнаброва жанчына. На ёй была лёгкая стракатая сукенка. Смуглявыя плечы былі аголены. Прыпухлыя вусны ярка нападжаны. Жанчына акінула Анатоля цёмнымі вачыма.

— Праходзьце... Не ў сваты ж!

— Якраз і ў сваты... — Іна выйшла наперад, узяла разгубленага Анатоля за руку. — Знаёмся, Толя... Гэта — мая маці.

— О-оў! — як і Іна, усклікнула тая. — Якое прыемнае знаёмства! Гэта ён... ну... той што ты...

— Сабралася выйсці замуж! — падказаў Анатоль і працягнуў руку. — Анатоль...

Іна бліснула на мачыху злоснымі вачыма, але тая не заўважыла яе позірку.

— Каця, — адказала мачыха. — Вы не з опернага?

— Не-е...

— Ён — канструктар! — падказала Іна. Каця зноў усклікнула і хуценька выбегла ў сенцы.

— Зараз будзе добры стол! — падміргнула Анатолю Іна. — Ты ёй спадабаўся... Толькі глядзі мне! — яна падышла і ўдарыла яго пальцам па носе.

— Ты што гаворыш!? — абурыўся Анатоль. — Так пра маці...

— А-а, ты яе не ведаеш... — адмахнулася Іна і, адчыніўшы шафу, дастала новы абрус з замысловатымі белымі ўзорамі. — Пойдзем лепш у сталовую...

Сталовы пакой — даволі вялікі, устаўлены простымі крэсламі, сталом і сервантам. З яго вялі двое дзвярэй, як Анатоль здагадваўся, — у спальні.

Анатолю было прыемна сядзець насупраць Іны. Ён бачыў маленькую радзімку над брывом, нібы спецыяльна зробленую алоўкам, вочы, што, здаецца, загараюцца недзе далёка схаваным агнём...

— Вы сёння будзеце тут гаспадаром! — ажыўлена загаварыла Каця, адчыняючы дзверы. У яе руках былі бутэлькі.

— Мы з Інай ужо крыху, як кажуць, на ўзводзе! — між іншым, заўважыў ён. Каця засмяялася.

— У нас так рэдка бывае мужчына, што проста адвыкаеш нават ад голасу...

— А дзе ж, скажыце, ваш гаспадар? — спытаў ён, зірнуўшы на Кацю.

— Муж? — падхапіла яна. — Ён цалюткае лета будзе... — як гэта ён казаў?.. — павялічваць прырост рыб у нашых марах і азёрах. Пытанне штучнага планктону!..

— Гэта яго новая дысертацыя! — падказала Іна.

Анатоль падняў чарку і сказаў:

— Першы тост — за цудоўных гаспадынь.

— Я не буду, — запярэчыла Іна. — Каньяк — гэта не для мяне.

— Не прыкідвайся, дзіця маё! — умяшалася Каця. — Памятаеш, як мы на твой дзень нараджэння...

— Досыць табе! — перабіла яе Іна, схапіла сваю чарку і адным дыхам апаражніла. Каця падміргнула Анатолю і ўсміхнулася.

Іна закусіла і раптам папрасіла яшчэ:

— Я хачу з вамі разам!..

Ён здзівіўся, убачыўшы ў дрыготкай руцэ Іны парожнюю чарку. А вочы! Яны патухлі. Яны глядзелі на мачыху абыякавым позіркам.

— Не, даражэнькая, табе ўжо даволі! — усміхнуўся Анатоль. Але мачыха была іншай думкі.

— Не бойся! Яна ж дома, няхай...

І ёй налілі яшчэ... Іна раптам паклала галаву на рукі і заплакала. Анатоль разгубіўся зусім.

— Ну, вось... Я казаў, што больш не трэба. Што з ёй? Можа выклікаць хуткую дапамогу?..

— Нічога ёй не трэба, — паківала галавою Каця. — Капрыз. Няхай ідзе спаць.

Яе пад рукі завялі ў спальны пакой і паклалі проста ў суконцы на пуховую коўдру. Самі вярнуліся ў сталовую.

— Ну, вось... — пачаў бедаваць Анатоль.

— Аб чым ты? — Каця зноў наліла чаркі, насмешліва глянула на яго. Ён разгублена ўсміхнуўся, выпіў і падняўся з-за стала. І ў тую ж хвіліну адчуў, як падлога загойдалася пад нагамі, стоць нахілілася і закруцілася перад вачыма.

— Ну-у, раскіс... — пачуў ён голас ля вуха і пакорна павінаваўся ўладным і дужым рукам. Дабраўся да ложка, распрануўся і лёг. Ложак круціўся. Мітусіўся перад вачыма твар з усмешкай старэйшай гаспадыні. Яна паднесла штосьці ў шклянцы, — ён выпіў і адчуў сябе лепш. Яшчэ ён адчуў на сваіх перасохлых вуснах яе парывістае дыханне...

## 9

Усю ноч Аня праспала на крэсле, побач з ложкам Дзімкі. Сон яе быў трывожны: Дзімка часта варочаўся і стагнаў. Тады яна ўсхоплівалася і падавала вады.

— К чорту... завод! — скрыгатаў зубамі і ўскокваў Дзімка.

Нарэшце наступіла раніца, ціхая, свежая. Праз адчыненае акно ў пакой лілася прахалода. Пахла хвояй і хлебам. «Гэта ўнізе прывезлі хлеб і згружаюць у магазін. Хутка трэба будзе ўставаць», — падумала Аня і зачыніла акно. Зазвінеў на стале будзільнік. Аня падышла да брата і спынілася ў нерашучасці. Дзімка спаў глыбокім і спакойным сном.

— Дзіма... — ціха паклікала яна. Ён не зварухнуўся. — Дзімка! Уставай на працу...

Дзімка нездаволена адкрыў вочы.

— Хвіліначку... Зрабі што-небудзь перакусіць, Аня! Хуценька!..

Праз які момант ён ужо быў на вуліцы. Не ішоў, а бег, кусаючы на хаду бутэрброд...

...Без пятнаццаці дзевяць.

«Не прыйдзе», — вырашыў Іван. Сёння ён працаваў разгублена і без асаблівага настрою. Учарашняя сустрэча з Дзімкам не выходзіла



ў яго з галавы. Не, не так ён рабіў, як думаў. Думаў уладкаваць яго адносіны з Інай, памірыцца з Дзімкам, пасябраваць, а выйшла ўсё наадварот. Навошта ён быў грубы з Інай? Якая яму справа да чужых густаў? Ёй падабаецца больш Анатоль... Ну што ж тут благога? Няхай будзе Анатоль. Можа яму ўдасца перавыхаваць дзяўчыну...

На заводзе рабочы дзень быў у разгары. Гулі станкі, грукаталі па рэйках ваганеткі, зыркала з печаў ярка-зялёнае полымя. І нікому, здавалася, не было спраў да вучня, які спазніўся і бег сюды, праклінаючы сваю ганарлівасць і маладушша.

Дзяжурны вахцёр паглядзеў на Дзімку, паківаў галавою.

— Добрай раніцы, — прывітаўся Дзімка, паказваючы пропуск.

— Ужо амаль паўдня, якая табе раніца! — засмяяўся вахцёр.

— Крыху захварэў, — растлумачыў прычыну спазнення Дзімка.

— Яшчэ б гадзіны дзве паспаў — і хваробу як рукой зняло б! — хітра падміргнуў вахцёр.

Толькі Дзімка ўвайшоў на тэрыторыю, як сустрэўся з Галяй. Яна рабіла на вялізнай дошцы паказчыкаў якіясьці запісы, але ўсё ж заўважыла Дзімку.

— Можна на хвіліначку, таварыш медаліст? — спыніла яго Галя.

— Слухаю... — ціха прамовіў Дзімка.

— Сёння, здаецца, сустракаемся першы раз. Добры дзень...

— Дзень добры, — вінавата адказаў ён.

— Чаму спазніліся на працу?

У голасе Галі адчувалася крыўда і нейкая злосць.

— Гэта, думаю, вас не ўзрадуе... Я быў п'яны. Выпіў, значыць, залішняе, ну і праспаў.

— Жартуеце?

— Кажу праўду.

— Тым горш для вас.

— Мо' хлусіць? Калі ласка... У мяне балела сярэдзіна... Сярэдзіна... Але справа не ў гэтым. Як камсорг цэха, вы зрабілі б лепш, каб спыталі ў мяне — чаму гэта я туляюся па заводзе без усякай справы.

— А на *ваш* погляд — чаму?

— Трэба мець свой погляд, — адказаў Дзімка.

Галя не ведала, што адказаць. Яна толькі змерыла хлопца сваім строгім позіркам і адвярнулася да дошкі паказчыкаў. Дзімка паволі накіраваўся ў цэх.

«Што ўчора было з Дзімкам?» — думала ў гэты час у сваім пакойчыку Аня. Пасля бяссоннай і трывожнай ночы, яна ніяк не магла пачаць свае практыкаванні на скрыпцы. Нуднымі здаваліся ёй гукі, бессэнсоўнымі — ноты. Хто і дзеля чаго намаляваў гэтых галавасцікаў на лінеенай паперы і назваў так незразумела: скерца?..

У пакой забег расчырванелы Алік.

— Схавай мяне! — крыкнуў ён, падбегшы да сястры. — У нас доктар робіць уколы, а я збег...

— Уцякаць ад уколаў не трэба, Алічак. Ідзі назад, — адказала Аня, не адрываючыся ад ігры.

— А-аня... Мяне ўколюць. Я не хачу...

Аня паклала скрыпку.

— Ты мне вымаеш душу! Што хочаш?..

— Схавай мяне...

— Бачыш, я займаюся. Мне няма часу. Калі будзеш перашкаджаць і не пойдзеш у сад, скажу Дзімку.



Алік колькі хвілін задумліва глядзеў на сястру, пасля ціха выйшаў на двор.

Упэўніўшыся, што за ім ніхто не сочыць, хуценька прашмыгнуў за вялікім рудым катом на вуліцу. Там паспрабаваў схапіць ката за хвост, але той вырваўся ад яго і пачаў перабягаць вуліцу. Алік не адставаў...

Гэта здарылася якраз у час абедзеннага перапынку, калі Галя, выйшаўшы з вагона тралейбуса, перабягала вуліцу недалёка ад таго месца, дзе Алік, расставіўшы рукі, бег проста пад машыну. Яна ўскрыкнула, кінулася да яго... Машына, скрыгануўшы тармазамі, спынілася. Дзверцы адчыніліся, і з іх высунулася калматая галава шафёра.

— Грамадзяначка! Дзяцей трэба вадзіць за рукі і не заглядвацца на бландзінаў і таму падобных шатэнаў!

Галя сярдзіта зірнула на шафёра і павяла Аліка на тратуар.

— Як цябе завуць?

— Алік...

— А дзе жывеш?

— Ву-унь там, — паказаў Алік на адчыненае акно, з якога чулася музыка.

— Ага, ясна, — зазлавалася Галя. — Там весяляцца, а дзеці няхай гінуць...

Калі яны ўвайшлі ў адчынены пакой, Галя на момант спынілася і заслухалася. Аня, захапіўшыся, нічога не чула і не бачыла.

— Дзе вашы бацькі? — пачула Аня і ўздрыганулася. Нічога не разумеючы, ціха адказала:

— Няма...

— На працы!

— Не... Яны...



— Ах... — Галя ўзяла Аліка на рукі і прыхінула да сваіх грудзей.— Ён ледзь не трапіў пад машыну... А старэйшыя хто ёсць?

— Брат... На заводзе.

— На якім заводзе?

— Ён нам не гаварыў.

— Я сказу... Я сказу... — заматляў нагамі Алік, выкаўзнуўся з рук і падбег да акна. — Ву-унь там...

— У тым баку два заводы, Алічак, — сказала Галя і, глянуўшы на гадзіннік, спытала. — А сваякі ў вас ёсць?

Аня адмоўна паківала галавою.

Галя зразумела, што ў гэтай кватэры зусім нядаўна здарылася вялікае гора.

— Як цябе завуць? — спытала яна.

— Аня... А што?

— Ты так хораша іграеш! Можаш яшчэ што-небудзь?..

Аня зайграла.

Галя слухала яе і ўспамінала сваё дзяцінства, калі яна была ў такім узросце, як Аня. Прыгадалася, як маці паклалі ў бальніцу, а яе, Галю, забралі ў дзіцячы дом... Яна больш не ўбачыла маці. Так і жыла ў дзіцячым доме, пакуль не пайшла на завод...

Мінула трэцяя гадзіна, а Галя ўсё слухала Аню. Алік заснуў. У пакоі былі чутны толькі гукі скрыпкі ды ціхае цікание будзільніка.

## 10

Вяселле згулялі праз тыдзень, і Анатоль забраў Іну да сябе. Бацьку яна напісала ў пісьме: «Мой дарагі татачка! Я, нарэшце, паслухалася мудрай парады маці і выйшла замуж... Муж малады і знатны...»

Бацька не мог прыехаць, атрымаўшы тэлеграму за дзень да вяселля. Ён пакрыўдзіўся і адказаў таксама тэлеграмай. «Гэтак не запрашаюць бацьку».

«Вось я і замужняя... Замужняя!»— думала Іна, гуляючы па праспекце адна. Ёй яшчэ хацелася пабыць адной. Вечар быў цёплы, ціхі. Не прыкмеціла, як апынулася ля будынка паштамта. «Зайду, можа, што ёсць мне». Зайшла так сабе, не спадзеючыся атрымаць ад каго-небудзь ліст.

Прайшоўшы ў залу, Іна спынілася каля акенца і няўпэўнена падала пашпарт. Ёй вярнулі пашпарт з пісьмом. Яно было з Крыма, ад Артура. Іна, не спяшаючыся, прайшла да століка, разарвала канверт і прачытала:

«Мілая Інэса! Толькі тут, далёка ад цябе, я зразумеў, якую вялікую зрабіў памылку. Я зразумеў, як цяжка жыць без чалавека, які ўжо даўно і моцна авалодаў і сэрцам, і думкамі, і кожнай хвілінай жыцця...»

— Прыязджай... Прыязджай,— ціха паўтарыла Іна апошнія слова з пісьма.— Чаго гэта так дрыжаць рукі?— яна прыціснула пісьмо да грудзей.— Толькі яго я кахаю па-сапраўднаму... Прыеду, Артур... Мы абавязкова зноў сустрэнемся... Толькі я ўжо не адна прыеду! Ой, што я нарабіла!.. Навошта?..

Іна паклала пісьмо ў сумачку, пасля дастала і парвала на кавалачкі. У сумачку паклала толькі канверт, абарваўшы на ім прозвішча адпраўніцеля.

Калі яна вярнулася з пошты, Анатоль з маці займаўся абсталяваннем свайго пакоя. Іна спынілася ў парозе. Не, не такога сямейнага шчасця яна жадала...

— Яна прыйшла — паможа,— чамусьці вельмі суха прамовіла маці і пайшла за дзверы. Анатоль, каб загладзіць няёмкасць, кінуўся да Іны, узяў з яе рук сумачку і летняе паліто, пацалаваў у руку.

— Аднак, ты сапраўдны кавалер,— усміхнулася Іна.

— Я твой муж. Гэта больш, чым кавалер,— сур'ёзна зазначыў Анатоль, дапытліва пазіраючы на яе.— Лепш, ведаеш што? Вось тут мы павесім тваю любімую карціну. Я зараз схаджу...

— Карціну прынясу сама,— з хітрынкамі ў вачах адказала Іна.— Там сумуе мачыха...

— Не давяраеш?— паківаў ён вялізным чубам.

— Мужчынам давярай ды правярай,— прыжмурылася Іна.— Можа скажаш, што ў цябе і на заводзе нікога не было?

Анатоль раззлаваўся:

— Я ж не пытаюся, дарагая, які ў цябе я — пяты ці дзесяты. Важны сам факт. Цяпер мы належым адно аднаму і павінны давяраць. Я мала надаю значэння мінуламу... Нават тваймў, дарагая...

— Ах, так! Ты намякаеш вельмі празрыста... Я пайду дадому! Я пайду...

Іна кінулася на ложак і, закрыўшы твар рукамі, пачала плакаць наўзрыд. А ў думках паўтарала: «Я люблю толькі Артура... Толькі яго».

Анатоль ужо шкадаваў, што залішне быў рэзкі. Стаяў сярод пакоя і не ведаў, як суцешыць пакрыўджаную жонку. Нарэшце падышоў і ўзяў за плечы.

— Ну, прабач... Пагарачыўся. Усё гэта глупства, Іна, я кахаю цябе і баюся страціць. Хочаш, паедзем адгэтуль. Я вазьму адпачынак і мы наладзім сапраўднае вясельнае падарожжа...

Яна ажывілася і зірнула на Анатоля.

— Куды паедзем?..

— Абы куды. Мне дырэктар абяцаў даць адпачынак. У мяне ёсць грошы. Паедзем.

Іна села, паправіла валасы і сказала з крыўдай у голасе:

— Цяпер вельмі добра на поўдні, у Крыму.

— Едзем у Крым!.. Абы далей адгэтуль...

Анатоль моцна пацалаваў яе ў вусны.

## 11.

«Якая дружная сям'я! І ўсе — дзеці»,— думала Галя, седзячы ў сталоўцы і чакаючы, пакуль прынясуць абед. Ёй прыгадаўся чарнавалосы Алік, сціплая Аня, яе чароўная музыка, і ўсё гэта здалося дзіўным, добрым сном. Яна закрыла твар рукамі і аддалася ўспамінам.

— Грамадзяначка, вагон далей не ідзе...— пачула яна голас Івана і адкрыла вочы.

— Напалохаў...

— Па начах трэба менш гуляць,— з сур'ёзным выразам твару зазначыў Іван.— Абед заказала?

— Вядома...

Яны крыху памаўчалі, кожны думаючы пра нешта сваё. Потым Іван распачаў гаворку пра свайго вучня.

— А я ніяк не магу зразумець яго,— сказала Галя.— Хлопец ён разумны, але нейкі дзівак....

— У кожнага чалавека сваё гора,— адказаў Іван.— Дзімка страціў бацькоў.

Галя рэзка ўзняла галаву і ціха спытала:



— Праўда? Учора я пазнаёмілася з адной сям'ёй. Уяўляеш, юнак страціў бацькоў і застаўся з малымі. Сястрою і братам...

У гэты момант афіцыянтка прынесла абед. Іван памог ёй саставіць на стол талеркі.

— І хто гэты юнак? — спытаў ён, калі афіцыянтка пайшла.

— Ён працуе на заводзе і корміць усю сям'ю!

— Цікава...

Афіцыянтка прынесла на спадачку плітку шакаладу «Шчаслівае дзяцінства».

— О! Каму гэта?— пацікавіўся Іван.

— Аліку, — адказала Галя. — Майму новаму знаёмаму.

— Аліку?..

— Так, а што?

— Можа і Ані?

— І Ані... Ты ведаеш?..

Іван паклаў на стол лыжку і задумаўся.

— Значыць, ты была ў Дзімкі на кватэры...

— У Дзімкі?— Галя паднялася з месца, узяла плітку шакаладу і шпарка пакрочыла са сталоўкі.

Дзімка, заставаўся ў цэху. Ён з'еў свой «сухі» полудзень і падышоў да станка. У яго раптам з'явілася адважная думка. «Толькі б не хвалявацца, не паспяшыць... Не забыць пра парадак працы»,— успомніў ён кадр з аднаго кінафільма.

Поўны рашучасці, ён ачысціў супарт ад стружкі, уключыў рубільнік. Ціха загуў станок.

— Паглядзіш! Не толькі чысціць станок можа Дзімка, як здаецца табе...

Вось ён замацаваў загатоўку, і разец пачаў рабіць сваю справу. Усё ў парадку. Дзімка дакладна паўтарае рухі Івана. Курчавіцца з-пад разца і крышыцца стружка. Як усё проста і лёгка!..

Дзімка спыніў станок, зняў яшчэ гарачую дэталь і паклаў побач з халоднымі дэталямі Івана. Паклаў і... спахмурнеў: яна была толькі падобна да іншых, але ж не такая... Не тыя памеры, форма...

Не справіўся ён схаваць сваю дэталь, як хтосьці з-за яго плячэй узяў яе ў рукі. Дзімка азірнуўся і ступіў крок назад. Перад ім стаяла Галя...

— Што?.. Не задаволены сваёй працай?..

Дзімка ад хвалявання і крыўды не мог знайсці слоў.

— Я.. я вельмі задаволен! Вельмі!— усклікнуў ён у роспачы.

— Няпраўда! У вас проста няма вытрымкі.

— Я не магу кожны дзень збіраць стружкі і чысціць станок... Мне неабходна стаць майстрам! Дзеля гэтага я ахвяраваў сабой, пайшоў на завод.

— Ахвяраваў? Сабой?— не стрымалася Галя.— Ну, ведаеш... Я сумняваюся нават у тым, што з цябе калі-небудзь атрымаецца майстар! Ты думаеш, быць рабочым — проста?..

— І не патрэбен мне ваш рабочы! Не патрэбен...

Дзімка рашуча накіраваўся да дзвярэй цэха...

На двары было горача і парна. У небе згушчаліся хмары. Здалёк даносіліся працяглыя грымоты...

«Будзе дождж»,— падумаў Дзімка, супакойваючыся. Перасекшы плошчу, ён апынуўся на бязлюднай, спакойнай вуліцы. На рагу спыніўся і доўга глядзеў на знаёмы асабняк з ружовым франтонам. Туды ён хадзіў з трапяткім сэрцам. А цяпер вось сэрца нават не забілася хутчэй. Гэта

добра, значыць мінула тое, што ён калісьці, зусім нядаўна, хацеў вырваць за адзін вечар.

Дзімка доўга блукаў па вуліцах, па парку, але нідзе не знаходзіў заспакаення. Толькі пасля шасці гадзін ён вярнуўся дадому.

У пярэднім пакоі, асядлаўшы акуляры, з кніжкаю ў руках сядзеў ля стала Антон Пятровіч. З другога пакоя даносіліся гукі скрыпкі. Дзімка падумаў: «Мне не хапае Анінай напорыстасці... Яна вельмі любіць сваю музыку, а я, відаць, не люблю працу...»

Антон Пятровіч падняў акуляры на лоб і моцна ляпнуў кніжкай па стале:

— Ну што, малады чалавек?.. З'явіліся...

— Добры вечар, Антон Пятровіч... Аня! — гукнуў ён сястру.—Згатуй нам чайку...

— Не трэба! — запярэчыў стары, устаўшы. — Я ненадоўга... І не па сваёй ініцыятыве, малады чалавек... Мяне паслала грамадскасць!

Дзімка смела глянуў суседу ў вочы.

— Што мне рабіць?

— Перш-наперш, давядзецца пісаць начальніку цэха тлумачальную запіску...

— Я не магу хадзіць на завод. Мне няма чаго там рабіць.

— Бач ты! Яго пусці хутчэй да станка і ён вытачыць бог ведае што замест дакладнай дэталі! Вучыцца трэба!..

Дзімка зразумеў, што стары ўсё ведае.

— Галя зрабіла несумленна, калі расказала вам.

— Мне нічога ніхто не гаварыў. А што датычыць Галі, то магу паведаміць, малады чалавек, што ў яе куды больш сумлення. Яна правільна лічыць, што ты двойчы дэзерцір!

— Я? Дэзерцір?.. Не цяжкасці палохаюць мяне, а бяздзейнасць!—запярэчыў Дзімка.— Кожны чалавек мае права патрабаваць працу па яго сіле і здольнасці. Вы не пераканаеце мяне, што чысціць станок гэта пачэсна, гераічна, самаахвярна. Агульныя словы. Я не хачу быць проста рабочым...

Антон Пятровіч выслухаў Дзімку ўважліва. Зноў сеў ля стала і доўга аб чымсьці думаў. Але па твары старога было відаць, што ў душы ён далёка не такі спакойны, як здаецца.

— Значыць, ты лічыш сябе на проста рабочым, а звышгеніяльным чалавекам, якому варта толькі захацець—і ён стане кім задумае? Так, так...—Антон Пятровіч уважліва змерыў Дзімку доўгім позіркам. — Скажы, малады чалавек... Хто адбудаваў гэты горад, якім ты дарэчы і недарэчы хвалішся? Хто даў жыццё гэтым мёртвым камяням? Рабочы! Гэтую столь, пад якой ты жывеш, стол, за якім ясі, вопратку, якую носіш, хто табе даў? Звычайны рабочы. За гэтыя сцены з прыгожым накатам, за зялёны ўбор вуліц перад кім ты павінен скідаць шапку? Перад рабочым, простым чалавекам, як ты гаворыш... А, па-мойму, просты той, хто нічога не стварыў для чалавека. Просты — ты, зялёны!— не ў сілах больш стрымаць сябе, закончыў Антон Пятровіч і выйшаў з пакоя...

## 12

У калідоры будынка заводакіраўніцтва Іван доўга размаўляў са сваімі таварышамі. Яны параілі зайсці да Арцёма. І вось ён спыніўся ля дзвярэй, на якіх вісела шыльда з надпісам: «Камітэт камсамола». Пастукаў і, крыху адчыніўшы дзверы, спытаў:



— Можна?

— Калі ласка!— пачулася ў адказ.

Іван зайшоў. У пакоі насупраць дзвярэй стаяў пісьмовы стол, а каля яго — другі, больш доўгі, пакрыты чырвоным сукном. На ім стаяў графін з вадою, дзве шклянкі. На сцяне вісела ў цёмнай дубовай аправе рэпрадукцыя вядомай карціны «У. І. Ленін на трэцім з'ездзе камсамола». Ля сцен — некалькі крэслаў.

Насустрач Івану з-за стала выйшаў Арцём Белы. Ён быў у сіняй трыкатажнай футболцы і карычневых у палоску штанах, спакойны і ўважлівы. «Валасы, як крыло вароны, сам смуглявы, вочы чорныя — які ён Белы?»— усміхнуўся Іван.

— Добры дзень, Арцём Ігнатавіч!— працягнуў ён руку.— Я наконт Дзімкі, майго вучня...

— Сядай, гавары...

Дзвюма рукамі Арцём паціснуў Івану руку і сеў за стол. Іван падставіў крэсла да стала і таксама сеў побач.

— Дык вось...— пачаў ён, прыжмурыўшы вочы.— Мне здаецца, што Дзімка чалавек не толькі разумны, але і таленавіты. Ён не вытрымае, пакуль кончыцца вучнёўскі стаж.

— Не разумею,— развёў рукамі Арцём.— Таленавіты, а не вытрымае стажу... Як гэта можа быць?

Грукнуўшы некалькі разоў у дзверы, у пакой увайшла ўзрушаная Галя. Убачыўшы Івана, яна ўзрадавалася.

— І настаўнік тут? Вельмі добра...— сказала яна і звярнулася да Арцёма.— Трэба гэта пытанне абмеркаваць на агульным камсамольскім сходзе!..

Арцём звярнуўся да Івана:

— Прапанова Галі — вынесці пытанне на агульны сход. Як ты думаеш?

Іван цвёрда адказаў:

— Думаю пакуль пачакаць лезці на трыбуну. У Дзімкі характар напорысты, сілай не возьмеш.

— О! Чуеш?— павярнуўся Арцём да Галі.— Па-ча-каць... А чаму? Вельмі проста. Ты патрабуеш сабраць амаль увесь завод і хорам чытаць мараль, пагражаць, патрабаваць, каб Дзімка схіліў сваю гарачую галаву перад усімі і сказаў: «Я больш не буду...»

— А як жа! Для чаго ж тады камсамольская арганізацыя?— сумелася Галя.

— Для таго, каб папярэджваць хваробу!— ужо сур'ёзна зазначыў Арцём.

У душы Галя згаджалася з хлопцамі. Дзімка мае сям'ю, ён зусім малады і нявопытны. З ім трэба абысціся інакш, не выносіць гэтае пытанне на камсамольскі сход...

Але голас сумлення гаварыў ёй і другое. А яна, дзяўчына, прыйшла на гэты завод не гэткая ж маладая? Галя тады адразу ўзялася за справу сур'ёзна і настойліва. І не лічыла гэта ахвяраваннем, і ні ў каго не прасіла скідкі на сваю маладосць, нявопытнасць. Праз вялікую працу, не раз хаваючы ад сяброў зморанасць, прыйшла Галя да цікавай сваёй прафесіі інструментальшчыка. Дык чаму ж яму, хлопцу, трэба расчышчаць дарогу да гэтай прафесіі? Навошта прывучаць яго да лёгкага шляху ў жыцці?..

Вось чаму, насуперак жаданню, Галя зноў, ужо менш настойліва, прамовіла:

— Значыць, прасіць яго: «Ах, паважаны Дзіма, ты памыліўся, не ра-

бі таго, не рабі гэтага, вось табе цукерка!» А ён ужо не маленькі! Ён — гаспадар у хаце, корміць дваіх дзяцей...

— Вось з гэтага і трэба пачынаць!— паказаў на яе пальцам Іван.— У Дзімкі цяжкае, складанае становішча. Вы ведаеце, што ў школе разам з ім вучылася нейкая Іна?.. З гэтай Інай Дзімка быў звязаны ўсёй душой. Ва ўсякім выпадку, да таго, як яна стала жонкаю нашага рыцара Карася... Гэта таксама трэба ўлічыць, таварыш Галя...

«Для чаго ён гэта ўсё мне гаворыць? Каб ведала, што сэрца Дзімкі ўжо належала адной?.. Эх, Іван, Іван! Які ты наіўны хлопец. Наіўны і сляпы... Я проста шкадую Дзімку, шкадую яго брацікa і сястрычку, а цябе люблю, Ваня...»— думала Галя, апусціўшы вочы.

— Дык якой ты думкі аб сваім вучні? Што прапануеш?— спытаў Арцём у Івана.

— Дзімка не з тых людзей, якія ад усяго лёгка адыходзяць. Ён наш, увесь наш!.. Мы павінны вярнуць яго на завод і дапамагчы... ва ўсім. А ў першую чаргу даць яму самастойнасць, экзаменаваць. Я падрыхтую яго за некалькі дзён...

— Правільна!— падтрымаў яго Арцём. —На Дзімку трэба ўздзейнічаць не адміністрацыйна, а толькі па-сяброўску...

Іван устаў і падышоў да Галі.

— Бачыш, без сходу вырашылі,— сказаў ён.— І вырашылі правільна...

Яна ўстала, хацела нешта адказаць Івану, але раздумала і, развітаўшыся з Арцёмам, пайшла за дзверы. У душы яна згадзілася з рашэннем, бо ведала, што гарачы па натуры Дзімка пабег з цэха часткова і па яе віне.

Доўга не спалася Дзімку ў тую ноч, ён варочаўся з боку на бок, але заснуць ніяк не мог.

Аня асцярожна падняла галаву, паглядзела на яго ложак. Яна адчувала, што ў Дзімкі непрыемнасць, але пытаць не хацела. «Трэба толькі добра глядзець за ім, каб не адчуваў адзіноты»...— вырашыла яна ў думках.

Дзімка сеў на ложку і цяжка ўздыхнуў.

— Што, Дзімка, галава баліць?— спытала, нарэшце, Аня.

— Балела... Прайшла ўжо,— адказаў Дзімка. Ускінуў на плечы пінжак, устаў.

— Куды ты?— захвалявалася Аня.

— Нікуды, спі...

Дзімка выйшаў на балкон і, не зачыніўшы дзвярэй, абапёрся на агарожу, прыслухоўваючыся да начных гукаў.

Горад спаў. Толькі заводскі раён дыхаў жыццём. Над ім ззяла ў цемені святло, успыхвалі агні электразварак.

— Працуюць... Людзі працуюць,— ціха прамовіў Дзімка.— А я?.. Дэзерцір...

Унізе прапаўзлі палівачныя машыны, імкліва пранеслася хуткая дапамога.

— Працуюць...— ціха паўтарыў Дзімка, пазіраючы ўніз.

Гарадскі гадзіннік прабіў чатыры разы. Дзімка схамянуўся. Паправіў на плячах пінжак. «Холадна», — падумаў Дзімка і пайшоў у пакой.

Мінулі яшчэ дзве гадзіны. Будзільнік паказаў шэсць. З рэпрадуктара пачуўся шум, а потым голас дыктара.

Дзімка падышоў да сцяны і выключыў рэпрадуктар. Потым павесіў пінжак у шафу, лёг. Не спаў, думаў. Зазваніў будзільнік. Прачнулася Аня.



— Дзімка... Дзімка!— паклікала яна.— Час ужо...

— Чую.

Дзімка падняўся з ложка і пачаў апранацца. «Пайду, зірну здалёк...»— падумаў ён пра завод.

Але чым бліжэй падыходзіў ён да заводскіх варот, тым больш хваляваўся.

Ля прахадной было ажыўлена. Дзімка спыніўся. Потым падышоў да латка, дзе прадаваліся папяросы.

Стаўшы з другога боку прахадной будкі, Дзімка закурыў. З непрывычкі адразу закружылася галава, занудзіла, ад кашлю на вочы набеглі слёзы.

— Вось, значыць, дзе вы!— пачуў Дзімка Галін голас і не паверыў сваім вушам. Усюды яна яго знойдзе!

Інстынктыўна, як вучань, схаваў папяросу.

— Дзень добры...

— Добры дзень... А я сабралася ісці да вас на кватэру,— пачала Галя. — Што ж вы таварышаў падводзіце?

— Мне няма каго падводзіць...

— Няпраўда!— перайшла яна на «ты».— Не толькі сяброў падводзіш, але і сястру, і брата...

Дзімка рэзка ўзняў галаву:

— Дык гэта ты за мною шпіёніш?

— Зноў няпраўда! А ведаеш, чаму ты такі бязвольны? Бо глядзіш на свет вачыма той мамчынай дачушкі.

— Ах, табе нават гэта вядома?..— здзівіўся Дзімка.— Што ж, мне нічога не застаецца, як прасіць ва ўсіх вас прабачэння!..

Ён зняў перад Галяй шапку і шпарка пайшоў у прахадную. Галя ледзь паспявала за ім.

## 13

Адпачыўшы з дарогі, Анатоль выйшаў да мора. Яно адчувалася здалёк. Надвор'е стаяла ціхае, але мора глуха шумела. Яно, здавалася, было жывое, уздыхала магутнымі сваімі грудзьмі, і кожны ўздых уздымаў новыя хвалі і каціў, каціў іх на сыпучы, нагрэты сонцам пясок...

— Як тут хораша!..

Іна ў акулярах ад сонца і ружовым купальніку хадзіла па беразе і збірала ракавінкі. «Сёння ў дзве гадзіны ля газетнага кіёску, што ў канцы вуліцы, будзе Артур... — Прыйдзе, хоць усё ведае... Што яму сказаць?» — думала яна.

Анатоль падбег да яе.

— Як здарова, Іна!— усклікнуў ён.

— Табе хораша са мною?— спытала Іна.

— Яшчэ як! — Яна адштурхнула яго. Смеючыся, жартам...

«Жыць усё ж сумна...— міжволі падумаў Анатоль.— Ганяешся за сваім шчасцем, як за казачнай жар-птушкай. А яно засвеціць і знікне. І няма яго...»

Іна, зірнуўшы на гадзіннік, раптам сказала:

— Ідзем дадому... Так згарэць можна.

Ён моўчкі падпарадкаваўся ёй.

— Купіў бы хоць газету... Мы зусім адарваліся ад жыцця, — нібы між іншым, сказала Іна.

— А дзе іх тут купіш... У горад ехаць, ці што?.. — адказаў ён.

Іна нахмурыла лоб, нібы нешта ўспамінаючы, і няўпэўнена сказала:
— Мне здаецца, на Усходняй недзе быў кіёск.
Яны запыталіся ў сустрэчнай жанчыны. Аказалася, што кіёск ёсць. Зусім недалёка, на рагу вуліцы...
Яшчэ здалёк Іна пазнала Артура. Ён быў у светла-шэрым касцюме. Усё такі ж кучаравы, высокі. Толькі валасы яшчэ больш пабялелі.
— Іна! — заўважыў ён яе і кінуўся насустрач. — Вось нечаканасць! Ты тут?..
«Вар'ят!.. Што ён робіць!» — падумала Іна, стала бліжэй да Анатоля.
— Як бачыш, тут, — усміхнулася яна.
— Ну, тады — добры дзень...
— Добры дзень, Артур. Знаёмся — мой муж,— і кіўнула галавою на Анатоля.
Мужчыны паціснулі адзін аднаму рукі, сустрэўшыся допытлівымі позіркамі.
— Гэта мой знаёмы яшчэ з сёмага класа. Я там два гады сядзела, разам з ім,— засмяялася Іна.— Ён быў прыняты на другі курс фізінстытута па разраду...
— Бывае, бывае, — сказаў Артур, і, перайшоўшы на «вы», дадаў: — Што ж... Віншую вас, Іна, так сказаць, з законным... Прыемна...
Анатоль пайшоў купляць газеты. Ён неяк хутка адчуў нешта большае, чым сустрэчу старых знаёмых. Як ні трымалася Іна, а вочы яе выдалі. Адзінае, што заўсёды выдавала яе, гэта вочы. Іх патрохі навучыўся разумець Анатоль.
— Вы не жадаеце з намі папалуднаваць?—раптам павярнуўшыся, прапанаваў Анатоль.— У мяне тут ніводнага знаёмага.
Ад нечаканага запрашэння Артур разгубіўся. Дастаў з кішэні прыгожую касцяную расчоску і, прычасаўшы валасы, сказаў:
— Ахвотна б... Але — справы... Я ж, так сказаць, на службе.
— Іна, папрасі ты. Жанчын лепш слухаюцца.
— Ну, не ўпірайцеся, Артур,— папрасіла Іна, не ведаючы сама, радавацца гэтаму выпадку ці не.
І вось яны ўтрох вярнуліся дадому. Гаспадыня даўно чакала іх: на століку, які быў вынесены на веранду, ужо стаялі талеркі і чарачкі.
— Ой, каго гэта я зараз пачастую!— усклікнула яна.— Прагаладаліся, нябось, ля мора? Ой, яно наганяе апетыту!..
Іна зірнула на стол, на гаспадыню і змянілася ў твары: стол быў падрыхтаваны на чатырох! Гаспадыня ціха войкнула і хуценька пачала «наводзіць парадак» на стале. Адна чарка і талерка зніклі. Усё гэта не прайшло міма ўвагі Анатоля, але ён не падаў выгляду.
— Што вы нарабілі!— адразу накінулася на гаспадыню Іна, як толькі яны засталіся ўдваіх.— Падрыхтаваць стол на чатырох, а сустрэчу зрабіць выпадковую... Ён жа мог і не прыйсці.
— Здаецца, усё абышлося...— вінавата апраўдалася гаспадыня.— Не прадугледзела, даражэнькая, прабач... — прыціснула яна да грудзей рукі.— Памяць у мяне нікуды не вартая...
— Не прагаварыцеся, што мы з Артурам былі ў вас летась... Ясна?
— Ой, памяць стала!..
Іна заўважыла хітрынкі ў вачах таўстухі і паклала перад ёю на стол пяцьдзесят рублёў.
— Не прагаворыцеся?
Гаспадыня лоўка скрабанула рукою па стале — грошы зніклі.
— Навучы яшчэ! Я з Артурам не знаёма...



З-за кустоў вынырнуў Анатоль, з ім — Артур. Яны аглядалі сад, ужо добра, відаць, пазнаёміліся, жартавалі, размаўлялі на «ты».
— Вы гатовы? А то мы з голаду...— сказаў Анатоль.
Гаспадыня прынесла назад чарачку і талерку, паставіла насупраць Артура і прамовіла:
— Прабачце, на вас не разлічвалі... Э-э... Выбачайце, як вас завуць?
— Проста — Ар-тур,— працягнуў ён руку гаспадыні.
Анатоль задумаўся. Цяпер ён інакшымі вачыма паглядзеў на Іну. Што азначае гэтая сустрэча з Артурам? Шчырая яна, Іна, ці вельмі хітрая? Якія адносіны былі ў яе з Артурам, Дзімкам і хто ведае з кім яшчэ?..
Ён адчуваў, што, знайшоўшы адказ на першае пытанне, будзе лёгка адказаць і на ўсе іншыя.

## 14

Антон Пятровіч доўга крыўдзіўся на Дзімку. Гэта ж сам прывёў яго на завод, і ўсе непрыемнасці — яму, старому кадравіку.
— Завод абыдзецца і без яго!— гаварыў Антон Пятровіч жонцы.— А ён без завода загіне...
Але аднойчы раніцою стары не стрываў, спыніўся ля Дзімкавых дзвярэй, паслухаў.
Якраз у гэтую хвіліну выйшаў сам Дзімка. Яны, як ні ў чым не бывала, прывіталіся і моўчкі пайшлі ўніз.
— Вы мне даруйце, Антон Пятровіч...— пачаў было Дзімка, але той, здавалася, не слухаў яго.
— Падумай добра, парайся з сваім сэрцам, Дзімка. Завод — гэта не прахадны двор!
— А я падумаў, уцякаць больш не буду... Вось хутка здам экзамен, стану за станок! Свой...
Стары змоўчаў. Толькі, калі падышлі да тралейбуснага прыпынку, сказаў:
— Падзякуй сябрам, што заступіліся, а я настойваў, каб звольнілі...
Дзімка ведаў, што гэта сказана для таго, каб ён падумаў над сваімі паводзінамі. Ніколі ў жыцці Антон Пятровіч не будзе настойваць на «крайніх мерах». Ён задаволена ўсміхнуўся, адчуўшы, што з суседам зноў заключан трывалы мір...
Ля станка Дзімка моўчкі кіўнуў Івану.
— Добрай раніцы! — весела адказаў той. — Пачнем?
— Пачнем...
Цэлы дзень Дзімка пад наглядам Івана замацоўваў дэталі, выточваў прасцейшыя формы, уключаў і выключаў станок... Самастойна.
А дома, сёе-тое схапіўшы на хаду, ён садзіўся за стол і пад музыку, якая даносілася з суседняга пакоя, дзе рыхтавалася да экзаменаў Аня, вучыў тэхналогію рэзання металаў, будову станка...
— Супарт, станіна, хадавы вінт... — бясконца паўтараў ён, і Алік, гэты непаседа, пачынаў ужо дражніць яго:
— Шупарт, штаніна!..
Так міналі дні...
І вось настаў час, калі Дзімка павінен быў паказаць сваё майстэрства людзям...
Выпрабаванне павінна было адбыцца пасля абедзеннага перапынку.

У сталоўцы наўкруг стала сядзелі трое: Галя, Іван, Дзімка... Галя супакоіла Дзімку:

— Урэшце, няма чаго хвалявацца... Прымаць экзамен будуць свае, не чужыя. А ты ўжо сваю справу добра ведаеш...

Неўзабаве гудок абвясціў, што перапынак скончаны. Ёкнула сэрца ў Дзімкі, але ён ішоў у цэх спакойнай, нетаропкай хадою чалавека, даўно прызвычаенага да сваёй працы і абавязкаў, хадою не госця, а гаспадара.

Ля Іванавага станка ўжо сабраліся начальнік цэха, інжынер, некалькі рабочых.

— Пачынай! — падаў каманду начальнік цэха.



Дзімка ступіў да станка, замацаваў неапрацаваную дэталь. Уключаны матор загуў рытмічна, ціха. Дзімка не спяшаўся. Падвёў разец да дэталі, і з-пад яго залатым россыпам шуганулі іскры...

Іван паглядзеў на Галю. Яе нельга было пазнаць: твар яе выцягнуўся, застыў у напружаным чаканні, вочы нерухома глядзелі на дэталь, на разец.

«А супакойвала»... — падумаў Іван. Ён не хацеў раней думаць, што калі-небудзь Дзімка можа стаць на яго дарозе, а цяпер задумаўся. «Не, трэба прызнацца ёй, вырашыць... А то будзе позна...»

Нарэшце, матор замоўк. Дзімка зняў дэталь, яе адразу падхапілі чыесьці рукі. Ён не заўважыў — чые... Адчуваў толькі, што ля станка стала ціха-ціха.

Ішлі ў ход і кронцыркуль, і мікрометр, і сталёвая лінейка.

Маўчанне парушыў інжынер. Ён паклаў у нагрудную кішэнь мікрометр і, усміхаючыся, сказаў:

— Цудоўна!..

— Ну, вось... І прайшло... — паціснула яму руку Галя.

Дзімка ўдзячна паціснуў ёй руку і заружавеўся. Потым павярнуўся і накіраваўся да Антона Пятровіча ў кавальскі цэх:

— Вось... Я зрабіў! Сваімі рукамі...

— Пакажы, што ты зрабіў,—падаўся яму насустрач Антон Пятровіч.

Антон Пятровіч спакойна ўзяў дэталь у рукі, агледзеў яе з усіх бакоў і нечакана кінуў у горан, што сінім агнём палаў побач з молатам...



— Ой! — усклікнуў Дзімка і кінуўся да полымя, але адразу ж адскочыў назад. На яго вачах з'явіліся слёзы.

— Што вы зрабілі!.. Што зрабілі... Гэта ж мая...

Антон Пятровіч паклаў руку яму на плячо:

— Пашкадаваў?... Ведаеш вартасць сваёй працы? Добра... А кожны наш рабочы штодня робіць сотні такіх дэталей!

— Гэта ж я зрабіў...

Нарэшце, стары ўсміхнуўся:

— Вось гэтага табе і не хапала! Ідзі, сын мой, цяпер ты другі чалавек. З цябе выйдзе добры майстар...

## 15

Анатоль прачнуўся позна, Іны ў пакоі ўжо не было. Чамусьці не хацелася ўставаць. Ён ляжаў і ўспамінаў Кацю. Як гэта ўсё тады здарылася? Яна хацела, каб тое здарылася, а не ён. Ён зусім не вінаваты...

— Чорт! Як усё гэта брыдка! — вылаяўся Анатоль і ўстаў з ложка.

— А-а-а, цяпер табе брыдка! А ўчора было вельмі прыемна...

Толькі цяпер ён заўважыў Іну. Яна стаяла ля расчыненага акна. У сваёй белай сукенцы яна была зусім непрыкметнай побач з белай, доўгай, да падлогі, фіранкай.

Анатоль апрануўся, падышоў да яе.

— Іна, зразумей... Я не хачу тваіх кампаній...

Іна павярнулася да яго. Колькі злосці ўбачыў Анатоль у халодных, зусім не прыгожых вачах!..

— Ты што мне абяцаў?.. Пакорлівасць? Дзе яна, твая пакорлівасць? Не будзем ужо гаварыць пра каханне... Ты ніколі не кахаў мяне.

— Я хачу спакою! А тут чорт ведае што...

— Я прывыкла жыць сярод людзей...

— Але ж гэтыя людзі нам каштуюць грошы!

— Вось, вось, — паказала на яго пальцам Іна. — Грошы!.. Ты хваліўся, што ў цябе іх многа, а хапіла толькі прыехаць сюды і пражыць у чалавечых умовах пару дзён. Цяпер засталося толькі на білеты, каб даехаць дамоў...

Ён не хацеў ускладняць адносіны, не любіў спрэчкі і здаўся. «Яе праўда, жыць трэба, як належыць маладажонам, — весяліцца, быць на людзях, святкаваць гэты першы месяц...»

— Ну, не трэба, Іна, — падабрэў Анатоль. Паклаў ёй рукі на плечы. — Пакуль я жывы, грошы будуць! Хочаш, я пайду ў горад і дам тэлеграму...

Іна ўздыхнула.

— Як мне цяжка з табою... Невыносны характар...

Да пошты Анатоль пад'ехаў на таксі. Падышоў да акенца прыёму тэлеграм, узяў бланк і размашыстым почыркам напісаў: «Пільна патрэбны дзве тысячы рублёў...» Потым закрэсліў лічбу, падумаў. Узяў новы бланк, напісаў спачатку: «Пільна патрэбны тры тысячы рублёў. Тэрмінова вышліце лік аванса. Прывітаннем Карась».

Выйшаўшы на вуліцу, Анатоль скіраваў да стаянкі таксі.

— Усходняя дзесяць! — кінуў ён шаферу. — Гані!

Адчуўшы, што пасажыр спяшаецца, шафёр гнаў машыну так, што яна, здавалася, гатова была развваліцца на часткі.

Увайшоўшы ў сад, Анатоль моцна бразнуў калiткай i на момант застыў у нямым здзiўленнi: яму здалося, што з другога боку саду над плотам мiльганулi белыя тапачкi. Ён падаўся да будана. «Калi яна там, то сумненне быць не можа!» — падумаў Анатоль.

Iна адпачывала. Убачыўшы Анатоля, схапiлася за расшпiленую кофтачку рукамi i ўсклiкнула:

— Ой!.. Напалохаў! Цьфу, цьфу, цьфу... Толькi задрамала...

— Задрамала?..

— Ага. Але ты так хутка... Тэлеграму даў?.. Што ты так глядзiш на мяне?.. Га?!

Анатоль моўчкi сагнуўся i падняў з коўдры белую касцяную расчоску Артура.

— Вось... Прычашыся крыху... Дужа валасы паблытаныя ў цябе. Быццам чэрцi iх дралi...

Iна спачатку сумелася, але тут жа смела глянула на мужа:

— Каму патрэбен такi грозны выгляд? Што здарылася?

— У цябе хапае смеласцi яшчэ пытацца? — сцiснуўшы кулакi, глуха вымавiў Анатоль. — Дык набярыся ж смеласцi сказаць, што ён тут быў... Ну! Маўчыш?.. Чыя гэта расчоска?!

— Цьфу, дурань! — сумна i на дзiва спакойна сказала яна. — А я думаю, што з iм такое... Гэта Артурава расчоска. Ён яшчэ ўчора яе забыўся.

— Я... Веру табе, Iна... — сказаў Анатоль i паволi пайшоў за калiтку.

Ён апынуўся ля мора, на тым месцы, дзе зусiм нядаўна трымаў Iну на руках i думаў, што быў шчаслiвы... Дзе яно, тое шчасце?

Шуршыць пад нагамi пясок, перасыпаны дробнымi каменьчыкамi. Лёгкi вецер з мора прыемна асвяжае твар, дыхаецца вольна, лёгка. Iшоў бы ён так бясконца, не азiраючыся, нi аб чым не думаючы, аж да самага дому.

Анатолю раптам так захацелася на родны завод, што ажно прыбавiў ходу. «Да працы, да сяброў! Сябры... Цi ёсць яны ў мяне? Iван, напэўна, пакрыўдзiўся за тое, што «зорачку» я прысвоiў... Фактычна, не мая ж яна, а ўсiх, я толькi першы выказаў думку... А Дзiмка — сябар мне? Хiба сябры адбiваюць любiмых дзяўчат?»

Раптам далёка ў моры Анатоль заўважыў маторку. Яна падыходзiла да берага ўсё блiжэй i блiжэй. I вось ужо ўткнулася ў пясок носам зусiм недалёка. Матор заглух.

— Анатоль! Садзiся, пакатаю з вецярком!..

Чый гэта голас? Ды гэта ж Артур!.. Адкуль ён узяўся тут, на моры з лодкаю?.. Анатоль неўзабаве апынуўся ля маторкi. Здзiўлена пазiраў на Артура i не мог вымавiць нi слова.

— Ну, здароў! — выскачыўшы на пясок, прамовiў Артур i моцна пацiснуў Анатолю руку. — Што, яшчэ пасля ўчарашняга не ачуняў? А здорава ты лiзнуў!..

Анатоль глянуў Артуру на ногi. «Карычневыя сандалеты»...

— Здароў... Што адзiн катаешся? — непрыязна адказаў Анатоль.

— А я да цябе еду.

— Да мяне?

— Ага... Па-першае, пасля ўчарашняга асвяжыцца марскiм паветрам вельмi i вельмi неабходна; па-другое, я ўчора Iне абяцаў пакатаць яе на лодцы; па-трэцяе, мы...



— Досыць i другога!.. — раптам усмiхнуўся Анатоль. — Калi абяцаў Iне, то няма нiякай гамонкi!

Артур запусцiў пецярню ў валасы i, скрывiўшыся, сказаў:

— Вось гора... Я ўчора недзе згубiў расчоску. Дробязь, але, як памяць... Мне яе купiла сястра, бо я заўсёды во-ось такi хадзiў, — ускалмацiў ён свае валасы.

«Няўжо здалося?.. Белыя тапачкi», — падумаў Анатоль i адказаў:

— Ёсць, ёсць твая расчоска! Едзем, Артур, да мяне, едзем па Iну...

Днi праз тры пасля гэтага выпадку Анатоль атрымаў тэлеграму не ад дырэктара, як ён спадзяваўся, а ад галоўнага бухгалтара. У ёй былi толькi два словы: «Авансе адмоўлена».

— Вось, глядзi!.. — злуючыся, Анатоль паказаў тэлеграму Iне. — Як адразу забылiся...

Iна, на дзiва, не пачала яго папракаць, а толькi паспачувала:

— Ты не бядуй, Толя. Я дам бацьку тэлеграму. Ён-то мне не адмовiць, хоць i пакрыўдзiўся...

У гэты дзень яны падлiчылi свае рэсурсы: было тысяча рублёў.

— Гэтага нам хопiць! — весела сказала Iна. — А на дарогу бацька вышле.

I яны пайшлi гуляць не да мора, як звычайна, а ў бок горада, дзе быў цудоўны гай з таполяў i лiп. Анатоль убачыў невялiкую бухтачку з маторкамi i адразу ж падумаў: «Артур мог тут узяць лодку i, выехаўшы ў мора, развярнуцца назад...» Ён i сам не ведаў, наколькi правiльная была гэта думка. Аднак адагнаў яе ад сябе, як непатрэбную. Ён моцна любiў Iну...

Яны ўзышлi на ўзгорак.

— Як тут здорава! — у захапленнi сказаў Анатоль. — Чаго ты маўчыш, Iна?

— Я думаю, Толя, — адказала яна. I раптам яе ласкавыя вочы ўспыхнулi гневам. — Ой! — усклiкнула яна, ухапiлася за яго руку i пачала цяжка парывiста дыхаць, не зводзячы вачэй з берага. Ён глянуў туды i заўважыў Артура. Той стаяў унiзе, плячыма да iх, абдымаючы чарнавалосую дзяўчыну ў стракатай сукенцы.

— Гэта ж Артур! Чаго ты спалохалася? — засмяяўся Анатоль.

Iна гнеўна глянула на яго i праз зубы працадзiла:

— Вось iменна — Артур!

— I-iна! — крыкнуў Анатоль. — Ты... прыехала сюды дзеля Артура!..

Ён схапiў яе за руку, але яна вырвалася i, гледзячы на Анатоля злоснымi, прыжмуранымi вачыма, прамовiла:

— Якi ты ўсё ж дурань! — i што было сiлы пусцiлася з узгорка. Анатоль паволi пайшоў следам. Яму цяпер усё стала ясна. Цi толькi цяпер? Яму было ўсё ясна i раней, але ён закрываў вочы, стараўся не заўважаць. Калi ён стаў такi бязвольны? Цяпер... Цi быў такi заўсёды? «Слава адняла волю, ускружыла галаву», — падумаў Анатоль, спынiўшыся воддаль ад Артура i дзяўчыны.

— Вось ты якi! — казала Артуру Iна. — Я верыла табе! А ты...

Анатоль глядзеў на ўсё гэта абыякава, быццам справа датычыла толькi Iны, Артура i той чарнявай дзяўчыны, а не яго.

«Скончана сямейнае жыццё, — думаў ён. — Цяпер працаваць!.. Быць з людзьмi, чалавекам...»

Гаспадынi дома не было. Анатоль хуценька сабраў свае рэчы, паклаў у сумку Iны ўсе грошы i пешшу пусцiўся ў горад, на вакзал.

## 16

Галя жыла ў новым заводскім доме на трэцім паверсе. Яе дзесяціметровы пакойчык меў даволі прыстойны выгляд. На акне віселі доўгія, да падлогі, фіранкі, дзверы былі завешаны прыгожым кітайскім габеленам, падлогу ўсцілаў зялёны, нібы маладая трава, дыван з ружовымі, дробнымі кветкамі. У кутку на століку стаяў тэлевізар.

Памыўшыся і пераапрануўшыся, Галя села да стала і падпёрла галаву рукамі.

«Вось і ўсё з ім... Атрымаў станок, пойдзе ў людзі. Як хораша на сэрцы! Я так за яго хвалявалася... Больш, чым за сябе, калі здавала экзамен. Больш...» — падумала яна.

Калі б Дзімка часцей усміхаўся, то ён быў бы вельмі прыгожы. Ведала яна — не многа бывае ў яго вясёлых хвілін, каб усміхацца, няма ў яго вялікай радасці, сямейнага дабрабыту. Няма... А ў яе ёсць сямейны дабрабыт? А яна часта ўсміхаецца? Вось, калі б ім разам быць, памагаць адно аднаму... А як Іван? Ён жа любіць яе і падабаецца ёй.

Стук у дзверы перапыніў яе мары. Як жа яна была здзіўлена, калі адчыніліся дзверы.

— Ой, Ваня! — спахапілася яна. — Не чакала, у мяне тут не прыбрана...

Іван акінуў беглым позіркам пакой і ўсміхнуўся:

— Чаму гэта ўсе дзяўчаты, калі да іх заходзіш, любяць гаварыць, што не прыбрана? Ну, зрабі лепш, чым ёсць!..

Галя засмяялася:

— Твая праўда! Сядай на крэсла... Я тут прымайструюся.

Іван сеў, па звычцы абапёрся локцем на стол і даланёй прыкрыў чырвоную пляму на шчацэ ля вока.

— Я хачу пагаварыць з табой пра Анатоля, — пачаў Іван сур'ёзна. — Вясною ён у адпачынку быў?

— Быў.

— З дырэктарам тыдні два ездзіў?

— Ездзіў...

— Цяпер атрымаў адпачынак на цэлы месяц... Ну, скажы, гэта справядліва?

Галя паціснула плячыма:

— Не задумвалася, прызнацца, над такім пытаннем.

— А-а, вось бачыш, — папракнуў яе Іван. — Цяпер слухай далей... Возьмем «зорачку». Тэхсавет зацвердзіў наш групавы варыянт, пасланы ж чарцяжы ў Маскву. Пры чым тут Карась?.. Так і сапсаваць чалавека не доўга. Што чакае Карася? Рас-ча-ра-ванне! — закончыў Іван.

Галя прыкусіла верхнюю губу і падумала: «Чорт з ім, з Анатолем... Не хапала яшчэ, каб па ім галава балела. Выскачка. За лёгкай славай пагнаўся». У яе былі больш важныя пытанні; і яна павінна іх высвятліць. Цяпер...

— Ваня, — раптам пачала яна так лагодна, што Іван насцярожыўся. — От скажы, Ваня, як сябру... Калі, скажам, дзяўчыне быў да спадобы адзін хлопец, а потым спадабаўся другі. Ці добрая яна, тая дзяўчына?..

— Н-не ведаю, Галачка... Наконт гэтага яшчэ няма навуковага даследавання... — і, сумна пазіраючы на экран тэлевізара, ён дадаў: — Калі б, скажам, палюбіла такая дзяўчына, як ты, то я не сумняваўся б...

— Я сур'ёзна пытаюся, Ваня... — тым жа тонам прамовіла Галя. — Лёгкадумная яна ці...



— У цябе закурыць можна? — раптам спытаў Іван. — Ці лепш выйду ў калідор...

— Не, не, што ты! Куры! — запярэчыла Галя. — Я адкрыю акно...

Пакуль яна адчыняла акно, ён гаварыў:

— Мне, напрыклад, падабаюцца тры дзяўчыны... Са знаёмых. Любіць жа траіх адразу я, вядома, не магу. Я магу любіць толькі адну, а дзвюх другіх — паважаць, дружыць з імі. Так, мусіць, прыдзецца зрабіць і той, што палюбіла двух хлопцаў...

«Ён мяне толькі паважаў... Дружыў», — чамусьці адразу за гэтыя словы ўхапілася Галя, і ў яе крыху адлягло на сэрцы.

І не думала ў гэтую хвіліну Галя, што Іван прыйшоў сёння якраз дзеля таго, каб прызнацца ёй у каханні. Галя апярэдзіла яго, аказалася смялейшай, і ён не стаў навязваць ёй сваёй думкі. Ён даў ёй волю.

— Ты не чуў?.. Аня будзе здаваць экзамен для паступлення ў музычнае вучылішча...

«Якая Аня? Аб чым яна? А-а, — успомніў Іван. — Гэта сястра Дзімкі».

— Не, не чуў...

— Будзе канцэрт з яе ўдзелам...

— Пойдзеш?

— Абавязкова!.. Каб ты ведаў, Ваня, што гэта за дзяўчынка! — у захапленні гаварыла Галя. — А хлопчык, Алік, такі кучаравы, разумны, не кажы... Раз падвёў мяне да партрэта маці і гаворыць: «Наша мама памёрла, але ты, цёця, не скажы Дзімку, што я ведаю...» Ім так не хапае добрай жаночай ласкі, руплівых рук...

Праз некаторы час Галя, схаваўшыся за фіранкай, глядзела ўніз. Там, усунуўшы рукі ў кішэні, Іван паволі крочыў па тратуары.

## 17

Дзімка прыйшоў на змену раней за ўсіх. Спыніўся ля дошкі паказчыкаў і задаволена ўсміхнуўся: на ёй ужо было напісана яго прозвішча.

У адчыненых дзвярах цэха раптам з'явіўся Пеця, той рабы Пеця, з якім яны пасля выпускнога вечара паспрачаліся і, не прымірыўшыся, разышліся.

«Ён адзін паступіў... Журналіст!» — падумаў Дзімка і пачакаў таварыша.

— Дзімка! — раптам усклікнуў той, убачыўшы яго.

— Пеця!..

Яны прывіталіся.

— Думаю, хто гэта тут за начальніка цэха! — засмяяўся Пеця, агледзаючы рабочую вопратку Дзімкі.

— Вось яшчэ!.. Знайшоў дастойнага чалавека, — таксама смеючыся, адказаў Дзімка. — Гэта ўсё роўна, каб я зблытаў цябе з дэканам факультэта.

— Я ім буду! — падняў угору палец Пеця.

— Тады і я буду начальнікам цэха! — не адстаў Дзімка. Ён запрасіў Пецю сесці на скрынку з-пад дэталей. — Якія шляхі прывялі цябе сюды?

Пеця сеў і з гордым выглядам зазначыў:

— Ты разумееш... Думаю напісаць нарыс, як кажуць, мець свой літаратурны твор.

— Пра наш завод? — спытаў Дзімка.

— Пра людзей вашага завода... — зазначыў Пеця. — Прыйшоў пазнаёміцца...
— Думаю, мяне ты ведаеш добра...
— Не падыдзеш.
— Чаму ж?
— Што пісаць пра цябе? Ты рацыяналізатар?
— Не.
— План выконваеш на некалькі сот працэнтаў?
— Зрабіў першую дэталь!..
— Вось бачыш... Мне патрэбны людзі вядомыя, як кажуць, тыя, што чытаюць лекцыі для вучоных!
— Ты гэта сур'ёзна? — прыжмурыўшыся, спытаў Дзімка. — А звычайныя, радавыя людзі цябе не цікавяць?
— Не... Што з іх узяць? І нарыс яшчэ рэдакцыя не прыме.
Вочы Дзімкі загарэліся.
— А ты знаеш, што просты рабочы, які з дня ў дзень вырабляе свае дэталі, якія ў машынах нават не будуць прыкметны, — волат!..
— Ну, гэта натуральна...
Дзімка загаварыў яшчэ больш узрушана:
— Зусім не натуральна! У школе нам гаварылі, што навука зробіць нас вялікімі. Узносілі герояў, лаурэатаў. І нам здавалася, што той, хто не можа такім стаць — нішто, бядак, якога варта толькі пашкадаваць. Чаму? Хто гэта сказаў?.. Жыццё ствараюць звычайныя, радавыя людзі. Іх мільёны! Знатныя ж — адзінкі...
Пеця ўстаў і, паклаўшы Дзімку руку на плячо, сказаў:
— Ты стаў іншы, Дзіма... Не крыўдуй на мяне, я пажартаваў. Я напішу пра звычайнага чалавека, як ты гаворыш... Напішу... — сказаў на развітанне Пеця.
Дзімка кіўнуў яму ўслед і пачаў рыхтаваць сваё рабочае месца...
І пасля, пад рытмічную музыку станка, Дзімка ўспамінаў першы дзень, калі прыйшоў на гэты завод, першыя сустрэчы з Анатолем, Іванам, Галяй...
Ён азірнуўся туды, дзе віднелася яе белая хусцінка, і лёгка-лёгка ўздыхнуў... Цяпер яна была самым блізкім, самым жаданым для яго чалавекам.
Калі Дзімка, змораны, але шчаслівы, прыйшоў дадому, яшчэ ў калідоры пачуў звонкі голас Аліка:
— Вось табе, вось табе!..
Адчыніўшы дзверы, Дзімка міжволі ўсміхнуўся. Аня ляжала нічком на ложку, Алік сядзеў у яе на спіне і што было сілы біў кулачкамі ў плечы.
— Алік! — Дзімка падышоў і ўзяў брата на рукі. — Ты чаго гэта разышоўся, га?
— Аня кажа, што я не пайду на канцэрт... — ледзь не плачучы, адказаў той.
— На які канцэрт? — здзіўлена спытаў Дзімка.
— На яе...
— На твой канцэрт? Сёння?
Аня паднялася з ложка.
— Валянціна Мікалаеўна гаварыла, што я сёння буду іграць у паказальным канцэрце...
— Дык чаму ж ты маўчыш і не збіраешся?!
— Я так баюся...
— Яна баіцца! — усхапіўся Алік. — Кажа, правалюся.
— Баяцца няма чаго... Трэба верыць у свае сілы, тады ўсё будзе добра, — падбадзёрыў сястру Дзімка і пайшоў на кухню. Прынёс хлеб, талеркі, лыжкі, паставіў сярод стала эмаліраваную каструлю і зняў крышку. — Чым сёння будзеш нас з Алікам карміць?..
У гэты момант адчыніліся дзверы і на парозе з'явілася Галя. Яна была ў шарсцяной сукенцы, у лакіраваных басаножках. Чорныя косы, выкладзеныя на галаве, надавалі твару строгасць.
— Я так і ведала, што трапплю на абед! — весела ўсклікнула яна ад дзвярэй. — А гэта табе... — і паклала перад Алікам вялікі ананас.
Колькі таму было радасці! Аня паставіла на стол чацвёртую талерку, а Дзімка мігам прынёс з другога пакоя яшчэ адно крэсла.
— З гэтага дня, — сказаў ён, — крэсла і талерка будуць чакаць цябе заўсёды...
Галя кіўнула галавою ў знак згоды і села за стол...
Калі яны прыйшлі ў палац культуры, вялізная зала ўжо была поўная. Галя прыкмеціла Івана, Арцёма, Антона Пятровіча з жонкаю, Анну Аляксандраўну...
— Ідзём туды, да сваіх! — пацягнула яна Дзімку. «Да сваіх! Як гэта добра!» — падумаў Дзімка, ідучы за Галяй. Яны прывіталіся з усімі. Іван пазнаёміў Анну Аляксандраўну з Галяй.
І вось адкрылі заслону...
Аня, у белай сукенцы з ружовай кветкаю на грудзях, стаяла на самым краі сцэны, а за ёю размясціўся сімфанічны аркестр. Яна ўскінула да падбародка скрыпку, падняла смычок. Ціха і лагодна паліліся прыгожыя гукі. Канцэрт пачаўся...
Дадому ішлі разам: Галя, Аня, Алік, Дзімка...
— Валянціна Мікалаеўна сказала, што мяне прымуць у вучылішча! — радасна гаварыла Аня. — І яшчэ нейкія дзядзькі сказалі, што ў мяне талент...
— Ты будзеш вучыцца, Аня, — пагладзіла яе па галаве Галя. — Абавязкова...
А потым, дома, калі малыя ўклаліся спаць, Дзімка падаў Галі яе сумачку і сказаў:
— А мо' застанешся ў нас... На канапе пераспіш, заўтра ж нядзеля.
Галя паківала пальцам і строга сказала:
— Ты мяне толькі не зблытай з Інай!
Ён раптоўна сціснуў яе ў моцным абдымку і пацалаваў.
— Вось! Вось!.. На злосць табе... З Інай гэтага ў мяне не было ніколі. Цяпер можаш злавацца...
І калі на калідоры сціх тупат яе ног, Дзімка пачуў, як ціхенька рыпнулі дзверы спальні. Ён хутка падышоў і тузануў іх...
За дзвярыма, апусціўшы галаву, стаяла Аня.
— Т-ы?.. — спытаў Дзімка.
— Я... я хацела напіцца...



Дзімка запаліў святло і паказаў на тумбачку, што стаяла каля ложка: на ёй быў поўны графін вады.
— Бачыла нас?
— Бачыла... Я не маленькая ўжо... Яна будзе ў нас?
— Анечка! Я такі шчаслівы!.. Будзе, Анечка, будзе!..
— Галя такая харошая, Дзімка...
Зноў Дзімка не спаў ноч, але гэтая ноч была радаснай для яго.

## *Дарогамі сямігодкі*

**Вера ПАЛТАРАН**

# ЖЫЦЦЁ НАБІРАЕ РАЗГОН

### Палескія замалёўкі

«Та-та-тах, та-та-тах, та-та-тах», — спяваюць сваю адвечную дарожную песню вагонныя колы. Пачуўшы гэты знаёмы напеў, маладыя бярозкі і хвойкі навыперадкі бягуць насустрач поезду. Падняўшыся на пальчыкі, яны на момант заглядваюць у вокны і гэтак жа хуценька адбягаюць назад.

Старыя баравыя сосны хмурацца здалёк на гэтае дзіцячае блазенства. Потым, не вытрымаўшы сур'ёзнасці, яны паважна паварочваюць свае кашлатыя галовы і доўга пазіраюць услед поезду ў маўклівай задуменнасці.

Густыя клубы паравознага дыму і пары шчыльнымі воблакамі плывуць ля вокан вагона і паволі таюць у паветры. Калі ж наляціць вецер і рассцеле такое воблака па чорных пратталінах, тады здаецца, што гэта дыхае сваім цёплым дыханнем прыгрэтая першым вясновым сонцам зямля.

За вокнамі праплываюць прыгожыя палескія краявіды, але тыя, хто едзе ў вагоне, не зважаюць на іх: мусіць, нагледзеліся за свой век, ездзячы па гэтай дарозе. Ім куды важней завесці гаворку са свежым чалавекам, падзяліцца сваімі думкамі, разведаць навіны.

Толькі час ад часу, калі поезд запаволіць свой бег, хто-небудзь з заўзятых гаваруноў падхопіцца з лаўкі і ў трывозе прынікне да акна: ці не яго гэта станцыя; праз момант, супакоены, ён зноў вяртаецца да перапыненай размовы.

У вагоне стаіць рознагалосы гоман. Цячэ павольная дарожная гаворка пра знаёмых, пра навіны, пра тутэйшыя мясціны.

— ... дык, кажаце, у Конкавічы едзеце?.. Ведаю, а як жа... Гэта вам у Муляраўцы трэба будзе злезці, адтуль бліжэй, — гудзе над усімі галасамі старэчы хрыпаты басок. — Тут у нас на ўсёй Петрыкоўшчыне няма чалавека, які не ведаў бы гэтых Конкавіч. Калісь, за царом яшчэ, ва ўсёй нашай воласці не было, мусіць, бяднейшай вёскі. І конкаўцы, як хто ўмеў, ратаваліся ад сваёй беднасці. Бывала, украдзе хто каня недзе аж у Сотнічах ці ў Грабаве, а сляды прывядуць у Конкавічы... Так і павялася за вёскаю нядобрая слава. Ідзе, бывала, конкавец па базару, а які-небудзь жартаўнік-петрыковец прывітае яго з добрым днём і пытаецца:

— Дзядзька, ты з Конкавіч?

— Сам ты злодзей! — адразу ж разгадвае тонкі намёк конкавец і кідаецца з кулакамі на петрыкоўца.

Ну, а цяпер Конкавічы — не тыя... Калгас там добры. І конкаўцы больш не саромяцца сказаць, адкуль яны родам. А за старшыню ў іх там петрыковец, па прозвішчу — Кулак.. Вось як памірыла жыццё людзей...

«Та-та-так, та-та-так, та-та-так», — гулка і часта выстукваюць колы; над прыціхлаю людскою гаворкаю доўга лунае гэтая песня шыбкага разгону.

З рознагалосага людскога гоману зноў выбіваецца чыясьці гучная гаворка:

— Дык дзе ты цяпер робіш? Усё ў леспрамгасе?

— Ге-э-э, брат, я пасля таго леспрамгаса паўсвета аб'ездзіў. І на цаліне быў... А цяпер еду дадому... Маці пісала, што наш калгас на грашовую аплату пераходзіць...

— Во, і ў нас такія пералётныя дадому вяртаюцца. Ухопяць там недзе шылам патакі — і назад... Ды з арміі хлопцы прыходзяць. Прыбаўляецца рабочых рук у калгасе... — абзываецца знаёмы басок.

— Ста-анцыя Пці-іч! — аб'яўляе кандуктар, праходзячы цераз вагон.

І ледзь толькі поезд спыняецца, як ля дзвярэй вагона ўзнікае вясёлы гоман.

— Сваток, пагасцілі б яшчэ дзянёчак, — упрошвае жаночы голас.

— Ды па мне можна, але ж во... ўпялася і цягне дадому...

— Дзякуй, свацейка... дзеці ж дома адны засталіся...

— Гэй, вы там! Чаго пасталі? Падымайцеся ў вагон! Адпраўляецца ж...

— Заставайцеся здаровы!

— Едзьце здаровы!

Адчыняюцца дзверы і разам з натоўпам людзей у вагон урываецца песня:

Эх, туфелькі, пальчатачкі...
Добры вечар, дзяўчатачкі!

— ... от, брат, вяселле, дык вяселле! Я такога і не помню...

— ... а панапякана, а панаварвана! Гэта ж яшчэ тры дні гуляць можна!..

— Я, нацца, вось што вам скажу... Ёсць цяпер у людзей за што такія вяселлі спраўляць... Нам гэткіх, нацца, не спраўлялі...

«Эх, туфелькі, пальчатачкі...» — спрачаецца з шумлівай гаворкаю песня.

— Маладыя жэняцца, а мы старэем, — даносіцца аднекуль з сярэдзіны вагона задуменны жаночы голас. — Гэта ж во мая Ніна прыязджала на канікулы...

— ... ну, а падключаць жа наш калгас да тае лініі, што з Васілевіч вядуць? — перабівае жаночую гаворку мужчынскі голас.

— Сказалі, падключаць...

— От добра!..

... «Та-та-тах, та-та-тах, та-та-тах» — бягуць у далеч палескіх прастораў імклівыя колы.

Плывуць людскія думкі цераз сённяшні ў заўтрашні дзень.

... Поезд ідзе на Жыткавічы.

### Раніца ў Кольне

Густыя перадсвітальныя туманы яшчэ ахутваюць наваколле сваёю белаю мяккаю пеляною, а ў вокнах хат адзін за другім запальваюцца агні.

То тут то там гулка бразне клямка, і на ганку паявіцца няясная ў змроку чалавечая постаць. Пастаіць, паслухае, а потым ціха падасца да вулічных варот і спыніцца там, пільна ўслухоўваючыся ў цішыню.

«Т-тах... т-тах», — даносяцца з цемры адзіночныя, як вінтовачныя стрэлы, гукі. Гэта спрабуе голас рухавік на радыёвузле. Праз момант ён ужо заводзіць сваю звычайную працоўную песню, а над вёскаю ў дрымотнай ранішняй цішыні раздаецца бадзёрае прывітанне:

— Доброе утро, товарищи!

Постаць ля варот, здаецца, толькі таго і чакала, каб з ёю павіталася далёкая Масква: яна яшчэ раз заглядвае цераз вароты ў адзін, потым у другі канец вуліцы і падаецца ў хату.

Кольненцы так прывыклі да гэтых штодзённых прывітанняў Масквы, што пачынаць без іх новы дзень здаецца неяк няёмка і сумна. Нават гаспадыні, палячы ў печы, раз-пораз кідаюць вокам на рэпрадуктар: чаго ён маўчыць? Ці не заспаў зноў той матарыст... Няхай сабе не вельмі ёсць калі той гаспадыні слухаць радыё, калі паліцца ў печы, але ж з ім неяк весялей у хаце, ды і работа, здаец-



С. Гаецкі. Смольны (1917 г.)



Б. Іагансон, В. Сакалоў, Д. Цегін, Н. Файдыш-Крандзіеўская, Н. Чабакоў. Выступленне У. І. Леніна на III з'ездзе камсамола. Фрагмент.

З. Азгур. Ленін. Скульптура.



У гімназічныя гады.

М. ЖУКАЎ. З СЮІТЫ МАЛЮНКАЎ ПРА У. І. ЛЕНІНА.

Не трацце мінуты!





Апасіяната.

ца, спарней ідзе. А тымчасам, дастаючы скавараду з печы ці налiваючы аладку, можна i падцягнуць якому-небудзь спеваку... У Кольне ведаюць песні, якія спяваюць у Маскве.

Запальваецца святло ў калгаснай канторы. І не паспее прыбіральшчыца Надзя распаліць у грубцы дровы, як у старшынёў пакой адзін за адным пачынаюць збірацца брыгадзіры.

Першы вітае Надзю з добрым днём кладаўшчык Міхаіл Рослік. Яму рупіць даведацца з самай раніцы, калі будуць ачышчаць насенне ільну. Ужо даўно пара...

На ганку чуваць паспешлівыя крокі, і ў пакой уваходзіць рухавы мужчына сярэдняга росту — брыгадзір другой брыгады Алесь Ляўковіч, а следам за ім — дзядзька Сцяпан Жук. Дзядзька Сцяпан — ніякі не брыгадзір. Раней ён працаваў у леспрамгасе, а цяпер — на пенсіі. Але ж калі калгасу трэба зрабіць якую кавальскую работу, дзядзька Сцяпан заўсёды дапаможа.

А хто гэты бялявы малады хлопец у цёплай ватоўцы і чаму ўсе так дружна абазваліся на яго «добры дзень»? Ага, гэта — Васіль Туравец, самы малады з усіх калгасных брыгадзіраў.

Дзверы пакойчыка ўжо не зачыняюцца, — адзін за адным заходзяць брыгадзіры, трактарысты, шаферы. У густым тытунёвым дыме электрычная лямпачка здаецца нейкай мігатлівай і цьмянай, як тая далёкая зорка.

Ад дзвярэй паспешліва прабіваецца скрозь натоўп старшыня калгаса Іван Максімавіч Шылаў і парторг Іван Паўлавіч Іваноўскі.

Усе ў зборы. Пара пачынаць.

— Дык колькі ўчора вывезлі? — без ніякага афіцыйнага ўступу пачынае старшыня.

— Тон 280... Я зрабіў сем рэйсаў на ДТ-54... Больш ужо няможна, — апраўдваецца адзін з трактарыстаў. Учора на нарадзе трактарыстам добра дасталося за тое, што яны робяць за дзень мала рэйсаў. Трэба ж спяшацца вывезці ўгнаенні, пакуль дарога не раскідалася...

— А ці не лішне мы навазілі таго торфу?.. Гэта ж штабялёў настаўлялі, што на поле не ўз'едзеш... А гной жа яшчэ возім...

Усе смяюцца з гэтай яго асцярожнасці.

— Масла кашы не зашкодзіць, — усміхаецца і старшыня. — На тым полі, куды твая брыгада гной возіць, кукурузу сеяць будзем. А ёй не перадасі...

Нейкі момант у пакоі пануе цішыня. Аграном запісвае ў ведамасць звесткі ад брыгадзіраў, а тыя стараюцца ўспомніць, з якім жа яшчэ клопатам ішлі яны на сённяшнюю нараду.

— Во, ледзь не забыўся... У мяне нехта попел з-пад паветкі ўзяў, — даносіцца голас з кутка.

— Васіль, а хто ж яшчэ — выгуквае нехта ад парога пад агульны смех. — Гэта ён у нас такі ўпраўны...

— Хто, я? — дзівіцца Васіль і смяецца разам з усімі. Ён прывык да такіх жартаў. Ды і з каго ж не пажартаваць гэтым пажылым, паважаным дзядзькам, як не з яго, маладога. Галоўнае, што ў іх смеху не кпіны, а нейкая добрая, сардэчная цеплыня.

— Гэта я загадаў узяць попел... Мы яго на ферме з гноем закампастуем, — абзываецца ад стала аграном.

— А-а-а... Ну, то добра, калі так...

— А твае людзі, Васіль, што робяць? — зноў паварочвае гаворку ў патрэбны кірунак старшыня.



**Самы малады з брыгадзіраў Васіль Туравец.**

— Заканчваем сена перавозіць. І гной возім...

— Ну, дык вось... Ты, Васіль, бяры сёння трактар, ты, Мароз...

— А мне? — незадаволены голас Алеся Ляўковіча.

— А табе заўтра дадзім...

— Дык навошта ж было ўчора абяцаць?.. Я па другому распарадзіўся б... А то людзі недзе сабраліся, чакаюць... От гэта вы нядобра робіце: учора — адно, сёння — другое... — ускіпеў Алесь і, падхапіўшыся з крэсла, хутка падаўся да дзвярэй.

Старшыня пазірае яму ўслед і, відаць, хоча сказаць: твая праўда, браце Алесь, але ,што ж, калі брыгад у нас восем, а трактараў пакуль што пяць... Вось разжывёмся ды купім яшчэ хаця б тры, тады крыўдзіць нікога не будзем...

Потым, адарваўшыся ад сваіх думак, ён устае з-за стала.

— Усё?

— Здаецца, усё, — чуюцца галасы.

— Ну, у добры час...

Людзі, зашпільваючы кажухі і ватоўкі, падаюцца да парога. Пакой пусцее, застаюцца толькі старшыня з парторгам. Яны пра нешта пачынаюць ціха раіцца.

Калгасны парторг Іван Паўлавіч Іваноўскі — чалавек у «Ленінскім шляху» новы. Усяго месяц як ён на гэтай пасадзе, і толькі ўваходзіць ва ўсе шматлікія калгасныя справы. «Уваходзіць» пехатою, мераючы сваімі нагамі ўсе дарогі ў далёкія і блізкія брыгады і цікавячыся ўсім, што там робіцца. І зараз, пагаварыўшы са старшынёю, парторг збіраецца ў Боркі: трэба паслаць у вобласць на злёт двух маладых жывёлаводаў.

Днее... На вялікім пляцы перад канторай раскладваюцца вогнішчы. Яны выглядаюць вельмі маляўніча ў шэраватым ранішнім змроку. Здаецца, нейкі вясёлы жартаўнік збіраецца ладзіць тут свае забавы. Але не... Нешта не падобныя на жартаўнікоў гэтыя заклапочаныя людзі, якія снуюць з запаленымі факеламі ад вогнішчаў да зарослых інеем машын... Гэта, на вялікі сорам старшыні, так выглядае пакуль што калгасны гараж: дах — неба, а сцены — усе чатыры канцы свету...

— Запланаваны, — апраўдваецца Іван Максімавіч. — На самы бліжэйшы час...

Хутка разведнівае вясновай парой. Не паспееш дайсці з брыгаднага двара дадому, як, глядзіш, ужо нахапіўся дзень. Ну, а калі выбіднела, не будзеш доўга расседжвацца за снеданнем. Трэба спяшацца на работу.

Якая работа бывае такой парою, кожнаму вядома. Трэба ачышчаць насенне, перавозіць з дальніх балот і сенажацяў сена... А самае галоўнае, канешне, вазіць на поле ўгнаенні.

Некалі на Петрыкоўшчыне расказвалі казку, як бог стварыў іх зямлю. Набраў гэта ён у правую, шчадрэйшую руку чарназёму і хацеў сыпнуць на Петрыкоўшчыну, ды прамахнуўся — і сыпнуў на Случчыну. Потым набраў у левую, скупейшую, і кінуў на Брагіншчыну. Калі ж ён агледзеўся, то пад рукамі, акрамя пяску і балота, больш нічога не засталося. Тады, з усёй божаю шчодрасцю, ён сыпануў гэтага дабра на Петрыкоўшчыну і Жыткаўшчыну...

Гэта, вядома, жарт, але толькі па форме, а не па сутнасці. Калі ж сказаць праўду, то зямля ў Кольне, — ды і на ўсёй Жыткаўшчыне, — бедная, неўрадлівая. Гэта або пяскі, на якіх што пасееш, тое і сажнеш, або забалаці, на якіх у мокры год не збярэш і таго, што пасееш.

Пагаравалі колісь людзі на такой зямлі. А цяпер, з дапамогаю навукі, яны навучыліся добра ўрабляць яе. І перш за ўсё — угнойваць. На жыткавіцкіх землях, здобраных гноем, торфам і мінеральнымі ўгнаеннямі, родзіць і жыта, і кукуруза, і лён, і каноплі...

Калгаснікі падлічылі, што для таго, каб дасягнуць запланаваных ураджаяў, ім трэба вывезці на свае палі 7 тысяч тон торфу і 6 тысяч тон гною. І цяпер яны стараюцца, возяць: і на трактарах, і на конях, і на валах.

На кольненскіх, боркаўскіх, млінкоўскіх палях стаяць велізарныя штабялі торфу з гноем, складзеныя дбала, па-гаспадарску: іх

ні сонца не высушыць, ні вецер не выветрыць, ні паводка не змые. І густа настаўлена гэтых штабялёў. Сыта кормяць у гэтым годзе сваю зямлю калгаснікі «Ленінскага шляху»; пасля такога догляду можна спадзявацца на ўраджай.

Калі меркаваць па вазе працадня, то кольненскі калгас можна аднесці да так званых «серадняччкоў»: кілаграм з лішнім збожжа, рубель з капейкамі — грашыма, ну ды яшчэ бульба, гародніна. У калгаснай касе перавярнулася мільён з лішнім рублёў, якія напалавіну пайшлі на пакрыццё даўгоў.

Калі ж паглядзець на справу з другога боку, то вось што мы ўбачым.

Калгас набыў у гэтым годзе на 103 тысячы рублёў тэхнікі і мае цяпер пяць трактараў, шэсць аўтамашын, камбайн і многа іншых машын. Мяркуецца набыць за лета яшчэ два камбайны — збожжаўборачны і сіласаўборачны, механізаваць яшчэ адну жывёлагадоўчую ферму, пабудаваць гараж.

Сёлета запланавана пасеяць, акрамя ўсіх іншых культур, 100 гектараў тэхнічных, 110 гектараў кукурузы і 110 гектараў лубіну. Усё гэта культуры — вельмі прыбытковыя.



Трактар, які нядаўна набыў калгас, даручылі Браніславу Бур'яну.

Калгас упэўнена ўзяў курс на пашырэнне грамадскай гаспадаркі: відаць, яму не хочацца больш мірыцца са сваім «серадняковаствам».

### Боркі

З васьмі калгасных брыгад самая дальняя — Боркі. Невялічкія палянкі параскіданы між лесу, між балот. Камбайнеры і трактарысты едуць сюды вельмі неахвотна: няма разгону тут іх машынам.

Сапраўдным няшчасцем для тутэйшай зямлі бываюць вясновыя паводкі. Калі сонца растопіць снягі, вада тут падымаецца да паўтара метра. Рэкі выходзяць са сваіх берагоў, і не скажаш, дзе тут Прыпяць, а дзе Скрыпіца, — на дзесяткі кіламетраў вакол плешчацца сапраўднае мора. Толькі чубы самага рослага лазняку вытыркаюцца з вады і пакалыхваюцца на хвалях, як маленькія плывучыя астраўкі.

У такі час па полі, дзе летам шумяць жыты і лапушыцца бульба, шыбуе кацер і снуюць вёрткія чаўны: сувязь паміж цэнтрам калгаса і боркаўскай брыгадай падтрымліваецца водным шляхам.

Відовішча гэтае — для мастака, хлебаробу пазіраць на яго — горка. Цэлую зіму возяць боркаўцы на палі ўгнаенне, а шугане паводка — і кучы гною з торфам начыста пазмывае з загонаў і панясе на падкормку лазовых кустоў. Праўда, на бліжніх ад поля сенажацях трава расце добрая. Не дзіва, што і прадвеснем на боркаўскіх балонннях густа стаяць стагі.

Неяк ужо сама прырода абумоўлівае напрамак развіцця гаспадаркі ў боркаўскай брыгадзе. Дзе ёсць паплавы, выпасы, дзе расце добрая трава, там павінна гадавацца жывёла. І ў Борках гадуюць яе. Жывёлагадоўчая ферма тут лепшая ў калгасе. Нездарма ж у Кольне жартуюць, што калі ў калгас прыязджае хто з раёна або вобласці, старшыню Івана Максімавіча Шылава і не шукай у кан-





Загадчыка жывёлагадоўчай фермы Івана Юнчыца часцей за ўсё можна сустрэць сярод даярак. Злева направа — дзве Вольгі і дзве Ніны Пяшэвічы.

торы: ён у Борках, ферму паказвае...

Сказаць па праўдзе, тую боркаўскую ферму не сорам паказаць людзям: прасторны чысты двор, добрыя цёплыя кароўнікі і аўчарнік, падвесная дарога, аўтапаілкі, кормазапарнік... 40 тысяч рублёў каштавала калгасу механізацыя фермы. Яшчэ і сёння між калгаснікаў ідуць спрэчкі аб тым, ці варта было гаціць такую процьму грошай на гэтую механіку? Маўляў, чаго ўжо так далікацца з тымі каровамі... Захочуць піць, дык і з карыта нап'юцца.

Калі такая гаворка заходзіць пры загадчыку фермы Івану Юнчыцу, дык ён ажно з твару мяняецца: ну, колькі трэба даказваць, што зроблена гэта не для кароў, а для людзей!

Праца жывёлавода — не з лёгкіх, гэта кожнаму вядома. Сярод боркаўскіх жанчын раней было мала ахвотнікаў працаваць на ферме. Бывала, не дапросішся цётку Ганну ці там цётку Кацярыну, каб падаіла кароў якіх пару месяцаў... Цяпер нікога ўпрошваць не трэба, — дзяўчаты самі просяцца, каб іх узялі на ферму. І не толькі таму, што працаваць тут стала лягчэй, а і таму, што праца гэтая стала цікавейшая. Як ні кажы, а тут ужо ёсць машыны, а праца пры машыне патрабуе пэўных ведаў, навыкаў. І зноў жа: рацыёны, кармавыя адзінкі, рост надояў у залежнасці ад гэтых кармавых адзінак і рацыёнаў, — усё гэта аддае ўжо навукаю і нейкім чынам адпавядае інтарэсам маладых людзей, якія ўпарта шукаюць прымянення сваіх ведаў, набытых у школе.

Тыя, хто працуе на ферме, маюць добрыя заработкі. І гэта немалаважна для моладзі, бо каму ж не вядома жаданне маладой дзяўчыны прыйсці ў клуб на танцы ў новай сукенцы, паліто, туфлях. А палескія дзяўчаты не прывыклі адставаць ад другіх. Яны трымаюцца на ўзроўні моды і ведаюць не толькі шаўкі, а і капрон.

Усё гэта, разам узятае, і прыводзіць боркаўскую моладзь на калгасныя фермы.

У калгасе вераць моладзі. Партарганізацыя, старшыня і праўленне калгаса не пабаяліся аддаць лепшую жывёлагадоўчую ферму цалкам у маладыя рукі. Загадчыкам яе па сваёй ахвоце пайшоў працаваць былы загадчык клуба камуніст Іван Юнчыц.

Пасля заканчэння дзесяцігодкі насіла пошту ў Боркі камсамолка Вольга Пяшэвіч. Дзяўчына гэта

актыўная, талковая, і калгасныя камуністы парашылі прыняць яе ў сваю сям'ю. Гэты давер старэйшых глыбока ўзрушыў дзяўчыну. Яна адчула, што тое, што рабіла дагэтуль, — не такая ўжо важная справа, і што ў яе хопіць сілы ўзяць на свае плечы большую ношу.

З той пары стала Вользе нямілай паштальёнская сумка, захацелася хутчэй скінуць яе і ўзяцца за якую-небудзь жывую справу.

Цяпер Вольга, мусіць, ужо доіць сваіх першацёлак, — такую работу адразу намеціў ёй Іван Юнчыц, як толькі прачытаў яе заяву.

На боркаўскай ферме падабраўся дружны, працавіты калектыў жывёлаводаў. Разам з Вольгай Пяшэвіч сюды прасілася яшчэ пяць дзяўчат. Ды да іх там працавала дзевяць даярак. Так што рабіць ёсць каму. А работы таксама хапае. Першы клопат — павысіць надоі. У 1958 годзе ў калгасе было надоена ўсяго адзінаццаць з паловаю тысяч літраў малака, у мінулым годзе — дваццаць з паловаю тысяч, без малога ў два разы больш. Сёлета толькі на адной боркаўскай ферме ў дойным статку прыбавіцца каля шасцідзесяці кароў. І калі калгас пасее ды вырасціць, як запланаваў, 110 гектараў кукурузы, то можна спадзявацца, што і леташняя лічба надою малака падвоіцца.

Другі клопат — гэта папаўненне статку. Здарылася так, што два гады падрад дойны статак на ферме не папаўняўся. Нейкі разумнік дадумаўся здаць усіх аднагадовых і двухгадовых цялушак на мяса. Цяпер маладняк берагуць; даглядаць яго вырашана даручыць двум дзяўчатам-камсамолкам.

Ёсць у боркаўскіх жывёлаводаў і больш далёкія планы: дабівацца паляпшэння пароды жывёлы і «падцягнуць» адсталыя галіны жывёлагадоўлі.

Размах — шырокі, але ён пад сілу працавітым боркаўцам.

**Камунары і іх нашчадкі**

Буйкавічы... У «Ленінскім шляху» мясціна гэтая — гістарычная. Тут у далёкія дваццатыя гады парабкі буйкавіцкага пана першыя пракладвалі дарогу ў новае жыццё. Гісторыя гэта цікавая, і варта паслухаць, як яе расказвае Піліп Альбінавіч Браткоўскі:

— ... Пра камуну пытаецеся?.. Была ў нас у Буйкавічах камуна, а як жа... Арганізавалі яе мы самі, панскія парабкі. Ды яшчэ тры «амерыканцы» былі з намі. Яны то ніякія не амерыканцы, але ўсе іх тут так звалі. Гэта нашы тутэйшыя сяляне, якія ездзілі ў Амерыку на заработкі, — Павел Грыб з Турава, Пашкевіч і Разановіч... А як гэтых двух звалі, я ўжо не помню, даўно тое было... Вярнуліся яны сюды, як толькі дачуліся там у той Амерыцы, што ў нас адбылася рэвалюцыя.

І вось разам з імі 1 сакавіка 1922 года мы арганізавалі ў Буйкавічах камуну. Абагулілі ўсё, што ў каго было, — нават падушкі, — а потым падзялілі між сабой пароўну. І «амерыканцам» сваім удзялілі па падушцы, у каго не было... Ну, а гаспадарка ж у нас засталася ад пана.

Пачалі мы жыць адной сям'ёю. На работу — усе разам, з работы ў сталовую — разам... Пасля абеду адпачывалі гадзіны дзве, а потым рабілі ўжо да вечара. Жылося нам добра. Абед з двух страў каштаваў у нашай сталовай 45 капеек. З навакольных вёсак абедаць да нас хадзілі... Але абед абедам, і не ў ім справа. Галоўнае, што мы ўпершыню людзьмі сябе адчулі пасля таго свайго парабкоўства.

Так і жылі... А потым агледзеліся, што рабіць мы — робім, а ўлічваць як след сваю працу і планаваць гаспадарку яшчэ не ўмеем... Вучыцца гэтаму мы сталі ў калгасе, які неўзабаве прыйшоў на змену камуне.

І ўсё ж напаследак я вось што скажу: нездарма ў нас тая камуна арганізоўвалася. Яна паказала людзям, куды трэба ісці.. І якою дарогаю...

... Такая ў кароткіх рысах гісторыя той буйкавіцкай камуны. Ужо даўно на яе месцы арганізаваўся калгас, а буйкаўцаў і сёння завуць камунарамі. І не толькі па старой памяці, — не. Тут можа больш, чым у якой брыгадзе, адчуваецца калектывісцкі, камунарскі дух, зладжанасць у працы. У Буйкавічах раней, чым дзе, і пакосяць, і пажнуць, і памалоцяць; Буйкавічы першыя адгукнуцца на ўсё новае ў жыцці.

Нядаўна тут абмяркоўваліся магчымасці пераходу на грашовую аплату працы. Справа гэта — новая, і яшчэ не кожны разумее яе карысць. Перашкаджае звычайная сялянская асцярожнасць: маўляў, хто яго ведае, як яно там будзе, а працадзень — гэта ўжо мерка вядомая.

Сход гудзе, хвалюецца. Людзі разважаюць і так, і гэтак, спрачаюцца; у некаторых даходзіць нават да сваркі.

І тут слова просіць былая камунарка, цётка Зося Браткоўская.

— Чаго ж гэта вы, людцы, ушчапэрыліся за той працадзень — і ні з месца, — пачынае яна сваім высокім, па-маладому звонкім голасам. — Давайце паглядзім, ці варта па ім гэтак плакаць...

І цётка Зося так талкова, так пераканаўча даводзіць сваю думку, што людзі не могуць стрымацца ад воплескаў.

Следам за жонкаю выступае Піліп Альбіновіч са сваім цвёрдым словам у абарону новай справы; ён уносіць многа карысных прапаноў, як весці гаспадарку далей.

Пасля камунараў сваімі думкамі дзеляцца калгасныя камуністы, і адразу адчуваецца, як змяняецца настрой у людзей. Цяпер ім застаецца ўпэўніцца яшчэ ў адным, але можа самым галоўным...

Брыгадзір ставіць пытанне проста:

— А савецкая ўлада гэта раіць рабіць?

— Раіць, — адказвае старшыня.

— Ну і давайце будзем рабіць... Яна нам дрэннага не параіць...

Гэта — канец сумненняў. Адна за адной падымаюцца рукі за тое, каб развітацца з працаднём і перайсці на грашовую аплату працы.

І камунарскія галасы — першыя.

З гісторыяй буйкавіцкай камуны звязаны лёс яшчэ аднаго вельмі паважанага ў «Ленінскім шляху», ды і ва ўсім раёне, чалавека — камуніста Івана Міхайлавіча Кісялёва. Іван Міхайлавіч быў старшынёй гэтай камуны. Тады ж і ў партыю ўступіў.

Калі пачалася калектывізацыя і ў Буйкавічах стаў калгас, Івана Міхайлавіча, як вопытнага кіраўніка, пасылаюць працаваць у Жыткавіцкі райкалгассаюз. У тыя часы райкалгассаюзы праводзілі вялікую работу па калектывізацыі, і Івану Міхайлавічу вельмі спатрэбіўся практычны вопыт, набыты за час старшынёўства ў камуне. Ён лепш, чым хто другі, мог дапамагчы маладым калгасам наладжваць гаспадарку.

Дзе толькі ні давялося працаваць камуністу Кісялёву ў тыя нялёгкія гады, калі на вёсцы толькі пачынаў закладвацца падмурак новага жыцця... І колькі яго сілы легла ў гэты падмурак... Ён працаваў старшынёй калгаса ў Пасецы, у Чарэцінцы... Потым, калі Пасека, Буйкавічы, Кольна і Млінок арганізаваліся ў адзін буйны калгас, землякі зноў настаялі, каб за старшыню ў іх быў Кісялёў.

Працавіты, гаспадарлівы, сумленны ў рабоце, такім ведаюць калгаснікі Івана Міхайлавіча Кісялёва.

Ён даўно ўжо — не старшыня. Не пад сілу ў яго гады гэтая неспакойная, нялёгкая работа. Але сядзець склаўшы рукі яшчэ больш не пад сілу такому чалавеку, як Іван Міхайлавіч. У свае сем з лішнім дзесяткаў год ён ідзе працаваць загадчыкам свінафермы, а няма пастуха — і свіней папасвіць. І ўсё бядуе, што не ўсякую работу перарабіў за свой век.

— Я яшчэ гектараў колькі кукурузы вырасціў бы, каб здароўе...

Цяпер Іван Міхайлавіч — на пенсіі. Але калгасныя справы паранейшаму цікавяць яго. Ды і калгаснікі ўважліва прыслухоўваюцца да таго, што скажа стары Кісялёў.

... Ідуць гады за гадамі. Даўно нясуць сваю службу ў жыцці сыны буйкавіцкіх камунараў. А сёння на змену ім ужо выходзяць унукі.

Якое ж яно, гэтае трэцяе пакаленне камунараў, якое бярэ ў свае




**Любіць пачытаць газету Іван Міхайлавіч Кісялёў — адзін з арганізатараў калгаса «Ленінскі шлях».**

рукі вялікую справу бацькоў і дзядоў?

У Кольне няма такога чалавека, які не скажа добрага слова пра брыгадзіра першай брыгады Васіля Тураўца. Папытаеш пра яго ў мужчын, усе, як згаварыўшыся, скажуць адно і тое ж:

— До-обры хлопец! Справядлівы і разумны, хоць і малады...

А жанчыны пахваляць па-свойму:

— От жа залатое дзіця! Ад яго ж век ніхто слова благога не пачуў...

Васілю — дзевятнаццаць год. Брыгадзірам ён стаў нядаўна. У 1957 годзе закончыў дзесяцігодку і застаўся працаваць у калгасе. Не чакаючы, пакуль яму дадуць якую чысцейшую работу, пайшоў працаваць разам з усімі.

Неяк адразу ў людзей узнікла павага да гэтага сціплага хлопца, які не ганарыўся, як другія, сваёю навукай. Яму прапанавалі стаць учотчыкам. Ён згадзіўся. І тут выявілася, што хлопец гэты — не толькі сціплы, але і кемлівы, гаспадарлівы.

К таму часу ў першай брыгадзе пачаліся нелады, і перад праўленнем калгаса паўстала задача як найхутчэй змяніць брыгадзіра.

Пачалі думаць, раіцца. І ўсім у першую чаргу прыходзіў на памяць старанны ўчотчык з другой брыгады Васіль Туравец. Вось толькі адно ці добра: вельмі ж ён малады, а брыгада — не з лёгкіх... Ну, ды нічога, у калгасе многа сталых, вопытных людзей, памогуць, калі што якое... Няхай прымае Васіль брыгаду, — парашылі праўленцы.

Вестку аб тым, што брыгадзірам у іх будзе Васіль Туравец, калгаснікі першай брыгады сустрэлі прыхільна. Хлопец гадаваўся у іх на вачах, і благога пра яго ніхто сказаць не мог. А што малады, то нічога, можа хоць не будзе так пільнавацца пляшкі ды вызвярацца на людзей, як той, ранейшы.

Праўда, былі і такія, якія разважалі зусім інакш: «Гэта якраз і добра, што брыгадзір такі малады... Яго лягчэй абвесці вакол пальца... Першым чынам — пазваць у госці, пачаставаць як след, падхваліць, а маладыя ж — яны падкія на пахвалу... А тады можна будзе жыць, пагульваючы, — няхай робяць тыя, у каго галава не варыць»...

А Васіль тым часам браўся за работу. Абышоў усю гаспадарку, агледзеў усё як след і пачаў наводзіць парадак: там прыбярэ ўсё да месца, там паправіць... І да ўсяго прыглядаецца, усё заўважае... Воєь коням выпісваюць фураж. Конюх Рафаіл Ляўковіч палавіну таго фуража высыпле ў кармушкі, а палавіну прыхавае, маўляў, хто гэта там будзе ведаць, тым часам пляшку гарэлкі за гэтае дабро — ніхто не пашкадуе...

— Нядобра робіце, дзядзька, — прысароміў яго Васіль.

— Гэта ты мяне вучыць будзеш?.. Смаркач!.. — ускіпеў конюх і — за вілы: — Заколю!

— Пастаўце вілы, дзядзька, і больш так не рабіце. Сорам старому чалавеку...

Дзядзька Рафаіл чуў на сваім вяку і папрокі, і лаянку, але нішто яго так балюча не пякло, як гэтыя Васілёвы словы.

Тыя, хто спадзяваўся на свае пачастункі, таксама хутка пераканаўся ў сваёй памылцы. Хлопца гэтага чаркаю не заманіш. А раз так, то і ад работы не выкруцішся...

Так у брыгадзе пачала наладжвацца дысцыпліна.

Васіль неяк хутка знайшоў правільны тон у абыходжанні з людзьмі: з тым ён па-сяброўску перакінецца жартам, з тым параіцца, з тым проста пагаворыць. І яго слухаюць. Калі нават у выхадны дзень ён папросіць цётку павартаваць збожжа, каб дождж не намачыў, — цётка і слова не скажа: пойдзе і павартуе. Бо як ты не пойдзеш, калі чалавек да цябе — з добрым словам.

У ранейшага брыгадзіра як летам, так і зімою быў учотчык. Ну, летам, скажам, без яго не абыдзешся. А зімою за што чалавеку працадні налічваюцца? І Васіль сам спраўляецца з работай, без учотчыка: няхай эканомяцца працадні.

У Васіля — цвёрдае слова: калі ўжо ён сказаў табе, што дасць каня з'ездзіць па дровы, то прыходзь і бяры... Яшчэ які клопат ёсць у чалавека — і тут ён стараецца памагчы. Але і патрабаваць ад людзей ён умее: скідкі нядбайнікам не дасць...




**— Што ж пачытаць? — задумаліся Вольга Юнчыц і Галіна Шруб. Загадчык калгаснага клуба Пятро Пяшэвіч памагае дзяўчатам адказаць на гэта пытанне.**

Фота В. Бараноўскага.

Тая павага, з якой брыгадзір ставіцца да людзей, адчуваецца і ў людзей да яго. На калгасным двары, дзе брыгадзір дае нарад на работу, не чуваць ні крыку, ні лаянкі. Усё абыходзіцца ціха, мірна, без моцных слоўцаў. Васіль іх не любіць ні гаварыць, ні слухаць. І работа ў яго ідзе лепш, чым у тых, хто крычыць і лаецца.

... Глядзіш на Васіля, і міжволі думаецца: больш бы мець такіх людзей на брыгадзірскіх пасадах! Наколькі хутчэй тады рушыла б культура ў быт калгаснай вёскі, у яе штодзённае працоўнае жыццё! Такі Васіль не толькі «загадвае» на работу і налічвае працадні, але і выхоўвае людзей сваім добрым прыкладам, сваім ветлівым, культурным абыходжаннем з імі.

Васіль Туравец — не адзіны дзесяцікласнік, які застаўся працаваць у сваім калгасе. У Борках працуе загадчыкам клуба і вядзе сярод моладзі культурна-асветную работу мінулагодні дзесяцікласнік Пятро Пяшэвіч; у тых жа Борках пайшла працаваць на ферму Вольга Пяшэвіч.

У калгасе «Ленінскі шлях» — немалая партыйная арганізацыя. Яна налічвае 24 чалавекі. Большасць з іх працуе непасрэдна на вытворчасці. Васіль Туравец, Іван Юнчыц, Алесь Ляўковіч, Арсень Цвірка, Пятро Пяшэвіч — вось іх колькі, адных брыгадзіраў. А загляньце на фермы, у кароўнікі, адным словам, загляньце туды, дзе ўсё яшчэ працаваць нялёгка, і вы сустрэнеце там самых нястомных людзей — камуністаў і камсамольцаў.

Гэта ім перадалі свой гарт, сваю светлую мару камунары дваццатых гадоў.

**Сцяпан КУХАРАЎ**

# НА ВАРЦЕ ЭНЕРГІІ

У томе ленінскага плана ГОЭЛРО, падрыхтаваным на разгляд VIII Усерасійскага з'езда Саветаў, была цікавая ўкладка. На лістку паперы намалявана вялікае сэрца з надпісам «электрыфікацыя». Ад гэтага сэрца ішлі ніці да пяці клетак. Кожная з іх азначала самую надзённую, самую жыццёвую патрэбу народа: жыллё, харчаванне, адзенне, транспарт, культура. Так выразна тлумачылася мэта электрыфікацыі. Гэта тады з трыбуны неасветленай і халоднай залы Вялікага тэатра ў Маскве Уладзімір Ільіч сказаў: «Камунізм — гэта ёсць Савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны».

Цяпер кожнаму бачна, якія гэта былі прарочыя словы. Сёння не адно, а тысячы сэрцаў — магутных электрастанцый — пульсуюць у адзіным рытме, несучы жыватворчую энергію ў самыя далёкія куткі краіны.

І па прасторах Беларусі, якая некалі была цёмнай і глухой ускраінай царскай Расіі, ва ўсіх кірунках уладарна закрочылі лініі высакавольтных перадач.

Лямпачка Ільча свеціць у дамах. Маторы гудуць на фабрыках і заводах, звіняць пілорамы ў калгасах. Сталь плавіцца ў электрапечах. Па вуліцах Мінска грукоча трамвай, праносяцца прыгажуны-тралейбусы...

Пульсуе магутнае энергетычнае сэрца.

.. У Мінску на вуліцы Карла Маркса знаходзіцца цэнтральны дыспетчарскі пункт, дзе сканцэнтравана кіраванне Беларускім энергакальцом — энергетычным сэрцам рэспублікі.

Галоўны інжынер Упраўлення энергетыкі Саўнаргаса БССР Максім Еўдакімавіч Барабанаў, камлюкаваты, з пасівелай галавою чалавек, выбраў са стуса кніжак і брашур на стале адну і са словамі: «Вось для пачатку пазнаёмцеся» падаў нам «Энергетычны зборнік». «Тут лічбы, праўда, стараватыя, але і яны вам шмат што скажуць».

Потым у тэлефонную трубку:

— Дзмітры Васільевіч, зайдзіце на хвіліначку, калі ласка...

Галоўны інжынер пазнаёміў нас з начальнікам цэнтральнага дыспетчарскага пункта Дзмітрыем Васільевічам Рашэтнікавым і сказаў:

— Гэта таварышы з часопіса. Раскажыце ім, як адбываецца энергетычнае жыўленне рэспублікі, пазнаёмце са сваімі людзьмі.

— Гэта ж трэба ў папулярнай форме, — заззначыў Рашэтнікаў, маладжавы з выгляду, але ўжо, відаць, сталы інжынер.

— Так. Так, — кіўнуў галавою Максім Еўдакімавіч. — А потым, калі ласка, зайдзеце да мяне. Пагаворым. Калі што трэба будзе, я растлумачу.

Перш чым паказаць нам дыспетчарскую, цэнтральны пульт кіравання Беларускім энергетычным кальцом, Дзмітры Васільевіч прачытаў, як ён сам сказаў, папулярную лекцыю, якую можна было б умоўна назваць: «Што такое энергетыка?» ці «Электрычнасць — наша сіла».

— Асаблівасцю электраэнергіі, — пачаў ён сваю гутарку, — з'яўляецца тое, што яе не пакладзеш на склад, не назапасіш многа. Колькі яе выпрацоўваецца ў кожную секунду, столькі і спажываецца. Вы ж не пытаецеся ні ў каго і, калі вам трэба, уключаеце плітку, тэлевізар... Ды што плітка! А калі на заводзе ўключылі новую электрапеч, вунь колькі спатрэбіцца дадатковай энергіі! Значыць, трэба ведаць, колькі ў гэтую секунду неабходна энергіі — цеплыні і святла, каб аддаць іх спажыўцу на заводы, фабрыкі, у кватэры людзям...

У нас, у энергетыкаў, ёсць такі выраз: «гадзіны пік». Гэта час, калі электрастанцыі маюць найбольшую нагрузку, — вечар і раніца. Усім патрэбна ў гэты час электрычнасць, а яе адна станцыя даць не можа. Дзе ж узяць энергію?

Так узнікла ідэя — злучыць электрастанцыі, каб яны працавалі суладна ў адным энергетычным кальцы. Спачатку ў Мінску былі злучаны між сабою дзве станцыі, потым падключылася яшчэ адна — ЦЭЦ-3. У 1956 годзе далучылася Смалявіцкая ДРЭС. Цяпер у энергакальцо ўваходзіць дзесяць буйных электрастанцый рэспублікі, у тым ліку такія, як Васілевіцкая і Асінаўская. Сюды ж далучаны чатыры меншыя і каля 50-ці падстанцый. Усё гэта злучана агульнай лініяй перадачы.

Цэнтральны дыспетчарскі пункт сочыць за размеркаваннем магутнасцей і правільным, эфектыўным выкарыстаннем абсталявання, за якасцю энергіі і цеплыні.

Як паказчыкам здароўя чалавека з'яўляецца тэмпература яго цела, так паказчыкам якасці электрычнага току — яго частата. Калі павялічваецца нагрузка, частата падае. Для нармальнай жа работы матораў і розных прыбораў трэба, каб яна ўвесь час не адхілялася надта ад стандарту. Рэгуляваць яе — таксама справа дзяжурнага дыспетчара.

Як рабілася гэта раней?

На кожнай станцыі ля шчыта дзяжурыў тэхнік-электрык, так званы шчытавы. Ён кіраваў загрузкай катлоў, рэгуляваў работу турбін, генератараў. Калі ўзнікала патрэба змяніць нагрузку, ён павінен быў званіць у Мінск, у цэнтральную дыспетчарскую, каб атрымаць на гэта дазвол, а потым ішоў і змяняў нагрузку.

Гэта ўскладняла работу, і супрацоўнікі цэнтральнай дыспетчарскай службы задумаліся над тым, як лепш арганізаваць кіраванне рэжымам энергасістэмы.

На дапамогу беларускім энергетыкам прыйшлі масквічы. Супрацоўнікі Маскоўскага дзяржаўнага трэста па рэарганізацыі і рацыяналізацыі раённых электрастанцый распрацавалі і сканструявалі схему аўтаматычнага рэгулявання частаты і магутнасці.

— У нас, у рэспубліцы, гэтая аўтаматыка прыменена ўпершыню ў Савецкім Саюзе, — не тоячы задавальнення, гаворыць Дзмітры Васільевіч. — Калі жадаеце, усё гэта мы можам паглядзець у натуры. Сёння на вахце інжынер Усевалад Аляксандравіч. Раю з ім пазнаёміцца бліжэй, ён са ста-

імі таварышамі таксама зрабіў шмат для ўкаранення і наладкі новага аўтаматычнага прыстасавання!..

Вялікая светлая зала. Направа — блакітная, амаль на ўсю сцяну, вітрына-карта, на якой стракаціць мноства невялічкіх чырвоных значкоў, злучаных між сабою лініямі. Налева — доўгі стол, а ля яго з абодвух бакоў скрыні-тумбачкі, на якіх радамі блішчаць падобныя да рознакаляровых піпетак — ключы сувязі. Тут жа — тэлефонны апарат.

З-за стала спакойна ўстаў і накіраваўся нам насустрач малады чалавек. Вітаючыся, назваў сябе:

— Буднік. Дзяжурны дыспетчар.

Адклаўшы ўбок журнал, Усевалад Аляксандравіч падрабязна расказаў нам пра свае абавязкі, паказаў аўтаматыку, якая цяпер аблегчыла ўсю складаную і вялікую работу цэнтральнай дыспетчарскай.

На стале перад дыспетчарам выстраіліся ў адзін доўгі рад прыборы, накшталт вялікіх круглых гадзіннікаў, на белых цыферблатах якіх ледзь улоўна трымцяць стрэлкі. На прыборах — надпісы: «ЦЭЦ-3», «Смал. ДРЭС», «Бел. ДРЭС», «Слуцк. ЦЭЦ» і г. д.

— Гэтыя прыборы, — растлумачыў дзяжурны дыспетчар, — паказваюць, колькі ў кожную хвіліну выпрацоўвае тая ці іншая станцыя энергіі, цеплыні. А вось на гэтым прыборы бачна, колькі электрычнасці выпрацоўваецца зараз усёй энергасістэмай рэспублікі...

Дыспетчар падыходзіць да вялікай зялёнай шафы, на якой белымі літарамі напісана: «Аўтаматычны размеркавальнік актыўнай нагрузкі». Скарочана: АРАН-Д. Д — азначае дыспетчарскі. Зверху на размеркавальніку — круглы, з адной доўгай стрэлкай — самапіскай прыбор. Гэта — частотаметр-рэгістратар. Стрэлка — на лічбе «50».

— Лічба «50», — зазначыў Усевалад Аляксандравіч, — норма частаты. Наш «ГОСТ» — дзяржаўны стандарт.



Ля пульта — дзяжурны дыспетчар Усевалад Буднік.

У гэты час пачуўся кароткі, але настойлівы сігнал.

— Што гэта такое?

— Гэта паведамленне, што на ЦЭЦ-2 зменены рэжым работы, — сказаў Усевалад Аляксандравіч. — Нядаўна званіў адтуль дзяжурны інжынер і прасіў дазволу паставіць адзін кацёл у рэзерв. — Ён скупа ўсміхнуўся і кіўнуў галавою на акно. — Бачыце, на двары пацяплела!..

Буднік далей расказаў пра тое, як дзейнічае «АРАН-Д», які ён зручны, бо сам сочыць за двума важнейшымі паказчыкамі работы станцыі — частатой і зададзенай нагрузкай.

Аўтаматычным тэлемеханічным рэгуляваннем абсталяваны пакуль чатыры асноўныя станцыі. Хутка ім будзе забяспечана ўся энергасістэма рэспублікі.

— Выходзіць, што дыспетчару няма тут чаго і рабіць, — выказалі мы сваё першае ўражанне.

— Вы так думаеце, — усміхнуўся Усевалад Аляксандравіч і расказаў крыху аб сабе. — Перш чым прыйсці сюды, на цэнтральны дыспетчарскі пункт, ён папрацаваў на электрастанцыі — спачатку тэхнікам-рэлейшчыкам, а потым дзяжурным інжынерам. Калі прыйшоў на працу ў цэнтральную дыспетчарскую, адчуў, што ведаў малавата. Паступіў на вячэрняе аддзяленне энергетычнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута. Працаваў і вучыўся. Цяпер дыплом на руках, але вучоба не спыняецца.

— Інжынер павінен увесь час вучыцца, каб не адстаць ад жыцця, ад патрабаванняў навукі, — закончыў Усевалад Аляксандравіч свой расказ аб сабе.

Перад вачыма дзяжурнага дыспетчара заўсёды сканцэнтраваны малюнак работы ўсіх электрастанцый Беларускага энергетычнага кальца. Заступаючы на вахту, ён атрымлівае рапарты ад усіх дзяжурных інжынераў. Без яго ведама ні на адной са станцый не можа быць зменены рэжым. Скажам, дзе-небудзь спатрэбілася адключыць абсталяванне — патрэбна згода дыспетчара цэнтральнага пункта; адключылася дзе-небудзь лінія — дыспетчар павінен ведаць, што рабіць.

— Напэўна, у дыспетчара знаходзяцца і ключы ад рэзерваў электраэнергіі?

— Абавязкова ў яго, — адказаў Усевалад Аляксандравіч. — Дыспетчар не можа нічога зрабіць у сэнсе эканоміі энергіі толькі ў гадзіны «пік», якіх-небудзь дзве гадзіны ўвечары і столькі ж раніцай, а астатнія дваццаць гадзін у суткі выдатkаванне энергіі поўнасцю залежыць ад дыспетчара, ад таго, як ён хутка і аператыўна зможа рэгуляваць рэжым работы электрастанцый. А для гэтага трэба дасканала ведаць энергасістэму.

Вось ноччу зменшылася патрэба ў электраэнергіі. Дыспетчар, калі ён дасканала не ведае свае абавязкі, можа даць нагрузку якраз той станцыі, якая працуе менш эканамічна, дзе сабекошт энергіі вышэйшы, чым у суседзяў. Ад гэтага карысці будзе мала. Дыспетчар павінен размеркаваць нагрузку эканамічна выгадна, улічваючы станоўчае і адмоўнае ў рабоце кожнай электрастанцыі, кожнага катла.

— Кемлівы, талковы дыспетчар, — заключае сваю гутарку Усевалад Аляксандравіч, — паставіць справу так, каб кожную хвіліну энергія выдаткоўвалася разумна!..

На той карце-схеме, якая кінулася ў вочы, як толькі мы ўвайшлі ў дыспетчарскую, паказана ўся энергетычная сістэма Беларусі. Гэтая схема ў дыспетчара перад вачыма. Як толькі на электрастанцыі ці на лініі што-небудзь здарыцца, адразу пачуецца сігнал, на схеме запаліцца чырвоная лямпачка. Недзе пашкодзілася лінія, і дыспетчар дае ўказанне станцыі: «Не ўключаць. Рамонт на лініі!» І на тым месцы на карце вешае для сябе адпаведную шыльдачку-надпіс. Такіх шыльдачак шмат: «Адключана лінія!», «Увага!», «Рамонт!» і г. д.

Схема-карта — таксама дасягненне аўтаматыкі. Яе зрабілі навуковыя работнікі Масквы з дапамогай нашых беларускіх энергетыкаў.

Зазваніў тэлефон, і Усевалад Аляксандравіч паспяшыў да апарата.

Мы пазнаёміліся з другім інжынерам, які ўвайшоў у дыспетчарскую пад гэты час. Гэта — камсамолец Анатоль Вержбаловіч, нядаўні выпускнік Беларускага політэхнічнага інстытута. Як і яго калега, Анатоль прайшоў ужо загартоўку на электрастанцыі. Тут ён працуе ў групе рэжымшчыкаў. Разам са сваім старэйшым таварышам Мікалаем Фёдаравічам Клюверам робіць разлікі рэжыму работы энергасістэмы на дзень, на суткі, на месяц. Яны ж распрацоўваюць перспектыўныя планы развіцця энергетычнай сістэмы рэспублікі.

Анатоль можа не горш за галоўнага інжынера ўпраўлення



**Цэнтральная дыспетчарская Беларусэнерга. Інжынер групы рэжыму камсамолец Анатоль Вержбаловіч за работай.**
**Фота С. Чырэшкіна.**

даць характарыстыку любой з электрастанцый, расказаць пра тое, якой будзе энергетычная база рэспублікі ў канцы сямігодкі.

— Мы робім схему развіцця беларускай энергасістэмы на 1970 год. Нам прадстаўляюць праекты, а мы іх карэктуем. Уносім свае папраўкі, удакладняем, — расказвае Анатоль Вержбаловіч, і ў яго голасе адчуваецца радасць, тая радасць, якая прыходзіць да чалавека, які знаходзіць у сваім занятку душэўнае задавальненне.

Анатоль гартае пухлую папку — новы праект, над якім ён цяпер працуе, «карэктуе яго», а потым, нібы нешта згадаўшы, гаворыць:

— Вось у друку, ды і нядаўна на XXIV з'ездзе КПБ адзначалася, што ў нас у рэспубліцы мала выпрацоўваецца электрычнасці, што мы яшчэ рэзка адстаём ад узроўню вытворчасці электраэнергіі ў цэлым па Саюзу. Правільна. А між іншым, у Мінску электраэнергіі цяпер спажываецца амаль у 20 разоў больш, чым да вайны, у рэспубліцы за суткі выпрацоўваецца электраэнергіі столькі, колькі ў дарэвалюцыйнай Беларусі выпрацоўвалася за два гады. Уяўляеце, якія трэба магутнасці, каб забяспечыць электраэнергіяй нашу народную гаспадарку! А гаспадарка ж расце — уступаюць у строй новыя цэхі, цэлыя заводы, усё больш энергіі патрабуюць і калгасы, саўгасы.

Стала ясна, што лічбы і заданні па электрыфікацыі рэспублікі, намечаныя спачатку на сямігодкі, трэба пераглядаць. Жыццё абганяе самыя смелыя планы. І ўжо зусім недалёка той час, калі ўся Беларусь будзе заліта морам электрычнага святла. Электрычную энергію атрымаюць усе пасёлкі і вёскі.

Хутка будзе два гады, як пушчаны першы агрэгат Васілевіцкай ДРЭС — адной з буйнейшых у краіне электрастанцый, што працуе на фрэзерным торфе. Яе магутнасць к канцу 1962 года павялічыцца ў два разы.



У гэтай сямігодцы будзе завершана збудаванне Бярозаўскай ДРЭС. Першы ток з новага энергагорада пойдзе ўжо ў наступным годзе.

Магутнасць буйнейшай цяпер у Мінску ЦЭЦ-3 павялічыцца ў два разы. Шырока разгортваецца будаўніцтва высакавольтных ліній перадач, што дасць магчымасць бесперабойна забяспечваць энергіяй усе раёны рэспублікі.

У Беларусі ствараецца адзіная энергетычная сістэма, якая потым будзе ўключана ў агульную энергасістэму еўрапейскай часткі СССР.

...Кожны дзень набліжае нас да таго часу, аб якім марыў вялікі Ленін, — калі ўся наша неабсяжная краіна стане краінай электрычнасці, калі электрычная энергія стане надзейным спадарожнікам чалавека ў вялікай справе пераўтварэння прыроды.

Гэта сямігодка — рашаючы рубеж, за якім адкрываюцца светлыя далі камуністычнай будучыні.

Пульсуе, б'ецца магутнае энергетычнае сэрца рэспублікі.

Правады-струны гудуць над Беларуссю.

Сёння цяжка знайсці такую галіну народнай гаспадаркі і такі ўчастак культурнага жыцця, куды не пранікала б цудадзейная энергія — электрыка!

Электрычны ток ідзе ва ўсе клеткі надзённага жыцця чалавека: жыллё, харчаванне, адзенне, транспарт, культуру.

Над вясковымі хатамі ўзняліся тэлевізійныя антэны. Электрычныя маторы абуджаюць наваколле. Хутка і электрычныя трактары прыйдуць на змену цяперашнім вуркатлівым «сталёвым коням».

Партыя, выконваючы запаветы Леніна, сказала: электрычную энергію — усім людзям у горадзе і на вёсцы!

Усе ведаюць: як партыя сказала, так і будзе!

На пярэдні край за здзяйсненне ленінскіх планаў выйшлі савецкія энергетыкі. Днём і ноччу ідзе нястомная барацьба за вялікую энергію.



**У. І. Ленін.** Скульптура А. Бембеля.

# ПА-ЛЕНІНСКУ ЖЫЦЬ, ПРАЦАВАЦЬ, ЗМАГАЦЦА

Велічнымі, гераічнымі справамі адзначана наша эпоха. Пафасам барацьбы і творчасці, імклівага і няўхільнага руху наперад прасякнуты яе грандыёзныя здзяйсненні. І не дзіўна, што ў гэтай па-вясноваму свежай і бурнай плыні жыцця кожны дзень — значны і непаўторны.

З заводскіх цэхаў, дзе нараджаецца смелы пачын наватараў, з калгасных палёў, дзе шуміць залатая збажына, з гіганцкіх будоўляў сямігодкі, дзе памнажаецца індустрыйная магутнасць Радзімы, кожны дзень прыходзяць хвалюючыя весткі аб новых перамогах народнай працы. Ляцяць у невядомыя прасторы штучныя спадарожнікі Зямлі. Ідзе ў далёкае плаванне атамны ледакол. З хуткасцю маланкі праносяцца над зямлёй магутныя балістычныя ракеты, якія адкрываюць перад чалавекам велізарныя магчымасці ў асваенні космасу. І ўсё глыбей пранікае ў сэрцы людзей усіх краін высакародны заклік і пачын нашага народа — назаўсёды пакончыць з вайной, зрабіць непахіснай асновай чалавечых адносін ідэалы дружбы і міру.

У летапіс сусветна-гістарычных падзей назаўсёды ўвойдуць гэтыя незабыўныя дні, калі савецкі народ выйшаў на такія рубяжы, з якіх добра відаць абрысы камуністычнага заўтра. Як аб практычнай, непасрэднай задачы эпохі сказаў пра будаўніцтва камунізма XXI з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза:

«Наша запаветная мэта ўжо блізка. Нам трэба прайсці рашаючы этап у мірным эканамічным спаборніцтве з капіталізмам, у самы кароткі тэрмін выйграць гэтае спаборніцтва. У нас ёсць усё неабходнае, каб узяць гэты рубеж. І калі мы выраšым гэтыя задачы і выйдзем на новыя прасторы, тады будзе лягчэй ісці наперад. У імя вялікай мэты пабудовы камунізма можна і трэба добра папрацаваць».

Шырокія, прываблівыя далі адкрыты перад савецкім народам. І чым бліжэйшай становіцца наша канчатковая мэта, тым глыбей адчуваем мы непераможную жыццёвую сілу ідэй Уладзіміра Ільіча Леніна. Эпоха разгорнутага камуністычнага будаўніцтва знамянуе сапраўдны трыумф ленінізма, бліскучую перамогу ленінскіх планаў.

Настаўнік жыцця! Такім назаўсёды ўвайшоў у сэрцы маладога пакалення вялікі Ленін. Для мільёнаў юнакоў і дзяўчат няма нічога даражэйшага, чым ленінская парада, яго асабісты прыклад служэння справе рэвалюцыі. Гэтыя пачуцці добра выказаў Уладзімір Маякоўскі:

Ленин
и теперь
живее всех живых,
Наше знанье —
сила
и оружие.

Маладому пакаленню краіны Саветаў адкрыта вечна жывая, невычэрпная крыніца ленінскай мудрасці. Жыць па-ленінску, гэта значыць заўсёды быць на пярэднім краі барацьбы за камунізм, там, дзе куецца перамога, працаваць натхнёна і творча; жыць паленінску, гэта значыць старанна вучыцца, авалодваць ведамі, вышынямі культуры; жыць па-ленінску, гэта значыць нястомна выхоўваць, удасканальваць і памнажаць у сабе такія рысы, якія вызначаюць маральнае аблічча, духоўнае хараство чалавека, што ідзе простай дарогаю ў камунізм.

### «Мы прыдзём да перамогі камуністычнай працы!»

Зімой 1917 года ў артыкуле «Як арганізаваць спаборніцтва?» У. І. Ленін пісаў: «Упершыню пасля стагоддзяў працы на чужых, паднявольнай працы на эксплуататараў узнікае магчымасць **працы на сябе,** і да таго ж працы, якая абапіраецца на ўсе заваёвы навейшай тэхнікі і культуры». Замену паднявольнай працы свабоднай ён характарызаваў як найвялікшую падзею ў гісторыі чалавецтва, як самую значную заваёву Кастрычніка. У вызваленай працы Ленін бачыў тую цудоўную сілу, якая зменіць аблічча зямлі, забяспечыць перамогу новага свету, імя якому — камунізм.

У самых цяжкіх умовах першых год рэвалюцыі, калі, здавалася, усе сілы народа былі накіраваны на тое, каб разбурыць старое, Ленін не стамляўся паўтараць і растлумачваць, што сутнасць сацыялістычнай рэвалюцыі заключаецца перш за ўсё ў стварэнні, у нараджэнні новага. Непрымірымы барацьбіт супроць бясплённых спрэчак, фразы, беспадстаўных, адарваных ад жыцця праектаў, Ленін як ніхто іншы ўмеў самыя складаныя тэарэтычныя праблемы звязваць з практыкай. І гэта рабіла яго довады неаспрэчнымі, сілу яго слова — зусім выключнай.

Гаворачы аб важнейшых умовах, неабходных для заваявання трывалай перамогі, Ленін на першае месца ставіў новую, непараўнальна больш высокую, чым

пры капіталізме, грамадскую арганізацыю працы. Формулы сучаснага, а не фразістага камунізма, тлумачыў ён, прыводзяць усё да ўмоў працы. «У гэтым сутнасць. У гэтым крыніца сілы і зарука немінучай поўнай перамогі камунізма».

Вызваленую працу Ленін характарызаваў перш за ўсё як працу глыбока асэнсаваную, калі кожны працаўнік бачыць перад сабою вялікую мэту і добра ўсведамляе, што ад якасці яго работы залежыць поспех агульнай справы. Усведамленне вялікай мэты працы акрыляе чалавека, з'яўляецца крыніцай невычэрпнай энергіі, нараджае працоўны подзвіг.

Магутнасць вызваленай працы павінна пастаянна расці. Сёння зрабіць больш і лепш, чым учора, заўтра — больш і лепш, чым сёння, — такі непахісны закон нашага грамадства, такі адзіны шлях да агульнанароднага шчасця. І гэтае ўладнае патрабаванне жыцця робіць зусім неабходнымі сапраўды творчыя адносіны кожнага чалавека да сваёй справы. Не заспакойвацца на дасягнутым, нястомна шукаць і знаходзіць новыя метады, прыёмы працы, настойліва ўдасканальваць вытворчасць, рабіць працу ўсё больш прадукцыйнай — у гэтым бачыў Ленін абавязковую ўмову поспеху камуністычнага будаўніцтва. Небывалы размах народнай творчасці і ініцыятывы, выкліканы да жыцця вялікай рэвалюцыяй, ён лічыў самым надзейным залогам перамогі вызваленай працы, з гонарам гаварыў аб талентах, якіх у народзе непачаты край і якія змогуць цяпер паказаць свае выдатныя здольнасці тварыць новае, пакідаючы далёка ззаду самыя значныя дасягненні мінулых эпох.

Старыя адносіны да працы, як да цяжкага прымусу, не знікаюць адразу, і прынцыпы камуністычнай працы не могуць пачаць панаваць на другі дзень пасля ўзяцця ўлады рабочым класам. Для гэтага патрэбен час, які вылічваецца гадамі і дзесяцігоддзямі. Але наша грамадства мае выдатны, выпрабаваны сродак выхавання мас у духу новых адносін да працы. Гэты сродак — сацыялістычнае спаборніцтва, задачу арганізацыі якога Ленін паставіў у першыя месяцы існавання Савецкай дзяржавы. Сацыялізм, пісаў ён, не толькі не гасіць спаборніцтва, як пра гэта любяць крычаць вучоныя служкі буржуазіі, а, наадварот, упершыню стварае магчымасць прымяніць яго шырока, у масавым маштабе, уцягнуць большасць працоўных у такую работу, дзе яны змогуць праявіць сябе, развіць свае здольнасці, выявіць таленты.

Спаборніцтва стварае тую творчую атмасферу пастаяннага імкнення наперад, пошукаў новага, без якой немагчыма наша сацыялістычнае жыццё. Сіла станоўчага прыкладу робіць сапраўдныя цуды. Прыклад захапляе масы, з'яднаныя агульнай мэтай, агульнымі інтарэсамі, пачын наватараў становіцца здабыткам мільёнаў, і грамадства падымаецца яшчэ на адну прыступку вышэй, тэмпы грамадскага прагрэсу павялічваюцца.

Уважліва сачыў Ленін за тым, як паступова, пераадольваючы перашкоды на сваім шляху, у барацьбе з коснасцю, з перажыткамі мінулага раслі, мацнелі ў народзе новыя адносіны да працы, як развівалася народная ініцыятыва. Можна без перабольшання сказаць, што ні адна колькі-небудзь значная з'ява на працоўным фронце не праходзіла міма ленінскай увагі. Але калі вясною 1919 года рабочыя Маскоўска-Казанскай чыгункі па ўласнай ініцыятыве, адмовіўшыся ад усякай аплаты за працу, кіруючыся адным жаданнем памагчы краіне, якая перажывала тады цяжкія дні, арганізавалі першы камуністычны суботнік, Ленін адразу ж вылучыў гэтую падзею з шэрагу іншых і ў выдатнай брашуры «Вялікі пачын» даў ёй выключную ацэнку. Ён ахарактарызаваў ініцыятыву рабочых як пачатак павароту, больш істотнага і больш рашаючага, чым звяржэнне буржуазіі, як фактычны пачатак камунізма, бо «Камунізм пачынаецца там, дзе паяўляецца самаадданы, здольны пераадолець цяжкую працу, клопат **радавых рабочых** аб павелічэнні прадукцыйнасці працы, аб ахове **кожнага пуда хлеба, вугалю, жалеза** і іншых прадуктаў, якія дастаюцца не тым, хто працуе асабіста і не іх «бліжнім», а «дальнім», г. зн. усяму грамадству ў цэлым, дзесяткам і сотням мільёнаў людзей...»

Ленін вызначаў камуністычную працу ў строгім сэнсе гэтага слова, як свядомую, добраахвотную, не нармаваную працу на карысць грамадства, працу, якая стала першай жыццёвай патрэбай чалавека. Панаванне такой працы, тлумачыў ён, настане не адразу, яно прадугледжвае крайне высокі, дасягальны толькі на вышэйшай стадыі камунізма, узровень грамадскай вытворчасці, а таксама свядомасці саміх працоўных. Ужо ў пачыне рабочых Маскоўска-Казанскай чыгункі Ленін бачыў жывыя парасткі камунізма.

Гэта былі першыя, яшчэ слабыя спачатку, але рэальныя парасткі новага, і Ленін заклікаў старанна вывучаць гэтыя парасткі, уважліва адносіцца да іх, усяляк памагаць іх росту. Будучыня нараджаецца ў сучасным. Першыя камуністычныя суботнікі былі вестунамі будучага, сведчаннем таго, што яно ідзе, што яно неадольнае. І цвёрдая ўпэўненасць адчувалася ў словах правадыра: «Мы прыдзём да перамогі камуністычнай працы!»

З таго часу прайшлі дзесяцігоддзі. Непазнавальна змянілася наша Радзіма — краіна пераможшага сацыялізма. Савецкі народ здзівіў увесь свет веліччу свайго працоўнага подзвігу. І цяпер, калі пройдзены ўжо найцяжэйшыя этапы шляху, нам асабліва добра відаць неўміручасць ленінскіх запаветаў, якія сталі каштоўным здабыткам народа, сцягам перамогі. Гэты сцяг заўсёды несла партыя Леніна. Пад гэтым сцягам, пад кіраўніцтвам партыі, змагаецца і перамагае слаўная моладзь савецкай краіны.

У прамове на III з'ездзе камсамола Ленін гаварыў, што галоўнай задачай жыцця маладога пакалення з'яўляецца будаўніцтва камунізма. У тыя гады пра непасрэднае камуністычнае будаўніцтва можна было гаварыць, як пра больш ці менш аддаленую перспектыву, як пра справу будучыні. Цяпер яно стала практычнай задачай савецкага народа. Эпоха разгорнутага камуністычнага будаўніцтва ставіць перад моладдзю шмат новых, складаных і высакародных задач. Якія гэта задачы, як лепш і хутчэй вырашыць іх? Адказ на гэтае пытанне дае моладзі партыя Леніна. XXI з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза вызначыў шляхі барацьбы за камунізм, у рашэннях з'езда многамільённая армія камсамольцаў і моладзі знаходзіць ясную праграму сваёй дзейнасці.

Пачнем з самага галоўнага. У дакладзе Мікіты Сяргеевіча Хрушчова на XXI з'ездзе КПСС з асаблівай сілай падкрэслена, што камунізм — запаветная мара людзей працы. Для таго каб ажыццявіць гэтую мару, нельга адрывацца ад зямлі, трэба заўсёды памятаць, што галоўнае ў будаўніцтве камунізма — вытворчасць матэрыяльных каштоўнасцей. Камунізм — гэта багацце матэрыяльных і духоўных здабыткаў. Іменна таму партыя, разгортваючы план камуністычнага будаўніцтва, надае першаступеннае значэнне павелічэнню вытворчасці металу, машын, здабычы нафты, выпрацоўкі электраэнергіі, вытворчасці збожжа, масла, мяса, адзення, абутку, будаўніцтву жылля, устаноў навукі і культуры.

Толькі пры такой выключнай увазе да вытворчасці матэрыяльных каштоўнасцей перамога камунізма будзе забяспечана. Гэта і ёсць паслядоўнае правядзенне ленінскай лініі ў камуністычным будаўніцтве, гэта і ёсць ленінізм у дзеянні. Толькі так ставіў пытанне вялікі Ленін, рашуча супрацьстаўляючы прынцыпы навуковага камунізма пустой балбатні пра будучае грамадства, рознага роду утопіям. Клопат аб няўхільным росце вытворчасці матэрыяльных каштоўнасцей, аб памнажэнні грамадскага багацця і з'яўляецца галоўнай задачай моладзі, якая разам з усім народам так добра пачала сямігодку.

Партыя робіць усё для таго, каб мэты камуністычнага будаўніцтва былі зразумелыя кожнаму працаўніку нашага грамадства. Камуністычныя ідэалы яна даводзіць да свядомасці народа ў выглядзе пэў-

ных, канкрэтных практычных задач. Імення так выглядаюць заданні сямігодкі. Але нельга забываць і пра тое, што поспех агульнай справы вырашаецца на месцах — на фабрыках і заводах, у калгасах і саўгасах, на будоўлях. Тут многа моладзі, якая працуе з агеньком, не шкадуючы сіл. Трэба, каб кожны камсамолец, кожны малады рабочы ці калгаснік добра ўяўляў, якія рубяжы трэба ўзяць на працягу сямігодкі калектыву, дзе ён працуе, якім павінен быць яго канкрэтны ўклад у агульную справу. Без гэтага не можа быць свядомай і паспяховай барацьбы за датэрміновае выкананне плана сямігодкі.

Горкі гаварыў, што ніхто і ніколі не ўмеў так добра павышаць тэмпературу працоўнай энергіі, як гэта ўмее рабіць партыя вялікага Леніна. Атмасфера творчай працы, вытворчага ўздыму, якая пануе цяпер усюды, з'яўляецца цудоўным сведчаннем праўдзівасці горкаўскіх слоў.

Знамянальна, што першы год сямігодкі адзначаны нараджэннем новай выдатнай формы сацыялістычнага спаборніцтва — сапраўды ўсенароднага руху за права называцца калектывамі і ўдарнікамі камуністычнай працы. Тут надзвычай вялікая роля належыць моладзі, з яе баявым камсамольскім задорам, з невычэрпнай энергіяй юнацтва. Толькі ў нашай рэспубліцы к канцу першага года сямігодкі было больш пяці тысяч калектываў, якія ўзялі сваім дэвізам — «Вучыцца, жыць і працаваць па-камуністычнаму!» Пераможцы ў спаборніцтве, дабіцца права насіць званне калектыву камуністычнай працы — справа нялёгкая. Моладзь добра памятае ленінскія словы: спачатку дакажы на практыцы сваю здольнасць працаваць па-рэвалюцыйнаму, павышаць прадукцыйнасць працы, ставіць справу ўзорна, а потым працягвай руку за пачэсным званнем — «Камуна». І сотні маладзёжных калектываў рэспублікі ўжо даказалі выдатнымі справамі сваё права насіць высокае званне.

Камсамол Беларусі ўзяў шэфства над асваеннем новай тэхнікі, механізацыяй і аўтаматызацыяй вытворчасці. Маладыя рацыяналізатары толькі за першы год сямігодкі ўнеслі каля 30 тысяч рацыяналізатарскіх прапаноў. Эканамічны эфект ад іх укаранення склаў звыш 70 мільёнаў рублёў. Камсамольскія арганізацыі вырашылі ў гэтым годзе пасляць для работы ў грамадскай жывёлагадоўлі не менш 15 тысяч маладых калгаснікаў. Важнейшыя будоўлі сямігодкі абвешчаны ўдарнымі, камсамольскімі: Салігорскі калійны камбінат, Полацкі нафтаперапрацоўчы завод, Бярозаўская дзяржаўная раённая электрастанцыя. Справай адказвае камсамол на заклік партыі датэрмінова выканаць сямігадовы план, перавысіць яго заданні. Жыве ленінскі запавет моладзі: кожны дзень у любой вёсцы, у любым горадзе вырашаць практычна тую ці іншую задачу агульнай працы.

Наперад і вышэй! — гэтыя крылатыя горкаўскія словы добра перадаюць упэўнены поступ сямігодкі. Радасна жыць і працаваць у нашу эпоху, адчуваць яе гарачае дыханне, блізкасць канчатковай перамогі! Радасна быць удзельнікам усенароднай барацьбы за перамогу той справы, якой аддаў сваё цудоўнае жыццё Уладзімір Ільіч Ленін!

### «Задача заключаецца ў тым, каб вучыцца»

Ва ўспамінах А. Безыменскага аб выступленні Уладзіміра Ільіча Леніна на III з'ездзе камсамола расказваецца аб уражанні, якое зрабіў на дэлегатаў пачатак прамовы правадыра. Чакалі, што Ленін будзе гаварыць пра ваеннае становішча, пра ўзброеную барацьбу з ворагамі Савецкай рэспублікі. Ленін жа сказаў іншае: задача моладзі ў тым, каб — вучыцца.

«Ленін вымаўляў слова «вучыцца» неяк асобна ад астатняй фразы, строга і цвёрда, — успамінае А. Безыменскі.

З'езд быў уражаны.

Нельга было не зрабіць рэзкага руху, пачуўшы такое незвычайнае ў той час слова! Трэба было перабудавацца, засвоіць новую тэму і ўдумацца ў яе. Вельмі ўжо нечаканай была гэтая новая тэма!

Трэба вучыцца! Але чаму пра гэта загаварылі іменна цяпер? А фронты? А разруха?»

Заклікаючы моладзь вучыцца, Ленін глядзеў далёка наперад. Заканчвалася грамадзянская вайна, набліжаўся час перамогі. Творчыя, стваральныя мэты рэвалюцыі ставіліся на першае месца. Трэба было пакончыць з разрухай, стварыць сучасную, заснаваную на навейшай тэхніцы, буйную прамысловасць, ажыццявіць план электрыфікацыі краіны, забяспечыць прагрэс у сельскай гаспадарцы. Каб будаваць новае, аднаго энтузіязму, аднаго гераічнага парыву недастаткова, патрабаваліся перш за ўсё веды. А наперадзе перад краінай адкрываліся яшчэ больш велічныя далягляды. Жыццё настойліва патрабавала адукаваных і культурных людзей, якія павінны былі ісці па нязведаных яшчэ ў гісторыі шляхах, узводзіць светлы будынак камунізма. «Камуністам стаць можна толькі тады, калі ўзбагаціш сваю памяць веданнем усіх тых багаццяў, якія выпрацавала чалавецтва».

Калі перачытваеш прамову Уладзіміра Ільіча Леніна на з'ездзе камсамола, звяртае на сябе асаблівую ўвагу адна з цэнтральных ідэй, якую ён пастаянна вылучаў і падкрэсліваў. Ленін называў самай агіднай рысай буржуазнага грамадства, буйнейшай заганай старой школы разрыў паміж кнігай і жыццём, паміж тэорыяй і практыкай. З гэтым разрывам ён патрабаваў рашуча пакончыць. Мы не верылі б вучэнню, адукацыі і выхаванню, гаварыў Ленін, калі б яно было адарвана ад бурнага жыцця. Такое, кніжнае веданне зусім нічога не варта. Наша моладзь павінна вучыцца так, каб атрыманыя ёю веды былі магутнай зброяй перабудовы жыцця, зброяй практыкі. Новая школа заклікана выхоўваць актыўных будаўнікоў камунізма. Як жыва гучаць і сёння гэтыя ленінскія словы, адрасаваныя да моладзі!

Вялікі шлях прайшла Савецкая краіна за чатыры дзесяцігоддзі, якія аддзяляюць нас ад таго дня, калі Ленін даў маладому пакаленню наказ вучыцца. Савецкі Саюз стаў краінай суцэльнай пісьменнасці. У нас вучацца ўсе дзеці. 58,7 мільёна чалавек маюць вышэйшую і сярэднюю адукацыю. Калі ў дарэвалюцыйнай Расіі ў 1913 годзе было каля 290 тысяч чалавек з вышэйшай, незакончанай вышэйшай і спецыяльнай сярэдняй адукацыяй, дык цяпер іх налічваецца 13,4 мільёна чалавек, у 46 разоў больш. Навучальныя ўстановы СССР штогод выпускаюць дзесяткі тысяч маладых спецыялістаў, здольных вырашаць самыя складаныя навуковыя і тэхнічныя задачы — ствараць разумныя машыны і аўтаматы, будаваць атамныя электрастанцыі, павышаць ураджайнасць глебы, пранікаць у патаемныя нетры зямлі і ставіць іх багацці на службу народу, пасылаць у космас дасканалыя апараты, якія паслухмяна выконваюць волю чалавека, адным словам, рабіць явай тое, што здавалася фантастыкай яшчэ ўчо-



**Урок.** З серыі малюнкаў М. Жукава пра У. І. Леніна.

ра. Росквіт савецкай навукі здзіўляе сёння ўвесь свет.

З трыбуны XIII з'езда ВЛКСМ М. С. Хрушчоў гаварыў: «... Савецкая школа заклікана выхоўваць рознабакова адукаваных людзей, якія добра ведаюць асновы навук і разам з тым здольны да сістэматычнай працы, выхоўваць у моладзі імкненне быць карыснай грамадству, актыўна ўдзельнічаць у вытворчасці каштоўнасцей, неабходных для грамадства». Перабудова сістэмы народнай адукацыі, якая праводзіцца цяпер, адлюстроўвае настойлівае патрабаванне жыцця — даваць маладому пакаленню рознабаковыя веды, спалучаць навучанне з прадукцыйнай працай, дабівацца таго, каб ва ўсёй пастаноўцы народнай асветы перамагаў плённы ленінскі прынцып непарыўнай сувязі тэорыі з практыкай жыцця.

Шырокая дарога да ведаў адкрыта нашай моладзі. Яе першы абавязак — аваладваючы навукай, рыхтаваць сябе да карыснай працы. Вучыцца для таго, каб лепш, больш паспяхова вырашаць практычныя пытанні камуністычнага будаўніцтва, выкарыстоўваць веды для павышэння магутнасці стваральнай працы, для памнажэння народнага багацця — такое высакароднае імкненне маладога пакалення, вернага ленінскім запаветам.

**«Вы павінны выхаваць з сябе камуністаў»**

Так гаварыў Ленін, і ў яго словах, звернутых да дэлегатаў камсамольскага з'езда, у сціслай і выразнай форме быў вызначан галоўны кірунак усяго жыцця і барацьбы Саюза Камуністычнай Моладзі. Выхоўваць з сябе камуністаў! Гэта азначала — выхоўваць у маладога пакалення такія рысы, сцвярджаць у жыцці такія ўзаемаадносіны і нормы паводзін людзей, якія цалкам адпавядалі б інтарэсам рэвалюцыйнай барацьбы рабочага класа. Ленін вучыў, што «ў аснове камуністычнай маралі ляжыць барацьба за ўмацаванне і завяршэнне камунізма». Такая дакладная мера чалавечых спраў і ўчынкаў у нашым грамадстве.

Выхаванне камуністычнай маралі Ленін звязваў са сцвярджаннем у адносінах паміж людзьмі прынцыпаў калектывізму, таварыскасці, узаемадапамогі, якія немагчымы ў старым грамадстве, дзе прыватная ўласнасць раз'ядноўвае людзей, выхоўвае ў іх карыслівыя, эгаістычныя погляды. У маналітным чалавечым калектыве, з'яднаным адзінствам волі, мэты і інтарэсаў, Ленін бачыў адну з самых выдатных заваёў сацыялістычнай рэвалюцыі. І ён завяшчаў Саюзу моладзі мацаваць новыя сувязі паміж людзьмі, выхоўваць моладзь у духу калектывізму, яснага разумення таго, што агульная справа з'яўляецца кроўнай справай кожнага, што ў яднанні, у згуртаванасці змяшчаецца тытанічная сіла калектыву вольных працаўнікоў.

Паглядзіце, як жывуць і працуюць цяпер члены брыгад камуністычнай працы! Не цяжка ўбачыць, што іменна тут ідзе практычная барацьба за новага чалавека, які не ўяўляе свайго жыцця па-за калектывам і для якога інтарэсы грамадства вышэй за ўсё. Усе за аднаго, адзін за ўсіх — такое правіла жыцця, што зацвердзілася ў гэтых брыгадах і памагае павялічваць сілу калектыву, дабівацца выдатных працоўных поспехаў. Калі ў цябе ёсць каштоўны вытворчы вопыт, падзяліся гэтым вопытам з таварышам, памажы яму авалодаць сакрэтамі майстэрства. Няхай новае, знойдзенае табой, стане здабыткам усіх. Так робяць члены брыгад камуністычнай працы. Высокія маральна-этычныя патрабаванні, якія яны прад'яўляюць адзін да другога, датычаць не толькі самага галоўнага — сумеснай працы; гэтыя патрабаванні значна шырэйшыя, яны ахопліваюць па сутнасці ўсе бакі жыцця юнакоў і дзяўчат, якія імкнуцца быць прыкладам для ўсіх і ў працы, і ў вучобе, і ў быту.

Ленін папярэджваў павярхоўнае, няправільнае разуменне метадаў камуністычнага выхавання. «Прамовы, поўныя асалоды, і правілы аб маралі» не дадуць патрэбнага выніку. Рэвалюцыйная практыка і, перш за ўсё, удзел моладзі ў стваральнай працы — вось наш галоўны метад камуністычнага выхавання, метад, правераны жыццём, неаспрэчны. Спалучыць справу выхавання і адукацыі моладзі з працай рабочых і сялян патрабаваў Ленін ад Саюза моладзі. Школа працы — самая лепшая школа, яе не заменяць ніякія пропаведзі. Лепшая не толькі таму, што праца — крыніца багацця, але і таму, што ў працы фармуюцца лепшыя чалавечыя рысы. Праца — школа калектывізму, таварыскасці, свядомай дысцыпліны, натхнёнай творчасці.

«Быць членамі Саюза моладзі, — гаварыў Ленін, — значыць весці справу так, каб аддаваць сваю працу, свае сілы на агульную справу. Вось у гэтым заключаецца камуністычнае выхаванне. Толькі ў такой працыператвараецца малады чалавек ці дзяўчына ў сапраўднага камуніста. Толькі ў тым выпадку, калі яны гэтай працай здолеюць дасягнуць практычных поспехаў, яны становяцца камуністамі».

Ленін называў Саюз моладзі «ўдарнай групай», якая нараджае ініцыятыву, пачын ва ўсіх добрых, патрэбных грамадству справах. Ён гаварыў аб велізарным значэнні прыкладу ў справе камуністычнага выхавання. Члены Саюза моладзі павінны быць не толькі пісьменнымі людзьмі. Яны павінны перш за ўсё ўмець вырашаць практычныя задачы, умець працаваць, паказваць прыклад новых адносін да працы, як да найпершага абавязку грамадзяніна краіны Саветаў, як да справы гонару і доблесці. Каб уся моладзь, сочачы за справамі камсамольцаў, магла сказаць: мы верым ім, у іх слова не разыходзіцца са справай, яны паказваюць нам правільны шлях.

Як характэрная прыкмета часу ўвайшоў у наша жыццё смелы пачын моладзі. Рукамі маладых патрыётаў узняты мільёны гектараў цаліны, пабудаваны новыя гарады і магутныя электрастанцыі ў далёкіх, яшчэ не абжытых краях. Па закліку партыі, па пуцёўках камсамола моладзь пайшла на буйнейшыя будоўлі сямігодкі. Многія тысячы адважных юнакоў і дзяўчат у складзе народных дружын стаяць на варце грамадскага парадку, вырашаючы вялікую, новую задачу арганізацыі камуністычнага грамадскага самакіравання. Маладая работніца перайшла ў адсталую брыгаду, каб памагчы ёй стаць перадавой. Прыклад Валянціны Гаганавай усхваляваў сэрцы людзей сваёй высакароднасцю, глыбокім разуменнем грамадскага абавязку, даў штуршок масаваму патрыятычнаму руху. Шчодра нараджае наша жыццё новае, сапраўды камуністычнае ў свядомасці і ўчынках людзей! Ленінскія ідэі жывуць і перамагаюць.

Ёсць вялікія справы і думкі, над якімі не мае ўлады час. Такая справа Леніна, неўміручая ў памяці народаў як прыклад цудоўнага рэвалюцыйнага подзвігу. Такая магутная ленінская думка, якая асвятляе чалавецтву шлях да вышыняў грамадскага прагрэсу. Пад непераможным сцягам партыі Леніна, узброеная запаветамі правадыра, разам з усім савецкім народам моладзь ідзе насустрач светлай будучыні.

**Ю. ВАСІЛЬЕЎ.**

*„Маладосць" вядзе рэпартаж...*



# СКАРБНІЦА ВЕДАЎ

Тэкст і фота **А. Дзітлава**

Кожны дзень мы імкнёмся пазнаць новае. Чым бы ні займаўся чалавек, дзе б ён ні працаваў, крыніцай ведаў заўсёды служыць яму друкаванае слова. Нялёгка цяпер знайсці сям'ю, у якой не было б сваёй хатняй бібліятэчкі. Томікі вершаў суседнічаюць з падручнікамі палітэканоміі, зборы твораў класікаў — з даведнікам трактарыста. Побач са зборнікамі ўспамінаў пра Ільіча стаяць гадавыя камплекты «тоўстых» часопісаў.



У даведачна-бібліяграфічным аддзеле над каталогамі схіліліся студэнты Іна Вечар, Тацяна Качароўская і Алесь Станюта.

І ўсё ж, якім бы вялікім ні быў хатні збор кніг, ён не можа задаволіць запатрабаванняў чалавека працы, якія растуць з кожным днём. Ад дзвярэй нашых дамоў пракладзены незарастаючыя сцяжынкі ў грамадскія бібліятэкі. Акцябронак з першага класа і сівы пенсіянер аднолькава настойліва патрабуюць у бібліятэкара кнігу, якая іх цікавіць. Масавыя бібліятэкі сталі цяпер адной з тых з'яў, без якіх немагчыма ўявіць сабе сацыялістычны лад жыцця. Толькі ў нашай рэспубліцы іх больш 20 тысяч.

Многім бібліятэкам любоўна прысвоены імёны людзей, чыё жыццё само было светачам ведаў,— пісьменнікаў, грамадскіх дзеячоў. Самую буйную ў рэспубліцы дзяржаўную бібліятэку, якая мае многамільённы збор самых розных друкаваных выданняў, па праву называюць скарбніцай ведаў. Яна носіць імя Уладзіміра Ільіча Леніна.

У самым цэнтры беларускай сталіцы на Чырвонаармейскай вуліцы стаіць будынак «ленінскай» бібліятэкі. Скромны фасад з вялікімі вокнамі, паўкруглыя прыступкі, па якіх тысячы людзей падымаюцца кожны дзень у прасторныя чытальныя залы і ўтульныя кабінеты...

Хто б вы ні былі, — пастаянны наведвальнік гэтай бібліятэкі ці ўпершыню ўвайшлі сюды, — вас акружаць тут сапраўднай увагай і чулым клопатам.

Пошукі патрэбнай кнігі лепш за ўсё пачаць з даведачна-бібліяграфічнага аддзела, дзе сканцэнтраваны каталогі і ўказальнікі літаратуры, складзеныя такім чынам, каб хутка і поўна адказаць на любое ваша пытанне.

— Дзе можна знайсці звесткі аб архітэктуры аэравакзалаў?

— Якая гісторыя стварэння «Сентыментальнага вальса» Чайкоўскага?

— Што гаварыў Ленін аб развіцці ў нас фатаграфіі як аднаго са сродкаў прапаганды?

— Дзе знайсці ўспаміны Генрыха Мана пра Чэхава?

На гэтыя і ўсе іншыя пытанні, падслу-



Электрык трэста «Белгандальбуд» Віктар Жыгоцкі — студэнт-завочнік. Большую частку вучэбных заданняў ён выконвае ў бібліятэцы.




Першыя выданні ленінскіх прац і камплекты ленінскіх газет, якія захоўваюцца ў бібліятэцы.



У агульнай чытальні бібліятэкі.

ханыя намі на працягу паўгадзіны, хутка былі дадзены адказы: чытайце ў такой кнізе, у такім часопісе, у такім артыкуле і нават на такой вось старонцы.

У кабінетах і чытальных залах людзі праседжваюць гадзінамі, займаючыся самаадукацыяй, вывучаючы тое ці іншае пытанне па праграме інстытута, рыхтуючыся да абароны навуковай дысертацыі, да выступлення ў друку, да лекцыі. З вялікіх і ёмістых сховішчаў па просьбе чытачоў дастаюцца самыя рэдкія выданні.

Вось перад адным з наведвальнікаў залы навуковых работнікаў ляжаць дзве кнігі. Адна з іх, надрукаваная ў 1872 годзе, называецца: «Працы экспедыцыі, пасланай імператарскім вольным эканамічным і рускім геаграфічным таварыствамі для даследавання хлебнага гандлю і вытворчасці ў Расіі». Другая, яшчэ з пахам друкарскай фарбы, названа: «Матэрыял да лекцыі на тэму: «Асваенне цалінных і абложных земляў — важная крыніца павелічэння вытворчасці збожжа». Ад апісання сярпа да тэорыі камбайна. Ад расказа аб пагоншчыках быкоў, якія дастаўлялі ў мінулым стагоддзі збожжа на дняпроўскія прыстані, да кіраўніцтва па арганізацыі аўтапаяздоў і будаўніцтву навейшых элеватараў.

З асаблівай беражлівасцю захоўваюцца ў бібліятэцы рэдкія экземпляры кніг, а сярод іх тыя, што выдадзены пры жыцці Уладзіміра Ільіча Леніна і змяшчаюць першыя публікацыі яго неўміручых твораў. Тут жа і экземпляры ленінскіх газет «Искра», «Вперед», першых марксісцкіх часопісаў. Вось некалькі нумароў газеты «Вперед», выдадзеных у Жэневе пяцьдзесят пяць год таму назад, у красавіку гістарычнага 1905 года. Тэарэтычныя артыкулы, палемічныя заметкі, рэвалюцыйная хроніка, парады (з чарцяжамі), як трэба ўзводзіць барыкады. Гэта немагчыма чытаць без хвалявання! Нават самыя кароткія матэрыялы — адказы карэспандэнтам у «Паштовай скрынцы» ўражаюць наша ўяўленне, як яркія ўспышкі рэвалюцыйных зарніц, якія дайшлі да нас праз дзесяцігоддзі. Напрыклад: «Тэр-гю. Пісьмо атрымана. Дзякуем. Працягвайце. Паўтарыце шыфр, нельга разабраць, таму што напісаны радок на радку». Або: «Аўтару пратэстаў супраць «Искры». Дзякуем, але друкаваць не варта: на кожны чых не наздароўкаешся».

Амаль пяцьсот год прайшло з таго часу, як беларускі асветнік Георгі Скарына паклаў пачатак кнігадрукаванню ў Беларусі. У бібліятэцы імя Леніна захоўваюцца каштоўнейшыя экземпляры яго кніг. Старонкі іх здаюцца пасівелымі, ілюстрацыі — паблеклымі. І ўсё ж як ярка свецяць сёння гэтыя фаліянты, гэтыя кнігі-прадзеды, якія дажылі да светлага лёсу свайго многамільённага друкаванага патомства!.. З беларускім першадрукаром суседнічае яго старэйшы брат — Іван Фёдараў. Тут жа кнігі, выдадзеныя ў XVI—XVIII стагоддзях друкарнямі брацтваў — Магілёўскай, Куцейнаўскай, Буйніцкай і іншымі. Гэтыя першыя беларускія кнігі неслі і першае гнеўнае слова свабодалюбівага народа. Яны маюць ярка акрэсленую антыкаталіцкую накіраванасць, глыбокі гуманістычны змест.

Чытачы, што чэрпаюць веды з кніг бібліятэкі імя Леніна, жывуць не толькі ў Мінску. Іх можна сустрэць у любым кутку рэспублікі. Дастаткова быць запісаным у любой мясцовай бібліятэцы, каб стаць чытачом «ленінскай» па міжбібліятэчнаму абанементу. Да запатрабаванняў іншагародніх чытачоў работнікі бібліятэкі адносяцца з асаблівай увагай.



Ёсць у бібліятэцы аддзел, дзе гучыць музыка. У кабінеце мастацтва сабрана багатая нотная літаратура. З новымі творамі савецкай музыкі знаёмяцца хормайстар дома культуры швейнай фабрыкі імя Крупскай Зінаіда Дзідэнка і ўдзельніца самадзейнага хору работніца Тамара Кляшторная.



Абавязкі галоўнага бібліятэкара выконвае малады спецыяліст Георгі Галенчанка. Ён заканчвае сёлета вучобу і для дыпломнай працы выбраў тэму: «Кнігадрукаванне на Беларусі ў XVI—XVIII стагоддзях». Уважліва чытае ён унікальнае выданне — адну з кніг Георгія Скарыны.

У глыбіні Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці знаходзіцца Прыснянская клубная бібліятэка. Настаўніцы Іёзінай спатрэбілася кніга аб лабараторных работах па фізіцы. Бібліятэкар сумна развяла рукамі — такой кнігі ў яе не аказалася. Але яна тут жа прапанавала настаўніцы запоўніць невялікі бланк. Гэта быў заказ на атрыманне літаратуры па міжбібліятэчным абанеменце. У ім трэба ўказаць дакладную назву кнігі. Іёзіна памятала толькі, што кніга напісана Зварыкіным. Бланк-заказ паступіў у раённую бібліятэку. Там гэтага падручніка таксама не аказалася. Заказ пераслалі ў Гомель. Але і ў Гомелі паўтарылася тое ж. Заказ прыснянскай настаўніцы



У аддзеле беларускай кнігі часта можна сустрэць Галіну Барташэвіч — супрацоўніцу Акадэміі навук БССР. Яна цікавіцца пытаннямі беларускай этнаграфіі.

трапіў у рукі бібліятэкара «ленінскай». Але і тут кнігу знайшлі не адразу. Работнікі бібліятэкі імя Леніна вельмі ўважліва прагледзелі мноства картак у каталогах перш, чым ім удалося выканаць жаданне чытачкі. Аказалася, што падручнік складзены двума аўтарамі — А. Пакроўскім і В. Зварыкіным і называецца «Франтальныя лабараторныя заняткі па фізіцы ў сярэдняй школе». Кніга была знята з паліцы, загорнута ў шчыльную паперу і адпраўлена поштай па прызначэнню.

Малады фармацэўт В. Алдушына, якая працуе ў Петрыкаве, звярнулася ў сваю бібліятэку з просьбай падабраць ёй літаратуру аб павышэнні прадукцыйнасці працы ў аптэцы. І гэты запрос трапіў у «ленінскую» бібліятэку. Работнікі міжбібліятэчнага абанемента адправілі ў Петрыкаў не толькі кнігі, але і некалькі нумароў часопісаў, дзе змешчаны артыкулы, якія цікавяць маладога фармацэўта.

Мы паказалі ў гэтым рэпартажы толькі некаторыя бакі складанай і карпатлівай работы супрацоўнікаў Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна. У аб'ектыў фотаапарата не трапілі дамашні абанемент, метадычныя кабінеты, чытальня замежнай перыядычнай літаратуры, тэматычныя выстаўкі.

Да позняга вечара не гаснуць агні ў сціплым шэрым будынку па Чырвонаармейскай вуліцы. Тысячы чытачоў штодзённа чэрпаюць тут з кніг веды. Бібліятэка, якая носіць імя найвялікшага з людзей нашай эпохі, памагае савецкім людзям выконваць яго запаветы — працаваць, марыць, ствараць цудоўнае камуністычнае заўтра.



Своечасовым выкананнем заказаў чытачоў заклапочана супрацоўніца аддзела міжбібліятэчнага абанемента Рыма Зіневіч.





Палац культуры імя У. І. Леніна ў Гомелі.
Фота П. Белавуса.

# УНІВЕРСІТЭТ У ГОМЕЛІ

Кожны, хто прыязджае ў Гомель і выходзіць з вакзала ў горад, не можа не залюбавацца прыгажосцю будынка, які стаіць на прывакзальнай плошчы. Гэта — Палац культуры чыгуначнікаў імя Леніна.

Увечары і ў святочныя дні асабліва людна бывае каля палаца. Групамі і па адным спяшаюцца сюды людзі, каб культурна і весела адпачыць, папоўніць свае веды ў галіне працоўнай спецыяльнасці, задаволіць свае густы ў галіне пазнання лепшага з культурных здабыткаў чалавецтва.

Ідуць слухачы ўніверсітэта мастацкага выхавання на заняткі. Ідуць і ідуць. Міжволі здзіўляешся, што людзей так многа. Вось, ажыўлена размаўляючы паміж сабой, па прыступках падымаецца некалькі чалавек. Відаць, што яны сябруюць даўно. Так, іх здружыла праца. Гэта — цэлы вытворчы калектыў, якому прысвоена высокае званне брыгады камуністычнай працы. Той вось гаваркі — майстар Пётр Андрэевіч Сіроткін. А за ім — брыгадзір Аляксей Кавалёў, слесары Пятро Пліска, Барыс Глушакоў, Мікалай Хацько, Уладзімір Саковіч і Пятро Гаравы.

— Шкада, што ты, Валодзя, у нас «адшчапенец», — дакарае майстар Уладзіміра Саковіча. — Займаўся б разам з намі на тэатральным факультэце, дык не — пацягнула на жывапіс...

— І добра, што жывапіс захапіў Валодзю, — спыняецца Аляксей Кавалёў. — Прыйдзе час і ўбачыце: Саковіч яшчэ такую карціну напіша, што ад здзіўлення толькі ахнеце.

Уладзімір Саковіч ведае, што без жартаў не абыходзяцца ніводныя заняткі. Усе яго сябры працуюць разам у гомельскім вагонным дэпо і ўсе займаюцца разам на тэатральным факультэце, толькі ён выбраў сабе факультэт выяўленчага мастацтва. Што ж зробіш, любіць ён мастацтва і сам часам спрабуе цішком рабіць нясмелыя штрыхі на паперы. Цяжка ўтаіць першыя спробы ад такіх дасціпных, як той брыгадзір Ка-

валёў! Здаецца ж, і не глядзіць, як ты ў абедзенны перапынак чыркаеш алоўкам, а вось падыдзе ды самым сур'ёзным чынам і абвесціць:

— Ціха, хлопцы! На нашага Валодзю сёння натхненне найшло... Робіць накіды сваёй будучай карціны. Дальбог, з яго другі Дайнека выйдзе...

Уладзімір звычайна маўчыць: ведае, што жарты сяброў — добразычлівыя.

Стрыманы гоман поўніць вестыбюль Палаца культуры.

— Забраць бы ўсю гэтую вітрыну проста да нас, у дэпо, — жартуе Пятро Андрэевіч Сіроткін, паказваючы на стэнд, абсталяваны ў калідоры палаца. На стэндзе — літаратура ў дапамогу слухачам універсітэта мастацкага выхавання. Тут — чатыры раздзелы. У першым — творы класікаў марксізма-ленінізма аб мастацтве, артыкул М. С. Хрушчова «За цесную сувязь літаратуры і мастацтва з жыццём народа», кніга М. Г. Чарнышэўскага «Эстэтычныя адносіны мастацтва да рэчаіснасці»... У другім раздзеле — літаратура для слухачоў музычнага факультэта. Пятро Андрэевіч, вядома, не можа прайсці абыякава каля трэцяга раздзела. Тут — літаратура для слухачоў тэатральнага факультэта. Вось «Этыка» Станіслаўскага, вунь «Успаміны аб рускім тэатры» Шчэпкінай-Купернік, кніга «Ф. Г. Волкаў і рускі тэатр таго часу». Побач — апавяданні аб жыцці і творчасці Яблачкінай, Яланскай і іншых выдатных акцёраў... Так жа хочацца ўсё прачытаць!

— Навошта забіраць у дэпо? — падае голас старшыня праўлення палаца Міхаіл Мікалаевіч Сімкоўскі. — Бібліятэкар вам любую кнігу падбярэ. Падайце толькі заяўку, што вас цікавіць.

Слухачы ўніверсітэта разыходзяцца па пакоях на заняткі. З кожным днём колькасць іх павялічваецца. А яшчэ ж нядаўна, паўтара года назад, многія, чытаючы аб'явы аб пачатку заняткаў ва ўніверсітэце, здзіўлена паціскалі плячыма: «Універсітэт? У Гомелі?»

Як узнік універсітэт? Па праўдзе кажучы, цяпер нават цяжка і прыпомніць усе падрабязнасці. Відаць, наспела неабходнасць: людзі прагнулі ведаў, цягнуліся да культуры... Дапамог гарком партыі, — падабралі і зацвердзілі савет універсітэта з семнаццаці чалавек.


На адной з лекцый народнага ўніверсітэта.



Многія члены гэтага савета вельмі шмат робяць, каб заняткі праходзілі жыва, цікава. Дапамагаюць універсітэту дырэктар абласнога тэатра Л. Эльстан і дырэктар музычнага вучылішча К. Кавалёнак. Дырэктар тэатра прынёс аднойчы ладнаватую кіпу кніг па тэатральнаму мастацтву з уласнай бібліятэкі:

— Бярыце, — сказаў ён, звяртаючыся да бібліятэкара ўніверсітэта. — Спатрэбяцца. Рэдкія кнігі... Калі што трэба будзе — звяртайцеся да нас, я і акцёры тэатра заўсёды да вашых паслуг.

А дырэктар музычнага вучылішча проста сказаў:

— Самыя кваліфікаваныя выкладчыкі будуць чытаць лекцыі слухачам па музыцы. Самыя здольныя нашы навучэнцы будуць «ілюстраваць» тыя лекцыі. Убачыце, як цудоўна атрымаецца!

Атрымалася сапраўды цудоўна. Члены той жа брыгады камуністычнай працы Пятра Сіроткіна доўга потым успаміналі лекцыі аб савецкім тэатры, якія прачыталі і праілюстравалі ўрыўкамі са сваіх спектакляў творчыя работнікі абласнога драматычнага тэатра.

Не адсталі і выкладчыкі музычнага вучылішча, якія раскрылі перад слухачамі ўніверсітэта казачнае багацце класічнай музыкі.

Спакваля, можа нават часам і вобмацкам (такіх універсітэтаў амаль не было тады), рабіліся першыя крокі. Адзін слухач не разумеў музыкі і вырашыў у вольны час наведваць універсітэт, каб навучыцца яе разумець. Другі, заўзяты скептык, прыйшоў, каб папярэдзіць таварыша: «Не марнуй дарма часу. Падумаеш, універсітэт адкрылі!..» Але яму так спадабаліся першыя заняткі, што пацягнула на другія, а потым на трэція... І не заўважыў, як «ветэранам» універсітэта стаў. Сярод тых «ветэранаў» людзі рознай прафесіі, рознага адукацыйнага ўзроўню. Тут — ліцейшчык завода «Гомсельмаш» Рыгор Герасеў і работнік кнігарні Валянціна Анішчанка, качагар паравознага дэпо Мікалай Пушкоў і кінамеханік Мікалай Прохараў, студэнт будаўнічага тэхнікума Віктар Андрук і


Члены брыгады камуністычнай працы Аляксей Кавалёў, Пятро Сіроткін і Пятро Пліска знаёмяцца з рэпрадукцыямі твораў класічнага жывапісу.

гандлёвы работнік Міхась Смірын.

А потым? Потым пачалі прыходзіць на заняткі цэлымі брыгадамі. Хоць бы той жа Пятро Сіроткін з вагоннага дэпо са сваімі сябрамі.

Прайшоў месяц, другі, — ясней акрэслілася праграма заняткаў. Яна дзеліцца цяпер на дзве часткі: агульнаўніверсітэцкі курс для слухачоў усіх факультэтаў і факультэцкі курс для слухачоў кожнага віду мастацтва ў паасобку.

Агульнаўніверсітэцкі курс знаёміць з асноўнымі палажэннямі марксісцка-ленінскай эстэтыкі, дае агульнае паняцце аб мастацтве, падрыхтоўвае да больш глыбокага вывучэння таго ці іншага віду мастацтва. А факультэцкі курс дае слухачам веды ў галіне тэорыі і гісторыі аднаго з відаў мастацтва — музычнага, тэатральнага ці выяўленчага. І хіба забудзецца загадчык навучальнай часткі Міхаіл Ноевіч Хает, як аднойчы, пасля заняткаў, да яго падышоў слухач універсітэта слесар «Гомсельмаша» Васіль Бурашэвіч і сарамліва прызнаўся:

— Ведаеце, раней, ну, хоць што хочаш рабі, не ведаў я да тонкасцей, што такое прыгожае. А калі гавораць «разумець прыгожае», дык, паверыце, думаў: ат, модным слоўцам чалавек жангліруе...

А цяпер і сам пры выпадку змагу растлумачыць, што яно такое — хараство...

Лекцыі аб мастацтве, прачытаныя мастацтвазнаўцамі Е. Рэсінай, І. Элентухам, аб рускім класічным балеце, што чытаў ва ўніверсітэце выкладчык Мінскага харэаграфічнага вучылішча А. Калядэнка, пакінулі ў памяці слухачоў глыбокі след. Выступалі ва ўніверсітэце і беларускія кампазітары Ю. Семяняка, Д. Камінскі, Г. Вагнер. Цікавую лекцыю аб сувязі музыкі з сучаснасцю прачытаў музычны крытык І. Нісневіч.

Аднойчы, калі ў Гомелі гастраліраваў Ленінградскі тэатр камедыі, слухачы запрасілі да сябе ў госці заслужанага артыста РСФСР С. Філіпава. Каму-каму, а моладзі гэты акцёр вядомы па многіх камедыйных фільмах. Філіпаў з задавальненнем згадзіўся і прыйшоў ва ўніверсітэт з заслужанай артысткай РСФСР А. Сяргеевай.

— Такая ўжо, мусіць, мая доля, — жартуючы, расказваў аб сабе Сяргей Мікалаевіч, — прыходзіцца іграць адны адмоўныя ролі. За ўсё сваё жыццё я сыграў толькі адну станоўчую ролю — Осіпа ў камедыі Гогаля «Рэвізор»...

З уласцівым яму гумарам Філіпаў выступіў у ролі лектара і прачытаў слухачам «лекцыю» аб тым, «Ці ёсць жыццё на Марсе?» Гэта — з кінакамедыі «Карнавальная ноч». Ох, і пасмяяліся ў зале! А кінаакцёра праводзілі такімі гучнымі апладысментамі, якія рэдка калі яму ўдавалася чуць на ўласных творчых вечарах.

Ды хіба ўспомніш усё? Савет універсітэта стараецца, каб кожная лекцыя, кожныя заняткі чым-небудзь ды вылучаліся, былі пасвойму даступнымі, глыбокімі і цікавымі.

Цяпер працаваць стала куды лягчэй. Пры ўніверсітэце абсталявана выдатная фанатэка. У шафах на паліцах ляжаць сотні самых разнастайных патэфонных пласцінак. Хочаш праслухаць спектаклі «Мёртвыя душы», «На дне», «Гарачае сэрца». «Апошняя ахвяра» ў выкананні артыстаў Маскоўскага акадэмічнага тэатра? Калі ласка. Цікавішся, як пастаўлены «Рэвізор» у Малым тэатры? Можна і гэта паслухаць. Захапляешся операй «Царская нявеста»? У пакоі, дзе размяшчаецца фанатэка, можаш праслухаць гэту оперу. Тут загадзя вывешваецца спецыяльны графік на дзесяць-дванаццаць дзён. Выбірай, што табе па густу, прыходзь і слухай.

Значна папоўнілася ўніверсітэцкая бібліятэка. Ды на такіх прагных да ведаў, як Пятро Сіроткін са сваімі сябрамі, і яна часам бывае малаватай. Добра, што бібліятэкар Клаўдзія Паўлаўна Мельнікава знайшла выхад: актывісты ўніверсітэта самі дастаўляюць слухачам, членам брыгад камуністычнай працы, неабходныя кнігі.

Кнігі, кнігі... Іх трэба так многа па розных галінах ведаў, што часта прыходзіцца заглядваць на паліцы кнігарань Мінска, Масквы, Ленінграда. Рабочы вагонарамонтнага завода Аляксей Мельнікаў прачытаў «Рускае мастацтва XVIII стагоддзя», «Што такое мастацтва» Б. Разумнага, зборнік артыкулаў «Праца акцёра», кнігу М. Львова аб артыстцы А. Няжданавай... А колькі прачыталі настаўніца Елізавета Кудзіна або студэнт тэхнікума механічнай апрацоўкі драўніны Яўген Курдзенка — і не пералічыш!

З нейкай здзіўляючай прагай цягнуцца да кніг слухачы ўніверсітэта, спяшаюцца як мага больш набыць ведаў, узбагаціць сябе духоўна.

І цяпер Гомельскі ўніверсітэт мастацкага выхавання сам як бы служыць прыкладам для сваіх маладзейшых «братоў». Пішуць з Ленінграда, Растова-на-Доне, Сталіна, Чарнігава, прыязджаюць з Грознага, Баку. «Падзяліцеся вопытам», — просяць адны. «Прышліце праграмы, апісанне сваёй работы», — напамінаюць другія. Адно пісьмо атрымалі аж з Магаданскай вобласці. «З часопіса «Клуб» даведаліся, што ў вас арганізаваны ўніверсітэт мастацкага выхавання, — пішуць магаданцы. — Вельмі просім падрабязна апісаць праграму, час заняткаў, размеркаванне гадзін, хто лектары. — адным словам, усё, што датычыць універсітэта ў дэталях. Жывём за 12 тысяч кіламетраў ад вас, у тайзе. Але прага да ведаў у людзей не меншая, чым у Беларусі...».



**Пасля лекцыі аб творчасці П. І. Чайкоўскага выкладчыца Гомельскага музычнага вучылішча К. Кірычэнка знаёміць слухачоў універсітэта з некаторымі творамі геніяльнага рускага кампазітара.**

... Непрыкметна мінаюць гадзіны заняткаў. На гэты раз таксама цікавая лекцыя: «Пачуццё прыгожага і ўзвышанага, трагічнага і камічнага ў мастацтве». Чытаў яе выкладчык Гомельскага педінстытута кандыдат філасофскіх навук А. Карчагін. А потым навучэнцы музычнага вучылішча выконвалі творы Чайкоўскага.

Уладзімір Саковіч на факультэце выяўленчага мастацтва праслухаў лекцыю «Мастацтва перыяду калектывізацыі і перамогі сацыялізма». Палотны А. Дайнекі, А. Герасімава, А. Пластава — удала дапоўнілі яе. Якое вялікае жаданне было ў кожнага з гэтых мастакоў уславіць веліч нашага жыцця... — зрабіў сабе вывад Уладзімір і недзе ў глыбіні сваёй душы адчуў нясмелае жаданне: «А што, каб з цягам часу паспрабаваць і самому?» Уладзімір падазрона азірнуўся на сяброў: ці не падслухалі яны тую таемную думку?

Скончаны чарговыя заняткі, а ў кожнага слухача нястрымнае жаданне дачакацца хутчэй чарговых лекцый.

Кожную нядзелю людна каля Палаца культуры чыгуначнікаў, які носіць імя вялікага Леніна. Тут працуе народны ўніверсітэт. Ён быў адкрыт першы ў рэспубліцы. Сёння ў Беларусі іх звыш ста. Гэта — жывое пацверджанне ленінскіх слоў аб тым, што з перамогай сацыялістычнай рэвалюцыі «... усе цуды тэхнікі, усе заваёвы культуры стануць агульнанародным здабыткам...»

**Міхась ДАНІЛЕНКА.**

**Уладзімір ЮРЭВІЧ**

# АДКАЗНАСЦЬ ЖАНРА

Адной з самых пераканаўчых адзнак сталасці кожнай літаратуры трэба лічыць яе жанравую разнастайнасць. Бязглуздымі здаюцца сцверджанні аб тым, што раман — з'ява ў літаратуры больш значная, чым нават даволі аб'ёмістая кніга таленавітых апавяданняў, альбо што нарыс, які б хвалюючы і змястоўны ён ні быў, нічога не варты ў параўнанні з вершам, хоць апошні рытарычны ад пачатку да канца. Вартасць таго ці іншага твора вызначаецца не знешнімі адзнакамі жанравай прыналежнасці, а ідэйнай накіраванасцю і мастацкай дасканаласцю яго, багаццем і свежасцю вобразаў.

Прызнаючы багатую разнастайнасць жанраў у савецкай літаратуры, было б вялікай памылкай не прызнаваць раўнапраўнасць кожнага з іх. У мастацкай літаратуры кожны жанр нясе пэўнае кола абавязкаў, кожны жанр **па-свойму адказны** перад чытачом. Калі раман адлюстроўвае карціны жыцця ва ўсёй яго складанасці і разнастайнасці, паказваючы сутыкненне лёсу многіх людзей у розныя перыяды іх веку, дык, напрыклад, апавяданне або нарыс мае больш сціплыя задачы — у кароткім эпізодзе з жыцця чалавека раскрыць найбольш істотныя, тыповыя рысы рэчаіснасці.

Калісьці Стэндаль вызначаў раман, як «люстэрка, з якім ідзеш па вялікай дарозе. То яно адлюстроўвае блакіт неба, то гразкія лужы і ўхабы...» Але ж па вялікай дарозе можна прайсціся і з невялікім асколачкам люстэрка, а ўбачыць тое самае, што і ў цэлым. Колькі ўбачыцца навакольнага жыцця ў гэтым асколачку, будзе залежаць ад умення знайсці такія куты зроку, так павярнуць асколачак, каб ахапіць і дальнія планы, і больш блізкія.

У наш час гэтае ўменне павінна быць асабліва высокім, бо жыццё набірае разгон небывалымі яшчэ дагэтуль тэмпамі. «Прагрэс чалавечай думкі імчыцца, абганяючы першага штучнага спадарожніка Зямлі, наперад і вышэй — да зораў... Тэмпы — вось крыніца натхнення і галоўная зброя нашага веку» (К. Федзін). Высокім творчым парывам ахоплены мільёны савецкіх людзей, яны згуртаваны, акрылёны вялікай верай у светлую будучыню, яснай перспектывай будаўніцтва камунізма.

Імкненне глыбока і натхнёна адлюстраваць у мастацкіх вобразах навакольнае жыццё, перадаць біццё пульса часу заўсёды было той сілай, якая рухала нашу літаратуру наперад, да новых здабыткаў. Творы, якія складаюць залаты фонд савецкай літаратуры, заўсёды вырашалі магістральныя праблемы свайго часу. Больш таго, будучы творамі літаратуры сацыялістычнага рэалізма, яны з'яўляюцца тымі ўзорамі, у якіх так арганічна спалучана канкрэтна-гістарычнае адлюстраванне рэчаіснасці з актыўным уваходжаннем у жыццё, каб рэвалюцыйна перайначыць яго.

Гэтым асноўным накірункам нашай літаратуры тлумачыцца імкненне кожнага яе актыўнага працаўніка захапіцца тэмай сённяшняга дня, зрабіць яе для сябе ўнутранай, кроўнай справай. І калі часам можна пачуць слушныя размовы пра тое, што тэму сучаснасці не трэба звужваць, абмяжоўваць толькі матэрыялам сённяшняга дня, дык не хацелася б за такім пашыральным тлумачэннем бачыць спробы далёка адысці ад яе. А такія спробы вельмі адчувальны і ў беларускай літаратуры, нават у прадстаўнікоў яе малодшага пакалення, для каторага, здавалася б, пафас перспектывы, «камуністычнага далёка», якое ўжо сёння становіцца явай, павінен складаць галоўны змест усёй творчай дзейнасці. Аднак жа выходзіць наадварот, успаміны маленства, якое супала з цяжкім ваенным ліхалеццем, першымі пасляваеннымі гадамі, усё яшчэ пераважаюць у творах паэзіі, прозы, драматургіі. Часам нават дзіву даешся, як думка пісьменніка бяжыць назад, нібы даганяючы нешта страчанае па дарозе часу.

Кажуць, што дні тытанічнага змагання савецкага народа з цёмнымі сіламі фашызма даюць невычэрпнае багацце драматычна напружаных, незвычайных па сіле ўзрушанасці праяў чалавечага характару. З гэтым нельга не згадзіцца, але варта мець на ўвазе адно — не выключная напружанасць і не моцная ўзрушанасць самі па сабе прыцягваюць пісьменніцкую ўвагу да падзей ваеннага часу, а тое, што гэтыя адзнакі выяўляліся тады, як правіла, адкрыта, выступалі найбольш аголена. У дні мірнага жыцця, калі ідзе напружаная барацьба за перамогу светлых ідэалаў, пануе такая ж моцная ўзрушанасць людзей, але праяўляецца ўсё гэта ў больш глыбінных працэсах, чым у дні ваеннага ліхалецця, калі пачуцці любві і нянавісці мелі адкрытае выяўленне. Каб адчуць сённяшнюю мірную напружанасць, творчую ўзрушанасць, штодзённую ўсхваляванасць, мастаку трэба загарэцца большым натхненнем, назіраць жыццё больш пільна, адбіраць факты больш старанна.

Жорсткая памяць вайны яшчэ вельмі жывая нават у самага маладога пакалення — тых, хто сёння ўступае на шлях самастойнага жыцця. У многіх сем'ях яшчэ не загаіліся раны таго страшнага часу, асабліва душэўныя. Але ж, як пісаў Л. Талстой, рана душэўная, як і фізічная, загойваецца хутчэй «выпирающею силою жизни». Вось чаму так важна паўней і глыбей адлюстроўваць гэтую «выпирающую силу» сённяшняга жыцця і тым самым узмацніць цікавасць чытача да твораў пра надзённае, блізкае, скіраванае ў светлую будучыню чалавецтва.

Ніхто не збіраецца адмаўляць права пісаць пра далёкае ці больш блізкае мінулае, тым больш, калі яно гучыць у кнізе надзённа, сучасна. Але і нельга ставіць знак роўнасці паміж такімі кнігамі і творамі, якія з'яўляюцца водгукам мастака на падзеі сённяшняга дня, якія напісаны па гарачых слядах гэтых падзей. Аднолькава блага — супрацьстаўляць тэму матэрыялу і, наадварот, атоесамляць іх. Але куды лепш, калі тэма сучаснасці вырастае з жывой і кіпучай сённяшняй рэчаіснасці, калі ў творах вырашаюцца кардынальныя праблемы нашага часу, даюцца адказы на самыя надзённыя пытанні.

Цяпер, калі асабліва востра перад літаратурай пастаўлена баявая задача адлюстравання сучаснасці, праблемы ўсебаковага развіцця і ўдасканалення майстэрства нарыса як аднаго з самых баявых, аператыўных яе жанраў паўстаюць асабліва востра. Нарыс разам з іншымі формамі праяўлення публіцыстычнага таленту пісьменніка дазваляе яму найбольш дзейсна ўваходзіць у розныя сферы грамадскага быцця, заўсёды знаходзіцца ў самым гарніле жыцця, быць разам з народам, разам з партыяй, дапамагаючы ёй фармаваць грамадскую думку.

У адзіным літаратурным працэсе нарысу заўсёды належала важная роля, як **разведвальніку** надзённых праблем, **першаадкрывальніку** тэм, тыпаў вобразаў, **даследавальніку** найбольш тыповых з'яў рэчаіснасці. Асабліва ўзрасла гэтая роля яго ў нашы дні, якія характарызуюцца гераічным напружаннем сілы і волі чалавека, вострым сутыкненнем канфліктаў, незвычайнай імклівасцю думкі. Узрасла роля, а значыць павысілася і адказнасць нарыса, калі разглядаць яго ў адзінстве функцый разведкі, першаадкрывання і даследавання, калі лічыць яго складаным, тонкім і шматгранным відам мастацтва, які мае свае законы, як і кожны жанр. Адказнасць жанра нарыса можна сабе ўявіць найбольш поўна толькі ў тым выпадку, калі разам з прызнаннем ідэйнай і публіцыстычнай сілы бачыць мастацкасць яго.

### Ад факта да вобраза

Варта звярнуцца да лепшых здабыткаў рускай дарэвалюцыйнай і савецкай нарыснай літаратуры, каб пераканацца ў тым, што сапраўдны нарыс нельга адарваць ад баявой публіцыстычнай стыхіі або зрабіць яго чыста мастацкай катэгорыяй. Даследчыкі рускага нарыса даўно ўжо прыйшлі да ўзгодненага бясспрэчнага вываду аб тым, што «нарыс, выконваючы свае ідэйна-мастацкія задачы, вызначыўся як жанр, для каторага характэрна імкненне акрэсліць тую ці іншую сацыяльную з'яву, не зважаючы на бар'еры паміж мастацтвам, публіцыстыкай і навукай. У гэтым яго асаблівасць. У гэтым яго сіла».

Як без падмурка не можа быць узведзена ніводная будыніна, так і без жыццёвага факта не можа быць напісан ніводзін мастацкі твор, калі ён пішацца з адзінай мэтай — служыць народу. Падмурак можна скласці з каменняў рознай велічыні, але ён не будзе трывалым і хутка разбурыцца, калі камені не зацэментаваць, не ператварыць іх, як кажуць будаўнікі, у маналіт. Так і факты, падгледжаныя пісьменнікам у жыцці, яшчэ не складуць нарыса, нават калі яны будуць паведамлены з захаваннем храналогіі і асветлены з найстражэйшай дакладнасцю і навуковай, калі гэта патрабуецце, абгрунтаванасцю. Толькі калі нарысіст паспрабуе з найбольшай паўнатой і глыбінёй уразумець сэнс факта, па-мастацку яго даследуе, тады з-пад яго пяра выйдзе твор, у якім мы адчуем мастацкае асэнсаванне жыцця.

Гісторыя не дасць змяніць, што Глеб Успенскі стаў класікам рускай літаратуры, не маючы за плячыма ніводнага рамана, але бліснуўшы сваім непаўторным талентам у цыкле праніклівых нарысаў. Напісаць натхнёны твор, не выходзячы за межы падзей, якія сапраўды мелі месца, — гэта высокае і складанае майстэрства. А іменна такімі творамі і з'яўляюцца нарысы Глеба Успенскага, пра якія Тургенеў сказаў: «Гэта не паэзія, але, мабыць, большае за паэзію».

Прыгадаем толькі адзін, шырока вядомы нарыс Г. Успенскага — «Чвэрць каня». У аснову яго пакладзены факт, які паведамляла тагачасная статыстыка аб тым, што на адну сялянскую душу ў Расіі выпадае чвэрць каня. Аднаго факта пісьменніку было дастаткова, каб стварыць запамінальныя вобразы членаў сялянскай сям'і, якія выбіваліся з апошніх сіл, каб неяк існаваць. Звычайная лічба «$^1/_4$» у руках мастака ператварылася ў людзей, ажыла, бо за гэтай лічбай раскрыўся лёс не толькі адной сям'і, але і лёс усяго працоўнага народа, які стагнаў, пакутаваў, знясільваўся пад уладай капітала. Жывой жа лічба стала таму, што пісьменнік не абмежаваўся толькі паведамленнем яе, а раскрыў унутраны змест, псіхалогію факта.

«Сутнасць кожнага факта не ў самім факце, — пісаў В. Бялінскі, — а ў яго значэнні, — і калі паэт здолеў уразумець значэнне факта і гэтым значэннем, як гранёны крышталь святлом, прасвятліць факты — гэты факт будзе паэтычны...» Прыклады такога прасвятлення фактаў ёсць і ў беларускай літаратуры.

Нарыс Янкі Брыля «Сэрца камуніста» напісан пра «крыху ссутуленага і заўчасна пасівелага чалавека», жыццё якога вельмі багата фактамі — пра сакратара райкома партыі П. Жалезняковіча. Нарыс пачынаецца з паказу таго, як «закрываецца» ў мэтах узбуйнення раён, дзе працаваў П. Жалезняковіч.

Усе справы засталіся ззаду, як жа тут раскрыць сцісла іх змест перад чытачом? Пісьменнік успомніў, што ў кабінеце сакратара вісела карта раёна. І ён ператварае гэты факт у **нарысны вобраз** — сакратар глядзіць на карту і ўспамінае палі Любчаншчыны, дзе шмат пакладзена працы ім і людзьмі, што памагалі яму.

«Сціплая карта, як нейкі іерогліф, напамінае сакратару пра так добра вядомыя і ўраджайныя, і пясчаныя палі Наднямоння. Заказаным позіркам бачыць ён, як на бяскрайняй зеляніне лугоў жаўцее посціл ільну, які, як кажуць тут, «расце двойчы: на полі і на сцелішчы». Смачна, соладка пахне высокая, густая кукуруза, якую на дзіва спраўна і люба для гаспадарскіх вачэй падкошвае і шаткуе камбайн. Далей на захад, дзе пяскі, жоўтымі свечкамі кветак стракаціць зялёны, сакавіты лубін, пасля якога добра родзяць жыта...»

Так звычайная карта ператварылася ў «жывую карціну» сапраўднага багацця, у падрахунак спраў тых людзей, якім сакратар «дапамог паверыць у жыццёвасць, у справядлівасць калгаснага ладу...» Куды прасцей было б заняцца голым пералікам зробленага, але гэта супярэчыла б творчай манеры Брыля-мастака з яго заўсёднымі пошукамі глыбокага сэнсу ў самым звычайным факце жыцця. Імкненне ажывіць факт прыводзіць, як правіла, да жывой, сакавітай, па-народнаму простай мовы, на якой пісьменнік размаўляе са сваім чытачом.

«Крыху ссутулены і заўчасна пасівелы чалавек» — такім прадставіў нам аўтар нарыса свайго героя. Але гэта сказана не для прыгожага слоўца. У гэтых словах — складаны шлях чалавека па жыццю, якое ссутуліла яго, заўчасна зрабіла сівым. Расказаць пра гэты шлях і меў на мэце аўтар, выношваючы задуму нарыса.

Як жа ад сённяшняга дня перанесціся ў мінулае героя. Можна было проста паставіць два словы «сакратар прыгадаў...» і аддацца ўспамінам. Я. Брыль і тут ідзе ад жыццёвага факта.

Пісьменнік ведаў, што яго герой любіць кнігі, захапляецца паэзіяй, што ў яго шмат кніг дома, і сярод іх ёсць адна з аўтографам вядомага сучаснага польскага паэта Уладзіслава Бранеўскага, вершамі якога Жалезняковіч зачытваўся яшчэ ў турме. І вось, калі сакратар райкома позна ўвечары вярнуўся дадому, дык, «...застаўшыся адзін, узяў з біткам набітай кніжнай шафы маленькі томік і, зноў надзеўшы акуляры, разгарнуў яго. Усміхнуўся». Усміхнуўся, бо прыгадалася асабістая сустрэча на юбілеі Міцкевіча ў Навагрудку з тым чалавекам, хто сваімі творамі падбадзёрваў калісьці, у гады падпольніцкай маладосці, Жалезняковіча за кратамі катаржнай панскай турмы. Толькі пасля гэтай цёплай усмешкі, навеянай кніжкай любімага паэта, сябра па барацьбе, узнікла аўтарская рэмарка «сакратар задумаўся» і ажылі наступныя старонкі нарыса, у якіх узноўлен пачэсны шлях камуніста Жалезняковіча і яго сяброў па жыцці.

Так у выніку вялікай творчай працы ўбачанае нарысістам у жыцці атрымлівае сваё глыбокае, выразнае, сапраўды мастацкае адлюстраванне. Факт становіцца трапнай мастацкай дэталлю, ператвараецца ў апраўданы мастацкі прыём. А гэта пад сілу толькі таму, хто валодае талентам пазнання жыцця, раскрыцця яго ўнутранага зместу і карыстаецца для гэтага раскрыцця найбагацейшай скарбніцай сродкаў мастацкай творчасці.

Рускі паэт В. Салаухін, накіраваўшыся ў падарожжа па роднай Уладзімірскай вобласці, не збіраўся вывучаць кожны калгас, што сустрэўся яму па дарозе. Але ж ён здолеў на кожным кроку ўбачыць нешта надта важнае, самае характэрнае для сучаснага жыцця калгаснай вёскі. Лягчэй за ўсё было б апісаць усё так, як яно было ўбачана, заўважана. В. Салаухін для нарыса «Уладзімірскія прасёлкі» выбраў тыя жыццёвыя факты, якія здольны стаць зрокавым вобразам, матэрыялам для

цікавых разважанняў аб надзённым, для смелых абагульненняў.

Кожная старонка «Уладзімірскіх прасёлкаў» — гэта ўзор сапраўды мастацкай публіцыстыкі, калі аўтар адштурхоўваецца ад жыццёвага факта, ператварае яго ў мастацкі вобраз і ідзе далей — да разважання, да ўдумлівага абагульнення. Можна было, заўважыўшы, што ў вёсцы мала мужчын, проста сказаць гэтакім банальным сказам «вайна і тут пакінула свае сляды». Але паэт В. Салаухін, мастацкай натуры якога варожа плакатнасць, гаворыць пра тое ж праз вельмі ўзрушаны малюнак:

«За акном высокі жаночы голас заліхвацка пачаў вясёлую прыпеўку, а яшчэ колькі галасоў падхапіла яе. Мы кінуліся да акна і ўбачылі, што паўз дом ідуць восем жанчын, усе гадоў па сорак, з рыдлёўкамі, не проста ідуць, а з песнямі і скокамі.

— Чаго гэта яны?

— З работы. Сіласную яму капалі, а пасля ў мяне на гародзе пасядзелі.

— Як пасядзелі? Навошта?

— Выпілі, значыць, стаміўшыся, ды цыбуляй з грады закусілі. Удовіцы ўсё гэта нашыя. Рана без мужоў засталіся, а сіла баб'я выйсця шукае.

Надоўга засталася ў душы бурная, але горкая весялосць варварынскіх удоў, каторым цяпер па сорак гадоў, — задумёна гаворыць аўтар. — Убачыш такое, і не спатрэбяцца ніякія плакаты, што агітуюць супраць вайны».

Што ні ўбачыць пісьменнік, ва ўсім імкнецца адшукаць глыбокі сэнс, над усім задумацца. Адсюль і шчырасць пачуццяў, і ёмістасць думкі, якімі прасякнуты «Уладзімірскія прасёлкі» ад пачатку да канца. Аўтар то захапляецца тым, як кальчугінскія майстры цягнуць дрот, танчэйшы за чалавечы волас, то абураецца заняпадам народнага промыслу вышывання гладдзю або драпежніцкім знішчэннем лесу. І ў кожным эпізодзе адчуваецца выразнае біццё пульса сучаснасці.

Нарыс багата населен людзьмі, але для кожнага чалавека знойдзена сціслая, трапная, вобразная характарыстыка. Адным сказам В. Салаухін умее ахарактарызаваць чалавека, стварыць вобразтып. Так, напрыклад, узнік тып скнары, для якога «свет сходится узким клином, а там, в самой узости клина, в самом его просвете, маячит не что иное, как кругленькая медная копейка». Такое застанецца надоўга ў памяці!

Беларуская літаратура таксама мае шмат станоўчага ў мастацкім асваенні сучаснасці праз публіцыстычныя жанры. Следам за Янкам Брылем да ўсесаюзнага чытача выйшаў Ігнат Дуброўскі з нарысам «Светлы шлях». Гэта радуе, але гэта і шмат да чаго абавязвае. А перш за ўсё да больш пільнай увагі публіцыстычным жанрам з боку крытыкі.

У нарысе І. Дуброўскага «Светлы шлях» ёсць сапраўдны клопат пісьменніка пра тое, каб самую маленькую праўду жыцця ператварыць у вялікую праўду мастацтва. Трапна заўважаныя народныя выразы і параўнанні скарыстаны пісьменнікам для характарыстыкі людзей, іх паводзін, адносін, паказу стану спраў у калгасе.

Сапраўднае мастацтва заўсёды адкрывае новае і гэтай навізной хвалюе, захапляе, кліча, дапамагае зазірнуць у самыя глыбіні жыцця. Спрадвеку палешукі ўжывалі прыказку: «Дажыліся нашы браты: ні хлеба, ні хаты», у якой было шмат злой іроніі над незайздросным лёсам паднявольнага чалавека. У нарысе І. Дуброўскага слова «дажыліся» ўжыта таксама з іроніяй, але светлай, раднаснай, бо зусім іншы сэнс укладзен у яго сённяшнімі палешукамі — вольнымі працаўнікамі калектыўнай гаспадаркі.

«— Во, дажыліся! То не было чаго ў свірны сыпаць, а то не хапае засекаў! І не сказаць, каб у нас свірнаў было мала, — кінуў рэпліку Іван Дзікавіцкі. І была ў яго голасе незвычайная, амаль што дзіцячая радасць чалавека, які, каб дачакаць шчаслівых дзён, многа ў жыцці пакутаваў.

— Дажыліся! — неяк горда і лёгка паўтарыў Шаманскі словы Івана Дзікавіцкага, і на твар яго чамусьці лягло задуменне. Відаць, слова «дажыліся» было напоўнена і для яго вялікім і хвалюючым зместам».

Так звычайны факт росту калгаснага багацця і заможнасці калгаснікаў не проста паведамлен пісьменнікам, а раскрыт вобразна. Сіла гэтага вобраза створана імклівай, палымянай публіцыстычнай думкай аўтара, думкай, якая ўмее аналізаваць факты, абагульняць з'явы, змагацца і сцвярджаць, а разам з тым і ствараць жывы малюнак.

Мала ўбачыць у жыцці вялікую тэму, даручыць героям важныя справы і ўкласці ў іх вусны правільныя, добрыя словы. Галоўнае — адкрыць душу сучасніка, паказаць, як той, хто будуе гмах камунізма, расце духоўна, каб заслужыць права пасяліцца ў ім.

Перад новым старшынёй калгаса «Светлы шлях» Шаманскім з першых крокаў дзейнасці паўстала задача ўзмацнення працоўнай актыўнасці людзей. Дружная, зладжаная праца калгаснікаў на жніве прынесла супакоенасць старшыні, і ён пачаў думаць, «што цяпер усё пойдзе ладам», нават адкрыта выказваць сваю радасць. Сказаў ён пра гэта і калгаснаму цесляру Сцяпану Кахновічу — чалавеку, «для якога праца — не толькі сродак здабычы хлеба, але, відаць, і душэўнай асалоды». Той доўга глядзеў у падлогу, як бы хочучы ўхіліцца ад размовы.

«— Не згодны, Сцяпан Лявонавіч?

— Не, — і Сцяпан падняў даўгаваты твар з крыху выцягнутым носам, нібы наважыўшыся сказаць тое, што доўга яго хвалявала. — Пагнуты цвік, Павел Паўлавіч, цяжка выраўняць. Глядзіш, здаецца, роўны, а паспрабуеш яго ў цвёрдае дрэва ўбіць — гнецца.

— А калі цвікі гэтыя загартаваць?

Сцяпан Лявонавіч усміхнуўся.

— Дзе тыя горны?

— Горны ёсць, Сцяпан Лявонавіч. А вы самі, а ваша працавітасць — ці ж гэта не горны».

Так факт шчырай размовы старшыні з сумленным калгаснікам, калі раскрываецца душа аднаго і другога чалавека, ператварыўся ў мастацкую карціну, якая хвалюе сваёй мудрай прастатою, непасрэднасцю, глыбінёй думкі і трапнасцю абагульненняў. Атрымалася і вобразна, і публіцыстычна.

Часам можна чуць папрокі аўтарам некаторых мастацкіх твораў у тым, што ў іх залішне шмат публіцыстыкі. Ясна, што такія папрокі неабгрунтаваныя, бо тыя, хто іх выказвае, блытаюць публіцыстычнасць з газетнасцю. Сапраўдная публіцыстычнасць, як гэта відаць з прыведзеных прыкладаў, не замінае вобразнасці. У нарысе, як самым аператыўным жанры нашай літаратуры, кожны вобраз павінен мець публіцыстычнае насычэнне. Спецыфіку нарыснага вобраза трапна падкрэсліў яшчэ Бялінскі, які пра аповесць «Хто вінаваты?» пісаў, што Герцэн «... цудоўна ўмеў давесці розум да паэзіі, думку ператварыць у жывыя асобы, плён сваёй назіральнасці — у дзеянне, поўнае драматычнага руху».

Перагортваючы газеты, часопісы, дзе нарыс — найчасцейшы госць, перачытваючы кніжкі нарысаў, што пачалі ўсё часцей з'яўляцца на кніжных паліцах, не цяжка прыйсці да вываду, што ў большасці выпадкаў беларускі нарыс не выконвае пакуль эстэтычныя задачы мастацкага твора, бо перададзеныя ў ім факты не асэнсаваны праз вобразы, а толькі «вобразна праілюстраваны».

М. Сергіевіч напісаў свае запіскі трыццаціпысячніка «Будні калгасныя» з відавочна рэпарцёрскім ухілам. Аўтар здзіўляе колькасцю сабраных фактаў штодзённага калгаснага побыту. Яны ўспрымаюцца як вынік працяглага назірання рэчаіснасці, асабістых уражанняў аб жыцці. Але ж аўтар спыніўся, як кажуць, на палавіне дарогі. Ён не пайшоў ад вонкавых уражанняў углыб, не ўзняўся да вобразных абагульненняў.

Калі мы сустракаем створаны адным сказам малюнак прадвесня: «яшчэ нядаўна трымаліся маразы, вецер круціў і ганяў па полі колкі снег і ўвесь час пластаваў тоўстыя гурбы ля сялянскіх платоў» або ўкладзенае ў вусны старшыні суседняга калгаса параўнанне: «Ты зайдзі на нашы фермы і паглядзі, што там робіцца. Як у абсерваторыі. Усе зорачкі палічыць мож-

на», — дык гэта сведчанне пошукаў вобраза, фарбаў, слова. Калі ж даводзіцца і даволі часта пераступаць праз такія газетныя штампы, як: «З кожным днём культурнае жыццё вёскі набывала ўсё большы размах» або «На дасягненнях лепшых жывёлаводаў вучацца перадавому вопыту і нашы людзі» — дык гэта сведчанне абыякавасці аўтара да сваёй прафесіі пісьменніка, імкненне ісці пратаптанай сцежкай газетнай абыдзёншчыны.

Запіскам М. Сергіевіча «Будні калгасныя» не стае інтэлектуальнай напружанасці, сапраўднай глыбіні даследавання таго багацця фактаў, якія назіраў пісьменнік, але не здолеў зрабіць строгага адбору іх. Часам нават дзіву даешся, навошта заводзіць аўтар гаворку пра якую-небудзь з'яву. Так выглядае раздзел «Сцяг над Прусамі» пра арганізацыю ў калгасе камсамольска-маладзёжнага лагера гарадскіх школьнікаў. Атрымалася інфармацыйная справаздача яшчэ аб адным мерапрыемстве, а не мастацкі паказ цікавай і змястоўнай падзеі не толькі ў жыцці калгаса, але і ў жыцці нашай моладзі. Гэта ж такі цудоўны матэрыял для пастаноўкі праблемы працоўнага выхавання юнакоў і дзяўчат, раскрыцця рысаў камуністычнай маралі!

У раздзеле «Сустрэчы» прыведзена размова з цыганом, якога напаткаў старшыня па дарозе ў райцэнтр. Яна магла стаць повадам для таго, каб прасачыць лёс чалавека, які, нарэшце, у калектыве здабыў сабе шчасце. Але жыццёвы факт так і застаўся толькі фактам, бо пра яго пісьменнік толькі паведаміў, не раскрыўшы сутнасці заўважанага.

Вось тут і хочацца прыгадаць выказванне А. М. Горкага пра месца факта ў літаратуры. «Факт яшчэ не ўся праўда, ён толькі сыравіна, з якой варта выплавіць, здабыць шчырую праўду мастацтва». Каб асэнсаваць убачанае, мала адной назіральнасці, якой бы тонкай яна ні была, тут патрэбен дапытлівы розум, уменне сінтэзаваць паасобныя з'явы ў цэльную мастацкую карціну, асветленую яснай ідэйнай мэтанакіраванасцю.

Летась у нашым часопісе дэбютаваў малады журналіст Аляксандр Шлег. Ён даслаў нам рукапіс «Так нараджаецца сталасць», абазначыўшы жанр яго словам «нарыс». Што было ў гэтым рукапісу? Трапна заўважаныя назіральным чалавекам і выразна засведчаныя на паперы эпізоды цікавага і разнастайнага жыцця Мядзведзіцкай сярэдняй школы ў Брэсцкай вобласці. Чаго не ставала? Узвышэння думкі над фактам, акрэсленасці задумы, стройнага апавядання аб тым, як у вучобе, спалучанай з карыснай працай, нараджаецца сталасць юнакоў і дзяўчат, мэтанакіраванага раскрыцця вельмі надзённай жыццёвай праблемы. Рэдакцыя змясціла гэтыя цікавыя «абразкі жыцця».

«У Стася памёрла маці, а бацька яго не вярнуўся з вайны», — паведамляе нам аўтар вуснамі школьніка Васі Кузняцова. І следам за гэтым мы даведваемся пра тое, што аднакласнікі Стася бяруць яго пад сваю апеку, даручаюць нават кіраваць звяном. Факт вельмі чалавечны, але аўтар толькі зарэгістраваў яго. А варта было раскрыць хвалюючы змест гэтага факта, паказаць, як рыхтаваліся аднакласнікі да такога высакароднага ўчынку і з чаго гэтая апека складалася, якія вынікі мела, — тады факт атрымаў бы належнае публіцыстычнае насычэнне, ператварыўся б у шчырую праўду мастацтва.

Абразкам Аляксандра Шлега не стае роздуму, вось чаму яны і застаюцца толькі сыравінай, вось чаму эпізоды так лёгка мяняць месцамі. А роздум над тымі маральнымі праблемамі, якія складаюць змест абразкоў, мог бы адбыцца, калі б аўтар больш выразна акрэсліў сваю задачу — паказаць, як канкрэтныя справы школьнікаў выхоўваюць у іх высакародныя пачуцці таварыскасці, дружбы, абавязку перад калектывам, перад грамадствам.

Нядаўна мы пазнаёміліся з другім нарысам А. Шлега, і зноў тое ж: ёсць назіральнасць, адчуваецца ўпэўненая рука ў абамалёўцы людзей і падзей, уменне весці



дыялаг, але няма ярка акрэсленых контураў з'явы, якую аўтар нагледаў, і ў выніку — адсутнасць цэльнасці ўражанняў. Ад пісьменніка, як і ад журналіста, калі ён бярэцца за нарыс, патрабуецца перш-наперш уменне знаходзіць і выяўляць самыя глыбінныя сувязі паміж з'явамі жыцця, нават калі з першага погляду здаецца, што стаяць яны паасобку.

У сувязі з гэтым мне прыгадалася выдадзеная ў Маскве кніжка нарысаў Марыі Белкінай «Стэпавікі». На першы погляд — гэта нібы разрозненыя «сцэнкі» з жыцця цаліннікаў. Але перагорнеш апошнюю старонку, і перад табой цэльная карціна суровага жыцця тых, хто па закліку партыі пайшоў на вялікі подзвіг. Кожны факт адабраны вельмі старанна і пастаўлен на пэўнае месца, і калі яго зрушыш з гэтага месца, дык рассыплецца ўся стройнасць апавядання, парушыцца ўнутраны сюжэт. Аўтар нарысаў імкнецца высвеціць кожны факт усебакова і павярнуць яго да чытача тым бокам, які найбольш адпавядае агульнай мэце — паказаць стойкасць і мужнасць савецкіх юнакоў і дзяўчат у барацьбе са стыхіяй прыроды, з цяжкасцямі яе пакарэння, з перажыткамі сярод некаторай часткі навасёлаў.

Уменне ўсю разнастайнасць убачанага «звязваць у жывыя творчыя вузлы» дасягаецца стараннай працай над сабраным матэрыялам, няспынным удасканаленнем свайго творчага «я», галоўным чынам, шляхам глыбокага вывучэння законаў грамадскага развіцця на пэўным гістарычным этапе. Калі чытаеш нарыс М. Белкінай, дзе так моцна звязаны ўсе творчыя вузлы, міжволі думаеш, што аўтар не шкадаваў працы ні ў час збірання фактычнага матэрыялу, ні ў час роздуму над ім.

Прыведзеных тут прыкладаў дастаткова, каб прыйсці да адзіна правільнага вываду аб тым, што **нарыс — жанр мастацкай літаратуры** і што нарысныя вобразы ствараюцца па сваіх адметных ад іншых жанраў законах.

У нарысе публіцыстыка павінна насычаць мастацкі вобраз, але не падмяняць яго — інакш атрымаецца публіцыстычны артыкул. Нават самая вялікая колькасць метафар не зробіць артыкул мастацкім творам, калі ў ім адсутнічае магутнасць думкі, калі апошняя не ўзнімаецца над фактам, не ператварае факт у нешта жывое, адчувальнае, уражлівае.

У нарысе павінен быць нейкі адзін асяродак у выглядзе цэнтральнага вобраза-праблемы, да якога імкнецца думка аўтара. Калі будзе існаваць такі асяродак, будзе і сюжэт, які можа выяўляцца аголена, чыста знешнімі прыёмамі, або ўнутрана, праз падтэкст. Клопат пра стройнасць сюжэта вымушае аўтара абуджаць сваю фантазію, каб публіцыстычнае і мастацкае стала адзіным вобразным сплавам.

У нарысе, як і ў кожным жанры, ёсць свае даволі строга акрэсленыя «межы бачання і ўзнаўлення рэчаіснасці». Парушэнне гэтых межаў становіць твор па-за жанрам. Такім парушэннем, напрыклад, можа быць захапленне асабістымі перажываннямі герояў, калі яны не падмацоўваюць развіццё галоўнай тэмы, не дапамагаюць вырашэнню пастаўленай праблемы, а ўведзены з адной мэтай — зрабіць нарыс вонкава «багацейшым» пачуццямі. А як часта бывае ў нарысах, калі спаткане хлопца з дзяўчынай ператвараецца ў размову аб мерах павышэння прадукцыйнасці працы, або, наадварот, у вытворчую нараду гвалтоўна «ўводзіцца» тэма кахання.

Ітак, своеасаблівасць нарыснага вобраза ў яго даследча-публіцыстычнай насычанасці.

## І вобразна, і публіцыстычна

Калі ж публіцыстыка становіцца мастацтвам? — запытаецеся вы. Мусіць, тады, калі гэта будзе не сухое данясенне пра тую ці іншую падзею, не эмпірычная апісальнасць, якая стаіць побач з пасіўнымі адносінамі да грамадскага жыцця, а смелае, праўдзівае і шчырае, усхваляванае апавяданне, прасякнутае высокімі ідэямі і вялікім асабістым чалавечым пачуццём.

Паведаміць нейкі факт жыц-

ця — гэта задача інфармацыі; апаратыўна асвятліць цэлы шэраг фактаў, якімі характарызуецца становішча ў пэўны момант на тым ці іншым участку нашага жыцця, гэта справа допіса, замалёўкі, рэпартажу, карэспандэнцыі; паставіць і практычна, а часам і тэарэтычна, скарыстоўваючы жыццёвыя факты, абгрунтаваць якую-небудзь праблему можна ў артыкуле. Што ж тады прыпадае на нарыс?

Нарыс павінен даць **жывое, яркае, вобразнае ўяўленне аб падзеях і людзях,** якія робяць гэтыя падзеі. Вось чаму, беручыся за аналіз таго ці іншага нарыса, важна высветліць, у якім выглядзе факт увайшоў у змест нарыса, ці стаў ён прадметам мастацкага даследавання і як гэта даследаванне зроблена. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што нарыс, больш, чым які-небудзь іншы жанр, прымушае вывучаць, даследаваць матэрыял жыцця, бо ён заўсёды мае дакладны адрас, дакументальна праўдзіва адлюстроўвае падзеі і людзей.

Можа ў сувязі з гэтым узнікнуць пытанне, а ці не закранае тады нарыс рамкі навуковага даследавання? Не. Па той простай прычыне, што вучоны або практык займаецца, як правіла, простай канстатацыяй факта і клапоціцца пра вывады, якія з'яўляюцца вынікам мыслення ў разумовых катэгорыях (паняццях). Калі ж факты жыцця становяцца прадметам даследавання мастака, то яны павінны ператварыцца ў вобразна адчувальныя, бо мастак у адрозненне ад вучонага мысліць вобразамі. Але ж разам з тым мастак не павінен пагарджаць пазнавальным элементам, бо мае справу з канкрэтным жыццёвым матэрыялам.

Такім чынам, вобразнасць не забаронена нарысу, а прадпісана яму ў якасці абавязковага элемента. Толькі скарыстоўваючы сродкі мастацкага адлюстравання жыцця сапраўдны нарысіст здольны выканаць цалкам сваю задачу — уздзейнічаць на розум і на пачуцці чытача.

Горкі даў класічнае вызначэнне нарыса, які **«стаіць недзе паміж даследаваннем і апавяданнем».** Гэтае «стаіць недзе» азначае, што нарыс адначасова з'яўляецца і даследаваннем і апавяданнем, становіць сабой сплаў публіцыстычнага і вобразнага адлюстравання рэчаіснасці. Нарыс грунтуецца на канкрэтных з'явах рэчаіснасці і для выяўлення ідэй і тэм карыстаецца як элементамі публіцыстыкі, так і абавязкова сродкамі мастацкага паказу. Нарыс, такім чынам, нясе не толькі пазнавальныя, але і выхаваўчыя функцыі, як і кожны жанр мастацкай літаратуры.

І калі Чарнышэўскі пісаў, што «галіна мастацтва не абмяжоўваецца галіной прыгожага ў эстэтычным сэнсе слова... Мастацтва ўзнаўляе ўсё, што ёсць цікавага для чалавека ў жыцці», дык гэта выказванне мае непасрэднае дачыненне і да жанра нарыса. Лепшыя ўзоры рускага класічнага і савецкага нарыса даюць падставу сцвярджаць, што ў гэтым жанры вельмі ўдала сумяшчаюцца элементы сапраўднага даследавання і сапраўднай мастацкай творчасці.

Прыгадаем вядомыя «Паўлаўскія нарысы» У. Караленкі. І краявід сяла Паўлава, і «сцэнкі» куплі, і размовы — усё гэта выпісана таленавітай рукой мастака пад кутом гледжання той праблемы, якую ён перад сабой паставіў, — раскрыць трагедыю выцяснення дробных саматужнікаў буйным прамысловым капіталам. Эканамічныя праблемы, якія хвалявалі ў той час усё грамадства, пісьменнік спалучыў з сапраўднай мастацкай творчасцю.

Альбо нарысы М. Горкага пра Амерыку. Такія выразныя, адчувальныя малюнкі горада Жоўтага д'ябла пісьменнік стварыў дзеля таго, каб з найбольшай сілай уражання раскрыць перад чытачом тэму заняволення чалавека ўладай капітала.

Сумяшчэнне публіцыстычнага і вобразнага можа адбыцца толькі пры той умове, калі пастаўленая ў нарысе праблема ці тэма асабіста ўзрушвае пісьменніка, калі ён пачынае ёю на некаторы час жыць.

Вынікам такой творчай узрушанасці Янкі Брыля, калі ён задумаў раскрыць праз вобразы падпольшчыкаў-рэвалюцыянераў П. Жалезняковіча і У. Царука цэлую эпоху народнага жыцця, з'явіўся нарыс «Сэрца камуніста». І таму,



што пісьменнік так зжыўся «творча» са сваімі героямі і з гісторыяй роднага народа, атрымалася ў нарысе вельмі ўдалае і трывалае спалучэнне публіцыстыкі і вобраза. Пісьменнік праз біяграфіі двух людзей паказаў важныя вехі грамадскага развіцця — і ў гэтым ён з'явіўся творчым прадаўжальнікам лепшых традыцый рускага класічнага нарыса. Нарыс «Сэрца камуніста» — яркае сведчанне таго, як даследаванне цэлага этапу гісторыі можа быць удала пераплецена з апавяданнем, як гісторыя можа моцна знітавацца з сучаснасцю.

Прыкладна тое ж мы назіраем і ў нарысе Ігната Дуброўскага «Светлы шлях» — удалае ў аснове сваёй перапляценне эканамічнага даследавання жыцця калгаса з мастацкім апавяданнем пра людзей, якія ладзяць гэтае жыццё. У нарысе шмат лічбаў, зашмат разважанняў на агратэхнічныя тэмы, але ж ён і повен жывых галасоў, натуральнага святла, гарачых пачуццяў. І ўсё гэта — не белетрызаваная інфармацыя, а хвалюючая карціна таго, як намаганнямі калгаснікаў, аб'яднаных накіроўваючай сілай партыі, узнімаецца па шляху росквіту занядбаная раней грамадская гаспадарка. Мусіць жа таму, што пісьменніка захапіла палымяная публіцыстычная думка — стварыць вобраз калгаса, перад якім адкрыты шырокія даляглядзы будучыні, навуковае пазнанне рэчаіснасці і набыло паэтычнае гучанне. (Не варта скідваць з рахунку і такую акалічнасць, што ў асобе І. Дуброўскага мы маем спалучэнне вучонага і пісьменніка.)

Поспех заўсёды забяспечан тым нарысам, у якіх мастацкае і публіцыстычнае, выхаваўчае і пазнавальнае, вобраз і даследаванне — добрыя суседзі. І нічога добрага не абяцае твор, у якім гэтыя суседзі, апынуўшыся ў нераўнапраўным становішчы, пачынаюць сварыцца.

Калі чытаеш нарысы Антона Бялевіча, сабраныя ў кніжцы «Людзі робяць вясну», кідаецца ў вочы перш-наперш тое, што яны пісаны рукой таленавітага паэта, але з аднабаковым клопатам толькі пра вонкавую вобразнасць свайго апавядання. Тут сустракаюцца тонка выпісаныя пейзажы, трапна заўважаныя дэталі сучаснага жыцця калгаснай вёскі, успомнена народная прыкмета і ўжыта прыказка. Але ўсё гэта мае выгляд нейкай стыхіі, не асветлена высокай публіцыстычнай думкай.

Разважанне над закранутай праблемай (аўтарскае ці праз герояў) з'яўляецца істотнейшай адзнакай нарыса. Калі карыстацца словамі Бялінскага, дык у нарысе павінен быць «розум на першым месцы, а фантазія на другім». У нарысах А. Бялевіча пазнавальнае аднесена на другі план і падаецца ў большасці выпадкаў, як сухі, пратакольны пералік пабудаванага або набытага калгасам, ужытага тым ці іншым чалавекам для дасягнення найвышэйшых поспехаў у сваёй канкрэтнай дзейнасці. Мастацкае і пазнавальнае, вобразнае і публіцыстычнае жывуць у нарысах А. Бялевіча неяк паасобку і таму не пакідаюць уяўлення аб нечым цэлым, грунтоўным, а ўспрыймаюцца хутчэй як замалёўкі з першага позірку, на хаду, без глыбокага роздуму над убачаным, пачутым.

Родная паэту Міншчына, яго радзіма — Уздзеншчына даюць невычэрпнае багацце жыццёвага матэрыялу. А. Бялевіч знаёміць нас з людзьмі рознага веку, рознага занятку, якія ахоплены адным імкненнем «рабіць вясну». Дзядзька Міканор, калгасны старшыня Пармон, славутая даярка цётка Зося, калгасны аграном Лазерка — усё гэта героі нашай сучаснасці. Але па тых фактах, якія паведамляе нам пісьменнік, мы бачым толькі іх знешняе аблічча, знаёмімся з працоўнымі справамі і вельмі цьмяна ўяўляем «унутраны змест», рухі душы гэтых людзей. І ўсё гэта таму, што аўтар не імкнецца ўзняцца над жыццёвым фактам, глянуць на іх з вышыні той вялікай мэты, да якой скіраваны не толькі справы, але думкі і пачуцці герояў.

Цётка Зося — гэта славутая даярка з Уздзенскага раёна Соф'я Андрэеўна Бондар. Мы даведваемся з нарыса, што цётка Зося сама клапоціцца пра тое, каб каровы заўсёды мелі сакавітую падкормку, што яна добра ведае густы кож-

най каровы, што яна «лёгка, умела, хутка выдойвае карову», што ёй кожны год даюць прэміі «і патэфонам, і кнігамі, і грашыма, і крамнінай», што яе завуць у калгасе «акадэмікам па жывёлагадоўлі». Пісьменнік высыпае адзін за другім факты, якія характарызуюць Соф'ю Бондар адно як добрасумленную працаўніцу, ён проста рэгіструе тое, што кідаецца ў вочы пры першым знаёмстве з чалавекам, пры першай гутарцы з ім. Фактаў шмат, а вобраза няма, ёсць толькі накід. Факты самі па сабе не здольны раскрыць багацця зместу чалавека. Мы не адчуваем у цётцы Зосі добрага арганізатара калектыву маладых даярак, выхавальніцы новых, камуністычных адносін да працы, не бачым яе па-за фермай, не чуем яе разважанняў пра вялікі грамадскі клопат (нельга ж прыняць за такі клопат мімаходзь кінутае: «Я ж усю душу ўкладу ў работу, а даганю тую Амерыку»).

А. Бялевіч добра ведае народнае жыццё, побыт сельскіх людзей, амаль у кожным сказе адчуваеш яго любоў да самабытнага — ён неяк лёгка і трапна знаходзіць яркае параўнанне, умее ўкласці ў вусны героя тую ці іншую легенду або народную прыкмету, прыказку. І ўсё ж героі нарысаў выглядаюць у сваіх разважаннях, паводзінах надта падобнымі адзін на другога, нейкімі залішне «зямнымі», абытоўленымі, прымітыўнымі. Пісьменніку ніяк не ўдаецца раскрыць той духоўны патэнцыял, якім валодаюць передавыя людзі сённяшняй калгаснай вёскі — носьбіты новых якасцей, якасцей чалавека будучыні. Героі нарысаў А. Бялевіча думаюць, адчуваюць, спрачаюцца, перажываюць менш напружана, чым тыя жывыя сучаснікі, якіх ён назіраў, з якімі гутарыў.

Паставіўшы сабе задачай стварыць вобраз славутай даяркі, мала сказаць і паказаць, што яна працуе «ад відна да цямна» ў кароўніку. Гэта якраз і не характарызуе імкненне перадавых людзей сучаснасці да няспыннага павышэння прадукцыйнасці сваёй працы, да пошукаў такіх умоў, каб пры меншай затраце часу дабівацца найлепшых вынікаў. І, мусіць, цётку Зосю завуць «акадэмікам» іменна за гэтыя пошукі, за імкненне да найбольш рацыянальных метадаў догляду жывёлы, што і складае змест яе жыцця.

Умець выбраць з усяго багацця фактаў найбольш значнае — гэта палавіна поспеху нарысіста. А. Бялевіч, калі меркаваць па кніжцы нарысаў «Людзі робяць вясну», якраз і не клапоціцца пра такі адбор. Часцей за ўсё ён высейвае іх шчодрай рукой на старонкі сваіх нарысаў і акунаецца ў стыхію фактаў, становіцца на шлях голага ілюстратарства, фактаграфічнага адлюстравання жыцця. Тады не дапамагае ўжо ні самабытнасць лексікі, ні метафарычнасць сказа, ні інверсіраваны склад гаворкі.

Для нарысіста мала дакладна назваць убачанае ў рэчаіснасці. Галоўнае — у тым, каб раскрыць сэнс убачанага, здабыць з яго праўду мастацтва і стаць, такім чынам, сродкам пашырэння ведаў і сродкам выхавання чалавека. А для гэтага шлях адзін — стараннае вывучэнне рэчаіснасці. І не варта пісьменніку следам за эканамістамі, юрыстамі, дыпламатамі (хоць, праўда, і яны аналізуюць факты!) паўтараць выслоўе — «факты гавораць самі за сябе». Больш сціпла прызнацца, як тое зрабіў А. Твардоўскі ў сваіх «Нататках з Ангары»:

«У большасці мы, людзі, якія так ці інакш пішуць пра вялікія будоўлі, перамогі чалавека над прыродай і многае іншае, што патрабуе сур'ёзнага ведання прадмету, ведаем страшэнна мала, павярхоўна і з незвычайнай адвагай бярэмся расказваць пра кожную справу і падзею, не абцяжарваючы сябе не толькі што паглыбленым вывучэннем, але хоць бы засваеннем для сябе ў асноўных рысах сутнасці справы».

* * *

Жыццё савецкага чалавека — гэта бурнае, проста-такі вулканічнае кіпенне, гэта штодзённае і паўсюднае нараджэнне новага: у цэхах і на будоўлях, дзе ўжо прабіліся першыя парасткі камуністычных адносін да працы; на неабсяжных калгасных прасторах, дзе паўнаўладным гаспадаром стала ўжо магутная тэхніка; у паднябесных вышынях, дзе шчыльнасць «насельнікаў» стала большай ад савецкіх спадарожнікаў і касмічных ракет; на сусветных кангрэсах і асамблеях, дзе пасланцы першай у свеце краіны Саветаў вядуць стойкае змаганне за мір, супраць смертаносных войнаў.

Паказаць магутны поступ мільёнаў, якія захоплены сёння збудаваннем самага дасканалага ладу жыцця, заняты пераробкай свядомасці тых, што яшчэ блытаюцца пад нагамі, абцяжараныя грузам мінулага, — ці ж гэта не самая пачэсная задача для пісьменніка, журналіста, кожнага, у кім жыве неадольнае імкненне штодзень брацца за пяро?

Адным з найпершых абавязкаў нашай літаратуры, запаветам для яе павінны быць словы У. І. Леніна, напісаныя яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя: «Мы павінны рабіць пастаянную справу публіцыстаў — пісаць гісторыю сучаснасці і старацца пісаць яе так, каб наша бытапісанне прыносіла пасільную дапамогу непасрэдным удзельнікам руху і героям-пралетарыям там, на месцы дзеяння — пісаць так, каб садзейнічаць пашырэнню руху, свядомаму выбару сродкаў, прыёмаў і метадаў барацьбы, здольных пры найменшай затраце сіл даць найбольшыя і найбольш трывалыя вынікі».

# ПРА ТЫХ, ЧЫЁ ЖЫЦЦЁ— ПОДЗВІГ




Камсамольскае юнацтва...

Шчаслівая, непаўторная пара, авеяная героікай віхуры Кастрычніка, грамадзянскай вайны, рамантыкай змагання за ўсталяванне новага, сацыялістычнага жыцця.

На ўсім слаўным шляху, які прайшла наша краіна, — камсамольцы заўсёды былі ў першых радах, там, куды клікала іх маці — Ленінская партыя. Камсамольцаў нездарма называюць сынамі камуністаў, баявой ленінскай зменай. На камсамольскім сцягу заслужана зіхацяць ордэны Леніна. Імя Леніна вяло камсамольцаў на подзвігі...

Калі гартаеш старонкі альбома «Камсамольцы — героі Беларусі», які нядаўна выйшаў з друку ў Дзяржаўным выдавецтве БССР, перад вачамі, нібы жывыя, праходзяць нашы слаўныя папярэднікі — камсамольцы першага пакалення, юныя ўдзельнікі грамадзянскай вайны і камсамольцы саракавых гадоў — мужныя героі Вялікай Айчыннай вайны.



Апанас Паланейчык.
Мал. Ю. Архіпава.

На зары свайго неспакойнага юнацтва камсамол Беларусі са сваёй кагорты вылучыў самых лепшых, бясстрашных змагароў, якія пайшлі поплеч з камуністамі на фронт, у партызанскія атрады і ўпісалі ў летапіс барацьбы з інтэрвентамі не адну яркую старонку.

Ніколі не забудзецца суровая героіка грамадзянскай вайны.

На малюнках і ў рэпрадукцыях з карцін беларускіх мастакоў, што змешчаны ў альбоме, адлюстроўваюцца асобныя эпізоды гераічнага змагання той навальнічнай пары.

Уладзімір Азін, легендарны камандзір 28-й «жалезнай» дывізіі. Мастак І. Някрасаў намаляваў маладога начдыва верхам на кані наперадзе коннікаў, гатовым рынуцца ў бой.

Дывізія, якой камандаваў Азін, адважна граміла белагвардзейцаў на Усходнім фронце, вызваляла Казань, Іжэўск, абараняла Царыцын, змагалася на Доне і ў Сальскіх стэпах. Загінуў Уладзімір Азін гераічнай смерцю ў баях з белагвардзейцамі 19 лютага 1920 года, калі яму было дваццаць пяць год.

А вось другі герой грамадзянскай вайны — камандзір слуцкіх партызан Апанас Паланейчык. У 1919 годзе па даручэнню Рэўваенсавета Заходняга фронта Паланейчык фарміраваў партызанскія атрады на Случчыне. Іх дапамога Чырвонай Арміі садзейнічала хутчэйшаму вызваленню роднай Беларусі ад белапольскіх інтэрвентаў. Апанас Паланейчык загінуў вясною 1921 года ад рук бандытаў. Няўрымслівым змагаром паказан ён мастаком Ю. Архіпавым.



Герой Савецкага Саюза Міхаіл Сільніцкі.
Мал. С. Раманава.



Вера Харужая.
Мал. Ю. Архіпава.

Хто з нашых маладых сучаснікаў не ведае бясстрашную змагарку-падпольшчыцу Веру Харужую?! Яе слаўнае, гераічнае жыццё — цудоўны прыклад таго, як трэба любіць сваю савецкую Айчыну, як змагацца за шчасце народа.

Вера Харужая — нацыянальны герой Беларусі. І кожны, хто ўбачыць яе на малюнку ў альбоме, зможа ўпэўніцца, якой мужнай і адважнай была гэтая дзяўчына і ў часе апошняга выпрабавання — на допыце ў фашысцкім засценку ў лістападзе 1942 года.

Шкада, што ў гэтым альбоме не знайшлося месца для выдатных змагароў-падпольшчыкаў, якія праславілі першае пакаленне беларускіх камсамольцаў — Алеся Салаўя, Андрэя Блажко, Гарасіма Фейгіна, Васіля Пагірэйчыка.

На цудоўнай рамантыцы грамадзянскай вайны выхавалася цэлае пакаленне моладзі, на долю якога выпаў суровы лёс — разам са



**Герой Савецкага Саюза Пятро Купрыянаў.**
Мал. Ю. Архіпава.

сваімі бацькамі адстаяць заваёвы Вялікага Кастрычніка ў цяжкіх бітвах з нямецкім фашызмам.

Юнакі і дзяўчаты саракавых гадоў, калі іх паклікала вайна, праявілі выключную мужнасць і бясстрашша. Уся савецкая моладзь па закліку партыі ўзнялася на абарону сваёй маці-Радзімы. Маладыя беларускія патрыёты храбра змагаліся з ворагам на фронце і ў тылу. Слава пра Мікалая Гастэлу і Хвядоса Смалячкова, Міхаіла Сільніцкага і Рыму Шаршнёву абляцела ўвесь свет.

Больш як 30 тысяч камсамольцаў і маладых беларускіх партызан за гераізм у баях з фашысцкімі захопнікамі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі, 24 маладыя патрыёты ўдастоены высокага звання Героя Савецкага Саюза.

Камсамол Беларусі за актыўны ўдзел у барацьбе з фашысцкімі захопнікамі ў гады Айчыннай вайны ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга.

Сярод маладых герояў, што зрабілі неўміручыя подзвігі ў гады Вялікай Айчыннай вайны — Мікалай Гойшык, Аляксандр Гаравец, Алена Колесава, Аляксандр Ісачанка, Рыма Кунько, Пятро Купрыянаў, Фёдар Кухараў, Змітрок Аскаленка, Міхаіл Сільніцкі, Хвядос Смалячкоў, Віктар Тумар, Барыс Царыкаў...

Увасобленыя беларускімі мастакамі вобразы слаўных сыноў і дачок нашага народа напамінаюць сённяшнім камсамольцам пра тое, якім высакародствам і душэўным харастрвом валодаў кожны з іх, самаахвярна змагаючыся за шчасце і росквіт сваёй сацыялістычнай Радзімы.

Напярэдадні 40-годдзя камсамола Беларусі моладзь свята шануе памяць герояў-патрыётаў, чый прыклад натхняе сёння маладых будаўнікоў камунізма на новыя працоўныя здзяйсненні.



**Герой Савецкага Саюза Алена Колесава.**
Мал. П. Калініна.





## НЕВЫЧЭРПНЫЯ КРЫНІЦЫ

Адметнымі рысамі нашага сучасніка — будаўніка камунізма, з'яўляюцца незвычайна шырокі кругагляд, шматграннасць інтарэсаў і шырыня духоўных запатрабаванняў. Культурны ўзровень савецкага народа вырас настолькі, што мы ўсё часцей наглядаем, як звычайныя працаўнікі, якія рысцяць хлеб і робяць машыны, паказваюць цудоўныя ўзоры мастацкай творчасці. Духоўныя каштоўнасці ў нас ствараюць не толькі прафесійныя калектывы, артысты, мастакі, кампазітары, але і сотні тысяч аматараў! У нашай рэспубліцы сёння 250 тысяч удзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Інжынер пасля працоўнага дня піша паэму, рабочы выступае на сцэне свайго народнага тэатра, трактарыст стварае мастацкую карціну... Усё гэта ўжо факты нашага жыцця, якія робяцца звычайнымі. Мастацтва перастае быць справай абраных, яно становіцца другой пра-



**Зводны самадзейны хор Мінскай вобласці.**
Фота А. Дзітлава.



«Сачавіца з вікаю» — гэтыя прыпеўкі склалі і выканалі на аглядзе калгасніцы сельгасарцелі «Бальшавіцкая перамога» Хойніцкага раёна Г. Белавус, В. Чарняк, Н. Каваленка і Н. Бондарава.

фесіяй працоўнага чалавека, дапамагае яму жыць, будаваць і марыць. У гэтым яшчэ раз пераканаўся кожны, каму давялося пабываць на канцэртах сёлетняга рэспубліканскага агляду сельскай мастацкай самадзейнасці.

Многае, вельмі многае на аглядзе па-сапраўднаму ўзрадавала і знаўцаў і аматараў мастацтва. Нельга было не захапіцца выступленнем харавой капэлы саўгаса «Бярозкі», якой кіруе А. Лукомскі (Гомельскі раён). Стройнасць і зладжанасць галасавых партый, багатая нюансіроўка, каларытная афарбоўка гучання — вось што вызначае майстэрскае выкананне гэтага калектыву. І тое, што ў яго рэпертуары мы пачулі не толькі народныя і сучасныя беларускія песні, але і лепшыя ўзоры рускай харавой класікі, сведчыць аб вялікіх творчых магчымасцях капэлы.

Крыніцы народных талентаў сапраўды невычэрпныя. У гэтым пераконваў амаль кожны калектыў, які выступаў на аглядзе.

... Ёсць чым ганарыцца калгаснікам сельгасарцелі імя Сталіна Гомельскага раёна. Сем мільёнаў рублёў атрымаў ён летась прыбытку! А калі жывецца добра, дык і спяваецца, і танцуецца хораша. Асабліва прыемна ўразіла тое, што і песні, і вершы, і танцы, якія выконваў калгасны ансамбль песні і танца пад кіраўніцтвам І. Пузырова, створаны самімі выканаўцамі. Шчыра і непасрэдна расказвалі сродкамі мастацтва ўдзельнікі ансамбля аб штодзённых справах даярак і механізатараў, свінарак і паляводаў. Гэта нас і радуе, і прымушае сур'ёзна задумацца. У той час, калі работнікі прафесійнага мастацтва вядуць бясконцыя размовы аб неабходнасці набліжэння да жыцця, народ сам паказвае ўзоры непасрэднай сувязі мастацкай творчасці з рэчаіснасцю. І няхай сабе ў гэтых песнях, частушках і танцах не ўсё яшчэ дасканала, не ўсё адшліфавана, але ў іх ёсць галоўнае — гарачае дыханне сучаснасці, жывы пульс жыцця.

Шмат цёплых слоў можна было б сказаць і аб хоры даярак з калгаса імя Пушкіна (Бабруйскі раён), і аб капэле сельгасарцелі «Сцяг Саветаў» (Навагрудскі раён), і аб галасістых дзяўчатах з ільнаводчага звяна калгаса «Зара камунізма» (Навагрудскі раён), якое ў поўным складзе выйшла на сцэну, каб услáвіць песнямі працу сваю. У кожнага з гэтых калектываў былі свае адметныя асаблівасці, свой рэпертуар, свая манера выканання.

Асобна хочацца адзначыць выступленне калгасніц Н. Бондаравай, Н. Каваленкі, В. Чарняк і Г. Белавус з сельгасарцелі «Бальшавіцкая перамога» (Хойніцкі раён), якія з тонкай дасціпнасцю і сапраўдным народным гумарам выканалі частушкі «Сачавіца з вікаю». Гэтаму самадзейнаму вакальнаму квартэту могуць пазайздросціць многія нашы эстрадныя артысты.

А з якой непасрэднасцю і замілаванасцю выконвала народныя прыпеўкі Н. Фіцура — загадчыца клуба саўгаса «Краснапольскі» (Магілёўская вобласць), як праніклёна прагучала «Мушка-зялянушка» ў выкананні юнай спявачкі Т. Варабей з калгаса «Беларусь» (Маладзечанскі раён).



Сваім дзівосным голасам зачаравала слухачоў Тамара Варабей з калгаса «Беларусь» Маладзечанскага раёна.

У разнастайнай праграме агляду шмат было і цікава пастаўленых, добра выкананых танцаў. Гэта перш за ўсё маладзёжны танец у пастаноўцы рабочых саўгаса «Радзіма» (Івянецкі раён), танец «Шаўцы» ў выкананні смаргонскіх калгаснікаў, «Кукуруза», «Лянок», харэаграфічны малюнак «Больш мяса і малака», пастаўлены самадзейным калектывам саўгаса «Вораны» Віцебскага раёна, іскрыстая «Лявоніха» і жыццерадасны «Юрачка», якія выконвалі гамяльчане.

Багаты рэпертуар у калгасных спевакоў, танцораў, музыкаў. Побач з беларускімі народнымі пес-



Эпізод з харэаграфічнага малюнка «Больш мяса і малака», які выконвае самадзейны танцавальны калектыў саўгаса «Вораны» Віцебскага раёна.

нямі і танцамі, побач з новымі творамі аб любімай савецкай Айчыне і роднай Камуністычнай партыі выконваліся песні і танцы краін народнай дэмакратыі. Але артысты з народа не задавальняюцца дасягнутым. Яны ставяць перад сабой усё новыя і больш складаныя творчыя задачы. І хіба гэта не знамянальна, што сёння на самадзейнай сцэне мы можам бачыць і чуць нават оперныя спектаклі. Адным з такіх спектакляў, паказаных на аглядзе, з'яўляецца опера Лысенкі «Наталка-Палтаўка», пастаўленая ўдзельнікамі самадзейнасці калгаса «Перамога» Лунінецкага раёна. Шмат радасных турбот і творчага хвалявання прынесла самадзейным артыстам работа над пастаноўкай оперы. І дэкарацыі, і касцюмы, і бутафорыя, — усё было зроблена сваімі рукамі. Пасля доўгай падрыхтоўчай работы, пасля шматлікіх рэпетыцый пад кіраўніцтвам дырэктара Лахвенскай сярэдняй школы В. Трубій і самадзейнага дырыжора Г. Гаеўскага спектакль упершыню быў паказан на сцэне сельскага дома культуры. Парадавала опера ў самадзейным выкананні і патрабавальнага мінскага гледача. Прыемна і мякка гучалі

хоры. Аркестр дапамагаў спевакам данесці да слухача цудоўныя мелодыі ўкраінскага кампазітара. З выканаўцаў асабліва запомнілася Л. Дуброўская, якая стварыла яркі і паэтычны вобраз Наталкі-Палтаўкі. Выдатныя вакальныя даныя самадзейнай артысткі шчасліва спалучаюцца з драматычнымі здольнасцямі. У значнай меры поспеху спектакля спрыяла добрае выкананне роляў Пятра (калгаснік В. Талдыкін) і Міколы (каваль В. Мартыненка).

Сёлетні агляд сельскіх творчых калектываў прадэманстраваў небывалы росквіт музычнай, вакальнай і харэаграфічнай самадзейнасці вёскі.

Варта было б сур'ёзна пагаварыць і аб сельскіх драматычных калектывах. Ёсць у іх свае бясспрэчныя поспехі і свае цяжкасці, якія перашкаджаюць далейшаму творчаму ўдасканаленню. Але гэта ўжо тэма асобнай размовы. Таму скажам толькі, што ў сельскай драматычнай самадзейнасці няма-ла сапраўды здольных людзей, якія пры адпаведнай дапамозе могуць ствараць жыццёва яркія сцэнічныя вобразы. Аб гэтым сведчаць выступленні драматычных калектываў калгаса імя Леніна Браслаўскага раёна, калгаса «Сорак год Кастрычніка» Лёзненскага раёна, сельгасарцелі імя Дзяржынскага Слуцкага раёна. Высокай ацэнкі заслугоўвае спектакль «Канстанцін Заслонаў», пастаўлены брагінцамі.



Гарачымі воплескамі сустрэта было выступленне В. Саламахі і У. Міхайлоўскага з калгаса імя Жданава Капаткевіцкага раёна, якія па-майстэрску выканалі румынскі народны танец.



Беларускі народны танец «Лянок». Выконвае танцавальны калектыў саўгаса «Усце» Аршанскага раёна.

Самадзейнае мастацтва ўсё больш уваходзіць у жыццё калгаснай вёскі, спрыяе гарманічнаму развіццю фізічных і духоўных якасцей савецкага чалавека. Хочацца ад душы пажадаць сельскім самадзейным артыстам яшчэ шырэй развіваць цудоўныя традыцыі народнай творчасці, смялей узбагачаць рэпертуар сучаснымі арыгінальнымі творамі, нястомна ўдасканальваць мастацкае майстэрства.

Новых поспехаў вам, дарагія сябры!

**У. СТЭЛЬМАХ.**



# НА ВЫСТАЎЦЫ ЯНА МАТЭЙКІ

У сакавіку ўваход у Дзяржаўны мастацкі музей БССР быў упрыгожан дзяржаўнымі сцягамі Польскай Народнай Рэспублікі і Беларускай ССР. Мінчане ўпершыню па-сапраўднаму сустрэліся з Янам Матэйкам — выдатным прадстаўніком гістарычнага жывапісу, партрэтыстам і віртуозным майстрам малюнка, грамадзянінам, патрыётам, які сваімі глыбока мастацкімі творамі ўславіў польскі народ, яго нацыянальны геній.

Творчасць мастака заўсёды мела сваіх шматлікіх прыхільнікаў. Але сапраўды ўсенароднае прызнанне Матэйка атрымаў толькі ў Народнай Польшчы, калі яго творчая спадчына стала здабыткам працоўных.



Антоні Мадэйскі. Бюст Яна Матэйкі.

Станаўленне творчасці мастака, прасякнутай перадавымі дэмакратычнымі ідэямі, адбывалася ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, у перыяд рэвалюцыйнага нацыянальна-вызваленчага руху ў Польшчы, падзеленай паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй. Матэйку глыбока хваляваў далейшы лёс сваёй Радзімы, ён глыбока ненавідзеў здраднікаў нацыянальных інтарэсаў, якімі заўсёды былі буйныя землеўладальнікі-магнаты.

На палотнах мастака, поўных творчай фантазіі і палымянай страсці, ажываюць драматычныя старонкі гісторыі далёкага мінулага Польшчы, у якіх увасобіўся глыбокі роздум Матэйкі над лёсам свайго шматпакутнага, мужнага народа.

Зварот да гісторыі быў для Матэйкі своеасаблівай трыбунай, з якой ён з уласцівай яму палымянасцю ўслаўляў тых, хто здольны на подзвіг у імя нацыянальных інтарэсаў, і гнеўна выкрываў тых, хто гандляваў імі. «Мастацтва зараз з'яўляецца для нас свайго роду зброяй, — казаў ён сваім вучням. — Нельга аддзяляць мастацтва ад любві да Радзімы». І сапраўды лепшыя творы Матэйкі абуджалі народную свядомасць, клікалі да нацыянальна-вызваленчай барацьбы. У іх народ чэрпаў веру ў свае сілы, у непазбежную перамогу святла над цемрай.

Геніяльны І. Я. Рэпін, характарызуючы творчасць выдатнага сабрата па мастацтву, захапляўся «магутным стылем» Матэйкі,

здольнасцю ствараць настрой, які мімаволі перадаецца гледачу.

Абодвух вялікіх мастакоў зблізкала агульная мэта — служэнне народу. Невыпадкова Рэпін, пазнаёміўшыся з творамі Яна Матэйкі на Венскай сусветнай выстаўцы 1873 года, пісаў І. Крамскому: «Моцнае ўражанне, ашаламляльнае, вынес я з карцін Матэйкі. Такая драма, такая сіла!»

Яркі самабытны талент Матэйкі не пазбаўлены і супярэчлівых асаблівасцей, абумоўленых абмежаванасцю светапогляду мастака. Адно бясспрэчна — сімпатыі Матэйкі заўсёды былі на баку тых, хто змагаўся з прыгнятальнікамі народа. З твораў ранняга перыяду творчасці мастака найбольш яркімі з'яўляюцца «Станьчык» і «Скарга», напісаныя пад уплывам паўстання 1863 года. У гэтых карцінах выкрываецца агідная здрадніцкая роля феадалаў у паўстанні, выносіцца ім суровы прысуд.

Паўстанне 1863 года, у якім прынялі актыўны ўдзел працоўныя горада і вёскі, у тым ліку многія мастакі і навучэнцы мастацкіх школ, ускалыхнула грамадскую свядомасць. Гэтая падзея мела вялікае значэнне для далейшага развіцця і росквіту польскай рэалістычнай мастацкай школы, з якой непарыўна была звязана творчасць Яна Матэйкі.

У 1866 годзе Ян Матэйка стварае гістарычную кампазіцыю «Рэйтан», альбо «Падзенне Польшчы», у якой адлюстравана ганебнае пасяджэнне сейма ў 1773 годзе з выпадку першага падзення Польшчы. Карціна выклікала шматлікія нападкі на мастака з боку вышэйшага панства. На гэта ён адказаў праз год карцінай «Прыгавор Матэйку», у якой намаляваў сябе прыкаваным да ганебнага слупа, а сваіх ворагаў — сярэдневяковымі суддзямі, што абвяшчаюць прысуд.

У пазнейшых сваіх творах «Грунвальдская бітва» (1878), «Пруская прысяга» (1881), серыі эскізаў на тэму «Гісторыя цывілізацыі ў Польшчы» (1888—1889) мастак услаўляе культуру свайго народа і яго выдатных дзеячоў.

Ян Матэйка быў выдатным май-



**Ян Матэйка. Партрэт дачкі мастака з канарэйкай.** (Нацыянальны музей у Варшаве.)

страм і партрэтнага жывапісу. Ён выявіў рэдкі талент мастака-псіхолага, здольнага ствараць глыбока душэўныя характарыстыкі людзей.

На мастацкай выстаўцы твораў Яна Матэйкі, якая была паказана ў Мінску, пераважаў партрэтны жывапіс. Гледачу не ўдалося пабачыць буйныя гістарычныя кампазіцыі Матэйкі, якія немагчыма перавозіць з музея ў музей. Але затое шырока прадстаўлены былі рэчы, якія паглыбляюць знаёмства з жыццём і творчай дзейнасцю вялікага мастака. Фатаграфічны здымак старажытнага польскага горада Кракава, убранага ў зеляніну садоў і паркаў. Сярод унікальных помнікаў архітэктуры, якія вызначаюць контуры горада, на Фларыянскай вуліцы вылучаецца адзін будынак, дарагі кожнаму паляку. Тут білася палымянае сэрца патрыёта і геніяльнага мастака, тут стварaў ён свае неўміручыя палотны. Зараз у гэтым доме-музеі захоўваюцца каштоўныя рэліквіі: карціны, малюнкі, хатнія рэчы, калекцыі тканін, касцюмаў, мэблі, старажытнай зброі. Сярод іх — напісаны Рэпіным майстэрскі партрэт прафесара Кіеўскага універсітэта Чычэрына, гарачага прыхільніка польскага народа. Партрэт гэты быў падараваны Яну Матэйку выдатным прадстаўніком рускага мастацтва ў знак вялікай павагі і сяброўскіх пачуццяў да братняга славянскага народа.

Ля стэнда з рэдкімі фотаздымкамі ў вітрыне — срэбраны адбітак правай рукі Яна Матэйкі, невялікай і хударлявай, на якой ляжыць глыбокі след выключнай працавітасці...

Побач з рукою — палітра майстра з засохлымі на ёй фарбамі. Калі глядзіш на яе, у думках міжволі пераносішся да самога жывапісу, тых першых творчых пачынанняў, якімі адкрываецца вялікі шлях мастака, барацьбіта за нацыянальнае рэалістычнае мастацтва.

Стрыманы і яшчэ досыць нясмелы «Сямейны партрэт» — ранняя работа маладога жывапісца. У цэнтры партрэта бацька мастака Францішак — настаўнік музыкі і арганіст.

Значны рост жывапіснага майстэрства Матэйкі прыкметны ўжо ў ранніх работах — партрэтах яго блізкіх знаёмых Марыі і Парыса Маўрыцыё. У гэтых творах мастак працягвае творчыя традыцыі майстроў партрэтнага жывапісу, сваіх настаўнікаў з Кракаўскай мастацкай школы Войцэха Карнелія, Статлера і Уладзіслава Лушчковіча, якія імкнуліся да знешняга партрэтнага падабенства, не раскрываючы ўнутранага душэўнага свету чалавека. Да псіхалагічнага партрэтнага малюнка Матэйка прыйшоў пазней — у адной з лепшых сюжэтных кампазіцый «Станьчык на балі ў каралевы ў Вавелі», напісанай у 1861 годзе.

Каралеўскі блазен у цяжкім роздуме, хаця за сцяной у поўным разгары баль у каралевы Боны ў Вавелі з выпадку перамогі войска польскага пад Оршай у 1514 годзе. Станьчыку выпадкова ўдалося прачытаць пакінутае на стале



**Ян Матэйка. Капернік.** (Нацыянальны музей у Кракаве.)

данясенне аб ваенным паражэнні Польшчы. Гэтыя весткі глыбока ўсхвалявалі простага чалавека з народа, занепакоенага лёсам сваёй Радзімы.

У вобразе Станьчыка — сам мастак з яго партрэтнымі рысамі і роздумам аб народзе, аб набліжэнні падзей, звязаных з паўстаннем 1863 года. Спалучэнне ў вобразе Станьчыка глыбіні душэўнай характарыстыкі, актуальнасці ідэі, бліскучага прафесіянальнага выканання кампазіцыйнай задумы праславіла імя майстра ў вачах тых, для каго былі дарагія інтарэсы польскага народа. Вялікае значэнне гэтага твора яшчэ і ў тым, што разам з ім польская рэалістычная нацыянальная мастацкая школа пачала новы этап развіцця і далейшага станаўлення, каб заняць належнае месца ў мастацтве Еўропы. Сваёй творчасцю Матэйка канчаткова замацаваў яе аўтарытэт.

На выстаўцы быў прадстаўлен не сам твор, а эскіз да яго, але і гэтага дастаткова, каб адчуць мастака-мысліцеля, майстра, які востра перадае гучанне каларыту, адменна мадэліруе кожную патрэбную дэталь.

У 1875 годзе была напісана карціна «Капернік» — першая з задуманай Матэйкам кампазіцыі на тэму «Гісторыя цывілізацыі ў Польшчы». На выстаўцы таксама экспанаваўся толькі эскіз, які пазнаёміў нас з задумай мастака і яе жывапісным вырашэннем. Лаканічная партрэтная кампазіцыя. У ёй асноўнае месца належыць вобразу вучонага ў той момант, калі быў адкрыты закон руху нябесных цел. Славуты астраном — на балконе дома, у яго левай руцэ, прыўзнятай над лістом паперы, — цыркуль, вакол астранамічныя прылады. Погляд Каперніка скіраваны на неба. Твор усім сваім зместам услаўляе перамогу чалавечай думкі над таямніцамі светабудовы.

У гэтых, дасканала знойдзеных эскізах да сюжэтных палотнаў адчуваецца веліч палёту думкі мастака, уся значнасць яго, як буйнага гісторыка-жывапісца, здольнага творча пранікаць у глыбіню стагоддзяў.

Лепшым з паказаных на выстаўцы можна лічыць «Партрэт Пятра Машынскага», калекцыянера твораў мастацтва, прыяцеля Яна Матэйкі. На партрэце — багацей, надзелены розумам і хітрасцю, тым жыццёвым вопытам, які дазваляе заваяваць пашану сярод роўных яму польскіх магнатаў. Мастак характарызуе Машынскага рознымі сродкамі: і тым, як ён сядзіць у крэсле, і яго вопраткай, расшытай золатам, і фонам сцяны з калекцыяй старажытнай зброі, і, нарэшце, асноўным — тварам, позіркам. Цэлы комплекс выяўленчых кампанентаў стварае пэўны вобраз чалавека свайго часу.

Каго б Матэйка ні пісаў — выдатнага доктара, прафесара медыцынскага факультэта Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве Юзафа Дзітля, вучаніцу Фрыдэрыка Шапэна — Марцаліну Чартарыйскую, старшыню краявога сейма — Альфрэда Патоцкага, — для ўсіх мастак знаходзіць дастаткова адменных сродкаў, каб надаць партрэту не толькі знешняе падабенства, але і раскрыць глыбокі ўнутраны змест, па якім мы пазнаём тып, характар прадстаўніка той альбо іншай сацыяльнай групы.

Гледзячы на лепшыя з партрэтаў, думаеш, як заслужана захапляўся творчасцю Матэйкі І. Я. Рэпін, сцвярджаючы, што «...у гэтым невялікім целе жыла сапраўды гераічная душа».



**Ян Матэйка. Партрэт прафесара медыцыны Юзафа Дзітля.** *(Ягелонскі ўніверсітэт у Кракаве.)*





**Ян Матэйка. Партрэт Марцаліны Чартарыйскай, вучаніцы Шапэна.** (З прыватнай калекцыі.)

Экспанаты выстаўкі дапамаглі крыху пранікнуць у творчую лабараторыю мастака. Графічныя накіды для Матэйкі не мелі самастойнага значэння, яны былі ўсяго толькі падрыхтоўчым матэрыялам для вырашэння тых ці іншых задум пазнаваўчага або аналітычнага характару, занатоўкамі думак і ўсяго таго, што акрыляла і хвалявала яго. На працягу свайго жыцця Матэйка выканаў некалькі тысяч малюнкаў, якія зараз для нас уяўляюць выключна вялікую цікавасць ужо тым, што знаёмяць са шматгранным талентам майстра, даюць уяўленне аб метадах яго творчай працы.

Наша знаёмства з творчым працэсам майстра над сюжэтнымі палотнамі ўзбагачаюць унікальныя экспанаты — шлем персідскай работы, шапка рускага баярына, маўрытанскі меч XVIII стагоддзя, выкарыстаныя ў якасці мадэлей для карціны «Бітва пад Грунвальдам», далматыка (літургічнае аблачэнне), шытая жэмчугам і алмазамі дыядэма, што былі выкарыстаны для карціны «Паклон прускага васала».

Параўнаўча невялікая па колькасці паказаных твораў, але добра прадуманая і скамплектаваная выстаўка карысталася вялікім поспехам у гледача.

Другая па ліку, выстаўка польскага выяўленчага мастацтва ў сталіцы рэспублікі Мінску яшчэ больш будзе садзейнічаць умацаванню і пашырэнню культурных сувязей двух братніх народаў.

**П. ГЕРАСІМОВІЧ.**

## *Наша пошта*

# КАБ СЯБРАВАЛІ ФІЗІКІ І ЛІРЫКІ

**Невуцтва робіць чалавека абыякавым да свету.**
**К. Паустоўскі.**

Спрэчка, як гэта часта бывае, узнікла нечакана. У калідоры прыціхлага інтэрната студэнты (большасць з іх былі з філалагічнага факультэта) гаварылі аб навінах навукі. Але ціхая сяброўская гутарка неўзабаве перапынілася. Студэнт з хімфака, які праходзіў побач, іранічна кінуў:

— Цудоўна! Філолагі на момант пакінулі ў спакоі літаратуру. Ніколі не думаў, што, акрамя раманаў, вас што-небудзь можа цікавіць!

— Па сабе мяркуеш. Мусіць, акрамя «Арганікі», нічога ў рукі не браў.

— Што?.. Ды ты ведаеш, што тое, над чым ты сядзіш цяпер, я прачытаў яшчэ ў шостым класе...

— І на гэтым — стоп! Хімія на ўсё вочы закрыла.

— Хто-хто, а хімікі сапраўдныя сухары, — не здаваліся філолагі.

У спрэчку ўмяшалася яшчэ некалькі чалавек. Падышлі студэнты і з іншых факультэтаў, але дыскусія вялася пераважна паміж дзвюма групамі студэнтаў: філолагамі і хімікамі, якіх была большасць. Філолагаў папракалі за абмежаванасць іх ведаў у галіне фізікі, хіміі, астраноміі, медыцыны, наогул, за абыякавыя адносіны да ўсяго таго, што выходзіць за межы іх спецыяльнасці. Група філолагаў пачала абвінавачваць у гэтым жа студэнтаў хімічнага факультэта. Простымі на першы погляд пытаннямі яны ставілі іх у тупік. Але і самі часта аказваліся такімі ж бездапаможнымі. Спрэчкі цягнуліся доўга і так ні да чаго і не прывялі. Як тыя, так і другія нядрэнна ведалі ўсё, што непасрэдна датычыла іх будучай прафесіі, але паказвалі амаль поўную недасведчанасць у іншых галінах ведаў.

Наш таварыш, студэнт гістарычнага факультэта Уладзімір Г., напрыклад, нічога не ведае аб палімерах, паўправадніках, аб праектах змены клімату на Зямлі, аб тэорыі адноснасці Эйнштэйна. Затое ён не прапускае ніводнага вечара танцаў.

Студэнт-фізік Барыс Н., які жыў у адным пакоі з намі ў мінулым годзе, акрамя падручнікаў цікавіўся толькі кнігамі з «Бібліятэкі ваенных прыгод», дэтэктыўныя творы лічыў лепшым здабыткам мастацкай літаратуры.

І такіх прыкладаў можна прывесці многа. Усё гэта прымушае сур'ёзна задумацца аб выхаванні студэнтаў у ВНУ. Нельга назваць адукаваным таго чалавека, які хоць і нядрэнна авалодаў сваёй спецыяльнасцю, але застаўся абыякавы да ўсіх здабыткаў чалавечай культуры. Абыякавасць людзей да ўсяго таго, што выходзіць за межы выбранай імі галіны ведаў, збядняе іх, больш таго, перацварае часам у будзённым жыцці ў абывацеляў з мяшчанскімі поглядамі, з пошлымі густамі.

Пра густы, кажуць, не спрачаюцца. Магчыма, гэта і правільна, калі густы добрыя. З дрэннымі ж густамі трэба змагацца. Бо гэта ён, пошлы густ, чароўную музыку Глінкі, Чайкоўскага, Бетховена, Шапэна і многіх другіх выдатных кампазітараў мяняе на недарэчныя гукавыя практыкаванні, у якіх конскае ржанне пераплятаецца з кваканнем жаб, скрыгат іржавай бляхі — з шыпеннем пары.

Музыка! Яе чароўныя гукі ўпрыгожваюць наша жыццё. І хто з нас, маладых, не аматар патанцаваць у вольны час? Танец глыбока ўвайшоў у быт кожнага народа, кожнага чалавека. Але танец танцу розніца. Каму з нас не даводзілася на вечарах адпачынку назіраць, як у часе танцу юнак у стракатым гарнітуры прыхіляецца да дзяўчыны з размаляваным тварам. Іх постаці ліхаманкава трасуцца... Сустрэнеце вы сярод студэнтаў і аматараў збору адкрытак, што нічога агульнага не маюць з мастацтвам, накшталт: «Люби меня, как я тебя, и будем вечно мы друзья». Хіба не паказваюць яны, як далёка такі чалавек ад разумення прыгожага? І ўсё гэта часам прыкрываецца спасылкай на густ.

Нашы знаёмыя, студэнты з політэхнічнага інстытута К. і Р. не прачыталі за мінулы год ні адной кніжкі сучаснага савецкага пісьменніка. Амаль паўгода ў іх пакоі мы бачылі толькі томік Мапасана. На нашу заўвагу адзін з іх адказаў:

— У кожнага свой густ!

Савецкая моладзь мае ўсе магчымасці выхоўвацца ўсебакова развітай і культурнай. Вядома, цяжка сачыць за ўсімі навінамі ў розных галінах навукі, якая ў наш час развіваецца так хутка. Але ж гутарка ідзе аб знаёмстве з тым элементарным запасам ведаў, якія неабходны кожнаму культурнаму чалавеку. Цікавыя лекцыі выкладчыкаў, лабараторныя заняткі, семінары, дыспуты, культпаходы, экскурсіі, сустрэчы з перадавікамі вытворчасці, дзеячамі навукі, артыстамі, пісьменнікамі, мастакамі, вечары дружбы са студэнтамі другіх братніх рэспублік, спрэчкі ў пакоях інтэрнатаў — робяць кіпучым і змястоўным жыццё студэнцтва Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

Але не ўсе кідаюцца ў гэтую плынь. Адны паспяваюць амаль усюды, другія ж абмяжоўваюцца аўдыторыяй і пакоем інтэрната. Апошніх, праўда, менш, але яны ёсць. Іх не цікавіць, што сёння расказваў знатны муляр студэнтам або канструктар ці пісьменнік, іх не захопіць гарачая спрэчка на літаратурным вечары, іх не ўзрадуюць поспехі нашых спартсменаў на міжнародных спаборніцтвах. І невядома, чым можна крануць іх душу.

Іх не крытыкуюць, бо яны заўсёды і ў час здаюць экзамены. І калі на экзамене выкладчык задасць пытанне не з падручніка, такія студэнты паціскаюць плячыма:

— Выбачайце. У лекцыі гэтага няма. Гэта вы нам не тлумачылі...

Не прадугледжана ў праграме і знаёмства з творамі Чайкоўскага і Левітана, Глінкі і Рэпіна. І чалавек, раўнадушны да духоўных скарбаў народа, праз год атрымае дыплом аб сканчэнні ўніверсітэта, каб выхоўваць іншых...

Многа, вельмі многа сярод нас яшчэ такіх, якім патрэбна сур'ёзная дапамога. Не сакрэт, што некаторыя нашы таварышы выключаюць радыё, калі перадаецца сімфанічная музыка. Часта можна пачуць: «Ну што зробіш, калі я не разумею сур'ёзнай музыкі». Адказ можа быць вельмі просты: трэба навучыцца разумець. На жаль, эстэтычным выхаваннем амаль не займаюцца ў вышэйшых навучальных установах. А дарэмна. Даўно наспела пара тэорыю і гісторыю мастацтва ўключыць хоць бы факультатыўна ў праграму некаторых навучальных устаноў. Такія лекцыі, вядома, дапамаглі б зразумець памылкі тым, хто сёння яшчэ адзіным і найлепшым відам адпачынку лічыць танцы.

Па ўсёй краіне ствараюцца і працуюць народныя ўніверсітэты. Іх наведваюць людзі самых розных прафесій і ўзростаў, якія імкнуцца пазнаць усё тое, без чаго чалавек не можа сёння лічыцца

паўнацэнным будаўніком камунізма. Штосьці падобнае трэба стварыць і ў ВНУ. Няхай гэта будзе сталы лекторый, дзе б выкладчыкі маглі рэгулярна шырокай аўдыторыі асвятляць дастунна пытанні з розных галін ведаў. Тут біёлаг і хімік, філолаг і фізік, юрыст і географ змог бы даведацца аб новых навуковых дасягненнях, аб новых здабытках літаратуры і мастацтва. Гэта ў значнай меры дапамагло б расшырыць кругагляд і пазбегнуць многіх прабелаў у ведах па тых галінах навукі, якія не маюць непасрэднага дачынення да будучай спецыяльнасці студэнтаў, але веданне якіх абавязкова для кожнага адукаванага чалавека.

У навучальных установах горада ўстанавілася добрая традыцыя: наладжваць сумесныя вечары адпачынку. На жаль, гэтыя вечары часта яшчэ праводзяцца па шаблону: урачыстая частка (лекцыя або даклад на гадзіну), невялікі канцэрт і... танцы. Больш было б карысці, калі б адкінуць гэтую залішнюю афіцыйнасць. Чаму б студэнту політэхнічнага інстытута не зрабіць невялікі даклад, скажам, на вечары гістарычнага факультэта ўніверсітэта аб дасягненнях нашай айчыннай тэхнікі. Шмат цікавага маглі б расказаць адны другім студэнты — матэматыкі і медыкі. Ды ці мала розных форм можна знайсці для такога таварыскага абмену думкамі!

Наш малады сучаснік павінен ісці ў нагу з жыццём. Ён не мае права абмяжоўвацца веданнем абранай прафесіі. Само жыццё патрабуе: тэхніка, матэматыка, медыцына, паэзія, жывапіс, музыка павінны стаць шчырымі сябрамі нашай моладзі.

**Фёдар МАЙСЕЙШЫН,**
**Уладзімір ПІСКУН,**
**студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.**

**Да чытачоў:** на думку рэдакцыі, пісьмо Ф. Майсейшына і У. Піскуна заслугоўвае таго, каб выказацца па ўзнятых імі пытаннях. Мы чакаем вашых пісьмаў, дарагія сябры!

---

**Паважаная рэдакцыя!**

Мне пятнаццаць гадоў. Я цікаўлюся музыкай, займаюся фатаграфіяй, люблю турысцкія паходы. Збіраю таксама калекцыю марак і наклеек ад карабкоў з запалкамі.

Акрамя сваёй роднай мовы, ведаю рускую і англійскую. Вельмі хачу перапісвацца з кім-небудзь з беларускіх юнакоў ці дзяўчат.

**Март АРУ.**

**Эстонская ССР,**
**г. Вільяндзі, вуліца Лыйкусе, 6.**

## Спорт

# НА ВЯЛІКІХ І МАЛЫХ СТАДЫЁНАХ

Балельшчыкі лічаць, што прыход вясны пачынаецца з пачаткам футбольнага сезону. Штогод у красавіку адкрываюцца самыя хвалюючыя турніры—чэмпіянаты Савецкага Саюза.

Сёлетні красавік беларускія аматары футбола чакалі куды з большай цікавасцю, чым, скажам, у мінулыя гады. Гэта і зразумела. Нарэшце, пасля доўгага перапынку наша каманда зноў выступае сярод мацнейшых калектываў краіны, у класе «А». Гонар рэспублікі абараняе сёлета новая каманда, якая носіць назву «Беларусь». Давайце пазнаёмімся з новай камандай, з яе трэнерамі і ігракамі.

Балельшчыкі-ветэраны, напэўна, памятаюць бліскучую гульню куйбышаўскага абаронцы Віктара Іванавіча Новікава. Цяпер гэты ўжо немалады чалавек са значком заслужанага майстра спорту СССР узначаліў



Трэнер каманды майстар спорту Анатоль Ягораў (справа) і малады варатар Вячаслаў Лунёў.

каманду «Беларусь». Яго «праваю рукою» з'яўляецца выхаванец беларускага футбола, у мінулым лепшы цэнтральны нападаючы, майстар спорту Анатоль Ягораў. І астатнія трэнеры калектыву, якія працуюць з моладдзю,—Павел Баранаў, Генадзі Абрамовіч, Яўгені Глямбоцкі—выраслі ў камандах сваёй рэспублікі.

Пры камплектаванні каманды класа «А» сустрэлася шмат цяжкасцей. Справа ў тым, што некаторыя ў мінулым моцныя футбалісты па розных прычынах страцілі баявую форму, а моладзь яшчэ не набыла дастаткова вопыту, каб з поспехам сапернічаць з лепшымі камандамі. Давялося фарміраваць каманду з двух мінскіх калектываў класа «Б»—«Спартака» і «Ураджаю», а таксама запрашаць ігракоў з іншых клубаў. Галоўны касцяк, галоўную ўдарную сілу ў камандзе складаюць мясцовыя кадры.

У каманду «Беларусь» быў запрошан вядомы варатар маскоўскага «Тарпеда» майстар спорту Альберт Дзенісенка. Але гэта не азначае, што нашы маладыя і здольныя варатары Вячаслаў Лунёў і Аляксандр Есікаў не могуць заняць першае месца ў асноўным складзе. Лініі абароны поўнасцю скамплектаваны з мінчан. Гэта—Міхаіл Радунскі, Эдуард Зарэмба, Мікалай Блажко, Барыс Манько, Раман Уханаў. На абодва месцы ў паўабароне прэтэндуюць былыя спартакаўцы Анатоль Кавалёў і Леанід Ярахавец, а таксама Анатоль Жукаў, які раней выступаў у маскоўскім «Дынама». Больш за ўсё навічкоў можа аказацца ў нападзенні. Як вядома, тут усяго пяць вакантных месц, а на іх прэтэндуе ледзь не ўдвая больш ігракоў. Мінчанам Змітраку Карнееву, Леаніду Нікуленку, Уладзіміру Ганчарову, Генадзю Хасіну, Юрыю Шакалаву, Аляксандру Баразне канкурэнтамі з'яўляюцца былыя ігракі маскоўскага «Тарпеда» Віктар Арбу-

таў і Віктар Церахаў, былы ігрок каманды «Авангард» з горада Нікалаева Анатоль Маёраў. Вызначэнне складу ігракоў—справа не лёгкая. Яно адбудзецца пасля кантрольных гульняў, у выніку дасканалага вывучэння індывідуальных якасцей кожнага іграка, з улікам яго фізічных і тэхнічных магчымасцей.

Ці правільна зрабілі кіраўнікі каманды «Беларусь», запрасіўшы іншагародніх ігракоў? Ці правільна робіць федэрацыя футбола БССР, дазволіўшы гэта? Такое пытанне можа ўзнікнуць і ў чытачоў, бо яно ўзнікла ўжо ў шматлікіх аматараў футбола.

На першай стадыі стварэння новага калектыву такія меры былі выкліканы неабходнасцю. Хоць неаднаразова заўважалі, што мінская каманда «Спартак» вызначалася ў класе «Б» тэхнікай гульні, усё ж для вышэйшага класа гэтага ўзроўню было недастаткова. Ні ў адной беларускай камандзе не было ігракоў з большым вопытам. У новай камандзе адчувалася вострая патрэба ўмацавання вопытнымі майстрамі, якія ўдзельнічалі ў спаборніцтвах па класу «А». Аднак найпершым клопатам павінна стаць вырошчванне на месцы сваёй маладой здольнай змены, якая перыядычна папаўняла б беларускія каманды майстроў.

Ужо мінулі месяцы ўпартых трэніровак. Каманда «Беларусь» рыхтавалася да сезону даволі сур'ёзна і рознабакова. Вучэбны працэс быў насычаны ўрокамі па тэхніцы і практыцы гульні. Апрача таго, футбалісты авалодвалі «прыкладной» акрабатыкай, рабілі лыжныя прагулкі, гулялі ў баскетбол, хакей, плавалі ў басейне. Усе ігракі ў час падрыхтоўкі здалі зімовыя нормы комплексу ГПА. Шмат увагі аддадзена было палітычна-выхаваўчай рабоце. Футбалісты з ахвотай слухалі лекцыі, сустракаліся з аматарамі футбола. Незадоўга да ад'езду на поўдзень каманда сустрэлася з мінскімі трактаразаводцамі, чый калектыў яна прадстаўляе на ўсесаюзнай спартыўнай арэне. «Няхай каманда апраўдвае сваю назву,—гаварылі футбалістам трактаразаводцы,—як апраўдваюць гэтую назву трактары «Беларусь». І спартсмены паабяцалі.

Чэмпіянат Савецкага Саюза па футболу пачаўся. Дваццаць дзве каманды майстроў класа «А» ўступілі ў самую адказную стадыю спаборніцтва. На працягу некалькіх месяцаў у двух падгрупах пройдуць папярэднія гульні. У адной падгрупе з беларускімі футбалістамі выступаюць сталічныя каманды «Лакаматыў»—другі прызёр мінулагодняга першынства, «Спартак» — уладальнік кубка СССР, адзін з мацнейшых калектываў—каманда Цэнтральнага спартыўнага клуба Міністэрства абароны СССР, кіеўскія дынамаўцы, шахцёры Данбаса, куйбышаўскія «Крыллі Саветаў», ленінградскі «Адміралцеец», сельскія футбалісты Казахстана і адзін са старэйшых клубаў краіны—бакінскі «Нафтавік». Пасля заканчэння гульняў у падгрупах адбудуцца дадатковыя сустрэчы для вызначэння месц.

Апрача гульняў на першынство, каманды класа «А» правядуць заключныя спаборніцтвы на кубак СССР, прымуць удзел у міжнародных таварыскіх сустрэчах. Некалькі такіх матчаў правядзе і каманда «Беларусь».

Але не толькі мінчане ўбачаць сёлета вялікі футбол. Згодна пастановы ЦК КПБ «Аб далейшым развіцці футбола ў рэспубліцы» ў першынство краіны па класу «Б» уключана пяць каманд рэспублікі. Побач з калектывамі мінскага «Ураджаю» і гомельскага "Лакаматыва» ў адным страі— навічкі з Брэста, Віцебска і Магілёва. Усе яны трапілі ў адну зону, што, безумоўна, абвострыць барацьбу і зробіць сустрэчы цікавымі. Каманды класа «Б» поўнасцю складаюцца з беларускай моладзі.

Найбольшыя магчымасці, мяркуючы па сілах і вопыту, у спартсменаў сельскага таварыства. Там удзельнічаюць тры майстры спорту. У таварыскіх матчах, што праводзіліся ў час перадсезоннай падрыхтоўкі, яны мелі некалькі перамог, у тым ліку і над камандамі класа «А». Чыгуначнікі Гомеля зрабілі вывад з няўдалых леташніх гульняў (у мінулым годзе «Лакаматыў» быў адзінай камандай у краіне, якая не выйграла ні аднаго матча)—гамяльчане абнавілі склад трэнераў, развіталіся з некаторымі недысцыплінаванымі і бесперспектыўнымі ігракамі. Будзем спадзявацца, што гомельскі «Лакаматыў» адстаіць гонар свайго горада, які мае даўнія футбольныя традыцыі.

Ад Віцебска ў класе «Б» выступае каманда абутковай фабрыкі «Чырвоны Кастрычнік», якую ўзначаліў былы дзяржаўны трэнер БССР па футболу Аляксей Шпакоўскі. Каманда сфарміравана ў асноўным з мясцовых спартсменаў. Такі ж малюнак і ў Магілёве, дзе выхаванец мінскага «Дынама» Уладзімір Мацкевіч падрыхтаваў да выхаду на поле спартсменаў з фабрыкі штучнага валакна. Ад Брэста ў першынстве выступае каманда таварыства «Спартак», падрыхтаваная выкладчыкам Беларускага інстытута фізічнай культуры Віталем Касенюком.





З першых дзён арганізацыі футбольнай каманды «Беларусь» пачалася настойлівая падрыхтоўка да сезону.

Фота А. Дзітлава.

Доўгі час спартыўная грамадскасць Беларусі абуралася заганнай сістэмай правядзення рэспубліканскіх першынстваў. І справядліва. Хіба нармальна, калі званне чэмпіёна разыгрывалася маленькаю групай каманд на працягу некалькіх дзён! Калектывы фізкультуры—вось база, дзе павінны рыхтавацца асноўныя рэзервы майстроў. Для гэтага трэба, каб у фізкультурных калектывах каманды няспынна займаліся, трэніраваліся. Была занядбана і такая форма падрыхтоўкі, як спаборніцтвы.

Цяпер, нарэшце, пытанне вырашана на карысць футбола. Федэрацыя футбола БССР перагледзела палажэнне аб чэмпіянаце рэспублікі. Футбол прыйдзе сёлета ў вялікія і малыя гарады—яго будуць глядзець у Мінску, Гомелі, Віцебску, Бабруйску, Магілёве, Баранавічах, Пінску, Гродна, Оршы, Маладзечне, Барысаве, Полацку, Мазыры, Рэчыцы. Каманды — удзельніцы першынства БССР разбіты на дзве падгрупы і будуць іграць па кругавой сістэме з выездам адзін да аднаго. Пераможцы падгруп сустрэнуцца ў заключных матчах. Каманды, якія адстануць, у дадатковых гульнях таксама вызначаць свае месцы. Шмат футбольных спаборніцтваў будзе наладжана ў раёнах. Асобнае месца ў календарах спартыўных мерапрыемстваў зоймуць юнацкія каманды. Яны разыграюць першынство і кубак ЦК ЛКСМБ, выступяць на ўсесаюзных спаборніцтвах, правядуць таварыскія сустрэчы.

Каб паскорыць рост рэзерваў футбалістаў, неабходны новыя і новыя захады. Перш за ўсё трэба як належыць наладзіць шэфства. Добрую ініцыятыву ў гэтых адносінах праявілі футбалісты каманды «Беларусь». Яны абавязаліся памагчы цэхавым камандам свайго прадпрыемства—трактарнага завода. Вядучыя ігракі каманды «Ураджай» падахвоціліся памагчы футбалістам завода сантэхдэталей. Няхай і астатнія каманды майстроў, спецыялісты са спартыўных таварыстваў і ведамстваў, ветэраны нашага футбола па прыкладу мінскіх каманд-майстроў унясуць сваю хоць невялікую даніну. І наш беларускі футбол хутка акрые.

... Красавік прыйшоў. Наступіла футбольная вясна. Набываюць урачысты выгляд трыбуны стадыёнаў. Хутка мы ўбачым матчы сваіх любімых каманд, ацэнім іх майстэрства. Будзем спадзявацца, што беларускія футбалісты з гонарам вытрымаюць экзамен на спартыўную сталасць.

**А. МАЙСКІ.**

## КАМАНДА «БЕЛАРУСЬ» ГУЛЯЕ:

9 красавіка з маскоўскім «Спартаком» у Баку.
15 красавіка з камандай «Шахцёр» у Сталіна.
21 красавіка з літоўскімі футбалістамі ў Вільнюсе.
2 мая з кіеўскімі дынамаўцамі ў Кіеве.
8 мая з куйбышаўскімі «Крылламі Саветаў» у Мінску.
14 мая з камандай «Кайрат» (Алма-Ата) у Мінску.
20 мая з «Нафтавіком» у Баку.
26 мая з ленінградскім «Адміралцейцам» у Мінску.
1 чэрвеня з футбалістамі ЦСК МА.
7 чэрвеня з «Лакаматывам» у Маскве.

## ЗМЕСТ



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**



**Сельскі вечар. Ля тэлевізара.**
Фотаэцюд А. Дзітлава.